ШТОМЕСЯЧНЫ НАВУКОВЫ І МЕТАДЫЧНЫ ЧАСОПІС

# Роднае слова

2011/4
(280)
красавік



Над нумарам працавалі рэдактары:

**Вольга Крукоўская** (*Методыка і вопыт:* Рыхтуемся да цэнтралізаванага тэсціравання, Прапануем план-канспект, З вопыту работы, Рыхтуемся да алімпіяды, ВНУ – школе, Актуальная тэма, Метадыст прапануе),

**Крысціна Пучынская** (*Літаратура і час:* Памяць зямлі – памяць людзей, У энцыклапедыю "Максім Багдановіч", Нацыянальны вобраз свету, Новае прачытанне, Творчы лёс, Літаратура ў люстэрку часу; Каляндар памятных датаў і юбілейных дзён; Крыжаванка),

**Ларыса Сагановіч** (*Мовы рысы непаўторныя:* Актуальная тэма, Лінгвістычны досвед, Малады даследчык прапануе, З гісторыі мовы, Гістарычны слоўнік распавядае; *Методыка і вопыт:* Новае ў правапісе),

**Мікола Трус** (*Літаратура і час:* На кніжную паліцу, Літаратурнае пабрацімства славян),

**Наталля Шапран** (*Літаратура і час:* Асобы; *Нацыянальная і сусветная культура*: Вяртанне да вытокаў, З архіваў часу, Новае прачытанне, Светлыя імёны Беларусі, Мастацкая галерэя, Мастацтва ў кантэксце часу),

намеснік галоўнага рэдактара **Марыя Кныш,**
адказны сакратар **Аляксандр Кананові́ч,**
дзяжурны рэдактар **Крысціна Пучынская,**
літаратурныя рэдактары **Ніна Ваніцкая, Вера Гарноўская,**
вядучы рэдактар літаратурны **Алена Салахітдзінава,**
тэхнічны рэдактар **Канстанцін Лісецкі,**
галоўны бухгалтар **Валянціна Ракіцкая,**
загадчык прыёмнай **Вольга Барздова.**

ЗАСНАВАЛЬНІК:
МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

УСТАНОВА «РЭДАКЦЫЯ ЧАСОПІСА "РОДНАЕ СЛОВА"»

Часопіс выходзіць з 1988 года (у 1988 – 1991, №№ 1 – 48, выдаваўся пад назвай **"Беларуская мова і літаратура ў школе"**)

Галоўны рэдактар
**Зоя ПАДЛІПСКАЯ**

**WWW.RS.UNIBEL.BY**

# Змест




Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках, мастацтвазнаўстве, культуралогіі, педагагічных навуках (тэорыя і методыка навучання беларускай мове і літаратуры).



# ЛІТАРАТУРА І ЧАС

*Памяць зямлі – памяць людзей*

## *“НІБЫ КАМУСЬЦІ НАІГРЫВАЎ САКРЭТ”*

### ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА ХАІМА ПЛАЎНІКА І РАДАВОДУ ЗМІТРАКА БЯДУЛІ

“Алёшка шлёпае босымі ў пыле нагамі па выбітай сцежцы, што, як палоска, бялее з боку шырокай парытай дарогі ля самага жыта. Ля Бяроз жыта ўсё ляжыць, здратаванае, на зямлі, пасохла і пабялела, а тут, у лагчыне, яго, здаецца, і пальцам ніхто не крануў – высокае, густое, на ім толькі выплылі каласы і закрасавалі. Шмаргні іх рукою – на далоні асядае жоўты пылок і пахне… Жыта – аж да самага Крайска, да вялікіх старых яўрэйскіх могілак, што на гары ля рэчкі. Дарога вядзе якраз да іх” [11, с. 384 – 385].

З дзён Другой сусветнай вайны, апісаных у апавяданні “Алёшка” (1962) Івана Пташнікава, мінула шмат часу. Згаданыя ў творы старыя яўрэйскія могілкі захаваліся, але ўражанне “вялікіх” яны ўжо не робяць: засталася толькі частка надмагілляў (некалькі дзясяткаў), прыхаваных у высокай траве [6, с. 2]. Многія помнікі пераkуленыя, на іншых надпісы альбо павыціраліся ад часу, альбо пазарасталі мохам, і прачытаць іх можна толькі з дапамогаю спецыяльнай экспертызы. Але дэталёва даследаваць іх было б вельмі нават не лішнім: вядома, што на гэтых могілках пахаваны Хаім Плаўнік – бацька пісьменнікаў Змітрака Бядулі (Самуіла / Шмуэля-Нохіма Плаўніка) і Ізраіля Плаўніка [13, с. 12]. Сям’я, што ўзгадавала двух творцаў, адзін з якіх справядліва лічыцца класікам беларускай літаратуры, не можа не прыцягваць увагу. Пра маці, Хану Плаўнік, мы пісалі раней [8, с. 99 – 101], а цяпер распавядзем пра чалавека, з якім ёй было наканавана звязаць лёс і выхаваць семярых дзяцей.

Продкі Змітрака Бядулі па бацькавай лініі працавалі плытагонамі, сплаўлялі па рэках лес – вось і замацавалася за імі прозвішча Плаўнік. Пераважна з лесам звязаны і прафесіі бацькі пісьменніка: на момант нараджэння старэйшага сына Хаім Плаўнік, жыхар маленькага мястэчка Пасадзец, працаваў возчыкам лясных матэрыялаў (балаголам). *“Бацька вазіў купецкі лес на рум. Віленскія і мінскія лесапрамыслоўцы знішчалі тутэйшыя пушчы дзесяткамі год і сплаўлялі лясны тавар праз Вільна і Коўна ў Прусію”* [3, с. 243], – пісаў Змітрок Бядуля ў аўтабіяграфічнай аповесці “У дрымучых лясах” (1939).



**Змітрок Бядуля (1886 – 1941).**

Чалавек працавіты і вечна заняты, Хаім Плаўнік выязджаў у лес раніцою, а вяртаўся позна ўвечары, таму дзеці рэдка бачыліся з бацькам. Калі ж надаралася вольная хвіліна, чытаў дзецям уголас апавяданні пра дзіўныя здарэнні са старых яўрэйскіх кніг. Маленькі Самуіл з захапленнем слухаў гэтыя незвычайныя гісторыі, многія з якіх прыгадваліся яму і ў дарослым веку, напэўна, яны паўплывалі на развіццё яго пісьменніцкай фантазіі.

Хаім Плаўнік і сам меў пэўныя мастацкія здольнасці: “…граў на скрыпцы, калі быў у гуморы – гаварыў вершаванымі прымаўкамі” [12, с. 7]. Асабліва моцнае ўражанне на Самуіла рабіла бацькава ігра на скрыпцы – у аповесці “У дрымучых лясах” Змітрок Бядуля адвёў гэтай тэме асобны, хоць і маленькі, раздзел: *“Аднаго разу бервяно ўдарыла бацьку па назе, і ён прахварэў некалькі тыдняў. Ён сядзеў на ложку з забінтаванай нагой і смяшыў мя-*



**Браты Плаўнікі: Мацвей, Самуіл і Ізраіль.** 1920-я гг.

*не сваімі жартамі. Я не ведаў, што ён такі вясёлы і дасціпны. Калі боль нагі зменшыўся і бацька ўжо мог ступаць па падлозе, ён дастаў з камода скрыпку ды граў старадаўнія яўрэйскія мелодыі. Ён таропіў мройныя чорныя вочы праз акно ў лес і граў сумна-сумна… Ён часта імправізаваў мелодыі, фантазіраваў. Граў ён заўсёды ціха-ціха, нібы камусьці наігрываў сакрэт ці перад невідочным блізкім сябрам скардзіўся на сваё жыццё. Я слухаў загіпнатызаваны, зачараваны. Ком падступаў мне да горла, і я ўцякаў, каб не заплакаць"* [3, с. 269].

Падобны настрой, навеяны бацькавай ігрой, пісьменнік адлюстраваў у вершы "Вячэрнія гаснуць зарніцы…":

*Вячэрнія гаснуць зарніцы*
*Палоскаю бледнай над лесам.*
*Мой бацька іграе на скрыпцы*
*Хасідскую сумную песню.*

*Ён цягне смычком так дакучна,*
*У шафу ўтаропіўся зрокам.*
*У шыбах пабітых – ануча,*
*Праз шыбы працэжаны змрокі* [2, с. 36].

І іншыя дзеці Хаіма Плаўніка не маглі прыгадаць бацьку без скрыпкі. "Бацька добра іграў на скрыпцы, – успамінаў сын Мацвей. – Ён трымаў яе ўвесь час пад замком, каб дзеці не чапалі. Бацька купіў скрыпку і для Самуіла і вучыў яго іграць. Але ён не асабліва захапляўся ігрой на скрыпцы" [13, с. 3]. Валоданне музычнымі інструментамі асвоілі бадай усе дзеці Хаіма Плаўніка, якім, падобна, перадаліся яго музычныя здольнасці. І хоць прафесійным музыкам ніхто з іх у выніку не стаў, любоў да мастацтва засталася ў іх на ўсё жыццё. "Усе мы былі музыкальныя: пелі, ігралі, хто на скрыпцы, як Самуіл, хто на мандаліне, як Мацвей, я – на гітары. Па-цяперашняму, гэта быў сямейны ансамбль, і нядрэнны" [13, с. 10], – прыгадвала сястра З. Бядулі Соф'я сваё дзяцінства ў Пасадцы. У іншых сясцёр – Рэні і Гені – былі добрыя вакальныя дадзеныя. З малых гадоў яны захапляліся песнямі розных народаў – яўрэйскімі і беларускімі, рускімі і ўкраінскімі. На пачатку 1920-х гг. Ірына (Рэня) Плаўнік спявала (праўда, нядоўгі час) у трупе Галоўпалітасветы разам з яшчэ зусім маладой Ларысай Александроўскай.

Але вернемся да ўрыўка з Бядулевага верша, дзе, акрамя кранальнай любові бацькі да музыкі, знайшоў водгук і пэўны культурна-рэлігійны досвед сям'і Плаўнікаў. Згадка пра "хасідскую сумную песню" адсылае да хасідызму – шырокага рэлігійнага руху, што ўзнік сярод польскіх яўрэяў у XVIII ст. і ўцягнуў у сваё рэчышча каля палавіны ўсёй яўрэйскай масы. Як зазначыў Іван Навуменка ў манаграфіі пра З. Бядулю, "вучэнне хасідаў вельмі падобна да аднайменнага хрысціянскага вучэння. Абодва яны адводзяць першае месца ў рэлігіі не догме і абраду, але пачуццю, эмоцыі, веры. Хасідызм нагадвае рэлігійны пантэізм. Бог прысутнічае ва ўсім, існуе паўсюднае ўзаемадзеянне паміж Богам і чалавекам, не розумам трэба спасцігаць Бога, а пачуццём" [9, с. 13]. Аналізуючы вытокі творчага светапогляду З. Бядулі, даследчык прыйшоў да высновы, што "калі рэлігія і мела які-небудзь станоўчы ўплыў на будучага пісьменніка, то ў першую чаргу іменна хасідскім пантэізмам, пачуццёвасцю, эмацыянальным адчуваннем жыцця" [9, с. 13 – 14].

…Пасля траўмы нагі Хаім Плаўнік кінуў займацца возкай лесу на рум. «*У сплаўны сезон ён наймаўся ў лясных купцоў прыказчыкам пры сплавах, а зімой ён жыў "з паветра". Конь у яго быў заўсёды. Бацька гаварыў, што без каня жыць не можа – яму нудна*» [3, с. 279]. Ён зняў пустую хату з прыбудоўкай для хлява і пуні. Вось як апісвае гэты перыяд яго жыцця З. Бядуля ў раздзеле "Вялікі пройгрыш" аповесці "У дрымучых лясах": «*Бацька быў заняты скрыпкай і канём. Кожны тыдзень у чацвер ездзіў ён у мястэчка Даўгінава на кірмаш мяняць каня. Гэтым ён зарабляў. Яго тактыка была такая: выменьваць каня*

*на горшага і атрымаць некалькі рублёў прыдатку. Новага каня, худога і слабога, за тыдзень адкормліваў і зноў – на кірмаш у Даўгінава. Зноў мяняў каня на горшага і прывозіў некалькі рублёў прыдатку… Калі яму часам не ўдавалася выменьваць свайго каня, ён прымаў удзел на кожным рынку пры такой жа справе ў іншых. За гэта ён па звычаю атрымліваў "камісіённыя" з абодвух бакоў»* [3, с. 280].

Хаім Плаўнік зарабляў грошы такім чынам, пакуль яго не падманулі цыганы, падсунуўшы старога каня, які назаўтра здох. Потым бацька пачаў займацца абменам гадзіннікаў (*"як з коньмі: мяняць на грошы і браць прыдатак"*): чысціў іх крэйдай і шараваў анучкамі да бляску. Але і гэтая справа поспеху не мела: адзін з гадзіннікаў сапсаваўся. З. Бядуля жыва і каларытна апісвае гэты эпізод, адначасова з лёгкім гумарам і спачуваннем:

*"Бацька ўстрывожыўся і давай кожную хвіліну прыкладваць яго* [гадзіннік] *да вуха. Заўважыла маці.*

*– Што з гадзіннікам?*

*– Ды нічога…*

*– Навошта кожную хвіліну тыцкаеш яго ў вуха?*

*– Мне вуха баліць. Кепска чую. Відаць, прастудзіўся… – сказаў бацька.*

*– А божа ж мой! – спалохалася маці. – Вуха баліць, а ты маўчыш…*

*– Ці ж крычаць?*

*– На камфару, пакапай у вуха – памагае.*

*Маці падала бацьку бутэлечку з камфараю. Бацька пайшоў на двор, пакапаў камфары ў гадзіннік. Гадзіннік стаў. Бацька спалохаўся і пачаў яго трасці, як чалавека, які страціў прытомнасць. Спачатку гэта памагала. Гадзіннік прыходзілася ўстрахваць кожныя пяць хвілін. Потым – кожныя тры хвіліны, потым – кожную хвіліну. Урэшце гадзіннік зусім стаў"* [3, с. 281].

Пасля Хаім Плаўнік захапіўся гульнёю ў карты, але аднойчы прайграў вялікую суму грошай. Давялося прадаць жончыны залатыя завушніцы і некалькі хатніх рэчаў і зноў купіць каня. *"Ездзіў часта ў фурманкі, дастаўляў камісіянерам мясныя прадукты"* [3, с. 282], пазней *"пазычыў у карчмара на працэнты пяцьдзесят рублёў і за пяць кіламетраў ад Пасадца заарандаваў у пана Адольфа Мыслінскага сад"* [3, с. 283]. Так і жыў нейкі час выпадковымі дробнымі заробкамі.

Нягледзячы на цяжкія матэрыяльныя ўмовы, Хаім Плаўнік марыў, каб ягоныя дзеці атрымалі прыстойную адукацыю і "выйшлі ў людзі". Старэйшага сына Самуіла ў 1893 г. сям'я аддала на навучанне ў хедар – яўрэйскую рэлігійную пачатковую школу, дзе хлопчыкі навучаліся пераважна малітвам, чытанню Псалтыра, Бібліі і Талмуда. На адукацыю сына бацька не шкадаваў нават апошніх грошай, і калі таму споўнілася 12 гадоў, вырашыў выправіць яго ва "ўніверсітэт" – даўгінаўскі ешыбот, яўрэйскую вышэйшую рэлігійную ўстанову, дзе галоўным чынам вывучалі Талмуд з каментарыямі і рыхтавалі да духоўнай службы.

Але сыну не былі даспадобы ні навучанне, ні перспектыва стаць рабінам. *"Тры гады плаваў я ў мёртвым моры талмудычных навук,* – пісаў З. Бядуля. – *Талмуд даўно амярцвеў. Нам, падлеткам, было нудна чытаць тэксты, напісаныя дзве тысячы год таму назад на стараяўрэйскай і халдзейскай мовах"* [3, с. 305]. Урэшце за нататнік з пранікнёнымі вершамі-гімнамі, напісанымі ў гонар прыдуманай дзяўчынкі Мірыям, пятнаццацігадовага Самуіла з ешыбота выгналі. Калі ён вярнуўся дадому, бацька пакутліва зірнуў на яго і прамовіў: *"Табе ўжо пятнаццаць год. Сам павінен разумець… <…> Такія сыны, як ты, ужо дапамагаюць бацькам… Ведаеш. Я ж вечна гарую аб адным, каб хаця хлеб быў у хаце"* [3, с. 331].

Пасля таго як з Самуіла не атрымаўся рабін, Хаім Плаўнік вырашыў рыхтаваць сына да атрымання іншай прафесіі – бухгалтара. Але, вывучаючы падручнік па бухгалтэрыі, набыты бацькам, Самуіл адчуваў, што яго душа ляжыць зусім не да гэтага. Ён часта хадзіў пешшу ў бібліятэку ў Даўгінава, браў кнігі і займаўся самаадукацыяй. Хутка дасягнуўшы пэўных поспехаў, ён ужо і сам здолеў настаўнічаць – "спачатку ў Батурыне, а потым у Пасадцы. Выкладаў у асноўным агульныя прадметы" [13, с. 4].

Праз некалькі гадоў Хаім Плаўнік стаў прыказчыкам на лесарасрацоўках аднаго віленска-



**Яўрэйскія могілкі ў Крайску.**

га лесапрамыслоўцы. Уладкаваў туды на працу і Самуіла: будучы пісьменнік не толькі дапамагаў бацьку ў якасці пісьмавода-канторшчыка, але і "працаваў у лесе разам з усімі рабочымі, якія высякалі лес", і "ўдзельнічаў… у сплаве лесу на плытах у Вільню" [13, с. 4]. У той час фінансавае становішча сям'і значна палепшылася, і Хаім Плаўнік вырашыў пабудаваць уласны дом. "Памятаю, як бацька з Самуілам нарыхтоўвалі дошкі для падлогі, – прыгадваў сын Мацвей. – У новым доме былі тры пакоі і кухня" [13, с. 4]. Сабраўшы трохі грошай, бацька З. Бядулі сам пачаў арандаваць высечку лесу ў ваколіцах Пасадца, а ў якасці прыказчыка пазней узяў Самуіла. Акрамя гэтага, улетку Хаім Плаўнік абрабляў невялікі заарандаваны кавалак зямлі.

Самуіл жа працягваў старанна займацца самаадукацыяй. Канчаткова яго лёс вырашыла знаёмства з газетай "Наша Ніва", дзе ён з 1910 г. актыўна публікаваў вершы, апавяданні, допісы, а пераехаўшы ў Вільню, у 1912 – 1913 гг., працаваў сакратаром. У 1913 г. у Пецярбургу ў выдавецтве "Загляне сонца і ў наша аконца" ўбачыла свет першая кніга З. Бядулі – "Абразкі".

Да літаратурнай дзейнасці сына Хаім Плаўнік напачатку ставіўся з лёгкай насмешкай. Нават падчас яўрэйскіх пагромаў часоў Першай сусветнай вайны, калі сям'я мусіла хавацца ад казакоў у лесе, бацька знаходзіў нагоду пакпіць з сына:

*Мы чакалі. Плача маці.*
*Бацька – як той цень у хаце.*
*На мяне глядзіць ён кпліва:*
*– Ну, пісьменьнік з "Нашай Нівы",*
*Мо' забыў, што мы "жыды"?..*
*Маці гнецца ад жуды.*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Я бягом пайшоў да рэчкі.*
*У руках прынёс вады.*
*На мяне глядзіць мой бацька.*
*– Ну што скажаш? Мы – "жыды"?..*

*Як жа там у "Нашай Ніве",*
*Можа "Бэйлісам"* завуць?*
*Часта шпількамі ён коліць,*
*Часта мыліць галаву* [1, с. 1, 10].

Іронія бацькі тут зразумелая: маўляў, ты можаш быць беларускім літаратарам, але свайго яўрэйскага паходжання ўсё адно не схаваеш, у тым ліку і ў такіх вось небяспечных гістарычных абставінах. Такое кплівае стаўленне можна патлумачыць і тым, што малады Самуіл у нейкім сэнсе не апраўдаў надзей, якія ўсклаў на яго бацька: некалі ж ён марыў пабачыць Самуіла іўдзейскім рабінам і ніяк не чакаў, што той стане беларускім пісьменнікам Змітраком Бядулем!

Але наўрад ці жаданне сям'і Плаўнікаў аддаць Самуіла ў ешыбот было абумоўлена толькі іх рэлігійнасцю. Калі маці З. Бядулі да канца жыцця заставалася глыбока рэлігійнай жанчынай [8, с. 100], то бацька ў гэтым пытанні быў чалавекам нашмат менш дагматычным. Пярэбары бацькавай сям'і з дзедавай хаты ў іншую пісьменнік тлумачыў тым, што бацьку *"апрыкрала дзедава набожнасць"* [3, с. 280]. Хутчэй за ўсё, хедар і ешыбот былі ці не адзіным шанцам для правінцыйнага яўрэйскага хлопчыка атрымаць больш-менш прыстойную адукацыю. Можа, таму Хаім Плаўнік – праз 20 гадоў пасля Самуіла – аддаў у хедар і малодшага сына Ізраіля. Той правучыўся там да 1919 г., а потым паступіў у Будслаўскую беларускую гімназію, якую, аднак, неўзабаве зачынілі польскія ўлады [4, с. 5]. Перабраўшыся ў Мінск, Ізраіль Плаўнік усё ж знайшоў доступ да навукі: у 1925 г. закончыў двухгадовыя агульнаадукацыйныя курсы і ўладкаваўся на працу карэктарам у друкарню. Акрамя таго, як і старэйшы брат, ён актыўна займаўся літаратурнай працай – публікаваў у перыёдыцы вершы і пераклады [7, с. 15].

У Мінску атрымалі адукацыю і дочкі Хаіма Плаўніка (акрамя старэйшай, Марыі, што эмігравала ў ЗША), якія пэўны час жылі разам са Змітраком Бядулем у доме па вуліцы Мала-Георгіеўскай. Яўгенія, напрыклад, у 1920 г. закончыла ў Мінску прыватную сямікласную жаночую гімназію В. І. Лявіцкай [5, с. 1]. Яшчэ ў часы навучання Яўгенія Плаўнік пазнаёмілася з выпускніком Мінскай гімназіі Уладзіславам Чаржынскім, за якога ў 1920 г. выйшла замуж. 14 сакавіка 1921 г. у іх нарадзіўся сын Вітаўт (Вітольд). У 1922 г. Яўгенія паступіла на этнолагалінгвістычнае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, але ёй было цяжка вучыцца, бо яна даглядала дзіця, і ў лютым 1924 г. яе адлічылі [5, с. 2]. Самая малодшая дачка Хаіма Плаўніка Соф'я пераехала ў Мінск толькі пасля смерці бацькі. Адбылося гэта ў 1924 г., прычынай заўчаснага сыходу Х. Плаўніка стаў рак лёгкіх. Соф'я Лорман-Плаўнік ніколі не магла забыць, як у ноч смерці бацькі на ягонай скрыпцы лопнула струна [13, с. 12]. У Мінску бацьку Соф'і замяніў брат З. Бядуля, старэйшы за яе ажно на 26 гадоў.

Праз чатыры гады пасля смерці Хаіма Плаўніка, 14 снежня 1928 г., яго сын Ізраіль напісаў верш "Савецкай Беларусі", асноўную частку якога складае маналог бацькі-нябожчыка пра сацыяльную несправядлівасць і пакуты простага народа ў часы Расійскай імперыі. Паэт намаляваў бацьку ў літаральным сэнсе прарокам (гэтае слова наўпрост сустракаецца ў вершы) і прадвеснікам рэвалюцыі, у

* Менахем Мендэль Бейліс (1874 – 1934) – яўрэй, абвінавачаны ў рытуальным забойстве 12-гадовага вучня падрыхтоўчага класа Кіева-Сафійскага духоўнага вучылішча Андрэя Юшчынскага 12 сакавіка 1913 г. Працэс па справе Бейліса адбываўся ў Кіеве 25 верасня – 28 кастрычніка 1913 г. і суправаджаўся, з аднаго боку, актыўнай антысеміцкай кампаніяй, а з другога – грамадскімі пратэстамі ўсерасійскага і сусветнага маштабу. У выніку Бейліс быў апраўданы.

вусны яго ўкладзена палымяная прамова пра лепшую будучыню:

*Але чуе, чуе маё сэрца –*
*Прыдзе час, і выйдуць з берагоў*
*Моры сьлёз, крыві бясчасных сьмерцяў*
*І затопяць шыр дуброў, лугоў!..*
*Прыдзе час – і задрыжыць плянэта*
*Ад грымот разьбітых кайданоў…*
*І зазьзяе сонцам шчасьця сьветач,*
*І жыцьцё убачыць кветкі сноў…* [10, с. 94 – 95].

Бацька ў гэтым творы паўстае адчайным вальнадумцам, які дазваляў сабе і ўвогуле крамольныя з рэлігійнага гледзішча выказванні:

*Ты падумай – вечнае гібеньне, –*
*За скарынкай поўзай, як той гад…*
*Дзе знайсці ратунак і збавеньне?!*
*Што-ж маўчыш, Ягова грозны, га?..*
*Ці ты гора нашае ня бачыш?*
*Калі не – дык разам з ім згары!.. –*
*А матуля, а матуля з плачам:*
*– Ой, ня можна гэтак гаварыць!..* [10, с. 94].

Фінальная частка верша можа прымусіць даследчыкаў задумацца. Нягледзячы на тое, што паэтаў бацька паспеў пражыць у савецкай Беларусі 5 гадоў, Ізраіль Плаўнік піша:

*Не дачакаўся ён*
*Ні шчасьця, ні жыцьця…*
*Яны сьмяяліся*
*З яго агідна, здрадна…*

*Але глыбокіх дум*
*Яго ніхто ня сьцяў, –*
*Ён марыў пра жыцьцё,*
*Каханьне, радасьць!..* [10, с. 95].

То бок, калі ведаць рэальныя факты з жыцця Хаіма Плаўніка, гэтыя радкі можна зразумець і так, быццам паэтаў бацька не дачакаўся "ні шчасця, ні жыцця", нягледзячы на тое, што змена дзяржаўнага ладу ўсё ж адбылася і Беларусь стала савецкай. Што гэта: мастацкая тыпізацыя (паэт пісаў як бы не зусім пра ўласнага бацьку, а стварыў абагульнены вобраз) ці выкарыстанне прыёмаў эзопавай мовы, праз якія Ізраіль Плаўнік спрабаваў у завуаляванай форме аспрэчыць прапагандаваную тады "бездакорнасць" бальшавіцкага рэжыму? У любым выпадку Хаім Плаўнік атрымаў у памяць па сабе незвычайны рэквіем – з моцным адбіткам тагачаснай рэвалюцыйна-рамантычнай эстэтыкі. Бо невядома, ці надрукаваў бы часопіс у 1928 г. верш, прысвечаны не "Савецкай Беларусі" і аднаму з яе "прарокаў", а звычайнаму дробнаму лесапрамыслоўцу з глухога мястэчка…

Ці захавалася на закінутых яўрэйскіх могілках у Крайску надмагілле Хаіма Плаўніка – невядома. Цікава, што тамсама, хутчэй за ўсё, пахаваныя і продкі па матчынай лініі вядомага фізіка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Жарэса Алфёрава: яго маці, Ганна Уладзіміраўна (Хана Вульфаўна) Разенблюм, яўрэйка па паходжанні, нарадзілася акурат у Крайску ў канцы XIX ст.

На завяршэнне адзначым, што і сам Крайск, і яго ваколіцы шчыльна звязаныя з беларускім літаратурным і культурным кантэкстам. Побач з мястэчкам, у маёнтку Шушкова, яшчэ ў даўнейшыя часы нарадзіўся вялікалітоўскі дзяржаўны і рэлігійны дзеяч Валяр'ян Пратасевіч-Шышкоўскі (1509 – 1579), а ў самім мястэчку – царкоўны гісторык, публіцыст і пісьменнік Рыгор Кіпрыяновіч (1846 – 1915). Тут жылі і працавалі вядомы драматург, паэт і празаік Леапольд Родзевіч (1895 – 1938), а таксама паэт Альфонс Петрашкевіч (1894 – 1918). Абодва яны былі знаёмыя са Змітраком Бядулем, актыўна друкаваліся ў "Нашай Ніве". Дарэчы, адзін з першых псеўдонімаў Л. Родзевіча гучаў як *Абарыген Крайскі*. У 1918 – 1919 гг. у Крайску і Пасадцы даваў прыватныя ўрокі Уладзіслаў Чаржынскі (1897 – 1974), будучы літаратуразнаўца (больш вядомы пад псеўданімамі Ул. Дзяржынскі, Улідзе), муж Яўгеніі Плаўнік, роднай сястры Змітрака Бядулі. Крыўдна, што памяць пра гэтых людзей, якія зрабілі ўнёсак у беларускую літаратуру, у Крайску ніяк не адзначана. І гэта пры тым, што ў 2008 г. тут паставілі бронзавы бюст… расійскага імператара Мікалая II! Калі ж дойдзе чарга да нашых суайчыннікаў?

**Спіс літаратуры**


1. **Бядуля, З.** Жыды : [Паэма] / З. Бядуля // Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ). – Ф. 66. – Воп. 1. – Адз. зах. 1263.
2. **Бядуля, З.** Збор твораў : у 5 т. / З. Бядуля. – Мінск : Маст. літ., 1985. – Т. 1 : Вершы, паэмы.
3. **Бядуля, З.** Збор твораў : у 5 т. / З. Бядуля. – Мінск : Маст. літ., 1987. – Т. 3 : Аповесці.
4. **Гарэцкі, М.** Творчасьць Ізраіля Плаўніка / М. Гарэцкі // Літ. дадатак да газ. "Савецкая Беларусь". – 1928. – № 18.
5. **Дело студентки этнол[ого]-лингв[истического] [отделения]** : Евгения Ефимовна Чаржинская // Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). – Ф. 205. – Воп. 3. – Адз. зах. 8908.
6. **Жыбуль, В.** Апошні прытулак Хаіма Плаўніка / В. Жыбуль // Анахну кан. – 2005. – № 12.
7. **Жыбуль, В.** Брат Бядулі, паслядоўнік Багдановіча / В. Жыбуль // Роднае слова. – 2005. – № 10.
8. **Жыбуль, В.** "Княгіня Лэйзароўна – месяц у ваконцы" : Штрыхі да партрэта маці Змітрака Бядулі / В. Жыбуль // Роднае слова. – 2006. – № 4.
9. **Навуменка, І. Я.** Змітрок Бядуля / І. Я. Навуменка. – Мінск : Беларус. навука, 2004.
10. **Плаўнік, І.** Савецкай Беларусі : [Верш] / І. Плаўнік // Маладняк. – 1928. – № 12.
11. **Пташнікаў, І.** Збор твораў : у 4 т. / І. Пташнікаў. – Мінск : Маст. літ., 1990. – Т. 1 : Раман; Апавяданні.
12. **Смолкін, М.** Змітрок Бядуля / М. Смолкін. – Мінск : Дзяржвыд БССР, 1961.
13. **Успаміны пра Змітрака Бядулю.** – Мінск : Маст. літ., 1988.


**Віктар ЖЫБУЛЬ,**
вядучы навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.

Мікола ТРУС

# СВЕТАЗАР ГУРБАН-ВАЯНСКІ І МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

## ЗНАЁМСТВА СЛАВАЦКАЙ І БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУР ПРАЗ АДЗІН ТВОР




**Светазар Гурбан-Ваянскі.**

У сёлетні юбілейны год класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча (1891 – 1917) часопіс “Роднае слова” ўступіў з ладным “падарункавым” падборам артыкулаў. У свой час рэдакцыя выдання падтрымала ініцыятыву супрацоўнікаў Літаратурнага музея М. Багдановіча, навукоўцаў НАН Беларусі, выкладчыкаў БДУ, архівістаў рэанімаваць ідэю выдання энцыклапедыі, універсальнага збору матэрыялаў, прысвечанага жыццю і творчасці паэта, мастацкаму асэнсаванню яго спадчыны. З мэтай акумуляваць пошукі і распрацоўкі ў галіне багдановічазнаўства ў студзеньскім нумары часопіса за 2009 г. была запачаткавана адмысловая рубрыка.

Артыкулы, падрыхтаваныя для энцыклапедыі, маюць сваю спецыфіку: вывераныя факты, някідкі лапідарны стыль і інш. Часопісны варыянт публікацыі дазваляе істотна пашырыць аналітычную базу прадмета даследавання, больш поўна рэалізаваць працу ў вызначаным М. Багдановічам вектары даследаванняў. Знаёмства з гісторыяй іншанацыянальных літаратур – адзін з цікавых кірункаў рэалізацыі закладзенага песняром патэнцыялу вызначэння свайго месца ў сусветнай духоўнай і мастацкай прасторы.

Мы звярнуліся да твора, які засведчыў факт першага знаёмства славацкай і беларускай літаратур, у творчасці М. Багдановіча заняў сваё, досыць някідкае месца, – апавядання “Юдава поле” (“Akeldama”) Светазара Гурбана-Ваянскага.

Маладая беларуская літаратура ў пачатку ХХ ст. вялікае значэнне надавала перакладам, знаёмству з іншамоўнымі літаратурамі і культурамі. Гістарычныя асаблівасці развіцця, сітуацыя ўплываў і ўзаемаўплываў абумовілі цікавасць перш за ўсё да літаратур памежных народаў: палякаў, рускіх, украінцаў. У гэтым кантэксце пераклад з С. Гурбана-Ваянскага стаіць асобна. Зварот да творчасці пісьменніка, чыя радзіма істотна аддалена ад Беларусі геаграфічна, можна патлумачыць яго вядомай грамадска-палітычнай актыўнасцю, розгалас пра якую ішоў далёка па ўсім славянскім свеце, а таксама блізкасцю творчасці, нацыянальных памкненняў С. Гурбана-Ваянскага да праграмных момантаў беларускага адраджэння пачатку ХХ ст.

### З ЛЕТАПІСУ ЖЫЦЦЯ І ТВОРЧАСЦІ СВЕТАЗАРА ГУРБАНА-ВАЯНСКАГА

Калі арыентавацца на энцыклапедычны выклад матэрыялу, то ў тэзіснай прадстаўленасці жыццяпіс С. Гурбана-Ваянскага будзе выглядаць наступным чынам.

Светазар Гурбан-Ваянскі (Svetozár Hurban Vajanský, 1847 – 1916) – славацкі паэт, празаік, літаратурны крытык, публіцыст, грамадска-палітычны дзеяч. Сын пісьменніка Ёзафа Гурбана (1817 – 1888). Юрыст па адукацыі. Адна з цэнтральных фігур літаратурнага жыцця Славакіі апошніх дзесяцігоддзяў ХІХ – пачатку ХХ ст. Умацоўваў пазіцыі рэалізму ў нацыянальным пісьменстве. Жанрава і тэматычна ўзбагаціў славацкую прозу. Запачаткаваў з’яўленне сацыяльна-псіхалагічнай аповесці і рамана. Пэўны час рэдагаваў газету “Národnie noviny” і часопіс “Slovenské pohľady”. Культываваў ідэю славянскай узаемнасці, змагаўся супраць палітыкі мадзьярызацыі славакаў у Аўстра-Венгрыі. За актыўную грамадскую дзейнасць падвяргаўся палітычнаму пераследу, турэмнаму зняволенню. Аўтар паэтычных зборнікаў “Татры і мора” (“Tatry a more”, 1880), “З-пад ярма” (“Zpod jarma”, 1884), “Вершы” (“Verše”, 1890), аповесцей і раманаў “Лятаючыя цені” (“Letiace tiene, 1883”), “Сухая галіна” (“Suchá ratolesť”, 1884), “Корань і парасткі” (“Koreň a výhonky”, 1896), “Котлін” (“Kotlín”, 1901) і інш.

***Мікола Валянцінавіч Трус** – літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук (2000), дацэнт кафедры замежнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У 1998 – 2000 гг. – дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Памочнік старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь (2002). Двойчы стажыраваўся ва Універсітэце Я. А. Коменскага ў Браціславе. З 1996 г. працуе ў БДУ. Займаецца параўнальным літаратуразнаўствам, даследуе гісторыю літаратур і культур славянскіх народаў, беларускую літаратуру ў агульнаславянскім кантэксце, праблемы ўдасканалення навучальнага працэсу пры выкладанні літаратуразнаўчых дысцыплін у сярэдніх школах і ВНУ. Аўтар-складальнік (у суаўтарстве) прац "Архіўныя матэрыялы да жыцця і творчасці Максіма Багдановіча" (1996, 1997), "Югаславянскія літаратуры і культуры: вучэбны дапаможнік для студэнтаў філалагічных факультэтаў" (1999), аўтар некалькіх навучальных дапаможнікаў, больш як 100 артыкулаў у айчынных і замежных навуковых выданнях.*



У адпаведнасці з перыядызацыяй гісторыі нацыянальнага пісьменства, прынятай у славацкім літаратуразнаўстве, Светазар Гурбан-Ваянскі разам з Павалам Орсагам-Гвездаславам (1849 – 1921), Марцінам Кукучыным (1860 – 1928) і іншымі творцамі прадстаўляе "першую хвалю" рэалізму.

Грамадска-палітычныя погляды, літаратурныя густы пісьменніка выспельваліся пад непасрэдным уплывам штураўскага пакалення нацыянальных будзіцеляў. У сваю чаргу С. Гурбан-Ваянскі перадаў эстафету развіцця мастацкага пісьменства славацкай "мадэрне", новай генерацыі прадстаўнікоў нацыянальнай літаратуры мяжы ХІХ – ХХ стст.

Пісьменнік некалькі разоў прыязджаў у Расію, меў асаблівыя сімпатыі да рускай рэалістычнай прозы. Аднойчы сказаная ім напаўжартоўная фраза ў клопаце і скрусе пра лёс колькасна нешматлікага славацкага народа, з надзеяй на падтрымку вялікага ўсходнеславянскага брата, *"Нас разам з рускімі сто мільёнаў"* была неаднойчы паўторана ў нацыянальным асяроддзі.

### ПЕРШЫЯ КРОКІ ЗНАЁМСТВА З ТВОРАМІ СЛАВАЦКАГА ПІСЬМЕННІКА

Дэбютныя пераклады твораў С. Гурбана-Ваянскага на рускую мову датуюцца 1885 г. У асноўным яны друкаваліся губернскімі газетамі, а таксама некаторымі сталічнымі выданнямі. На старонках адэскіх і санкт-пецярбургскіх "Ведомостей" першым убачыла свет апавяданне "Начны вартаўнік" ("Hlasnik"). У 1887 г. санкт-пецярбургская газета "Звезда" (№ 16) публікуе апавяданне "Жонка дрывасека" ("Rubačova žienka") у перакладзе Ф. Цютчава, а таксама аповесць "Лятаючыя цені" ("Letiace tiene") у "вольным перакладзе" гэтага ж аўтара. Апавяданне "Жонка дрывасека" ў перакладзе А. Сахаравай у 1890 г. публікуе дадатак да сталічнай газеты "День", у яе ж перакладзе санкт-пецярбургскі штотыднёвы дадатак "Сына отечества" (1891, №№ 7 – 15) друкуе аповесць "Мімалётныя цені".

Рэгіянальная афіцыйная газета "Гродненские губернские ведомости" (1898, №№ 2 – 12) апублікавала працу С. Гурбана-Ваянскага **"Старыя і маладыя. Са славацкіх нарысаў"**. Названую публікацыю вылучым асобна, паколькі ў гэтым выпадку гаворка ідзе пра перыёдыку ХІХ ст. у Беларусі. На наш погляд, даследчыкамі незаслужана абыходзяцца ўвагай рускамоўныя выданні такога кшталту, і пераклады ў прыватнасці. Тут мы маем справу з сітуацыяй культурнага пасрэдніцтва. Да таго ж праявы жыцця беларускага друкаванага слова былі на той час спарадычныя. Дамінавала чыста этнаграфічная цікавасць да матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў з боку навукоўцаў. Яшчэ толькі квола пачынала выспельвацца змена навукова-творчых генерацый. І ў гэтым выпадку выхад нарыса "Старыя і маладыя" С. Гурбана-Ваянскага быў вельмі да месца і да часу, як найлепш адпавядаў памкненням ліберальна настроенай інтэлігенцыі.

### "ЮДАВА ПОЛЕ": ПЕРШАКРЫНІЦЫ, КАНТЭКСТУАЛЬНАЕ АБРАМЛЕННЕ ПУБЛІКАЦЫІ

Паводле нашаніўскай публікацыі, "Юдава поле" (у арыгінале "Akeldama") – гэта народнае апавяданне. Калі падыходзіць да жанравага вызначэння больш аб'ектыўна, то перад намі твор відавочна прытчавага і апакрыфічнага характару, які вяртае нас да вядомага новазапаветнага сюжэта. Звернемся да першакрыніц.

Акелдама́ (*Aceldama* або *Akeldama*, ад арамейскага слова, што азначае 'поле крыві'; сучасная назва *Hakl-ed-damm*, беларускі варыянт напісання ў перакладзе В. Сёмухі *Акелдамб*) – назва месца ў Іерусаліме, у хрысціянскай традыцыі звязанае з Іудам Іскарыётам, адным з вучняў Ісуса Хрыста. Характэрная ярка-чырвоная гліна з гэтага ўчастка здаўна выкарыстоўвалася ў ганчарным рамястве. З гэтай прычыны ўчастак раней называўся Ганчарным полем. Са старажытнасці да першай чвэрці ХІХ ст. выкарыстоўваўся ў якасці могілак для неяўрэяў.

У адпаведнасці з Дзеямі Святых Апосталаў (1, 18 – 20), назва месца ўказвае на кроў Іуды, бо ён «*набыў зямлю несправядлівай цаною, і, калі зрынуўся, раскалолася чэрава ягонае, і вывернуліся*

*вантробы ягоныя; і гэта сталася вядома ўсім жыхарам Ерусаліма, так што зямля тая на айчыннай іхняй мове названа Акелдамб, што азначае "зямля крыві". А ў кнізе Псальмаў напісана: "хай двор ягоны пусткаю стане, і ў ім хай жывога ня будзе", і: "пасад ягоны іншы хай прыйме"»**.

Іншую версію паходжання назвы месца падае Евангелле ад Матфея (27, 1 – 10). Пасля таго як Іуда аддаў атрыманыя грошы за здраду Хрысту першасвятарам, тыя «*сказалі: што нам да таго? глядзі сам. І кінуўшы срэбранікі ў храме, ён адышоў; і пайшоўшы, павесіўся. Першасьвятары, узяўшы срэбранікі, сказалі: не дазваляецца класьці іх у храмавую скарбніцу, бо гэта цана крыві. І зрабіўшы нараду, купілі на іх поле ганчара для пахавання чужынцаў; таму і называецца тое "полем крыві" па сёньняшні дзень; тады збылося сказанае праз прарока Ерамію, які кажа: і ўзялі трыццаць срэбранікаў, цану Ацэненага, Якога ацанілі сыны Ізраілевыя, і далі іх за поле ганчара, як сказаў мне Гасподзь*».

Першы пераклад гэтага твора на рускую мову ўбачыў свет на старонках санкт-пецярбургскага выдання "Север" (1904, № 13). Ён быў падпісаны крыптанімам перакладчыка *Д. П. Н.*

Беларуская газета "Наша Ніва" (1909, № 39) змясціла на сваіх старонках "народнае апавяданне" С. Гурбана-Ваянскага "Юдава поле", падпісанае крыптанімам *Б-ч.* Твор як найлепш адпавядаў адраджэнскай тэматыцы, эмацыйнай настраёвасці беларускай літаратуры таго часу, закранаў актуальныя праблемы грамадзянскай адказнасці, асвятлення трагічных старонак айчыннай гісторыі, праводзіў цікавую праекцыю вядомага біблейскага сюжэта на нацыянальнае адраджэнне. Прывядзем яго поўны варыянт з захаваннем усіх граматычных і пунктуацыйных асаблівасцей нашаніўскай публікацыі.

ЮДАВО ПОЛЕ.
(Народнае апаведаньне).

Над Ерусалімам спусьцілася страшная ноч – павесіўся Юда. У горах стагнаў вецер, усюды разлілася непраглядная цемнь, цяжка стала ў паветры.

Людзі пахаваліся ў камяніцы, вярблюды хавалі галавы ў пясок, як бы чуючы, што скора падымецца гарачая бура – самум.

Юда павесіўся ў полі, купленым за 30 срэбнікоў, каторые узяў за здраду. Калі абычны самаубіўца накладае на сябе рукі, то цела яго хаваюць міласерные людзі. Не так было з Юдай, – цела яго надарвалося пасярэдзіне і ўсе вантробы зьвесіліся.

А бурлівая ноч ешчэ болей згусцілася над брыдкім трупам здрадніка. Цёмна і душна было кругом яго, як у магіле і страшны неўзмаготны сморад расцілаўся далёка ва ўсе бакі.

Калі ж развіднела і бура сьціхла, то вецер усё ешчэ калыхаў вісельніка, а людзі здалёку і са страхам пазіралі на яго і ўцекалі.

Пакінуты ўсімі доўга вісеў труп. Чорная кроў капала з яго на выпаўшые вантробы. Кругом не засталося ні воднаго жывого тварэньня, нават чэрві гідзіліся страшнаго корму, нават мухі не лёталі над спёкшейся крывёй яго цела.

Тады стада варон, ляцеўшае з Заходу, спусьцілося на галаву і голые плечы Юды. Яны клювалі яго чорнымі дзюбамі і вісельнік пад ударамі іхніх дзюбоў калыхаўся як жывы. Яны клюлі яго жывот і пілі чорную кроў і брыдкі гной. І зваліўся на іх страшны праклён! Яны падняліся ў паветрэ і мучэные сударгамі паляцелі над зямлёй. А як ляцелі яны, з горла іх капала на землю кроў і гной, бо не дапусьціў Бог каб цела здрадніка стала іх кормам. Страшна крачучы ляцелі вароны, і куды падалі кроплі Юдаваго гною, там нараджаўся здраднік свойго народу.

О, нешчасьце! На бедны край наш падалі кроплі Юдавай крыві густым дажджом. Няўжож ты, дарагая айчызна, вечна будзеш Юдавым полем?..

*Па славацку напісау* **Светозар. Рурбан Ваянскі.**
*На нашу мову пераклау* **Б–ч.**

Публікацыя аўтэнтычнага тэксту твора дазваляе па-сапраўднаму адчуць подых часу, вылучыць нюансы аўтарскага гукапісу і арфаграфіі, іх нівеліроўку рэдактарамі "Нашай Нівы", акцэнтаваць увагу на некаторых праўках пазнейшых рэдактараў. Чым, напрыклад, можна патлумачыць замену аўтарскага варыянта назоўнікаў *цемнь* на *цем*, а *самаубіўца* на *самаўбійца*?

Некаторы недахоп традыцыйных даследчыцкіх падыходаў бачыцца нам у тым, што твор, апублікаваны ў перыядычным выданні, як правіла, разглядаецца як самадастатковы, свайго роду адзінкавы адбітак, без уліку кантэксту, суседства і канцэптуальнасці падбору матэрыялу. Урэшце, значэнне заўсёды мела і мае нават тое, на якой старонцы пастаўлены матэрыял. Ён можа задаваць танальнасць і весці рэй нумара, а можа папросту запаўняць нястачу цікавых допісаў, выконваць ролю дзяжурнай публікацыі.

Разгляд асобнага нумара "Нашай Нівы" дае вельмі цікавыя вынікі, да рэшты пабурае намі самімі ўзгадаваны стэрэатып успрымання артыкулаў выдання як створаных па вядомым клішэ ў стылі жальбаў-плачаў над доляй беларускага мужыка.

Праблемы, якія хвалявалі аўтараў, на першы погляд досыць традыцыйныя: актуальныя пытанні вядзення гаспадарання, землеўпарадкавання, беларуская мова і інш. Але ў кожным артыкуле доказна, з гонарам гучыць інфарма-

* Цытаты са Святога Пісання прыводзяцца ў перакладзе Васіля Сёмухі з захаваннем правапісу арыгінала.



НАША НІВА. № 39

павінен дадаваць сам солі у корм.

Трэба толькі асьцерагацца каб не перадаць лішне, бо гэта так сама, шкодзіць.

Коням і каровам трэба дадаваць 2—3 лоты (ў фунце 32 лоты), солі ў дзен на галаву, авечкам і сьвіньням ня больш 1 лота. Соль можна дадаваць жывёлам паліваючы салёнай вадой сухі корм, і можна саліць адразу ўвесь запас корму, складываючы ў пуню з восені. На 10 пудоў сена сыпецца два—тры фунты солі.

Я. Буда,

Дык нехай жэ, нехай сабе рвецца
Мне жыцьцё, як сагніўшая ніць.
[redacted]

*Ярасlаўль.*

## З песьняў беларускаго мужыка.

* * *

Гнуся, працую пакуль не парвецца
Мне жыцьцё, як сагніўшая ніць;
А каб ведаў, што столькі праліецца
Майго поту,—ня стаў бы і жыць.

Аттаптаў сотні вёрст пехатом я,
Будаваў я дарогі, масты;
Ліўся пот мой, як рэзаў на комья
Плугам глебы сухіе пласты

Працаваў над пяском, над дрыгвой
І ня мала там выцярпеў мук,
І ня прыдзецца мне пад зямлёй
Гэтых чорных сапромецца рук.

А канаць ужо час: пот і слёзы
Мне жыцьцё нібы мышы грызуць,
Горэ гне, як мяцеліца лозы,
Цэлы век не дае мне дыхнуць.

Шчасьце-ж гляне і ў даль праняcецца,
І магу я аб ім толькі сьніць...

## З Беларусі і Літвы.

—о—

*(Ад нашых карэспадэнтоў).*

В. **Новосяды**, або Кіяны, Рукойнск. вол. Віленск. губ. і пав. Вёска гэта штось з 15 хат, а каля 140 душ з малымі і кабетамі. Ўсе бедные. Іосць толькі адзін такі, што сам і ня пье, і ня есць, а і ў другога гатоў вырваць з рук яду, дык ён і вельмі багаты; ёсць штось пара і добрых гаспадароў, значыць і не скупых, і не раскідлівых. Вось гэтакіх другіе ня любяць, у лыжцэ вады іх утапілі-б. Праз гэткую злосць нядаўна адзін сусед сакерай разсек жэбры быку Юзука Жукоўскаго.

Шмат маюць патэнты цяросасьці, але гэта ім ня вадзіць выпіць што тыдзен 4 гарцы гарэлкі на вёску і піва столькі, сколькі яго жыд за 4 разы здалее прывязьці з Вільні. Гэтую піўную жыд і залажыў нядаўна на просьбу маладзёжы вясковай—то ім мала, што за вярсту ў м. Рукойні ёсць аж 5 піўных і іх часта асушаюць. Газэт-жэ тут ніхто не

**Старонка газеты "Наша Ніва" (1909, № 39) з вершам "З песняў беларускага мужыка" Максіма Багдановіча.**

цыя пра беларускі ўнёсак у еўрапейскую культурную скарбніцу, культурны прагрэс.

Аўтар допісу *"Земля і самоупраўленьне"* А. У. (мяркуем, Аляксандр Уласаў) зазначаў: «*І наш край маець у сваей гісторыі зямельные рэформы – 350 гадоў таму ў 1560-ых гадах зрабілі ў нас вялікую зямельную рэформу, выдалі "валочную уставу"*».

У артыкуле *"З нашаго жыцьця"* Вінцук Цітовіч пісаў: *"Так, мова беларуская, рана развівалася, – раней за польскаю і расейскаю. Расейцы і палякі вучыліся з нашай мовы, а не мы з іхняй, а што нашу навуку і культуру заглушылі чужые, то, так сама, не віна нас, селянскага стану, але віна станоў тых, каторые панавалі над намі і лёгка, як пасталы, пераменяць маглі сваю веру, народнасць і мову на чужую"*.

Пад рубрыкай *"Аб усём патроху"* змешчаны матэрыял *"Калі друкавалася першая беларуская Біблія"*, дзе зазначалася: *"З славянскіх народаў першые друкавалі Біблію чэхі ў 1488 г., другая з чэрады Біблія беларуская друкаваная ў 1517 гаду ў Празе; трэцяя краінская ў 1555 гаду; а чацьвёртая польская Біблія, друкавалася ў 1561 гаду ў Кракове; Літоўская Біблія друкавалася ў 1590 гаду ў горадзі Кенінсбэргу, Латышская ў 1581 гаду у Рызе"*.

У нумары прадстаўлена шырокая геаграфія і маштабнае апеляванне да гісторыі і сучаснасці розных народаў. На гэтым фоне ўнікальна і па-свойму экзатычна выглядаў тады і ўспрымаецца сёння артыкул *"Націонпальнае адрадзэньне чувашоў"* С. Ясяновіча.

"Наша Ніва" змясціла верш "З песняў беларускага мужыка" М. Багдановіча. Гэта быў, па сутнасці, адзінкавы выпадак, калі твор класіка беларускай літаратуры надрукаваны з цэнзурнай купюрай: апошнія восем радкоў верша пакрытыя друкарскай фарбай.

#### ПРАБЛЕМА АЎТАРСТВА ПЕРАКЛАДУ: МАКСІМ БАГДАНОВІЧ ЦІ МЕЧЫСЛАЎ БАБРОВІЧ?

Аўтарства перакладу "Юдавага поля" С. Гурбана-Ваянскага традыцыйна прыпісваецца М. Багдановічу. У Поўным зборы твораў паэта ў 3 тамах апавяданне пададзена ў раздзеле "Dubia"* (т. 2, с. 424 – 425). Існуе таксама меркаванне, што пераклад можа належаць Мечыславу Бабровічу, найперш вядомаму пад псеўданімам Лявон Гмырак. Звесткі пра гэтую адметную постаць у гісторыка-літаратурным працэсе нашаніўскага перыяду досыць фрагментарныя і ў большасці ўскосныя. Творчая спадчына М. Бабровіча поўнасцю не сабрана і не асэнсавана. Першай ластаўкай у гэтай працы стала выданне 1992 года [6]. Але ні яно, ні артыкул у біябібліяграфічным слоўніку "Беларускія пісьменнікі" [2, с. 226 – 227], на жаль, не суправаджаліся ні адной візуальнай выявай знешнасці слыннага нашаніўца.

Мечыслаў Бабровіч (18.04.1891 – 13.07.1915) – публіцыст, літаратурны крытык, празаік. Публікаваўся ў "Нашай Ніве", "Лучынцы", "Велікоднай пісанцы". Падпісваўся псеўданімамі *Лявон Гмырак*, *Барыс Заяц*, *Б. Заяц*, крыптанімам *Г-к*. Артыкулы пра беларускі рух для віленскай рускамоўнай "Вечерней газеты" за 1912 – 1915 гг. падпісваў крыптанімам *Бо-вічъ*. Факт выкарыстання ім крыптаніма *Б-ч* пакуль не выяўлены.

З "песняром чыстай красы" сёлетняга красавіцкага юбіляра М. Бабровіча (Лявона Гмырака) яднаў клопат пра развіццё беларускага пісьменства, супрацоўніцтва з ліберальнымі расійскімі перыядычнымі выданнямі, асаблівая ўвага да ўкраінскага нацыянальнага руху, творчасці Т. Шаўчэнкі, прынцыповая пазіцыя ў грамадскіх поглядах і літаратурных густах. Працу крытыка і публіцыста высока цанілі Я. Купала, М. Гарэцкі, З. Бядуля.

На аснове аналізу лістоў адраджэнцаў-равеснікаў М. Багдановіча і М. Бабровіча ў рэдакцыю газеты "Наша Ніва" У. Конан зрабіў выснову, што абодва пісьменнікі рэпрэзентавалі «два полюсы беларускай літаратуры нашаніўскай эпохі: на адным – па-сялянску даверлівы, праз-

---

* **Dubia** (ад лац. *dubitare* – сумнявацца, вагацца) – раздзел выдання, у якім змяшчаюцца творы, што прыпісваюцца дадзенаму аўтару або ўмоўна прыналежныя яму.



**Хведар Чарнышэвіч, Максім Гарэцкі, Мечыслаў Бабровіч (Лявон Гмырак).** 1913 г.
З фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.

мерна палітызаваны, занадта "класавы", начытаны, але часам па-правінцыйнаму абмежаваны Лявон Гмырак; на другім – такі ж малады, але і духоўна мудры, разважлівы, гуманны і Богам прызваны паэт-мастак Максім Багдановіч. Але абодва любілі свой народ. Праўда, па-свойму: для Гмырака народ – гэта "працоўныя", сялянскі "мір" і работніцкая арцель; адным словам, людзі фізічнай працы ды іх палітычныя прарокі – народнікі-інтэлігенты, эсэры-аграрнікі. Для Багдановіча народ – гэта нацыя як генетычная і духоўная цэласнасць не толькі з пункту погляду "бягучага моманту", але і ў полі зроку вечнасці. Гэтыя непадобныя беларускія інтэлігенты збліжаліся ў тым, што любілі не абстрактнае паняцце народа, не толькі яго будучыню, але клапаціліся перш за ўсё пра яго жывую рэальнасць» [6, с. 15].

Аргументы на карысць таго, што аўтарства перакладу апавядання С. Гурбана-Ваянскага належыць М. Бабровічу, вельмі ўскосныя, падказаныя логікай, а не падмацаваныя дакументальнымі сведчаннямі, тэксталагічным аналізам. Вядома, што ў дзяцінстве ён быў вельмі набожным, выхоўваўся ў каталіцкіх традыцыях пад моцным уплывам маці, этнічнай полькі з Варшавы, шмат чытаў і нават спрабаваў пісаць па-польску, а значыць, гэта працуе на актывізацыю заходнеславянскага вектару творчых памкненняў будучага пісьменніка і публіцыста. Думаецца, што не ў апошнюю чаргу выхаванне таксама спрыяла фарміраванню грамадска-культурных, творчых перакананняў М. Бабровіча, заўсёды канцэптуальна вытрыманых, нават максімалісцкіх. Жанр славацкага "народнага апавядання" вельмі пасаваў да літаратурных поглядаў пісьменніка, якія "вызначаюцца шчырым дэмакратызмам, натуральнай, непадробленай народнасцю" [6, с. 17].

Для артыкулаў М. Бабровіча характэрны часты выхад на кантэкст, своеасаблівы экскурс па гісторыі іншых народаў, увага да славянскага свету. Аўтар рэгулярна закранаў тэму адыходніцтва, рэнегацтва, нацыянальнай здрады, "паркалёвасці" сучаснікаў. Так, у артыкуле "Беларускае нацыянальнае адраджэнне" (1914) ён пісаў: «*Не толькі "вярхі", якія даўно ўжо адарваліся ад свайго народу, але і сялянскія дзеці, узгадаваныя пад сялянскай страхой, калі ім удавалася, так ці іначай, выйсці "ў людзі", стараліся забыцца чым скарэй, "чые яны дзеці, якіх бацькоў", і цалкам пераходзілі да дужэйшых. Асноўная народная маса, хоць і заставалася беларускай, але таксама памаленьку траціла свае нацыянальныя прыкметы. У мову ўсё болей ды болей уваходзілі чужыя словы, – чужыя звычаі, песні, адзежа, і яны даволі лёгка выцяснялі беларускае*» [6, с. 57].

Гіпатэтычнасць разваг такога кшталту істотна аслабляе тое, што літаратурны дэбют М. Бабровіча адбыўся толькі ў 1913 г., а ў выпадку з "Юдавым полем", нагадаем, гаворка ідзе пра 1909 год. У. Конан выказаў меркаванне, што будучы пісьменнік "далучыўся да адраджэнскага руху ў апошні год вучобы ў Варшаўскай тэхнікапрамысловай школе (1908 – 1912)" [6, с. 5]. Апавяданне "Васілёва вяселле" ("Наша Ніва", 1913; 10, 17 кастр.), дэбютны твор, апублікаваны пад псеўданімам *Б. Заяц*, выдатна дэманструе талент і мастакоўскі патэнцыял Бабровіча-пісьменніка, але на ўзроўні лексікі, вобразнай сістэмы аніяк не выводзіць на рэтраспекцыю ўзору славацкай прозы. Пытанне аўтарства больш ранняга апавядання "Хутара-ра, хутара" (1912), падпісанага псеўданімам *Лявон Хмуры*, надрукаванага ў зборніку твораў М. Бабровіча 1992 г., застаецца адкрытым, але таксама не нашмат прыбліжае нас да нашаніўскай публікацыі.

Тэма здрадніцтва, ва ўсім спектры яе паказу і асэнсавання, нацыянальнай спецыфіцы, дэталёва распрацоўвалася яшчэ пісьменнікамірамантыкамі, што адпавядала іх светабачанню, паэтыцы творчасці. Згадаем паэму "Конрад Валенрод" А. Міцкевіча. Нямецкамоўны артыкул "Пясняр здрады" ўкраінца І. Франко, прысвечаны класіку польскай літаратуры, у свой час справакаваў бурную дыскусію ў нацыянальных

колах (украінскіх, польскіх) Аўстра-Венгрыі. Да месца прыпомніць тут і радкі з хрэстаматыйнага верша "Пагоня" М. Багдановіча: *"Мо яны, Беларусь, паняслісе / За тваімі дзяцьмі уздагон, / Што забылі цябе, адракліся, / Прадалі і аддалі ў палон?"* [1, с. 314].

Крыптанім *Б-ч* мае замацаванасць за Максімам Багдановічам. 1909 год – знакавы для пісьменніка; гэта год вяртання яго твораў на старонкі "Нашай Нівы" пасля дэбютнага апавядання "Музыка" (Наша Ніва, 1907, 6 ліп.), некалькіх гадоў прымусовага маўчання, вядомай "архівізацыі" дасланых у газету твораў. Акурат у нумары выдання ад 24 верасня 1909 г. надрукаваны верш "З песняў беларускага мужыка". "Музыка" спраўдзіў меркаванне І. Свянціцкага, выказанае ў агляднай працы "Адраджэнне беларускага пісьменства" (Львоў, 1908) пра тое, што гэты твор можа стаць сапраўдным маніфестам беларускага адраджэння. Для апавядання "Юдава поле" С. Гурбана-Ваянскага таксама характэрна ўніверсальнасць праблематыкі, суладнае гучанне нацыянальнага і наднацыянальнага, у параўнанні з "Музыкам" – выкарыстанне грубых, нават натуралістычных дэталей, пры гэтым відавочна, наколькі яскрава і запамінальна здрадніцтва атаясамліваецца з агідай. Жанравае вызначэнне твора М. Багдановіча таксама досыць размытае – лірычнае апавяданне, верш у прозе, казка, прытча.

Славацка-беларускія сувязі працягвалі развівацца ў наступныя дзесяцігоддзі, у новых гістарычных умовах і на новым узроўні культурнага дыялогу. Пераклад апавядання С. Гурбана-Ваянскага першым засведчыў пачатак знаёмства дзвюх літаратур, але, на жаль, так і застаўся адзінкавым. Славацкаму пісьменніку ў савецкі час не шанцавала на ўвагу перакладчыкаў, прычынай таму была "нерэвалюцыйнасць" яго творчасці, ідэалізацыя патрыярхальнага ўкладу жыцця, што прасочвалася ў некаторых раманах.

Апавяданне С. Гурбана-Ваянскага атрымала новае жыццё ў беларускай літаратуры пачатку 1990-х гг., і гэта беспрэцэдэнтны выпадак у гісторыі нацыянальнага пісьменства. Новая хваля нацыянальнага адраджэння знаходзіла падтрымку і ідэйнае апірышча ў беларускім мастацтве слова пачатку ХХ ст. У той час назіраўся сапраўдны рэнесанс вобразнай сістэмы, праблематыкі літаратуры нашаніўскага перыяду, узмоцнены цікавасцю да культур народаў, блізкіх да Беларусі па гістарычных лёсах. Яскравы прыклад – "Юдава поле" з дэбютнага паэтычнага зборніка "Вечны Зніч" Міхася Скоблы. Твор уяўляе з сябе мастацкі дыптых, адна частка якога – празаічны пераказ гісторыі Іуды Іскарыёта, другая – вершаваны тэкст, што праецыруе тэму здрадніцтва на трагічную гісторыю Беларусі: *"Ад Дняпра-ракі да Заблудава, / ад Палесся і да Дзвіны / прасціраецца поле Юдава, / наша роднае поле Юдава, / і кружляюць там груганы"*.

Хоць М. Скобла пазначыў, што празаічны ўрывак узяты "са славенскай прыпавесці", падабенства з "народным апавяданнем" С. Гурбана-Ваянскага відавочнае. Дзеля доказу і акрэслення яшчэ аднаго вектару для літаратуразнаўчых даследаванняў і філасофскіх разваг прывядзем яго поўны тэкст.

*"Страшная ноч апусцілася на зямлю – павесіўся Юда. Ніхто не хацеў пахаваць яго, нават звяры і птушкі гідзіліся яго пачарнелага брыдкага цела, пазашываліся ў лясныя нетры. І толькі чарада чорных груганоў пакквапілася на корм дармовы, і ўсчалася бойка за лепшы кавалак. Спрытнейшыя і мацнейшыя похапкам ірвалі вантробы вісельніка, пілі чорную кроў і, цяжка варушачы крыламі, ляцелі прэч. Але не стала цела здрадніка іхняю ежаю, і, летучы, захліпаліся Юдавай крывёю груганы, і страшныя ваніты падалі на зямлю. І там, дзе ўпала хоць адна кропля – нараджаўся здраднік свайго народу… О гора! На наш край кроплі Юдавай крыві падалі густым дажджом…"* [8, с. 23].

**Спіс літаратуры**

1. **Багдановіч, М.** Поўны збор твораў : у 3 т. / М. Багдановіч; АН Беларусі, Ін-т літ. імя Я. Купалы. – Мінск : Навука і тэхніка, 1992. – Т. 1 : Вершы, паэмы, пераклады, наследаванні, чарнавыя накіды.

2. **Багдановіч, М.** Поўны збор твораў : у 3 т. / М. Багдановіч; АН Беларусі, Ін-т літ. імя Я. Купалы. – Мінск : Навука і тэхніка, 1993. – Т. 2 : Маст. проза, пераклады, літаратурныя артыкулы, рэцэнзіі і нататкі, чарнавыя накіды.

3. **Беларускія пісьменнікі** : біябібліяграфічны слоўнік : у 6 т. / Ін-т літ. імя Я. Купалы АН Рэспублікі Беларусь, БелЭн; пад рэд. А. В. Мальдзіса; рэдкал. : І. Э. Багдановіч [і інш.]. – Мінск : БелЭн, 1993. – Т. 2.

4. **Беран, З.** Светозар Гурбан-Ваянский (1847 – 1916) / З. Беран // Славацкая литература; МГУ им. М. В. Ломоносова, филол. фак. – М. : МГУ им. М. В. Ломоносова, 1997. – Ч. I : От истоков до конца XIX века. – С. 205 – 215.

5. **Богданова, И. А.** Светозар Гурбан-Ваянский / И. А. Богданова // История словацкой литературы; АН СССР, Ин-т славяноведения и балканистики. – М. : Наука, 1970. – С. 229 – 248.

6. **Гмырак, Л.** Творы : Проза. Крытыка. Публіцыстыка / Л. Гмырак; уклад., падрыхт. тэксту, прадм. і камент. У. Конана. – Мінск : Маст. літ., 1992.

7. **Светозар Гурбан-Ваянский** : библиографический указатель; сост. И. Токсина, А. Галаша, Б. Белак. – М., 1978.

8. **Скобла, М.** Вечны Зніч / М. Скобла. – Мінск : Б-ка часопіса "Маладосць", 1990.

9. **Трус, М.** Первые переводы С. Гурбана-Ваянского в Беларуси (конец 19 – начало 20-го века) / М. Трус // Acta facultatis philosophicae unversitatis Prešoviensis : Literárnovedný zborník 16 (AFPh UP 119/201). – Prešov, 2005.

# МІФАЛАГЕМЫ Ў ТВОРЧАСЦІ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

У беларускай культуры, бясспрэчна, захаваліся асаблівасці старажытнага міфалагічнага светапогляду – у побытавых зносінах, у стаўленні да з'яў прыроды і навакольнага асяроддзя. Рысы язычніцтва і хрысціянства цесна пераплятаюцца, узаемадапаўняюцца, ствараючы ўнікальны сімбіёз розных рэлігійных традыцый. Пры гэтым важнае значэнне адыгрывае міф, абагульнены вопыт, які праяўляецца перш за ўсё праз вобразную сістэму.

Міф стаіць каля вытокаў слоўнага мастацтва, міфалагічныя матывы займаюць значнае месца ў вуснай народнай творчасці розных народаў, а таксама выкарыстоўваюцца ў літаратуры на працягу ўсёй яе гісторыі.

Бясспрэчна, узаемасувязь міфалогіі і літаратуры выяўляецца на самых розных этапах спазнання, вывучэння і разумення мастацкага твора. На думку беларускай даследчыцы міфалогіі Т. Шамякінай, "асаблівасць літаратуры XX стагоддзя – у аднаўленні глыбінных міфасінкрэтычных структур мыслення, рэканструкцыі міфалагічнай свядомасці, што звязана, на наш погляд, з вяртаннем да касмалагічнага светаўспрымання, да неабходнасці выпрацоўкі адзінай мовы, якая магла б цэласна апісаць свет, бо раздробленыя навукі зрабіць гэта не могуць. Такой мовай можа быць толькі мова сімвалаў" [1, с. 6]. У беларускай літаратуры XX ст. да міфалагічных вобразаў, сюжэтаў, матываў звярталіся і М. Багдановіч, і Я. Купала, і М. Гарэцкі, і А. Адамовіч, і В. Быкаў, і А. Разанаў. Не выключэннем з'яўляецца і творчая спадчына Уладзіміра Караткевіча. Міф у яго творах выступае пэўным сюжэтастваральным кампанентам, дзякуючы якому выбудоўваецца кампазіцыя твора і ствараецца ўнікальная сітуацыя знаходжання чытача ў мастацкай прасторы.

Навуковая традыцыя XX ст. выкарыстоўвае паняцце не толькі міфа, але і міфалагемы. Так, даследчыца Л. Клюкіна вызначае міфалагему як аб'ектыўнае ядро міфа. Падобнага меркавання прытрымліваецца літаратуразнаўца Л. Гулюк пры разглядзе міфалагемы жаноцкасці ў культуры сярэбранага веку. На яе думку, "міфалагема як адзінка канструявання міфа, якую мы разглядаем у якасці канструктыўнага ядра міфалагічнай эпохі, экстрапаліруе міфалагічнае значэнне ў свет аб'ектыўнай рэальнасці" [2, с. 6]. Даследчыца біблейскіх міфалагем А. Бецянькова, разважаючы пра адносіны міфалагемы і міфа, лічыць міфалагему "састаўным элементам міфалагічнага сюжэта" [3, с. 11], што карэлюецца з вышэйузгаданымі азначэннямі мінімальнай міфалагічнай адзінкі.

Варта адзначыць, што ў філасофскіх даследаваннях існуе некалькі падыходаў да вызначэння элементарнай адзінкі міфалагічнага мыслення ў залежнасці ад разглядаемага ўзроўню. К. Г. Юнг вылучае глыбокую структурную адзінку міфа, якую называе архетып. І ў якасці найважнейшых міфалагічных архетыпаў ці архетыпавых міфалагем падкрэслівае архетыпы *маці*, *анімы*, *ценю*, *мудрага старога*. Заснавальнік школы рытуалізму Д. Фрэзер лічыць, што аснова міфаў і міфалагічных сюжэтаў – рытуалы. Структуралізм (К. Леві-Строс) кажа пра цэльнасць міфічнага сюжэта, які мае пэўны агульны сэнс. Гэты сэнс нельга раскласці на часткі. Рытуальна-міфалагічная школа (Н. Фрай, М. Бодкін) адшуквае вытокі сюжэтаў у абрадах альбо ў прыродных цыклах. Заснавальнік структурнай фалькларыстыкі У. Проп стварыў мадэль метасюжэта чароўнай казкі ў выглядзе лінейнай паслядоўнасці функцый дзейных асоб, адводзячы важнае месца ў структуры чароўнай казкі абраду ініцыяцыі.

Аўтарства тэрміна *міфалагема* слушна прыпісваецца даследчыкам К. Кэрэні і К. Г. Юнгу, якія ў сумеснай манаграфіі "Уводзіны ў сутнасць міфалогіі" акрэслілі амбівалентную прыроду тэрміна: «Мастацтва міфалогіі вызначаецца своеасаблівасцю свайго матэрыялу. Асноўная маса гэтага матэрыялу… змяшчалася ў аповедах пра багоў і богападобных істот, пра гераічныя бітвы і вандраванні ў падземны свет – апавяданнях ("міфалагема" – вось найлепшае старажытнагрэчаскае слова для іх наймення), якія ўсім добра вядомы, але якія далёкія ад канчатковага афармлення і працягваюць служыць матэрыялам для новай творчасці. Міфалогія ёсць рух гэтага матэрыялу» [4, с. 13]. Такім чынам, міфалагема – гэта і міфалагічны матэрыял, і глеба для стварэння новага тэксту міфалагічнага кірунку. Таму "міфалагему ў мастацкім тэксце можна разумець па-рознаму: як знак з акрэсленай міфалагічнай семантыкай і як асобны аўтарскі вобраз" [5].

Міфалагема таксама выкарыстоўваецца для абазначэння запазычаных міфалагічных вобразаў і матываў і для перанясення іх у свет мастацкай літаратуры. У якасці прыкладаў сусветна вядомых міфалагем можна адзначыць наступныя: *жанчына-лёс*, *багіня-маці*, *сусветнае дрэва*, *залаты век, востраў шчаслівых*, *рай*, *пекла*. На

думку Ю. Шышовай, "гістарычна першай формай рэалізацыі міфалагемы ў лінгвістычным матэрыяле выступае міф. Наступныя ступені актуалізацыі міфалагемы ўяўляюць з сябе святыя тэксты развітых рэлігій, фальклорную традыцыю (легенды, паданні, сагі, быліны, сказанні, а таксама казкі, песні і балады) і творы класічнай літаратуры…" [6]. Сувязь міфалагемы з катэгорыяй архетыпа адзначаў А. Пашкевіч у артыкуле "Увасабленне мадэлі нацыянальнага быцця ў прозе беларускай эміграцыі XX ст.": «Міфалагема – гэта ўвасабленне ў мастацкай прасторы важнейшых архетыповых катэгорый, а архетып высвечвае сувязь з міфалагічнай памяццю. У падаснове міфалагемы – міфалагічная сітуацыя, міфалагічная "фактура", "фактура" ж архетыповай катэгорыі як складніка мастацкай мадэлі нацыянальнага быцця – прадукт уласна мастацкай творчасці, яе тыповыя, характаралагічныя і знакавыя прыкметы, што выяўляюцца на працягу эвалюцыйнага развіцця пэўнага віда мастацтва (у нашым выпадку – літаратуры)» [7].

У навуковым асяродку існуе меркаванне, што міфалагема – гэта сукупнасць міфалагічных матываў. Напрыклад, усім вядома міфалагема сусветнага дрэва. Яна складаецца з некалькіх матываў: першы – царства памерлых (досыць вядомы матыў, які сустракаецца ў шматлікіх фальклорна-міфалагічных крыніцах), другі – чалавечы свет разам з яго насельнікамі, трэці матыў – прастора жыцця багоў ці духаў (нябесны Алімп). Такім чынам, сукупнасць трох матываў складае адну цэльную міфалагему. Іншымі словамі, міфалагема – гэта міні-сюжэты ці традыцыйныя ўніверсальныя міфалагічныя матывы (залаты век), тыповыя міфалагічныя сітуацыі (смерць і ўваскрашэнне). Непадзельнасць мінімальнай адзінкі міфа падкрэслівае і даследчыца А. Батуева, разумеючы пад міфалагемай "сукупнасць некалькіх паняццяў, неаддзельных адно ад другога ў межах магічнага мыслення старажытнага чалавека, а таксама ўсе старажытныя сімвалы, якія адносяцца да гэтых паняццяў" [8, с. 4].

Увогуле, азначэнне міфалагемы досыць складанае і супярэчлівае. Самае істотнае, што можа адрозніваць міфалагему ад матыву, канцэпту, – гэта адлюстраванне рэчаіснасці ў выглядзе пачуццёва-канкрэтных персаніфікацый і пэўных адушаўлёных істот. Інакш кажучы, у міфалагемы павінна быць свая "душа". Праблема вылучэння ў мастацкім тэксце пэўных міфалагем яшчэ толькі ў пачатку свайго вялікага навуковага асэнсавання, што тлумачыцца перш за ўсё складанасцю праблемы і адсутнасцю адзінай метадалагічнай базы вывучэння міфалагічнага паняцця*.

Даследаванне міфалагем у творчасці У. Караткевіча ўяўляецца магчымым у якасці аднаго са шматлікіх аспектаў аналізу, для вывучэння сістэмы сэнсавыяўленчых адзінак мастацкай прасторы, што дазваляе зусім па-іншаму паглядзець на творчую спадчыну беларускага класіка. І хоць у рэчышчы практычнага аналізу будуць знаходзіцца пераважна два творы ("Дзікае паляванне караля Стаха" і "Чорны замак Альшанскі"), рысы, пра якія пойдзе гаворка, цалкам характэрныя для ўсёй творчасці Уладзіміра Караткевіча.

## МІФАЛАГЕМА ШЛЯХУ

Дарога ў сусветнай міфалагічнай традыцыі – гэта катэгорыя, якая ўвасабляе сувязь з іншасветам. Усе сустрэчы на дарозе, выпадковыя знаходкі, размовы маюць глыбокае сімвалічнае значэнне. Акрамя таго, «дарога ў народнай традыцыі неадлучна звязана са светам памерлых і нячыстай сілай. Смерць разумелася як выправа чалавека "ў апошні пуць", "у вялікую невясёлую дарожаньку", "у дальнюю дарогу"» [9, с. 134]. Дарога ўвасабляе перамяшчэнне, аднак паняцце шляху таксама ўтрымлівае ў семантыцы значэнне перамяшчэння. Такім чынам, аказваецца, што катэгорыя дарогі вельмі цесна карэлюецца з катэгорыяй шляху. Гэта вельмі блізкія паняцці, аднак, што важна, яны не ідэнтычныя па сваёй сутнасці. Патрэбна дакладна размяжоўваць дарогу як адлегласць, якую трэба праехаць або прайсці, і шлях як месца, лінію ў прасторы, дзе адбываецца перамяшчэнне і рух. На думку даследчыцы Т. Надзёжкінай, "дарога – гэта тып мастацкай прасторы, шлях – рух персанажа ў гэтай прасторы" [10, с. 21]. Таму пры разглядзе міфалагемы шляху варта не абыходзіць момант прасторава-часавага перамяшчэння персанажа як дамінанты пры стварэнні міфапаэтычнага кантэксту.

Апошнім часам з'явілася некалькі спецыяльных дысертацыйных даследаванняў, прысвечаных непасрэдна міфалагеме шляху. У 2005 г. убачыла свет дысертацыя А. Бецянськовай "Трансфармацыя біблейскай міфалагемы шляху чалавека ў культурфіласофіі экзістэнцыялізму",

* У 2009 г. убачыла свет грунтоўная манаграфія Д. Казалупенкі "Міфапаэтычнае светаўспрыманне", а таксама даследаванне У. Капцава "Мастацкі свет Інакенція Аненскага: матыў – міфалагема – архетып". Сярод іншых варта ўзгадаць працу І. Штэйнера "Super flumina Babylonis: біблейскія міфалагемы ў паэзіі Рыгора Барадуліна", дысертацыю І. Казаковай "Міфалагічна-фальклорная спецыфіка беларускай традыцыйнай культуры" і, вядома ж, даследаванне па міфалогіі Т. Шамякінай "Беларуская класічная літаратура і міфалогія".

дзе даследчыца разглядае праблему пераносу міфалагічных і рэлігійных матываў у сучасныя навукі XX ст., а таксама аналізуе падабенства і розніцу паміж біблейскай міфалагемай шляху і філасофскімі поглядамі экзістэнцыялізму. Раней, у 2002 г., абаронена дысертацыя Ю. Шышовай "Лінгвістычная аб'ектывацыя міфалагемы шляху ў сучаснай англамоўнай літаратуры". Ю. Вішніцкая ў дысертацыі "Міфалагемы Аляксандра Блока ў рускай этнакультурнай прасторы" класіфікуе мастацкія вобразы паэзіі рускага паэта, якія ўдзельнічаюць у актуалізацыі міфалагемы шляху, а таксама выяўляе стылістычныя асаблівасці функцыянавання міфалагем у тэкстах А. Блока. Варта ўзгадаць і шэраг іншых навуковых прац па дадзенай праблематыцы: «Міфалагема шляху ў трылогіі А. і Б. Стругацкіх "Заселены востраў", "Жук у мурашніку", "Хвалі гасяць вецер"» Т. Надзёжкінай, "Архетып шляху ў культуры Расіі і Беларусі пачатку XX ст." А. Хальпуковай, "Міфалагема шляху ў лірыцы Булата Акуджавы" В. Клінга.

Міфалагема шляху так ці інакш патрабуе наяўнасці ствральнага суб'екта, пэўнага "перамяшчальніка", ім звычайна бывае чалавек. Вельмі часта шлях чалавека ўспрымаецца праз прызму параўнання са шляхам боскім. Міфалагічны герой праходзіць сакральным шляхам, кожны этап якога мае глыбока сімвалічны сэнс. Да таго ж падарожжа заўсёды мела сакральнае адценне, бо герой за межамі свайго звыклага маленькага свету сутыкаўся з чужым, іншым, як лічылася, боскім светам і ўступаў з ім ва ўзаемадзеянне [11, с. 49 – 55]. Вынікам такога "сутыкнення" звыклага і боскага светаў было змяненне светапогляду чалавека, яго ўсталяваных пазіцый па многіх быццёвых пытаннях.

Цікавая нам міфалагема шляху вынікае з агульнай карціны ўспрымання спадчыны У. Караткевіча. Яго героі некуды ідуць, едуць, перабіраюцца паромамі праз бурныя рэкі і г. д. Яны нібыта ў вечным вандраванні. Тое самае мы бачым і ў "Дзікім паляванні караля Стаха". Катэгорыя шляху літаральна пранізвае аповесць беларускага пісьменніка. Андрэй Беларэцкі, галоўны герой, крочыць насустрач невядомаму ў маёнтак Балотныя Яліны. Прычым містычныя падзеі, з якімі ён сутыкаецца, з'яўляюцца толькі эпізодам, кропкай адліку на яго працяглым шляху пад агульнай назвай Жыццё.

У гэтай аповесці міфалагему шляху можна раскласці на пэўныя арганізавальныя ступені, цаглінкі, якія ў сваім адзінстве дапамагаюць найбольш глыбока зразумець і ўсвядоміць разгляданую міфапаэтычную катэгорыю.

Першая ступень міфалагемы – гэта геаграфічнае падарожжа Беларэцкага-фалькларыста, пачынаючы ад Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай, Віленскай губерняў і заканчваючы непасрэдным прыездам у *"глухі Н-скі павет"*. Тут ідзе размова пра шлях Андрэя Беларэцкага праз "Візантыйскую Беларусь" да містычнага месца пад назвай Балотныя Яліны, дзе і адбудзецца кульмінацыйнае сутыкненне дабра (носьбіт якога – Беларэцкі) і зла (Дубатоўк і кампанія). Хутчэй за ўсё, мы маем справу з катэгорыяй дарогі (усё ж такі перад намі адлегласць), што арганічна ўпісваецца ў міфалагему шляху.

Другая ступень міфалагемы суадносіцца з разуменнем шляху як месца, дзе судакранаюцца свет жывых і свет памерлых. Калі паглядзець на падарожжа Беларэцкага праз прызму казкавага матыву, то атрымліваецца незвычайная карціна: Беларэцкі, як і казкавы герой, адпраўляецца ў "трыдзясятае царства", па аналогіі з выявай іншасвету. Згодна з сусветнай міфалогіяй, "іншасвет мог быць як пад зямлёю – для душ грэшных або ворагаў, так і на небе – для душ продкаў, для душ добрых людзей, праведнікаў" [12, с. 295]. А вось як апісвае шлях героя У. Караткевіч: *"Праз якую гадзіну пачалі і на гэтай раўніне трапляцца астраўкі лесу, чорнага, у мхах і павуцінні, толькі часам роўнага, а больш за ўсё скарлючанага, як на малюнках да страшнай казкі"* [13, с. 12]. Зразумела, што такое апісанне падыходзіць да шляху ў магчымае "падземнае царства", менавіта туды, дзе пануюць страх, смерць, цемра і адзінота. Таму Беларэцкага як умоўнага казкавага героя чакае іншасвет грэшных душ (заўважым, не праведнікаў!). У доказ гэтага прыводзім наступныя словы: *"…самыя жахлівыя твані трапляюцца менавіта сярод такіх балот, праглыне і вазок, і коней, і людзей, і ўранцы ніхто нават не здагадаецца, што тут хтосьці быў, што тут дзве хвіліны крычала чалавечая істота, пакуль бурая каша не налезла ў рот, што зараз гэтая істота ляжыць, разам з коньмі, на тры сажэні ніжэй паверхні праклятага месца. Нешта раўнула з левага боку: доўгі, працяглы, нялюдскі крык"* [13, с. 13].

Такім чынам, Беларэцкі як быццам перайшоў са свету жывых у свет памерлых. Гэтая думка можа здацца спрэчнай, аднак калі ўзгадаем знаёмства Андрэя Беларэцкага з насельнікамі Балотных Ялін, то зразумеем, што жыхары свету за Волатавай прорвай – жахлівыя стварэнні. Напрыклад, апісанне ахмістрыні – прыхаваная паралель з казкавай Бабай-Ягой: *"Твар у добрых зморшчынах, нос кручкаваты, а рот вялізны, падобны на шчыпцы для арэхаў, з трошкі адтапыранымі наперад вуснамі"* [13, с. 15]. А вось першае знаёмства з гаспадыняй маёнтка: *"І ўсё ж такой непрыемнай асобы мне яшчэ не даводзілася бачыць. Усё тое самае і ўсё – не тое.*

*Маленькая ростам, худзенькая, танюткая, як галінка, з амаль неразвітымі клубамі і ўбогімі грудзямі…*" [13, с. 21].

Трэцяя ступень міфалагемы шляху звязана са старажытным абрадам ініцыяцыі, характэрным для многіх народаў свету. Ініцыяцыя – гэта пераход з адной якасці ў іншую, "з разраду дзяцей у разрад моладзі, будучых жаніхоў і нявест, гатовых да сямейнай адказнасці, да працягу роду" [12, с. 207]. Ініцыяцыя, ці абрад пасвячэння, дазваляла юнаку ўвайсці ў родавае аб'яднанне, стаць яго паўнапраўным удзельнікам, а таксама даваў права выбіраць жонку для далейшага сумеснага жыцця. У. Проп прыгоды казкавых герояў (у тым ліку і пераход у іншасвет) звязвае з ініцыяцыйнымі абрадамі – шматлікімі выпрабаваннямі. Вялікая жрыца (Баба-Яга?) дапамагае герою знайсці правільны шлях на той свет. Таму і хата яе звычайна знаходзіцца на мяжы двух светаў. Заканчэнне абраду адбывалася ў гэтак званым мужчынскім доме, дзе герой павінен пражыць пэўны час. Чалавек, які прайшоў абрад ініцыяцыі, абавязаны захоўваць маўчанне пра ўсё, што бачыў і чуў. У казцы мы маем наступную сітуацыю: герой, абраны для ініцыяцыі, апынаецца ў чужой краіне, даведваецца ад выпадковых людзей, што кожны месяц (дзень, год) пачвара (звычайна змей) патрабуе сабе ахвяру (дзяўчыну, дзіця). Герой звычайна ўступае ў супрацьстаянне са змеем, перамагае яго і ў якасці падарунка атрымлівае царскую дачку сабе за жонку.

У аповесці "Дзікае паляванне караля Стаха" выразна прасочваецца паралель з казкавым сюжэтам. Беларэцкі апынаецца ў невядомай мясцовасці, каб здзейсніць пэўны цуд: вызваліць насельнікаў Балотных Ялін ад спрадвечнай атмасферы страху, што пануе ўжо колькі дзясяткаў гадоў. Даведваецца ад Бермана легенду пра дзікае паляванне караля Стаха, пра яго ахвяры ў кожным пакаленні, пра жудасны факт, што цяпер надышла чарга Надзеі Яноўскай стаць такой ахвярай. Беларэцкі ўступае ў адкрытае супрацьстаянне з навалай у выглядзе дзікага палявання і перамагае яго. Герой У. Караткевіча па аналогіі з казкавым героем, які прайшоў абрад ініцыяцыі, таксама да пэўнага часу нікому не раскрывае сваёй таямніцы. Пра неверагодную гісторыю прыгод ён вырашае распавесці толькі ў сталым узросце: "*Я стары, я нават вельмі стары чалавек. І ніякая кніга не дасць вам таго, што на ўласныя вочы бачыў я, Андрэй Беларэцкі, чалавек дзевяноста шасці год. Кажуць, што доўгія гады лёс дае звычайна дурням, каб яны папоўнілі разумовы недахоп багатым вопытам*" [13, с. 5]. Калі глянем больш уважліва ў мастацкую прастору аповесці У. Караткевіча, то заўважым, што ролю так званага мужчынскага дому можна прыпісаць маёнтку Балотныя Яліны па многіх прыкметах і адзнаках. Па-першае, такая пабудова звычайна бывае пустой ці маланаселенай, па-другое, героя там сустракае асоба жаночага полу (старая альбо маладая жанчына). Аказваецца, што Андрэя Беларэцкага (як і казкавага героя) таксама чакае амаль пусты маёнтак, а першая сустрэча – гэта знаёмства са старой ахмістрыняй, а тады ўжо і з маладой Надзеяй Яноўскай.

Такім чынам, шлях ёсць метафара ініцыяцыі. Усе выпрабаванні героя мы разглядаем у цеснай сувязі з катэгорыяй шляху, якая з'яўляецца сэнсавызначальнай пры знаходжанні ў тэксце асноўных этапаў перамяшчэння героя ў прасторы.

Вышэй мы закранулі тры ступені міфалагемы шляху: перамяшчэнне Беларэцкага ў рэальнай геаграфічнай прасторы, судакрананне з іншасветам, сувязь з абрадам ініцыяцыі. Аднак апошнюю стадыю, ініцыяцыйную, варта ўсё ж такі пашырыць: дадаць да яе катэгорыю *ўваскрэсення*. Безумоўна, ініцыяцыя – змена якасці, але гэта яшчэ і ўваскрэсенне душы чалавека. Таму і міфалагема шляху будзе спалучаць у сваёй аснове як матыў смерці, так і матыў уваскрэсення (аднаўлення, ажывання).

Матыў уваскрэсення (як частка названай міфалагемы) прысутнічае ў вобразе дзікага палявання: усе насельнікі Волатавай прорвы ўпэўнены, што кароль Стах "паўстаў з памерлых", каб помсціць Яноўскім. Больш за тое, у фінале твора "ажывае" галоўная гераіня Надзея Яноўская і пачынае зусім па-іншаму глядзець на навакольны свет: *"Абуджаная з самнамбулічнага стану, яна яшчэ нічога не разумела, толькі жах поўніў яе маленькае, дрыжачае, як кацянё, сэрцайка. І нязнаны жах споўніў і мяне таксама, бо я ведаў, што ад такога раптоўнага спуду людзі часта вар'яцелі або заставаліся нямымі"* [13, с. 193].

Асаблівасць караткевічаўскай "ініцыяцыі" на гэтым не заканчваецца. "Уваскрэсла" не толькі Надзея Яноўская, але і сам Андрэй Беларэцкі. Ён таксама прайшоў "абрад ініцыяцыі", вынікам чаго стала змяненне светаўспрымання: *"Гэта прыйшло пазней – сапраўдныя пакуты за народ"* [13, с. 6]. Перажыўшы на сваім шляху і страх, і смяротную небяспеку, і здраду, Беларэцкі ў канцы аповеду становіцца чалавекам, які пачынае разумець народ і, перш за ўсё, самога сябе. Калі на пачатку твора для яго *"было значна больш важлівым зразумець, хто я, якім багам я павінен маліцца"* [13, с. 7], то неўзабаве досыць пераканальна гучаць яго словы *"паступова я зразумеў, хто я"*. Кажучы метафарычна, асабістае "я" Беларэцкага ўваскрасае, знаходзіць сябе толькі

ў выніку рэалізацыі драматычна напружанай калізіі аповесці У. Караткевіча.

Спецыфікай ініцыяцыі ў аповесці з'яўляецца двухгеройная структура: паміранне-адраджэнне перажывае як Беларэцкі, так і Яноўская, прычым кожны з іх становіцца чароўным люстэркам, погляд у якое "ажыўляе" свядомасць як галоўнага героя, так і галоўнай гераіні. Сапраўды, без Беларэцкага не абудзілася б Яноўская, а без Надзеі не "нарадзілася" б асабістае "я" Андрэя.

Варта закрануць і яшчэ адзін аспект "уваскрэсення" ў творы У. Караткевіча. Справа ў тым, што чытачы становяцца сведкамі і аднаўлення прыроднага малюнка: калі на пачатку падарожжа Беларэцкага перад намі паўстае змрочная пейзажная карціна з непагаддзю, дажджом-патопам, то напрыканцы, калі герой ад'язджае з маёнтка Балотныя Яліны, перад Беларэцкім упершыню выглянула сонца, асвяціўшы сваёй цеплынёй не толькі ягоную душу, але і ўсё папрыгажэлае прыроднае наваколле: *"Праз дзень упершыню за ўсе гэтыя дні сонца разам з лёгкім ранішнікам пала на балаты, пусткі, на старыя яліны парку, на замшэлыя муры маёнтка. Высокая трава была абсыпана белай халоднай пудрай і ружавела ад першых праменняў сонца. І муры былі ружовымі, нават памаладзелі, прачнуўшыся ад цяжкага сну, які вісеў над імі тры гады. Молада блішчалі вясёлкавыя шыбы, сонца кідала нягрэючыя праменні, і адгоны пацелі ад яго, трава на іх рабілася мокрай"* [13, с. 194 – 195]. Атрымліваецца так, што адбылося выратаванне, ацаленне душы чалавека, пераход на якасна новы ўзровень успрымання свету, прыроды, навакольнага жыцця.

Катэгорыя шляху ў творчасці У. Караткевіча выконвае функцыю пэўнай матрыцы, узору для сінтэзавання, узнаўлення міфалагізаваных матываў, наяўнасць якіх у мастацкай прасторы твора паказвае на здольнасць караткевічаўскага гістарычнага тэксту да стварэння асобных міфалагем. Забягаючы наперад, адзначым, што менавіта міфалагема шляху звязвае міфалагему *героя* з міфалагемай *вечнай жаноцкасці*: персанажу трэба прайсці пэўную адлегласць, трапіць у іншую прастору, каб рэалізаваць функцыі народнага збаўцы і тым самым набыць магчымасць аб'яднання з жаночым вобразам, носьбітам ідэі вечнай жаноцкасці.

Разам з тым узнаўленне міфалагізаваных матываў прыводзіць да паступовага працэсу дэканструкцыі міфа, што мы назіраем у аповесці "Дзікае паляванне караля Стаха". Караткевічаўскі міф праступае на ўзроўні падтэксту, адлюстроўваючы аўтарскае бачанне гістарычнага працэсу, дзе не на апошніх ролях знаходзіліся як прадстаўнікі шляхты, так і прадстаўнікі народа, ствараючы гарманічнае суіснаванне дзвюх розных сацыяльных груп пры наяўнасці аднолькавых задач па вырашэнні нацыянальнага пытання.

Пры расшыфроўцы тэкставых канатацый патрэбна ведаць і бачыць такія міфалагемы, якія сваім зместам падкрэсліваюць актуальнасць і неабходнасць даследавання літаратурнай спадчыны Уладзіміра Караткевіча, дзе адной з асаблівасцей з'яўляецца крэатыўная здольнасць мастака ствараць сінтэзаваны мастацкі свет па прынцыпе міфатворчасці.

**Спіс літаратуры**


1. **Шамякіна, Т. І.** Беларуская класічная літаратура і міфалогія / Т. І. Шамякіна. – Мінск : Бел. дзярж. ун-т, 2001. – 184 с.
2. **Гулюк, Л. А.** Мифологема женственности в культуре Серебряного века : автореф. дис. … канд. филос. наук : 24.00.01 / Л. А. Гулюк. – Белгород, 2007. – 19 с.
3. **Бетенькова, Е. М.** Трансформация библейской мифологемы пути человека в культурфилософии экзистенциализма : автореф. дис. … канд. филос. наук : 24.00.01 / Е. М. Бетенькова. – Барнаул, 2005. – 24 с.
4. **Кереньи, К.** Введение в сущность мифологии / К. Кереньи, К. Г. Юнг // Душа и миф : шесть архетипов / пер. с англ. А. А. Юдин; сост. В. И. Менжулин. – М. – Киев : Совершенство, 1997. – 383 с.
5. **Кузнецова, А. И.** Пространственные мифологемы в творчестве У. Голдинга : автореф. дис. … канд. филол. наук / А. И. Кузнецова. – М., 2004 // Планета диссертаций [Электронный ресурс]. – Режим доступа : http://planetadisser.com/see/dis_218173.html. – Дата доступа : 27.08.2010.
6. **Шишова, Ю. Л.** Лингвистическая объективация мифологемы пути в современной англоязычной литературе : автореф. дис. … канд. филол. наук : 10.02.04 / Ю. Л. Шишова. – СПб., 2002. – 14 с.
7. **Пашкевіч, А.** Увасабленне мадэлі нацыянальнага быцця ў прозе беларускай эміграцыі XX ст. / А. Пашкевіч // Інфармацыйна-аналітычны і культуралагічны бюлетэнь [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу : http://www.lingvo.minsk.by/mab/2002/03/03_03_2002.htm. – Дата доступу : 27.08.1010.
8. **Батуева, А. А.** Мифологема добра и зла в индоевропейских языках : автореф. дис. … канд. филол. наук : 10.02.20 / А. А. Батуева. – [Военный университет МО РФ]. – Москва, 2008. – 20 с.
9. **Беларуская міфалогія** : энцыклапедычны слоўнік / С. Санько [і інш.]. – 2-е выд., дап. – Мінск : Беларусь, 2006. – 599 с.
10. **Надежкина, Т. О.** Мифопоэтическая организация трилогии А. и Б. Стругацких "Обитаемый остров", "Жук в муравейнике", "Волны гасят ветер" : автореф. дис. … канд. филол. наук : 10.01.01 / Т. О. Надежкина. – [Дальневост. гос. ун-т]. – Владивосток, 2008. – 25 с.
11. **Бесшапошникова, А. П.** Универсальный синтез : миф, религия, мистика / А. П. Бесшапошникова. – Саратов : Поволжская академия госслужбы, 2000. – 224 с.
12. **Шамякіна, Т. І.** Міфалогія Беларусі (нарысы) / Т. І. Шамякіна. – Мінск : Маст. літ., 2000. – 400 с.
13. **Караткевіч, У.** Збор твораў : у 8 т. – Мінск : Маст. літ., 1987 – 1990. – Т. 7 : Дзікае паляванне караля Стаха : аповесць; Чорны замак Альшанскі : раман. – 574 с.



**Павел УШКЕВІЧ,**
аспірант Гродзенскага
дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.



*Артыкул рэкамендаваны да друку доктарам філалагічных навук І. Жуком.*

*Новае прачытанне*

# РЭЛІГІЙНАЯ ТЭМА Ў ТВОРЧАСЦІ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

Творчасць Уладзіміра Караткевіча – яскравая з'ява ў літаратуры. Пісьменнік вядомы як заснавальнік беларускага гістарычнага рамана, ён адкрыў сучаснікам, што гісторыя іх этнасу пачалася не ў 1917 г., а на вякі раней, што ў мінулыя стагоддзі былі асобы і падзеі, якімі нашчадкі могуць і павінны ганарыцца. Уладзімір Караткевіч належыць да пакалення шасцідзясятнікаў, чый талент раскрыўся ў гады так званай хрушчоўскай адлігі, з усімі яе хібамі і непаслядоўнасцю. Шасцідзясятнікі шчыра верылі ў сацыялізм, перажывалі за яго скажэнне ў эпоху Сталіна. Але як людзі свайго часу яны ў большасці былі абыякавымі да духоўных пытанняў, лічылі іх перажыткам мінулага, не падзялялі паняццяў *духоўнасць* (тое, што звязана з нематэрыяльным светам) і *душэўнасць* (вытворнае ўласна чалавечай існасці). Прафесар М. Дунаеў (Маскоўская духоўная акадэмія) зазначаў, што шасцідзясятнікі балюча ўспрымалі ўціск свабоды слова або друку, але тагачасныя масавыя парушэнні свабоды сумлення (веравызнання) іхняга клопату не выклікалі – гэта яны, бадай, і падтрымлівалі. Непаразуменні з афіцыйнай уладай у іх адбываліся на душэўным узроўні, на духоўным – яны былі перакананыя хаўруснікі ўлады. І ўсё-ткі іх няўдалы досвед стаў адной з прыступак у звароце сённяшняга пакалення да веры.

Святы Сілуан Афонскі не раз падкрэсліваў, што ёсць "веданне пра Бога" і "веданне Бога". У. Караткевіч, безумоўна, **пра** Бога ведаў, у яго творах часта сустракаюцца хрысціянскія вобразы, цытуецца Біблія – і гэта ў той час, калі яна была маладаступнай і не выкладалася нават як аб'ект культуралогіі. Але як сам У. Караткевіч успрымаў Кнігу кніг? Вось словы персанажаў яго кніг.

Гервасій Выліваха і Смерць ("Ладдзя Роспачы", 1964): *"– І чаго глядзіць Пан Езус? – спытаў Выліваха. – Гэта яшчэ не самая горшая з чалавечых выдумак. Ідзі"*. Юрась Братчык ("Хрыстос прызямліўся ў Гародні", 1966): *"…з гэтых трызненняў зрабілі вечны і нязменны закон"*. У іншым месцы: *"Пісанняў на зямлі шмат. Праўда чалавечая – адна!"* Антон Косміч ("Чорны замак Альшанскі", 1979): *"Шмат разоў за жыццё я чытаў Евангелле, адну з лепшых, калі не самую лепшую з гісторый, прыдуманых чалавецтвам за ўсё сваё існаванне. Прыемна мне было чытаць яе і зараз, думаць над паасобнымі мясцінамі, уяўляць"*. Наўмысна цытую творы ў храналагічным парадку, каб прасачыць развіццё ўласных поглядаў пісьменніка.

Многія героі У. Караткевіча, якім ён яўна сімпатызаваў, падкрэсліваюць сваё нявер'е. Надзея Яноўская ("Дзікае паляванне караля Стаха", 1950, дапрацавана ў 1958 г.): *"Бацька быў атэіст…"* Андрэй Беларэцкі (тамсама): «*…я загартаваны "афеіст"*». Ён жа: *"Калі няма Бога… я сам буду і богам і суддзёю"*. Свяціловіч (тамсама) пра барацьбітоў супраць паноў: *"І мужнасць іхняя большая, чым у Хрыста: яны ведаюць, яны не ўваскрэснуць пасля распяцця"*. Берман (тамсама; яму, у адрозненне ад іншых персанажаў, У. Караткевіч не сімпатызуе): *"…я вальнадумны чалавек, я атэіст, як кожны чалавек, які жыве душою ў нашым высокаадукаваным веку"*. Антон Косміч ("Чорны замак Альшанскі", 1979) быццам апраўдваецца за тое, што ў дзяцінстве яго ахрысцілі: *"Прозвішча маё Косміч. Хрышчаны (гэта ўсё бабця) Антонам"*.

А якія блюзнерствы вымаўляе Беларэцкі ў "Дзікім паляванні…", няхай ахвочыя чытачы самі знойдуць у канцы 3-га і 11-га раздзелаў аповесці. Без сумневу, аўтар у той час думаў падобна.

У сваіх рэлігійных пошуках (калі гэта сапраўды былі пошукі, а не прымяненне літаратурных метафар) У. Караткевіч вельмі непаслядоўны. *"На Беларусі Бог жыве"*, – піша ён у адным вершы. Пісалі падобнае і іншыя аўтары, напрыклад Фёдар Цютчаў: "Всю тебя, земля родная, / В рабском виде Царь Небесный / Исходил, благословляя". Але ў тым жа вершы У. Караткевіча: *"І тая памяць жыве не ў царкве, / А ў кожнай жыве галаве"*. Верш "Усход": *"І толькі Яму, Адзінаму, / Сэрца я падару, / Адзінаму Богу ў свеце, / Адзінаму ў свеце Цару"*. А ў вершы "Данеслі добрыя людзі…": *"Б'е за шчасце маё, і за мукі, / І за ўсё, што аддаў сатане"*. Зрэшты, у наступным радку паэт згадвае Бога, на якога, як відаць, не прывык спадзявацца.

Не раз у творах У. Караткевіч захапляецца К. Каліноўскім. Вось і ў вершы "Прарок" ад яго імя піша: *"Не веру ў д'ябла, ані ў Бога"*. У "Дэмане" паэт звяртаецца да злога духа: *"Ратуй мяне, дружа…"* Чытаючы "Баладу пра архангелаў", складана зразумець, якіх менавіта духаў мае на ўвазе У. Караткевіч: *"Бяздумныя, падшыя, светлыя…"* А ў вершы "Бекеш, або Ода ерасі" аўтар называе рай *баечным* і піша: *"Вашага Бога не ведаю з раем рабоў і гаротных, / Пекла яго не баюся, бо ўсё гэта ваша багно… <…> …На веру не браць, нават як скажа Хрыстос… <…> Рацыю меў, праз стагоддзі, заўджы – ерэтык"*.

Фантазіі наконт другога з'яўлення Збаўцы ў рабскім выглядзе не навіна ў літаратуры. Бадай, лепш за іншых гэта ўдалося Фёдару Дастаеўскаму ў ра-

мане “Браты Карамазавы”. Там прыведзена легенда пра Вялікага Інквізітара, які ў імя Хрыста адмовіў… Самога Хрыста. Толькі, у адрозненне ад Ф. Дастаеўскага, які разважае пра духоўны стан чалавецтва з болем, У. Караткевіч раман “Хрыстос прызямліўся ў Гародні” прыправіў кпінамі з рэлігіі. Цытаты з Бібліі ў творы пераважна перайначаныя.

Эпоха інквізіцыі, безумоўна, змрочная старонка гісторыі, калі Нябеснае было падменена зямным нібыта ў імя Нябеснага, сам дух хрысціянства быў вытручаны чалавечай сквапнасцю. Гэты час павінен даследавацца, адлюстроўвацца ў мастацкіх творах. Але шкада, што У. Караткевіч атаясаміў хрысціянства са злой пародыяй на яго. Кат у рамане гаворыць: *“…распіналі калісьці хрысціян і, значыцца, цяпер хрысціяне да скончэння свету павінны распінаць іншых і панаваць над імі”*. Адзін з персанажаў рамана кажа: *“І няма ніякай іншай праўды… ні праўды Яхве, ні праўды Хрыста”*. Другі разважае падобна: *“Але я быў багаборац. Бо цела не будзе і душы не будзе, але дабрыня, але справы, але сэрцы людзей не перастануць быці”*. Толькі вось такія чыста чалавечыя *праўда, дабрыня, справядлівасць* без укаранення ў Богу застаюцца нядзейснымі, аморфнымі. Хрысціянства без Хрыста – у лепшым выпадку нудота талстоўства, у горшым – фанатызм рэвалюцыянераў. Юрась Братчык абвяшчае свае “запаведзі блажэнстваў” – чыста зямныя, душэўныя, а не духоўныя: *“Блажэнныя тыя, што плачуць па сваёй зямлі, няма ім суцяшэння… Блажэнныя тыя, хто ахвяруе людзям кроў сваю і свой гнеў, таму што на рахманых ездзяць”* і г. д.*.

Антыцаркоўнасць, непавага да духавенства ва У. Караткевіча звязаны, хутчэй за ўсё, са звычайнай прадузятасцю савецкага інтэлігента. Святары ў большасці тады толькі вярталіся з лагераў – ці ведаў пісьменнік іх асабіста і ці хацеў ведаць?.. А творы яго стракацяць зняважлівымі выказваннямі. Нават у “Чазеніі”, дзе, здавалася б, няма нагоды кпіць, У. Караткевіч не ўстрымаўся: *“Тут яе адразу ў царкву. Тут папу хабар”*. Плата святару за службу (як і пісьменніцкі ганарар) – гэта не хабар, пра што аўтар выдатна ведаў. Апосталу Паўлу належаць словы: *“Хто настаўляецца словам, дзяліся ўсякім дабром з тым, хто настаўляе”* (Гал. 6, 6); *“…хто працуе, варты ўзнагароды сваёй”* (1 Цім. 5, 18).

Хрысціянства ў згаданых творах паказана як *“машына шматвяковай хлусні”*, якую пісьменнік проціпастаўляе *“першабытнай, язычаскай яшчэ праўдзівасці”* (“Хрыстос прызямліўся ў Гародні”). Нешта каштоўнае заставалася па-за позіркам Уладзіміра Сямёнавіча: не размытая і беззмястоўная пры бліжэйшым разглядзе “праўдзівасць”, а само “Сонца Праўды”, бо *“усё праз Яго пачало быць… У Ім было жыццё, і жыццё было святлом для людзей”* (Ін. 1, 3 – 4).

Раман “Чорны замак Альшанскі” напісаны пазней – у 1979 г. І хоць атэізм пісьменніка на старонках не раз праяўляецца, яго адносіны да рэлігіі яўна памякчэлі. *«Я прачытаў усе чатыры Евангеллі, і Дзеянні апосталаў, і пасланні іхнія, пачынаючы ад Паслання Іякава і канчаючы Пасланнем да Яўрэяў. Заставаўся толькі “Апакаліпсіс” Іаана Багаслова…»* – так распавядае Антон Космiч, ад імя якога піша аўтар.

Станоўчы герой у рамане аказваецца і ксёндз Леанард Жыховіч, які падчас вайны быў падпольшчыкам. Згадваецца яго гутарка з маладымі, што збіраюцца пажаніцца, аб чысціні шлюбу. Сам Космiч разважае пра грэх самагубства: *“…не наша зямная справа яго* [самазабойцу] *судзіць, а судзіць яго будзе Бог, таму што самагубства – гэта парушэнне Божага закона і злачынства супраць Бога і сваёй неўміручай душы”*. У канцы ксёндз гаворыць Космiчу: *“…я веру ў адрозненне ад вас”*. Гэтыя словы гучаць моцна і пераканальна ў яго вуснах, у іх і сам Жыховіч, і – несумненна – У. Караткевіч адчуваюць упэўненасць у перавазе веры над бязвер’ем. У ранейшых творах падобнага не сустракалася. Мы мяркуем, што гэта кажа пра змены ў светасузіранні пісьменніка. І аддамо яму даніну павагі: у гады дыктатуры атэізму стварыць станоўчы вобраз рэлігійнага чалавека, і тым больш святара, для пісьменніка было подзвігам. Праз некалькі гадоў, магчыма, не без уплыву У. Караткевіча, у “Кар’еры” Васіля Быкава з’явіўся вобраз Бараноўскай, жонкі рэпрэсаванага праваслаўнага святара а. Кірыла Бараноўскага. Гэта быў пачатак…

Адзін з вершаў У. Караткевіч прысвяціў Каложскай царкве ў Гродне: *“Каложа, туга мая светлая…”* Можа, не толькі старажытныя муры, сведкі многіх гістарычных падзей, вабілі пісьменніка, але і Той, дзеля Каго храмы заўжды будаваліся. Ці перарасло ва У. Караткевіча “веданне пра Бога” ў “веданне Бога”? Такая магчымасць была. Але, мяркуючы па папярэдніх творах, калі гэта ўрэшце і адбылося, то ў канцы творчага шляху і праз выпрабаванні…

Надзея Яноўская, гаспадыня Балотных Ялін у “Дзікім паляванні…”, сказала: *“Брыдота запусцення наша жыццё”*. Гэта, як вядома, выраз з Евангелля (Мф. 24, 15; Мк. 13, 14; гл. Лк. 21, 20). Такім было і духоўнае жыццё атэістычнага грамадства, у якім жыў Уладзімір Сямёнавіч і з якога выйшлі многія з нас. Пакаленню шасцідзесятнікаў было цяжэй, чым нам, дзецям перабудовы. Іх эпоха – своеасаблівае вандраванне па пустыні, каб наступным пакаленням увайсці ў Зямлю Абяцаную, дзе адчынены храмы і ўзносіцца малітва Творцу.

**Уладзіслаў ЛУПАКОЎ,**
настаўнік СШ № 10 г. Брэста.

* Можна і інакш інтэрпрэтаваць раман. Напачатку Ю. Братчык не хоча падману і блюзнерства – адмаўляецца іграць ролю Сына Божага. Вымушаны ж прыняць яе – аддана служыць людзям. Стаўшы “Хрыстом” з прымусу, выконвае запавет ап. Паўла пераймаць Хрыста (задача хрысціяніна – “узрастаць у Хрысту”). У канцы ж рамана Юрась пад катаваннем не адмаўляецца ад Хрыста ў сабе (ад магчымасці кожнага чалавека быць усыноўленым Богам, “абагаўляцца”).

Сяргей ШАПРАН

# РАМАНТЫК ВЯЛІКАЙ РАДЗІМЫ

## ДА 80-ГОДДЗЯ АЛЕГА ЛОЙКІ



1 мая Алегу Лойку споўнілася б 80 гадоў. Паэт, перакладчык, педагог, вучоны, асветнік, ён пачаў выкладаць родную літаратуру ў Беларускім дзяржаўным універсітэце ў 1956 г., з 1985-га быў загадчыкам кафедры, пазней – дэканам філалагічнага факультэта. Перанёсшы ў апошнія гады жыцця не адну цяжкую аперацыю, Алег Антонавіч быў вымушаны адысці ад універсітэцкіх спраў і вярнуцца ў родны Слонім, які называў сваёй калыскай. Вярнуцца ў адзіноту – без блізкіх, без вучняў, сярод якіх прайшло яго жыццё. Але і тады ён не падаў духам – пісаў вершы і раздзелы для новага падручніка. Як і рабіў гэта апошнія пяцьдзясят гадоў.

"Як быццам бы пра мяне і пра такіх, як я, сказаў Экзюперы: чалавек пачынаецца з маленства, – гаварыў Алег Антонавіч. – З маленства і толькі з маленства. Але ў маім выпадку таксама і з вайны, якая прыпала на мае дзіцячыя гады. А яшчэ, канечне, са Слоніма, у якім я ў той час жыў. Маленства для мяне – вельмі светлая пара. Тым больш што ў вайну, прызнацца, мы жылі нечакана добра. Цяжка было ўжо ў пасляваенны час, калі бацька працаваў адзін за ўсіх. Неяк акрыялі толькі тады, калі ў 1948 г. я паехаў вучыцца. А ўжо ў 1954-м бацька нават дом пабудаваў. Праўда, я вельмі перажываў, бо яшчэ не мог тады дапамагчы яму матэрыяльна. Бацька ж жыў па гэтых запаветах – пабудуй дом, пасадзі сад…"

Схільнасць да творчасці праявілася ў будучага паэта яшчэ ў падлеткавым узросце. Праўда, ён доўгі час не прызнаваўся, што першы яго верш пад назвай "Восень" надрукаваў у "Баранавіцкай газеце" Сяргей Новік-Пяюн. І хоць верш той быў "пейзажны" («Мяне заўсёды цягнула на "альбомную лірыку", як яна тады празывалася», – скажа падчас нашай з ім гутаркі Алег Антонавіч), але ішоў 1943 г., Беларусь была пад акупацыяй. Таму А. Лойка і баяўся прызнавацца ў паэтычным дэбюце, наступствы маглі быць самыя непажаданыя. Актыўна ж друкавацца пачаў толькі ў 1950-я гг.; у 1959-м выйшла першая кніга вершаў "На юначым шляху", а ўвогуле на працягу жыцця паэт выдаў больш чым тры дзясяткі зборнікаў. Аднак не такім ужо роўным і ўдалым быў яго паэтычны лёс. Так, набор кнігі "Посах душы" быў рассыпаны, яшчэ адну кнігу – "Абкашоныя клушні" – у выдавецтве не прынялі. Дый сам Алег Антонавіч вельмі сціпла ацэньваў свой паэтычны талент – нечакана прызнаўся напярэдадні свайго 75-годдзя: "Я вось усё жыццё думаў вельмі сціпла пра сябе, лічыў, што я – нейкі трэці-дзясяты паэт. Усіх ставіў паперадзе сябе, усіх сваіх калег – маўляў, яны лепшыя, а я… а я так сабе. А цяпер і не ведаю – можа, я сябе недаацэньваў? Хоць, з іншага боку, можа, і добра рабіў, іначай не было б імпульсу… У мяне ж не было такога адчування, што я сапраўды паэт, сапраўды пісьменнік…"

Між тым Алег Лойка, відаць, усё ж невыпадкова належаў да таго пакалення літаратурных рамантыкаў, якое прынята называць "філалагічным", бо ў літаратуру, у прыгожае пісьменства

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 1.*



**Сябры, калегі, вучні ў гасцях у Алега Лойкі.** Сядзяць: **Алег Лойка, хатняя памочніца пісьменніка Раіса, Валерый Стралко.** Стаяць: **Іван Міско, Фёдар Баравой, Анатоль Вярцінскі, Аляўціна Міцкевіч, Вера Міцкевіч, Мікола Трус.** Слонім. 9 верасня 2007 г.

працягваў працаваць і нават на бальнічным ложку спяшаўся скончыць кнігу пра займальнае літаратуразнаўства, хоць, як сам прызнаваўся, працаваць было цяжка і балюча. Ён літаральна ратаваўся словам, без якога ўжо не мог жыць. І, дарэчы, апошнім часам нечакана для сябе напісаў шмат вершаў – нягледзячы на тое, што ўжо заракаўся гэта рабіць, але без паэзіі таксама не мог існаваць. «Сам сябе лаю: "Графаман!" – сарамліва ўсміхаўся Алег Антонавіч. – І ўсё роўна не магу спыніцца. Не магу без вершаў, не магу без кніг!»

Асобнай старонкай у гісторыі жыцця А. Лойкі

прыйшоў адначасова з Уладзімірам Караткевічам, Іванам Пташнікавым, Міхасём Стральцовым, Рыгорам Барадуліным, Генадзем Бураўкіным, Анатолем Вярцінскім, Васілём Зуёнкам. Аднак практычна праз усё жыццё А. Лойка быў не толькі паэтам, але і педагогам. Філалагічны факультэт БДУ ён называў сваёй сям'ёй, гаварыў, што тут ён сярод сваіх вучняў, а сярод вучняў быць дрэнна не можа. І ён, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар філалагічных навук і прафесар, не толькі выкладаў беларускую літаратуру, але і шмат гадоў (з 1965 г.) кіраваў студэнцкім аб'яднаннем "Узлёт", удзельнікі якога жартоўна называлі сябе сябрамі "ордэна Святога Алега". Вынікам гэтай самаахвярнай паэтычна-педагагічнай працы сталі зборнікі творчага аб'яднання, складзеныя і адрэдагаваныя яго кіраўніком – Алегам Лойкам.

Яшчэ адна яго іпастась – аўтар фундаментальных навуковых прац: двухтомнага падручніка для філалагічных факультэтаў універсітэтаў краіны "Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд" і шматпакутнага падручніка па старабеларускай літаратуры (ад часоў Кіеўскай Русі і Вялікага Княства Літоўскага да Люблінскай уніі 1569 г.), выхаду якога Алег Антонавіч чакаў цэлых дзесяць гадоў. Сюды ж можна аднесці і двухтомную анталогію польскай паэзіі, і анталогію класічнай нямецкай паэзіі. Асобная старонка дзейнасці – перакладніцкая праца і, у прыватнасці, перастварэнне твораў П. Верлена, І. Гётэ, А. Міцкевіча, І. Крушальніцкага і інш. І ўжо цяжка хворы, Алег Антонавіч усё роўна

сталі яшчэ дзве грунтоўныя працы – раманы-эсэ пра Янку Купалу (1982) і Францыска Скарыну (1989), якія выйшлі ў Маскве ў знакамітай серыі "Жизнь замечательных людей". Трэба заўважыць, першыя ў гэтай серыі раманы пра славутых беларусаў. Дарэчы, за твор "Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае" аўтар атрымаў у 1990 г. Дзяржаўную прэмію Беларусі імя Я. Коласа. І калі другая кніга выйшла ўжо без цэнзуры (толькі з назвы Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага выкраслілі слова "Рускае"), дык раман пра Купалу "Як агонь, як вада…" быў выдадзены з вялікімі цяжкасцямі. Алег Антонавіч прыгадваў, што праца была пабудаваная так, што спачатку ён вымушаны быў пісаць "пробныя" раздзелы, якія затым рэцэнзаваліся. Аднак партыйнае кіраўніцтва было не надта задаволена кнігай, і пачалася яе перапрацоўка: з Купалы патрабавалася зрабіць беспартыйнага бальшавіка і рамантыка; пісаць пра яго самагубства не дазвалялася, таксама як нельга было прыгадваць некаторыя прозвішчы (да прыкладу, Вацлава Ластоўскага). "Канечне, я ішоў ад жыцця, ад характару, аднак гэта раман, а не дакументальная кніга", – удакладняў пазней аўтар. Да таго ж мінскае і маскоўскае выданні рамана значна адрозніваюцца.

Тут дарэчы будзе прывесці вытрымку з дзённікавага запісу тагачаснага дырэктара выдавецтва "Мастацкая літаратура" Міхала Дубянецкага: «М. І. Дзялец [старшыня Дзяржкамдруку БССР. – ***С. Ш.***] выклікаў і прад'явіў прэтэнзіі: чаму не выслалі ў Маскву рукапіс рамана А. Лойкі "Як агонь, як вада…". Сказаў, што яны там ускры-

лі шмат памылковых сцвярджэнняў, што быццам бы Я. Купала праследаваўся і пры савецкай уладзе, што яго арыштоўвалі, што ён спрабаваў скончыць жыццё самагубствам, што і памёр пры загадкавых абставінах. “Маскву, – сказаў ён, – цікавіць, як тут, у нашым варыянце, падаецца ўсё гэта, бо яны не вераць выдавецтву і асабіста табе. Так!” Загадаў, каб у панядзелак рукапіс ляжаў у яго на стале…» У выніку А. Лойка вымушаны быў падрыхтаваць не адзін, а цэлыя тры варыянты рамана: для маскоўскага, для мінскага выдання (якое з’явілася толькі праз два гады – столькі часу беларускі Галоўліт не пускаў кнігу) і пазнейшы, у які аўтар уключыў тое, што раней ці сам выкрасліў, ці забараніла цэнзура. «Гэта ўсё было вельмі нялёгка, – прыгадваў ён. – Колькі я папаездзіў у Маскву, колькі абабіў парогаў, колькі папісаў розных тлумачэнняў! Да юбілею Купалы кніга не выйшла, хоць у 1982 г. была ўжо гатова, але набор быў рассыпаны. Пасля яе зноў набіралі. Выйшла пад новы 1983 г. і адразу была арыштавана. Так пад арыштам і праляжала да 16 лютага 1983-га. Праўда, адзін экземпляр мне паспелі прыслаць, казалі пры гэтым: “Нікому не паказвай!” Дапамаглі мне тады камсамольцы і, як ні дзіўна, галоўны кадэбіст Юрый Андропаў, які, аказалася, вельмі любіў серыю “ЖЗЛ”. Пасля я яму кніжку падпісаў з падзякаю…»

А была ж у Алега Антонавіча яшчэ адна задума: ён хацеў напісаць для серыі “ЖЗЛ” і пра Уладзіміра Караткевіча. “Тады ўсё ва мне гарэла – так мне хацелася напісаць пра Валодзю! – прыгадваючы гэта, ён дадаваў з жалем: – Аднак не выпала”. Не выпала – хоць і дамова была, і заяўку прынялі, – усё таму, патлумачылі, што Караткевіч – пісьменнік не “народны” па званні. Гэтая ненапісаная кніга не давала спакою Алегу Антонавічу нават падчас яго хваробы. «Мала хто ведае, што я быў блізка знаёмы з Караткевічам, асабліва ў апошнія гады, – распавядаў ён. – Валодзя заўсёды мяне падтрымліваў, а я – яго, бо першыя ж рэцэнзіі пра яго – мае. Гэта Вера Сямёнаўна Палтаран, падтрымаўшы, надрукавала ў “Маладосці” маю рэцэнзію. Праўда, яна была ўжо на другі паэтычны зборнік Караткевіча – маю рэцэнзію на першы яго зборнік так нідзе і не надрукавалі. Можа, таму што слаба напісаў, а, можа, таму што ў асноўным гаварыў пра патрыятызм Караткевічавай лірыкі, пра яго беларускасць – у той час пісаць пра гэта не вельмі любілі. Дарэчы, калі я пасля напісаў артыкул “Крылы для ўзлёту”, дык вылучыў з усяго асяроддзя толькі двух паэтаў – Караткевіча і Барадуліна. Божа, якая пасля таго дыскусія паднялася: а чаму гэтага не заўважыў, а чаму – гэтага?! Але я бачыў будучае толькі за Валодзем ды Рыгорам…»

Але адкуль была ў Алега Антонавіча такая любоў і адданасць беларускаму слову? Здаецца, і сам ён дакладна не ведаў. Меркаваў, што, мабыць, прычынай таму яго заходнебеларускае паходжанне і прачытаныя ў дзяцінстве кнігі Коласа і Купалы. А яшчэ ўплыў Сяргея Новіка-Пеюна, песні якога любіла спяваць маці і з сям’ёй якога яны сябравалі. «Такім чынам, мая беларускасць пачалася, па сутнасці, яшчэ да 1939 г., – заўважаў А. Лойка. – Я ж спачатку хадзіў у польскую школу, а калі прыйшлі Саветы – першыя, як у нас кажуць, – мяне перавялі ў рускую школу. Я тады па-руску гаварыў, як, дарэчы, і мая маці – яна з Узбекістана прыехала. Гэта бацька беларускую мову ведаў, а маці пасля ў мяне вучылася беларускай. Складана гэта ўсё было ў інтэлігентных сем’ях… Я і філолагам быць не хацеў – толькі лесніком. І нават угаворваў сяброў паехаць у Лесатэхнічны інстытут, але ніхто не падтрымаў мяне. Я не хацеў ісці ў літаратуру. Толькі пасля думаў на журналістыку паступіць, а давялося – на філфак. І паколькі ў рэшце рэшт скончыў беларускую школу, мне сказалі: “Пішы заяву на беларускае аддзяленне…”» Аднак ніколі пасля Алег Антонавіч не шкадаваў пра тое, гаварыў: беларусы – народ тысячагадовы, з вельмі глыбокімі каранямі, такі народ не патаптаць. І хоць ён не мог зазірнуць у будучыню, але быў упэўнены ў тым, што яна ў яго народа ёсць. Сябе ж ён лічыў неаддзельнай часткай гэтага народа і як сапраўдны рамантык спадзяваўся на лепшае. Мабыць, так яно і павінна быць, бо і ў літаратуры рэалізму папярэднічаў рамантызм. Таксама як на рамантыках трымаўся – дый дасюль трымаецца – свет. У тым ліку і беларускі:

*Усім карэннем – у табе,**
*Адной галінкай – над табою…*
*Чым заслужыў, калі паспеў,*
*Што ты мяне з крыніцаў поіш?..*

*А чым табе даўгі сплаціць,*
*Якіх, чым больш жыву, не меней?..*
*Як зорны хлеб мой зіхаціць:*
*Скарынка –*
*у духмяным кмене.*

*А я – галіначка адна*
*Між вечных зор і тых, якія*
*З крыніц мігочуць да відна,*
*Упаўшы ў нетры іх жывыя.*

*І сэрца, як лісток, трымціць,*
*Што супакоіць немагчыма:*
*“А чым даўгі табе сплаціць,*
*Мая вялікая Радзіма?!”*

* Урывак з верша “Радзіме” Алега Лойкі цытуецца па: **Краса і сіла** : анталогія беларускай паэзіі XX ст. / склад. М. Скобла. – Мінск : Лімарыус, 2003. – С. 417.

*Творчы лёс*

# "МНЕ ВЕЛЬМІ ДА СПАДОБЫ ГОЛАС ФЛЕЙТЫ..."

## ДА 75-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МІХАСЯ РУДКОЎСКАГА



Міхась Рудкоўскі прыйшоў у літаратуру ў перыяд так званай хрушчоўскай адлігі, калі пачаўся масавы прыток творчых сіл у нацыянальнае мастацтва слова. Паказальна, што ў канцы 1950 – пачатку 1960-х гг. шэрагі беларускіх пісьменнікаў папаўнялі ўраджэнцы розных рэгіёнаў Беларусі. Некаторыя не спяшаліся перабірацца ў сталіцу, а шчыравалі ў родным краі. Міхась Рудкоўскі быў у іх ліку. Яму належыць адметная роля ў развіцці літаратуры Берасцейшчыны, яе мастацкага слова як адметнай плыні, якая адначасна выяўляла агульныя тэндэнцыі, уздымала праблемы, характэрныя для ўсёй беларускай літаратуры і расквечвала яе рэгіянальнымі фарбамі. У творах М. Рудкоўскага асабліва моцны палескі каларыт. У гэтым плане паэт з Ганцаўшчыны ішоў следам (не ўсведамляючы таго) за Адамам Міцкевічам. Для М. Рудкоўскага Палессе было "калыскай дум і натхнення" (Адам Міцкевіч), як для аўтара "Пана Тадэвуша" Наваградчына.

Нарадзіўся Міхась Рудкоўскі 17 красавіка 1936 г. у вёсцы Востраў Ганцавіцкага раёна ў сялянскай сям'і. Гэтая вёска размешчана на мяжы двух рэгіёнаў – Палесся і Случчыны. Землякі паэта жыхароў Палесся лічылі лесавікамі, Случчыны – паляўцамі. Сябе не далучалі ні да першых, ні да другіх, а былі, як адзначаў творца, самі па сабе. Тым не менш ён сам пачуваўся менавіта палешуком і гэта падкрэсліваў у розных вершах. М. Рудкоўскі прайшоў характэрны для многіх беларускіх пісьменнікаў жыццёвы шлях, паводле Янкі Сіпакова: "Усе мы з хат". Беларуская вёска на той час яшчэ была носьбітам нацыянальнай ментальнасці. Родныя краявіды, пакуль не скалечаныя "пакаральнікамі прыроды", сям'я фарміравалі маральныя ідэалы, эстэтычныя густы мастака слова. У гэтым даволі гарманічным свеце трагічным акордам была Другая сусветная вайна, якая забрала ўсіх аднавяскоўцаў-мужчын прызыўнога ўзросту. Большасць не вярнуліся пад родныя стрэхі.

Пазней школа пашырала, узбагачала, але карэнным чынам не перайначвала, не змяняла духоўныя набыткі, сфарміраваныя ў раннім дзяцінстве, вызначальныя для паэта. За плячыма Міхася былі Астравецкая сямігодка, педвучылішча (спачатку Ганцавіцкае, а пасля яго закрыцця Пінскае), факультэт мовы і літаратуры Брэсцкага педінстытута, закончаны завочна.

Працоўную дзейнасць М. Рудкоўскі пачынаў як педагог. Яму, настаўніку пачатковай школы, давялося выкладаць беларускую мову і літаратуру, замежную мову, весці ўрокі малявання, што было тыповым для першых пасляваенных дзесяцігоддзяў. Працуючы настаўнікам, займаўся і літаратурнай творчасцю, пасылаў вершы ў раённую газету. Там заўважылі таленавітага юнака і запрасілі да сябе на працу. З 1960 г. М. Рудкоўскі – журналіст. Менавіта Ганцавічы, на думку паэта, адыгралі значную ролю ў яго біяграфіі, у фарміраванні творчага "я". Гэтае палескае мястэчка пашырыла далягляд юнака з вёскі Востраў. Тут ён змог далучыцца да айчыннай і сусветнай класікі. Многае значыла для маладога паэта і журналісцкае асяроддзе, калектыў творцаў. У вершы, прысвечаным Ганцавічам, чытаем:

*Відаць, я б жыў, відаць бы не загінуў,*
*Пісаў бы вершы, сена ў копы клаў,*
*Ды толькі не такой была б Айчына*
*І песня б незакончанай была.*

Міхасю Рудкоўскаму пашанцавала на добрага настаўніка. З пераездам у Брэст (1962) паэт патрапіў у клапатлівыя рукі Уладзіміра Калесніка. Пашырылася творчае асяроддзе. Гэтаму спрыяла і праца М. Рудкоўскага на тэлебачанні рэдактарам літаратурна-драматычных перадач. Добрай школай творчага станаўлення былі літаратурныя серады пры абласной газеце, якімі апекаваўся У. Калеснік як кіраўнік аб'яднання пісьменнікаў Берасцейшчыны. Творчыя кантакты з пісьмен-

нікамі Валыні спрычыніліся да таго, што М. Рудкоўскі стаў перакладчыкам з украінскай мовы.

У 1963 г. выйшаў з друку дэбютны зборнік паэта "Першыя вёрсты". Неўзабаве з зайздроснай рэгулярнасцю пачалі з'яўляцца новыя і новыя кнігі: "Сінія Брады" (1967), "Позвы" (1971), "У краі тым" (1975), "Векавечная Бацькаўшчына" (1976), "Трыгор'е" (1981), "Засцярога" (1984), "Гарынь" (1992). Апошняя апублікавана пасмяротна. У калектыўным зборніку "Трохперсце" (2008) змешчана вялікая падборка вершаў паэта "Востраў Айчыны". А пры яго жыцці выйшаў зборнік выбранай лірыкі "Залатазвон". Свежае паэтычнае слова М. Рудкоўскага заўсёды хвалявала чытачоў. На кожны зборнік публікавалася па некалькі рэцэнзій. Сярод тых, хто пільна сачыў за творчым ростам паэта, нязменна значыўся У. Калеснік, хросны бацька М. Рудкоўскага ў літаратуры.

Міхась Рудкоўскі належыць да паэтаў рамантычнага стылю. Яго вершы пазбаўлены публіцыстычнасці, адкрытай дэкларатыўнасці. Творчае крэда мастака слова выражана радкамі:

*Я не любіў і не люблю фанфар.*
*Мне вельмі да спадобы голас флейты,*
*Яе крануты светлым смуткам твар*
*І ціхія, як у жалейкі, векі.*

Лірычны герой паэзіі М. Рудкоўскага не статычны. Ён, як і сам паэт, сталеў ад зборніка да зборніка. У ранняй творчасці ён юнак-летуценнік, улюбёны ў родны край, захоплены перспектывамі, якія адкрыты перад ім, здзяйсненнямі моладзі. Герой радасна ўспрымае жыццё, з даверам ставіцца да людзей, верыць, што ўсе жывуць па законах дабра і справядлівасці. Праўда, яго трывожыць абыякавасць сучаснікаў да свайго, роднага, да культуры і духоўных набыткаў беларусаў. Пакуль яму думаецца, што ў гэтым віна школы, настаўнікаў, якія самі абыякавыя да роднай зямлі і не здольныя выхаваць патрыятычныя пачуцці ў вучняў. У апошніх кнігах паэта лірычны герой – сталы чалавек, узбагачаны жыццёвым вопытам. Ён страціў наіўнасць маладосці, перагледзеў некаторыя ранейшыя каштоўнасныя прыярытэты, бачыць уласныя памылкі. Паказальныя ў гэтым плане вершы "Пераярэць, перабрадзіць…", "Відаць, не без прычыны, не без асновы…", "Красе жаночай, добраму віну…" і інш.

Адметнасць асобы лірычнага героя ў ранні і позні перыяд творчасці паэта выразна выяўляецца і ў інтымнай лірыцы. У вершах юнака паэтызуецца палкасць пачуцця, паказваюцца сваркі і прымірэнне закаханых. Творы вызначаюцца інтанацыйнай разнастайнасцю. У апошніх зборніках пераважае сум па страчаным каханні, імкненне вярнуць былое пачуццё. Лірычны герой духоўна спустошаны, бязвольны. Ён спадзяецца, што да паўнавартаснага жыцця яго можа вярнуць каханая жанчына, з якой расстаўся. Паэт асуджае сябе, што раней не цаніў кахання, не ўсведамляў, што *"кахаць – забыць сябе самога"*. Характэрны матыў пакаяння за разрыў з каханай, спадзяванне, што былое пачуццё можна ўтрымаць просьбамі, маленнем (*"Карай мяне за грэх любы…"*).

Творцу прываблівацюь тыя, хто здольны супрацьстаяць нягодам, не пасуе перад цяжкасцямі, верны самому сабе, не паддаецца думкам і настроям натоўпу. Ён імкнецца быць самакрытычным, добрым і міласэрным, здольным дараваць учыненае яму зло. Сталы лірычны герой М. Рудкоўскага хоча пазбавіцца застыгласці, нерухомасці, бо яны для яго раўназначныя смерці. У вершы "Калі не чуў ты ветраў паху…" паэт праводзіць выразную лінію паміж паняццямі *жыць* і *існаваць*. Першае характарызуецца абавязкамі асобы перад сям'ёй, родам, народам, вернасцю маральным набыткам, выпрацаваным беларусамі і сусветнай супольнасцю за тысячагоддзі быцця.

Міхась Рудкоўскі высока цаніў і шанаваў маральныя запаветы, духоўныя набыткі свайго роду. Ён адзначаў: *"Бацька, Міхаіл Іванавіч, сёння паўстае перада мною жывым увасабленнем сялянскай працавітасці, сілы і здатнасці. Звычайна нетаропкі, як сам казаў, цяжкі на пад'ём, ён, калі ўваходзіў у смак работы, станавіўся зусім другім. Араць – дык араць, касіць – дык касіць, весяліцца – дык весяліцца! Сёння здзіўляе мяне тое, што бацька ўмеў рабіць амаль усё. Трэба ў гаспадарцы цабэрак ці бочка, зробіць цабэрак і бочку; трэба нож – зробіць нож; навастрыць нарог – навострыць нарог. Ён умеў пашыць для нас чаравікі ці боты… На паклон да другіх хадзіць ён не любіў, ды ў гэтым не было патрэбы. Калі ж арганізаваўся калгас і пачаліся розныя няўладзіцы жыцця, амаль усе клопаты пра сям'ю ляглі на душу мацеры, Марыі Юльянаўны. Тут ужо, як пчала, шчыравала яна"*. Завяршаючы ўспаміны пра бацькоў, паэт падкрэсліў: *"Гультайства і фальш лічыліся ў нашай сям'і самымі вялікімі заганамі ў чалавеку"*.

У М. Рудкоўскага шмат вершаў, прысвечаных роду: дзеду, бацькам, сёстрам, сынам. Каб вылучыць іх з усіх кніг паэта, атрымаўся б ладны зборнічак. Твор "Мой дзед быў сельскім кавалём…", мусіць, стаў бы ў ім загалоўным. У вершы паэтызуецца працавітасць, талент, шырыня душы старога, тонкасць і далікатнасць яго натуры. Гэтыя дзедавы якасці землякі перанеслі на яго род, надаўшы яму мянушку Кавалёвы. Гэтая мянушка – вялікі для наступнікаў гонар і абавязак. Асабліва шмат прачулых радкоў паэт адрасуе маме. Яна заўсёды зразумее, падтрымае сына, верне яму веру ў сябе, у дабро і справядлівасць. Смерць бацькоў вялізарным цяжарам лягла на

душу творцы. Страцілася, адышло ў нябыт тое дарагое, што клікала ў родны кут. У вершы "Дома без маці" чытаем: "*Чамусьці бацькоўская хата без маці – / Што грудзі жывыя без сэрца*".

Лірычны герой М. Рудкоўскага шануе духоўныя набыткі роду. Ён заклапочаны, каб іх не страцілі яго дзеці. У вершы "Лугі, палітыя дажджом…" герой імкнецца перадаць сыну патрыятызм як стрыжнёвую рысу роду:

*Глядзі, сынок, глядзі, Алесь,*
*Перад табою – родны краю.*
*Каб так яго ты палюбіў,*
*Як прадзед, дзед яго любілі,*
*Я за цябе б спакойны быў*
*Нат у магіле.*

Важна, каб кожны ўсведамляў свае абавязкі і меў адказнасць не толькі перад тымі, каму даў жыццё, але і перад продкамі: "*…Кім ты б не стаў – / Адной рукой гайдай калыску сына, / Другой – магілу дзедаву папраў*".

Калі чалавек неабыякавы да паняццяў *сям'я*, *род*, *родны кут*, *Радзіма*, *прырода*, тады можна гаварыць пра яго як пра асобу. Родны кут – месца, адкуль не толькі пачынаецца жыццё кожнага, але і бяруць вытокі вызначальныя ўяўленні чалавека пра дабро і зло, узвышанае і ганебнае, прыгожае і брыдкае. На думку паэта, родны кут лечыць духоўныя раны, дае сілы адужаць нягоды, выстаяць, застацца самім сабою (верш "Сінія Брады"). М. Рудкоўскі паэтызуе "малую радзіму" (А. Твардоўскі), яе прыроду, даўнюю і новую гісторыю краю, духоўныя набыткі землякоў:

*Там вецер гайдае аблокі-арэлі,*
*І кружаць буслы, залацяцца фарэлі, –*
*Плывуць, як жар-птушкі, над пушчай заранкі,*
*Цені бягуць ад лясоў партызанскіх, –*
*І глуха, глыбінна ўздыхаюць курганы,*
*І коні былінна храпуць у тумане.*

Мой бераг.

"*Там*" – гэта на Палессі. Паэт неаднойчы паўторыць: "*У нас на Палессі…*" Асабовы займеннік (*нас*) падкрэслівае, што лірычны суб'ект не выключае, а, наадварот, далучае сябе да насельнікаў гэтага краю.

Мастак слова ў аснову многіх твораў кладзе народныя паданні, сам піша легенды. Адштурхнуўшыся ад народнага падання пра паходжанне Брэста, аўтар дае сваю версію ўзнікнення горада і яго назвы. У вершах "Бабіна лета", "Каменні цытадэлі", "Балада маіх аднагодкаў" раскрываюцца найперш тыя незваротныя страты, якія прынесла беларусам Вялікая Айчынная вайна. Балада "Каменні цытадэлі" ўражвае гераічна-трагічнымі інтанацыямі. У яе аснове маналог руін цвярдыні, сведак гераічнага змагання гарнізона і мужнай гібелі салдатаў. Бачыць тое, што адбывалася ў чэрвені 1941 г. у цытадэлі, нялёгка. Таму і "*за ноч, за адну расстраляную ноч мы сівелі*". Камяні цытадэлі ў вершы М. Рудкоўскага выступаюць спалучальным звяном паміж гераічна-трагічным былым і нашым часам. Яны сведкі і ўдзельнікі мінулага, яны і перадатчыкі запаветаў аднаго пакалення другому, тым, хто не зведаў вайны, каб наведваліся да мясцін, дзе змагаліся абаронцы Радзімы, умелі слухаць, што яны гавораць, а пачутае, як важкі набытак, бралі для сябе. "Балада маіх аднагодкаў" прысвечана вогненнай вёсцы на Берасцейска-Пінскім Палессі – Красніцы. Там згарэлі і аднагодкі паэта, а разам з імі – іх багаты свет, іх будучыня.

Розныя грані патрыятычнага пачуцця раскрываюцца ў вершы "О, Скарыны зямля…". Лірычны герой спавядаецца перад Радзімай, адкрывае ў ёй самае дарагое, запаветнае. М. Рудкоўскі паэтызуе мужнасць беларусаў у змаганні супраць заваёўнікаў, працавітасць народа, яго гасціннасць, шчырасць і зычлівасць. Ён шкадуе, што яму замала пражытых гадоў, каб спазнаць свой край, багацце і прыгажосць душы нацыі, арыгінальнасць і мілагучнасць роднай мовы. Паэт перакананы: народ, які валодае такім багаццем, не можа сам сябе забыць, кануць у небыццё. Тым не менш душа творцы шчыміць, што беларусы ператвараюцца ў "*счужэлы для яго народ*", што "*рысы сваёй Беларусі даўно ўжо не пазнаю*".

Да прыроды ў паэта братэрскія пачуцці. Яна жывая і адухоўленая. Родныя краявіды – дарагая частка Радзімы, яна жывіць патрыятычнае пачуццё, выклікае асалоду, дорыць спакой, адчуванне паўнаты жыцця, веры ў дабро і справядлівасць. Прырода дабратворна ўплывае на духоўны свет асобы, схіляе да роздуму пра сябе, выклікае самакрытычнасць. На яе ўлонні духоўна і фізічна дужэеш ("Пушча", "Шчаслівы той, хто ў дарозе" і інш.). Аўтар пратэстуе супраць жорсткасці ў адносінах да навакольнага асяроддзя, да лесу, што вучыў яго, як жыць, якім трэба быць і як прыняць немінучае – смерць ("Пакуль яшчэ жывы ён, дзяцінства лес…"):

*Калі ў вочы мне глядзяць*
*Калека-лес,*
*Рака-калека, –*
*Мне вочы хочацца схаваць*
*Ад сораму, што чалавек я.*

Як бачым, лірычны герой вершаў Міхася Рудкоўскага ў канфлікце не толькі з грамадскім светаўладкаваннем, але і з самім сабою. У той самы час яго ідэалы – гэта складнік нацыянальных і агульначалавечых набыткаў.

**Вера ЗАРЭЦКАЯ.**

*Літаратура ў люстэрку часу*

Мікола МІКУЛІЧ

# “ЭТАПЫ І РОСТАНІ ВОЛІ…”

## УЛАДЗІМІР КАЛЕСНІК ЯК ДАСЛЕДЧЫК ПАЭЗІІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ



Заходнебеларуская паэзія ў параўнанні з паэзіяй Савецкай Беларусі ўяўляла сабою зусім іншы ідэйна-мастацкі свет, які функцыянаваў па адметных прынцыпах і законах. Па-першае, яна была адным з асноўных і дзейсных сродкаў раскрыцця грамадскай свядомасці “забранага краю”, а па-другое, яна развівалася ў шырокім спектры грамадска-культурнага ўзаемадзеяння, ва ўмовах партыйна-ідэалагічнай і палітычнай барацьбы і супрацьстаяння. Тут мела месца сутыкненне розных поглядаў, ідэйна-мастацкіх пазіцый і падыходаў, эстэтычных сістэм. Гэта была паэзія актыўнага пошуку новых тэм і вобразаў, спосабаў мастацкага адлюстравання жыцця і чалавека.

У параўнанні з Усходняй, Заходняя Беларусь сведчыла пра якасна іншую гісторыка-культурную і літаратурную сітуацыю. Паэзія тут вызначалася падкрэсленай зместавай і фармальнай неаднароднасцю, шматколернасцю і поліфанічнасцю, спалучэннем розных мастацкіх напрамкаў і творчых метадаў, тэндэнцый і школ, стылявых плыней і жанравых структур. Яна выяўляла шматгранную карціну ідэйна-мастацкіх пошукаў, якую забяспечвала суіснаванне і ўзаемадзеянне розных палітычных і эстэтычных вектарных вымярэнняў, сацыяльна-культурных характараў і тыпаў творчых асоб, індывідуальна-аўтарскіх пазіцый, спосабаў і сістэм мадэлявання рэчаіснасці. Кожны з паэтаў арыентаваўся на ідэйна-палітычныя платформы, што адпавядалі яго жыццёвым поглядам і чалавечым сімпатыям, распрацоўваў свае тэмы, матывы і вобразы, прытрымліваўся тых духоўна-мастацкіх прынцыпаў і палажэнняў, якія былі абумоўлены яго асабістымі схільнасцямі і густам. Ён меў права выбару, карыстаўся рознымі першакрыніцамі інфармацыі, адстойваў уласныя погляды ў публічных дыскусіях.

Нацыянальна-патрыятычны, этнакультурны і грамадска-палітычны пачаткі пэўным чынам ураўнаважваліся ў заходнебеларускай духоўна-сацыяльнай прасторы. Яна характарызавалася высокім узроўнем народна-патрыятычнай самасвядомасці, наяўнасцю актыўнай творчай інтэлігенцыі. Нацыянальна-патрыятычны фактар астуджаў прадстаўнікоў радыкальна-рэвалюцыйнага крыла народна-вызваленчага руху, звернутых да сцвярджэння класава-ідэалагічных прынцыпаў і каштоўнасцей дзеячаў камуністычнага падполля. Ён засцерагаў іх ад паспешлівых рашэнняў і ўчынкаў, змушаў да паразумення з лагерам правых сіл і цэнтрыстамі і тым самым выконваў своеасаблівую стабілізацыйную функцыю ў грамадстве.

Што датычыць паэзіі Заходняй Беларусі, дык яе ідэйнае і мастацка-стылявое развіццё падпарадкоўвалася выразнай унутранай логіцы, вызначалася паслядоўнасцю і сістэмнасцю. Грамадска-палітычныя абставіны абумовілі той факт, што яна адчувала трывалую сувязь з традыцыямі мінулага, працягвала пошукі папярэдніх пакаленняў айчынных аўтараў. Народна-патрыятычная ідэя ў многім акрэсліла яе рух як у 1920-я, так і ў 1930-я гг. Фактычна ўся паэтычная супольнасць краю была прасякнута глыбокім нацыянальна-патрыятычным пачуццём. Як і айчынная паэзія пачатку XX ст., заходнебеларуская выконвала важную і адказную сацыяльную і адраджэнскую місію, была падключана да вырашэння складаных грамадска-культурных і асветніцка-адукацыйных задач. Несумненна, менавіта таму ў ёй не так выяўляліся папулярныя ў еўрапейскіх літаратурах авангардысцкія тэндэнцыі. Найбольшымі наватарамі і авангардыстамі ва ўмовах Заходняй Беларусі зарэка-



***Мікалай Уладзіміравіч Мікуліч*** *– літаратуразнаўца, крытык. Кандыдат філалагічных навук (1990), дацэнт (1997). Навуковы супрацоўнік аддзела ўзаемасувязей літаратур Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Працаваў у Рачэнскай сярэдняй школе Любанскага раёна (1982), Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы (1987 – 2005). Аўтар кніг і брашур "Максім Танк і сучасная беларуская лірыка" (1994), "На зломе часу" (1995), "Пошук вядзе ў глыбіню" (1998), "Максім Танк: на скразняках стагоддзя" (1999), "Паэзія рэчаіснасці" (2001), "Міхась Васілёк: паэзія давераснёўскага перыяду" (2005), "Паэзія Казіміра Сваяка" (2005), "Міхась Машара: паэзія заходнебеларускага перыяду" (2010) і інш.*

мендавалі сябе прадстаўнікі рэвалюцыйнай ці прасавецкай арыентацыі, якія адмаўлялі старыя і сцвярджалі новыя ідэйна-мастацкія прынцыпы і каштоўнасці.

Пры гэтым заходнебеларускія паэты пераймалі вопыт і традыцыі рускай, польскай, чэшскай, нямецкай, іншых літаратур, шырока кантактавалі з літоўскімі, латышскімі, украінскімі аўтарамі, што дабратворна адбівалася на іх уласнай творчасці. У віленскіх выданнях друкаваліся творы беларускіх пісьменнікаў з Латвіі, Літвы, Украіны.

Супярэчлівыя ўмовы грамадскага жыцця абапал рыжскай мяжы неслі паэтам Заходняй Беларусі мноства праблем сацыяльна-гістарычнага зместу, якія патрабавалі глыбокага і ўдумлівага мастацкага асэнсавання. Сярод іх такія вострыя і актуальныя, як свабоднае развіццё беларускага народнага духу і волі, лёс падзеленай Беларусі і яе народа, духоўна-сацыяльныя ідэалы заходніх беларусаў і грамадска-палітычны статус краю, магчымасці і перспектывы дзяржаўна-палітычнай незалежнасці аб'яднанай Беларусі.

Феномен заходнебеларускай паэзіі, як і ў цэлым літаратуры і культуры, заключаўся ў тым, што ў ёй адлюстроўваліся з'явы і працэсы, якія па прычынах грамадска-ідэалагічнага парадку, партыйна-камуністычнага дыктату не маглі развівацца ва ўмовах Савецкай Беларусі. Больш за тое, менавіта падвергнутае жорсткай крытыцы, пераследу і адмаўленню, фактычна забароненае на Усходзе, на Захадзе развівалася асабліва прадуктыўна і вынікова. Мы маем на ўвазе, напрыклад, звернутую да духоўна-ірацыянальнага асэнсавання рэчаіснасці паэзію К. Сваяка, Н. Арсенневай, Х. Ільяшэвіча і іншых. Тут пэўным чынам рэалізоўваўся прынцып кампенсацыі, калі заходнебеларуская паэзія культывавала тыя тэмы, матывы і вобразы, якія не адпавядалі нормам і крытэрыям сацыялістычнага рэалізму з яго ідэйна-эстэтычнай адналінейнасцю і ўніфікацыяй творчых індывідуальнасцей. І. Багдановіч абгрунтавана адзначала, што "падзел Беларусі быў адначасова гістарычнай драмай і пэўным выратаваньнем – выратаваньнем культуры і захаваньнем у ёй той галіны, для якой не пустымі гукамі былі словы энцыклікі аб найвышэйшай таямніцы ў сэрцы культуры". "Нягледзячы на вельмі цяжкія ўмовы разьвіцьця ў часе польскай акупацыі, – падкрэслівала даследчыца, – менавіта арыентацыя заходнебеларускіх культурных дзеячаў на трывалыя хрысьціянскія каштоўнасьці і нехрысьціянска-дэмакратычную ідэйную плынь сталася асновай самазахаванасьці беларускай культуры ў 20 – 30-я гады, а таксама асяродкам, дзе культывавалася пазіцыя незалежнасьці, дзе працягваў жыць дух адраджэньня" [1, с. 64].

Доўгі час развіццю заходнебеларускай літаратуры ў БССР не аддавалася асаблівай увагі, прыкладна да сярэдзіны 1950-х гг. яе вывучэнне не вялося. У 1920-я гг. мінскія сродкі масавай інфармацыі паведамлялі пра асаблівасці грамадска-культурнага і літаратурна-мастацкага жыцця ў Заходняй Беларусі, газеты "Звязда" і "Савецкая Беларусь" змяшчалі падборкі вершаў заходнебеларускіх аўтараў, асобныя рэцэнзіі на іх кнігі. На пачатку 1930-х гг. у беларускім савецкім друку з'явіліся артыкулы "Паэзія рэвалюцыйнага падполля Заходняй Беларусі", "У полымі класавай барацьбы", "У баях за дыктатуру пралетарыяту", "Класавая барацьба ў літар. Заходняй Беларусі", "Мастацкая літаратура Грамады" А. Салагуба, "Літаратура Заходняй Беларусі" В. Таўлая, якія вызначаліся падкрэсленай зместавай тэндэнцыйнасцю, былі цалкам прасякнуты ідэалагічнымі прынцыпамі камуністычнай партыйнасці. Як вядома, абодва заходнебеларускія паэты на той час знаходзіліся ў Мінску. У 1930-я гг. праблемы развіцця заходнебеларускага слоўнага мастацтва ўздымаліся ў артыкуле невядомага аўтара "Аб літаратуры Заходняй Беларусі", надрукаваным у газеце "Палеская праўда", у рэцэнзіі "Паэт на раздарожжы" Ф. Асіповіча на зборнік "Напрадвесні" М. Машары, закраналіся ў дакладзе А. Александровіча на III пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў СССР.

Як мы адзначылі, літаратура Заходняй Беларусі развівалася ва ўмовах іншага грамадскага ладу, ідэйна-мастацкі спектр яе пошукаў быў шырокі і разнастайны. У цэлым яна не адпавядала асаблівасцям метаду сацыялістычнага рэалізму, які панаваў у СССР. Відаць, з-за гэтай акалічнасці, а таксама ў сувязі з напружанай грамадска-ідэалагічнай атмасферай абапал рыжскай мяжы, недастатковасцю і няпэўнасцю інфармацыйнага матэрыялу і небяспекай памыліцца ў характарыстыках і ацэнках, навукова-даследчая думка Савецкай Беларусі пазбягала аналізу творчасці заходнебеларускіх аўтараў. Адзначаная тэндэнцыя прасочвалася не толькі ў 1930-я гг., але і на працягу ўсяго пасляваеннага дзесяцігоддзя.

У грамадскай свядомасці БССР панавала думка, што, фактычна з'яўляючыся польскай калоніяй, тэрыторыяй з нізкім узроўнем эканомікі, адукацыі і культуры, Заходняя Беларусь не магла быць глебай актыўнага развіцця літаратуры, прадуцыраваць яркія і арыгінальныя мастацкія таленты і адкрыцці. Заходнебеларускую паэзію трактавалі як творчасць нешматлікай колькасці аўтараў, падключаных да актыўных формаў народна-вызваленчага руху, барацьбы за ўз'яднанне Заходняй Беларусі з Усходняй. Да прыкладу, пачынаючы артыкул "Мастацкая літаратура Заходняй Беларусі", апублікаваны ў 1945 г. у часопісе "Полымя", П. Глебка прама заўважаў, што разглядае толькі яе левае крыло, называючы яго дэмакратычным і прагрэсіўным і звязваючы з ім асноўныя здабыткі і дасягненні літаратурнай творчасці краю. "Таворачы аб літаратуры Заходняй Беларусі, – сцвярджаў ён, – я маю на ўвазе беларускую літаратуру, якая зарадзілася і развівалася на тэрыторыі заходніх абласцей Беларусі ва ўмовах белапольскай акупацыі, г. зн. да 1939 г. Прычым, я гавару выключна аб літаратуры рэвалюцыйна-дэмакратычнай, амаль не закранаючы зусім той бяздарнай пісаніны, якую беларускія нацыяналістычныя элементы намагаліся, па загаду сваіх польскіх паноў, проціставіць сапраўднай мастацкай літаратуры" [2, с. 75].

Пятро Глебка зыходзіў з таго, што падчас "акупацыі Заходняй Беларусі панскай Польшчай там не заставалася ніводнага больш-менш вядомага беларускага пісьменніка. Выдатныя беларускія пісьменнікі, як Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля і іншыя са старэйшага пакалення, жылі і свабодна працавалі ў сваёй роднай дзяржаве – Савецкай Беларусі. У Заходняй Беларусі ў той час быў Гальяш Леўчык, Макар Краўцоў, Леапольд Родзевіч, Казімер Сваяк і яшчэ той-сёй з яшчэ менш вядомых. Асаблівай літаратурнай актыўнасці яны не праяўлялі" [2, с. 79]. Коратка прааналізаваўшы творчасць М. Васілька, М. Машары, П. Пестрака, В. Таўлая і М. Танка, аўтар рабіў наступнае заключэнне: "На жаль гэтыя дасягненні паэзіі Заходняй Беларусі больш маладыя паэты скарысталі вельмі і вельмі мала" [2, с. 99], тым самым сцвярджаючы, што і рэвалюцыйная плынь заходнебеларускай літаратуры была не дужа багатай.

Акрамя артыкула П. Глебкі, у 1940-я – першай палове 1950-х гг. праблемы развіцця літаратуры Заходняй Беларусі закраналіся толькі ў артыкулах "Янка Купала і Заходняя Беларусь", "Ідэя ўз'яднання беларускага народа ў паэзіі", "Творчасць Янкі Купалы ў барацьбе за ўз'яднанне беларускага народа ў адзінай савецкай дзяржаве" В. Таўлая ды ў асобных рэцэнзіях на кнігі выбраных і новых твораў заходнебеларускіх аўтараў – М. Васілька, М. Засіма, М. Машары, П. Пестрака, М. Танка, Н. Тарас.

Заслуга першаадкрывальніка заходнебеларускай літаратуры, у прыватнасці паэзіі, асаблівасцей і заканамернасцей яе развіцця, месца і ролі ў фарміраванні ідэалагічнай і духоўна-маральнай парадыгмаў грамадскай свядомасці належыць Уладзіміру Калесніку, які гэтую праблематыку распрацоўваў з сярэдзіны 1950-х да пачатку 1990-х гг. Трэба сказаць, да яе асэнсавання звернута ледзь не ўся гісторыка-літаратурная спадчына вучонага. Фактычна на працягу ўсяго жыцця У. Калеснік пісаў гісторыю заходнебеларускай паэзіі, кожнай наступнай публікацыяй дадаючы да яе аблічча новыя і новыя штрыхі. Ураджэнец Заходняй Беларусі, ён адчуваў цесную сацыяльна-маральную сувязь з грамадска-культурнымі працэсамі краю, духоўна-псіхалагічную блізкасць да герояў і матэрыялаў сваіх даследаванняў. Яго гісторыка-літаратурныя пошукі, можна сказаць, выраслі з заходнебеларускай рэчаіснасці.

Уладзімір Калеснік прарабіў вялікую працу па зборы мастацкіх тэкстаў заходнебеларускіх аўтараў, а таксама шматлікіх гістарычных дакументаў, сведчанняў асаблівага грамадска-палітычнага жыцця краю. Ён падрыхтаваў і выдаў з разгорнутымі ўступнымі артыкуламі анталогіі заходнебеларускай паэзіі "Сцягі і паходні" і "Ростані волі", кнігі вершаў М. Васілька, У. Жылкі, М. Засіма, В. Таўлая і інш. Па розных прычынах у анталогіях прадстаўлены не ўсе паэты Заходняй Беларусі (асабліва што датычыць першай), але сам факт іх выхаду, несумненна, меў вялікае навукова-літаратурнае і грамадскае значэнне. Даследаванню заходнебеларускай паэзіі, шэрагу канкрэтных аўтарскіх персаналій У. Калеснік прысвяціў такія буйныя працы, як "Паэзія змагання: Максім Танк і заходнебеларуская

літаратура", "Час і песні: літаратурныя нарысы і партрэты", "Ветразі Адысея: Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі", "Лёсам пазнанае: выбраныя літаратурныя партрэты і нарысы" і інш. Яны вызначаюцца добрым адчуваннем гістарычных асаблівасцей часу, багатай факталагічнай асновай, глыбокім аналізам шматлікіх з'яў і працэсаў, узважанымі і дакладнымі характарыстыкамі і ацэнкамі.

Варта заўважыць, што У. Калеснік выступіў прадаўжальнікам традыцый культурна-гістарычнай школы ў літаратуразнаўстве, развіваў асаблівасці біяграфічнага метаду даследавання. Цэнтральнае месца ў яго аўтарскім дыскурсе займала жывая пісьменніцкая асоба, творчая індывідуальнасць. Як правіла, У. Калеснік імкнуўся выявіць вытокі мастацкага дару, раскрыць яго прыроду, ідэйна-эстэтычную адметнасць, прасачыць асаблівасці пэўнай творчай біяграфіі ў яе сувязях і дачыненнях з духоўнымі і палітычнымі працэсамі ў краі. Ён разглядаў творчасць паэта, яго мастацка-вобразную сістэму на аснове шырокага грамадска-сацыяльнага матэрыялу, багацця і разнастайнасці шматлікіх падзей і фактаў. Схільнасць даследчыка да аспектаў гісторыка-культурнага аналізу дазволіла яму вывесці шэраг цікавых і запамінальных партрэтаў заходнебеларускіх аўтараў: М. Васілька, А. Салагуба, М. Засіма, У. Жылкі, здольных прадстаўнікоў Грамады А. Мілюця, Ф. Каравацкага, Н. Жальбы, некаторых іншых.

Даследчык акрэсліў праблемы развіцця заходнебеларускай паэзіі, галоўным чынам, у вольных, дэмакратычных жанрах літаратурных эсэ, нарысаў і партрэтаў, дзе характар выяўлення зместу цалкам абумоўлены асобай аўтара. Гэтыя жанры давалі магчымасць для свабоды творчасці, шырокага выкарыстання шматлікіх дакументаў з дзяржаўных і прыватных архіваў, матэрыялаў паездак па заходнім рэгіёне Беларусі, асабістых кантактаў, перапіскі з паэтамі і іх блізкімі, успамінаў удзельнікаў заходнебеларускага грамадска-культурнага руху і інш.

Літаратурныя эсэ, нарысы і партрэты У. Калесніка вызначаюцца, з аднаго боку, дакладнасцю факталагічнага зместу, канкрэтна-гістарычнага аналізу, а з другога – індывідуальна-аўтарскай суб'ектыўнасцю, пластыкай эмацыянальна-вобразнай ацэнкі мастацкіх з'яў. У іх мастацка-эстэтычны аспект спалучаецца з біяграфічным і сацыяльна-гістарычным, раскрыццё ўнутранага свету асобы паэта ідзе поруч з асэнсаваннем грамадска-палітычных падзей і фактаў, перыпетый партыйнай барацьбы, падтрымліваецца адметнымі сацыялагічнымі назіраннямі і характарыстыкамі. Творам У. Калесніка ўласціва своеасаблівае нанізванне на сюжэтную лінію шматлікіх дапаможных эпізодаў, дакументальных сведчанняў і асацыятыўных праекцый.

Уладзімір Калеснік – аўтар першых раздзелаў, прысвечаных вывучэнню літаратуры Заходняй Беларусі, якія ўвайшлі ў акадэмічныя навуковыя даследаванні "Гісторыя беларускай савецкай літаратуры" ў 2 тамах, "Гісторыя савецкай шматнацыянальнай літаратуры" ў 6 тамах, "Гісторыя беларускай савецкай літаратуры", а таксама ў вучэбны дапаможнік для студэнтаў універсітэтаў "Гісторыя беларускай савецкай літаратуры" ў 2 частках і падручнік для студэнтаў педінстытутаў рэспублікі "Гісторыя беларускай савецкай літаратуры: 1917 – 1940".

Даследчык працаваў ва ўмовах ідэалагічна арыентаванага грамадства і літаратуразнаўства, у часы жорсткіх сацыяльна-палітычных рэгламентацый, шматлікіх цэнзурных забарон і абмежаванняў. Многія асобы і факты нацыянальнай літаратурнай гісторыі, у тым ліку і заходнебеларускага перыяду, былі невядомы грамадскасці, скрываліся і замоўчваліся ідэалагічнымі службамі, а іншыя не маглі стаць прадметам узважанага і аб'ектыўнага публічнага асэнсавання. Гэта найперш датычылася мастацкай дзейнасці апазіцыйна настроеных да савецкай улады і рэчаіснасці аўтараў, якія прытрымліваліся ідэй незалежнага развіцця Беларусі. Напрыклад, па прычынах грамадска-палітычнага парадку дыскрымінавалася творчасць Н. Арсенневай, А. Бартуля, Х. Ільяшэвіча, С. Хмары, некаторых іншых заходнебеларускіх паэтаў. Аналізуючы кніжныя выданні У. Калесніка, прысвечаныя вывучэнню заходнебеларускай літаратуры, К. Мароз слушна разважае: «Адраджэнскі, "незалежніцкі" кірунак у ёй не мог быць разгледжаны ў тагачасных умовах. Аднак шэраг здабыткаў у галіне філасофіі ("Адвечным шляхам" І. Канчэўскага, "Гэтым пераможам!" У. Самойлы), літаратуры (творы К. Сваяка, В. Адважнага, Хв. Ільяшэвіча, Н. Арсенневай і інш.), мастацтве (Я. Драздовіч і інш.) нацыянальна-адраджэнскага, эстэтычнага кірункаў грамадскай думкі знайшлі эпізадычную ацэнку на старонках названых кніг, – і трэба аддаць даніну смеласці аўтара. Але гэтыя ацэнкі нярэдка абмежаваныя сацыялагічнай і скептычнай трактоўкай, вытрыманай у стылі непрымання ідэі "незалежнасці" Беларусі. Часткова такая з'ява тлумачыцца яго палітычнымі поглядамі» [3, с. 135]. Сапраўды, даследчык належаў да камуністычнай партыі, ён ацэньваў грамадскія працэсы і літаратурна-мастацкія з'явы зыходзячы з партыйных пазіцый і звязаных з імі сацыяльна-ідэалагічных патрабаванняў, важнае значэнне надаючы светапоглядным перакананням і ідэйнай платформе аўтараў.

Заходнебеларускую паэзію 1920-х гг. У. Калеснік разглядаў як пераважна рамантычную па *“сваім вобразна-стылявым ладзе і эмацыянальным пафасе”* [4, с. 103]. У ёй літаратуразнаўца выдзяляў прагрэсіўную, ці *“народна-рэвалюцыйную, плынь”*, арыентаваную на ідэі і прынцыпы камуністычнай партыйнасці і сацыялістычнага будаўніцтва, і рэакцыйную, кансерватыўна-клерыкальную, прадстаўнікі якой прытрымліваліся *«“незалежніцкага” шляху вызвалення»*, хрысціянскай платформы. На думку даследчыка, у рэчышчы апошняй развівалася *“эстэцкае адгалінаванне”*. У адной са сваіх асноўных прац ён адзначаў: *“У другой палове 30-х гадоў у творчасці перадавых пісьменнікаў атрымліваюць тэарэтычную канкрэтызацыю і практычнае ўвасабленне прынцыпы праўдзівасці, народнасці, класавасці, партыйнасці літаратуры, вызначаючы сутнасць грамадзянскай місіі пісьменніка і выхаваўчай функцыі мастацкага слова. Зыходзячы з самой мастацкай практыкі, народнафрантавая крытыка па сутнасці сцвярджае прыход заходнебеларускай літаратуры да метаду сацыялістычнага рэалізму…”* [4, с. 119]. І яшчэ: *“Ад рамантычнага апявання барацьбы народа да глыбокага асэнсавання яго лёсаў на аснове камуністычнай партыйнасці і сацыялістычнага рэалізму – такая галоўная, вызначальная тэндэнцыя ў гісторыі развіцця літаратуры Заходняй Беларусі. Ідучы па гэтым шляху, літаратура пераадольвала націск рэакцыйных сіл пануючай польскай буржуазіі і яе памагатых з лагера беларускіх буржуазных нацыяналістаў, аб’яднаных агульнай нянавісцю да бальшавікоў і сацыялізму”* [4, с. 91 – 92].

Уладзімір Калеснік бачыў заходнебеларускую паэзію і ў цэлым літаратуру як неаднародную з’яву, аднак па шэрагу аб’ектыўных і суб’ектыўных прычын усёй складанасці і супярэчлівасці літаратурна-мастацкага развіцця не выявіў і не мог выявіць. Робячы стаўку на аспекты сацыялагічнага дэтэрмінізму, даследчык аналізаваў яе, галоўным чынам, як *“паэзію змагання”* супраць сацыяльнай і нацыянальнай несправядлівасці і прыгнёту. Яго працы звернуты да вывучэння пераважна радыкальна-рэвалюцыйнага сілавога пласта мастацкай творчасці, ідэйна-эстэтычных пошукаў паэтаў левага крыла, прасавецкай арыентацыі.

У раздзеле “Літаратура Заходняй Беларусі”, змешчаным у вучэбным дапаможніку для студэнтаў універсітэтаў рэспублікі “Гісторыя беларускай савецкай літаратуры”, У. Калеснік падкрэсліваў: *“Літаратурная крытыка ў Заходняй Беларусі насіла пераважна публіцыстычны характар, таму часта не ўлоўлівала і недаацэньвала эстэтычных характарыстык і разыходжанняў у мастацтве. Не знайшло крытычнай ацэнкі эстэцкае адгалінаванне ў рамантычнай паэзіі 20-х гг. Галоўная пяснярка чыстай сумнай красы Н. Арсеннева друкавалася ў дэмакратычнай прэсе побач з рэвалюцыйнымі рамантыкамі. Калі У. Жылка развіваў ідэю Шэлі пра красу як сілу, здольную вызваліць чалавецтва, падняць на барацьбу супраць застою, уціску, прыніжэння, то ў вершах Арсенневай краса выступала як ціхі прытулак, дзе кволы душою герой спрабаваў забыцца на злыбеды жыцця…”* [5, с. 132 – 133]. Даследчык скептычна ставіўся да патэнцыялу прадстаўнікоў *“эстэцкага адгалінавання”*, абыходзіў іх увагай, пазбягаў разгляду творчасці як адметнай з’явы ў літаратурна-мастацкім спектры Заходняй Беларусі, а калі і звяртаўся да яе, дык нязменна ў святле крытычнай ацэнкі і непрымання. Ён лічыў, што *“эстэцтвуючы рамантызм не мог стаць у 20-я гады колькі-небудзь аформленай шырокай плынню. Размах вызваленчага руху саштурхоўваў яго на абочыну літаратурна-грамадскага жыцця”* [4, с. 98].

Заслуга Уладзіміра Калесніка ў тым, што ён здолеў ажывіць многія гістарычна-дакументальныя старонкі заходнебеларускай рэчаіснасці, ідэйна-палітычнага і грамадска-культурнага руху ў краі, адкрыць ці ўдакладніць шмат падзей і фактаў з літаратурна-мастацкага жыцця, дзейнасці паэтычнага асяроддзя. Даследчык разбураў дагматычныя схемы, спрошчаныя сацыялагізатарскія трактоўкі развіцця паэзіі Заходняй Беларусі як недасканалай па мастацкіх вартасцях і небагатай на таленты і творчыя здабыткі, якая развівалася ў рэчышчы крытычнага рэалізму. Ён паказаў яе цікавай і самабытнай, значнай ідэйна-мастацкай з’явай, тым самым фактычна ўвёў заходнебеларускую паэзію ў гісторыю айчыннай літаратуры і культуры.

**Спіс літаратуры**

1. **Багдановіч, І.** Ідэя нацыянальнага адраджэньня ў паэтычнай і рэлігійна-філасофскай творчасьці К. Сваяка / І. Багдановіч // Лёс нацыянальнай культуры на паваротах гісторыі : зборнік дакладаў. – Мінск : [Б. в.], 1995. – С. 63 – 74.

2. **Глебка, П.** Мастацкая літаратура Заходняй Беларусі / П. Глебка // Збор твораў : у 4 т. – Мінск, 1986. – Т. 4. – С. 75 – 100.

3. **Мароз, К.** Класік нацыянальнага літаратуразнаўства / К. Мароз // Пасланец Праметэя : кніга пра Уладзіміра Калесніка. – Брэст : Выд-ва БрДУ імя А. С. Пушкіна, 2007. – С. 131 – 137.

4. **Колесник, В. А.** Литература Западной Белоруссии / В. А. Колесник // История белорусской советской литературы. – Минск : Наука и техника, 1977. – С. 90 – 122.

5. **Калеснік, У. А.** Літаратура Заходняй Беларусі / У. А. Калеснік // Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. – Мінск : Выш. школа, 1981. – Ч. І : вучэб. дапаможнік для філал. фак. ун-таў. – С. 126 – 159.

*На кніжную паліцу*

# ШЛЯХАМ ПОШУКАЎ І АДКРЫЦЦЯЎ

**Мікуліч, М. У.** Паэзія Заходняй Беларусі (1921 – 1939) / М. У. Мікуліч. – Мінск : Беларус. навука, 2010. – 462 с.

Бадай, не памылімся, калі заўважым, што гэтага даследавання даўно чакала наша гуманітарыстыка. Заходняя Беларусь – адна з тых старонак айчыннай гісторыі ХХ ст., якія яшчэ мала вывучаны і слаба распрацаваны спецыялістамі. На гэтай праблемна-тэматычнай дзялянцы вялі і вядуць свае пошукі гісторыкі, культуролагі, філосафы У. Палуян, У. Ладысеў, В. Гліна, Я. Трацяк, Э. Мазько і іншыя, аднак “белыя плямы”, неасэнсаваныя з’явы і працэсы, нявысветленыя акалічнасці і дэталі застаюцца, а часам узнікаюць і новыя складаныя пытанні. Што датычыць разгляду заходнебеларускай літаратуры, і ў прыватнасці паэзіі, дык тут, як вядома, шмат папрацаваў незабыўны У. Калеснік (1922 – 1994). Яго кнігі “Ветразі Адысея: Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі” (1977), “Максім Танк: нарыс жыцця і творчасці” (1981), “Лёсам пазнанае: выбраныя літаратурныя партрэты і нарысы” (1982), “Усё чалавечае: літаратурныя партрэты, артыкулы, нарысы” (1993) без перабольшання належаць да найлепшых здабыткаў нацыянальнай філалогіі. Па шэрагу аб’ектыўных і суб’ектыўных прычын (грамадска-палітычныя ўмовы, ідэйна-светапоглядныя перакананні аўтара) У. Калеснік вывучаў галоўным чынам левае, пракамуністычнае крыло літаратурна-мастацкага працэсу Заходняй Беларусі, творчасць прадстаўнікоў радыкальна-рэвалюцыйнай арыентацыі – М. Танка, В. Таўлая, М. Засіма і іншых, развіваючы пры гэтым жанры пераважна літаратурных партрэтаў і нарысаў.

Нядаўна выдадзеная манаграфія кандыдата філалагічных навук, загадчыка аддзела ўзаемасувязей літаратур Інстытута мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы НАН Беларусі Міколы Мікуліча “Паэзія Заходняй Беларусі (1921 – 1939)” прысвечана раскрыццю ідэйных прыярытэтаў і стылявой разнастайнасці заходнебеларускага паэтычнага мастацтва. Мы ведаем М. Мікуліча як даўняга і аўтарытэтнага даследчыка творчасці Максіма Танка, аўтара насычаных цікавымі фактамі, назіраннямі і абагульненнямі кніг “Максім Танк і сучасная беларуская лірыка” (1994), “Максім Танк: на скразняках стагоддзя” (1999), “Паэзія рэчаіснасці: у свеце Максіма Танка” (2001), шматлікіх артыкулаў і публікацый у перыёдыцы. Грунтоўны досвед крытыка і літаратуразнаўцы ў плане асэнсавання асаблівасцей мастацкай індывідуальнасці выдатнага беларускага паэта і грамадскага дзеяча, непасрэдныя стасункі з ім спрыялі глыбокаму і арыгінальнаму выяўленню ў цэлым надзвычай складанага і супярэчлівага сацыяльна-культурнага і ўласна літаратурна-творчага матэрыялу. Шмат у чым даследаванне носіць наватарскі характар. Улічваючы найноўшыя адкрыцці гісторыка-літаратурнай спадчыны Заходняй Беларусі, дасягненні сучаснай айчыннай, а таксама еўрапейскай літаратуразнаўчай думкі (найперш рускай, украінскай, польскай, нямецкай), аўтар паспяхова распрацаваў сістэмна-модульныя асновы развіцця заходнебеларускай паэзіі 1920 – 1930-х гг., стварыў канцэптуальна-цэласную карціну мастацкіх пошукаў прадстаўнікоў розных ідэйных арыентацый, генерацый у адпаведнасці з тымі грамадска-палітычнымі працэсамі, якія адбываліся ў заняволеным краі.

Мікола Мікуліч здолеў істотна паглыбіць тэарэтыка-метадалагічныя асновы і прынцыпы паняцця стылю як своеасаблівай формы мастацкага пазнання, “дынамічнай сілы літаратурнага працэсу” (Н. Драгамірэцкая). *“Стыль з’яўляецца формай узаемадзеяння ў пэўным ідэйна-эстэтычным кантэксце слова і яго вобразнага значэння,* – абгрунтавана заўважае даследчык, – *падпарадкаванай схільнасцям і густам асобы пісьменніка і адаптаванай да запатрабаванняў грамадска-сацыяльнага асяроддзя сістэмай мастацкай арганізацыі твора. Гэта ўнутрана сабраны, збалансаваны і ўпарадкаваны, звернуты да асэнсавання ў святле пэўных аўтарскіх ідэй і прынцыпаў складанага і супярэчлівага жыццёвага матэрыялу іерархічны комплекс жанрава-структурных, моўна-выяўленчых і рытміка-інтанацыйных сродкаў і прыёмаў, якія знаходзяцца ў працэсе пастаяннага ўзаемадзеяння і абнаўлення”*. І крыху ніжэй працягвае: *“Стыль, можа, як нішто іншае ў творы, непасрэдна звернуты да патэнцыяльнага чытача. Пісьменнік у пэўнай ступені адчувае, бачыць, мысліць і гаворыць чытачом, разглядае яго асобу ў якасці свайго асноўнага духоўна-мастацкага задання, усёй логікі і сэнсу творчых пошукаў і здабыткаў”*.

У манаграфіі прапануецца цікавае і пазнавальнае вызначэнне паняццяў індывідуальнага стылю, мастацкага напрамку, творчага метаду, стылявой плыні, стылю эпохі і інш. Разважанні вучонага – выверанныя, пераканаўчыя. Упершыню ў айчынным літаратуразнаўстве М. Мікуліч абгрунтоўвае тэзіс аб тым, што *“тыпалагічную сістэму стылявога руху заходнебеларускай паэ-*

*зіі"* забяспечвала развіццё і ўзаемадзеянне трох плыней – лірыка-апавядальнай, рамантычнай і духоўна-ірацыянальнай. Гэтыя плыні адпавядалі асаблівасцям грамадскай свядомасці, ідэйным дамінантам сацыяльна-гістарычных з'яў і працэсаў.

Самай даўняй і распрацаванай у беларускай паэзіі з'яўляецца лірыка-апавядальная стылявая плынь. Ва ўмовах Заходняй Беларусі, адзначае даследчык, яе сцвярджалі Г. Леўчык, М. Васілёк, С. Крывец, Г. Новік, А. Дубровіч і іншыя аўтары. Разгляду іх творчасці ў манаграфіі прысвечаны першы раздзел – **"Магчымасці паэтычнага аповеду"**.

Лірыка-апавядальная стылявая плынь, на думку М. Мікуліча, развівалася на аснове прынцыпу сацыяльна-гістарычнай аб'ектыўнасці і праўдзівасці адлюстравання рэчаіснасці. Лірычнае дзеянне разгортвалася тут у цесным паяднанні з асаблівасцямі сюжэтнага сэнсарада, карцінамі і малюнкамі сацыяльнай і нацыянальнай несправядлівасці і прыгнёту, апісаннямі і характарыстыкамі канкрэтных з'яў і падзей. Паэтычныя структуры гэтай стылявой плыні, слушна заўважае аўтар, *"будаваліся галоўным чынам на аснове лагічна-паняційнага прынцыпу, прадметна-інфармацыйнай сутнасці вобразнага адлюстравання і вызначаліся раскаванасцю размоўна-апавядальнага дыскурсу. Рух лірычнай прасторы і часу ажыццяўляўся тут за кошт натуральнага, фенапагічна дакладнага і храналагічна паслядоўнага разгортвання падзей і фактаў, увагі да зрокава наглядных, пластычна выяўленчых дэталей і падрабязнасцей сацыяльнага асяроддзя, вясковасялянскай працы і быту, прыроды, усёй душэўна-пачуццёвай канкрэтыкі знешняга свету"*. І крыху ніжэй: «*Прыхільнікі лірыка-апавядальнай стылявой плыні паказвалі з'явы і працэсы рэчаіснасці ў адпаведнасці з канцэптамі "бачу – пішу", "адлюстроўваю і перажываю", "тут і таму". У іх творах мастацкае дзеянне падавалася пераважна ад трэцяй асобы. Лірычнага героя мы бачым тут галоўным чынам як адстароненага назіральніка і аб'ектыўнага апавядальніка пра пэўныя з'явы і працэсы, радзей – як іх непасрэднага і актыўнага ўдзельніка. А таму лірычнае перажыванне часцей за ўсё трымалася на пэўным аддаленні ад аб'екта адлюстравання, фігуравала не на сцэне, а за сцэнай разгортвання падзей і фактаў, толькі ў некаторых выпадках злівалася з імі*».

Мікола Мікуліч мае рацыю, калі ўсіх прадстаўнікоў гэтай стылявой плыні падзяляе на дзве групы. Першую, на яго погляд, складалі непасрэдныя прадаўжальнікі традыцый нашаніўскай паэзіі – Г. Леўчык, Я. Быліна, С. Станкевіч і інш. Іх творчасць прасякнута асаблівасцямі народнага светаадчування, фальклорнай свядомасці. У ёй пераважаў пафас агульнага, прызямлена-натуралістычны паказ жыцця, песімістычны пачатак. Да другой адносіліся паэты з актыўнай мастацкай свядомасцю і шырокім поглядам на свет – М. Васілёк, М. Машара, М. Засім, А. Іверс і г. д. Яны засведчылі *"паглыбленне сферы асабовага, лірычнага пачатку, суб'ектыўнага фактару, характэрную індывідуальна-аўтарскую пластычнасць і адметнасць. У іх творах агульнае прадугледжвала існаванне асобнага, грамадска-сацыяльнае, калектыўнае, масавае апладнялася асабістым, прыватным, адзінкавым, насычалася канкрэтна-гістарычным зместам. Герой паўставаў тут у выразнай абмалёўцы свайго індывідуальнага светаразумення і аблічча, у раскрыцці адносін да шырокага спектру грамадскіх працэсаў, а падзеі і факты знешняй рэчаіснасці паўставалі ў непаўторным жыццёвым выяўленні"*.

У сувязі з характэрнымі абставінамі грамадска-палітычнага жыцця краю вядучае месца ў заходнебеларускай літаратуры належала рамантычнай стылявой плыні. Аналіз творчасці паэтаў-рамантыкаў аўтар прапануе ў другім раздзеле працы пад назвай **"На крылах рамантычнага ўздыму"**.

Бідавочнай заслугай М. Мікуліча з'яўляецца тое, што ён першым сярод беларускіх літаратуразнаўцаў паказвае развіццё рамантычнага кірунку ў айчыннай паэзіі, прасочвае не толькі яго ідэйна-мастацкую адметнасць, але і стылявую дыферэнцыяцыю. Абгрунтавана і пераканаўча ў паэзіі Заходняй Беларусі даследчык вылучае дзве выразна акрэсленыя рамантычныя лініі ці разнавіднасці – нацыянальна-адраджэнскую і рэвалюцыйную, якія былі звернуты да канкрэтных асаблівасцей грамадска-палітычнай барацьбы і сацыяльнага асяроддзя. Нацыянальна-адраджэнскую лінію, лічыць аўтар, развівалі У. Жылка, П. Сакол, А. Бартуль, Л. Геніюш, некаторыя іншыя паэты. Іх творчасць вызначалася паглыбленнем у сферу народна-патрыятычнай праблематыкі, выразнай нацыянальна-этнічнай адметнасцю героя. Яна ўслаўляла багатую нацыянальна-гістарычную спадчыну мінулага, гераіку беларускага дзяржаўнага самасцвярджэння і звяртала на сябе ўвагу рамантычна-ўзвышанай настраёвасцю, лірычна-пранікнёным зместам і пафасам. У параўнанні з нацыянальна-адраджэнскай рэвалюцыйная рамантычная лінія ці разнавіднасць характарызавалася падкрэсленай сацыяльна-маральнай тэндэнцыйнасцю, сцвярджэннем прынцыпаў класавай барацьбы, ідэалагічных асноў камуністычнай партыйнасці, неабходнасці радыкальных грамадскіх змен і пераўтварэнняў. Яе актыўна развівалі В. Таўлай, П. Пестрак, М. Танк, жыццё і творчасць якіх даволі шырока асветлены ў нашым літаратуразнаўстве.

Наватарскі характар даследавання М. Мікуліча ў многім абумоўлены тым, што ў ім упершыню ў айчыннай філалогіі на матэрыяле развіцця паэзіі Заходняй Беларусі распрацаваны сістэмныя прынцыпы духоўна-ірацыянальнай стылявой плыні беларускай нацыянальнай паэзіятворчасці. У раздзеле **“У рэчышчы духоўна-ірацыянальных пошукаў”** аўтар слушна заўважае, што дадзеная *“плынь утварала своеасаблівую сакральна-містычную прастору, якая вызначалася энергетычным зарадам рэлігійнасці, раскрыццём духоўнага зместу падсвядомага”*. Яе прадстаўнікі – К. Сваяк, В. Адважны, Н. Арсеннева, Х. Ільяшэвіч – лічылі літаратуру і мастацтва самадастатковай субстанцыяй, што не залежыць ад грамадскіх умоў і абставін, не служыць пэўным сацыяльным ідэям, карысці і выгадзе. Яна знаходзіцца *“над рэчаіснасцю, над сацыяльнымі мэтаімкненнямі – нават самымі актуальнымі і прагрэсіўнымі, над грамадскімі інтарэсамі і запатрабаваннямі”*. Сапраўдная місія мастацтва палягае ў тым, меркавалі гэтыя і іншыя паэты, *“каб прасвятляць і пераўтвараць жыццё на асновах праўды і міласэрнасці, цярпення і згоды, цеплыні і спагады, любові і ўсёдаравання як праяў боскай наканаванасці чалавечай душы”*. *“Яны разглядалі мастацкі твор,* – акцэнтуе даследчык, – *не як сродак дасягнення пэўнай мэты, а як саму мэту, існаванне прыгожага ў прыгожым, арэол анталагічнай тайны, асвечанай інтуіцыяй”*.

Творчасць прадстаўнікоў духоўна-ірацыянальнай стылявой плыні характарызавалася асаблівасцямі містычнага, інтуітыўна-экстатычнага ўспрымання жыцця, сцвярджэннем *“прымату Абсалютнага”*, хрысціянскіх маральна-філасофскіх каштоўнасцей. Яна звяртала на сябе ўвагу адчуваннем “старажытнага генетычнага коду”, унутранай супрыроднасцю, летуценна-асацыятыўным угадваннем зместу з’яў і працэсаў, сугестыўнасцю вобразнага мыслення.

Назіранні і вывады М. Мікуліча вызначаюцца глыбінёй і арыгінальнасцю меркаванняў і ацэнак, характэрнай аўтарскай пранікнёнасцю і непаўторнасцю. *“Духоўна-ірацыянальная стылявая плынь заходнебеларускай паэзіі,* – напрыклад, падкрэслівае даследчык, – *сцвярджала салідарнасць усяго існага, асновы і прынцыпы становучага ці ідэальнага ўсёадзінства як гармонію быцця і свету, дзе кожны кампанент існуе ў сістэме шматлікага многага, у бессвядомым імкненні да суладнасці і ўзгодненасці ўсяго з усім. Яго ўтварае ўзаемазвязанасць усіх касмаэвалюцыйных працэсаў, узаемапранікненне астральнага, трансцэндэнтнага, прыродна-біялагічнага, сацыяльна-гістарычнага і духоўна-чалавечага пачаткаў, якія збіраюць сусвет у адзінае цэлае, абумоўліваюць у ім месца асобы. Тут дабро прадугледжвае існаванне зла як рэальнага суб’екта і дзейнай сілы ў сістэме ўсеагульнай раўнавагі. Яно не перамагае зло, а паслядоўна авалодвае ім, падпарадкоўвае яго служэнню сваім інтарэсам і каштоўнасцям”*. І далей: *“Мастацкія пошукі прадстаўнікоў гэтай плыні вызначаліся наяўнасцю характэрнай духоўна-інтэнцыянальнай эмоцыі, якая акрэслівала модус існавання лірычнага героя праз адметнае сінтэзаванне свету натуральных бачнасцей і адчуванняў як стыхіі абсалютнай усеагульнасці, матэрыяльнага ўніверсуму і творчай суб’ектыўнасці”*.

Вызначэнне і характарыстыку вядучых стылявых плыней у развіцці заходнебеларускай паэзіі М. Мікуліч ажыццяўляе на аснове тонкага, падкрэслена чуйнага да матэрыі мастацкага слова, высокапрафесійнага аналізу канкрэтных творчых індывідуальнасцей, дакладнай і трапнай ацэнкі многіх ідэйна-эстэтычных з’яў і фактаў. Разгляд творчых пошукаў і здабыткаў М. Васілька, У. Жылкі, П. Шукайлы, М. Танка, К. Сваяка, Н. Арсенневай, А. Бярозкі з’яўляецца шмат у чым узорным з пункту гледжання законаў і патрабаванняў сучаснай беларускай крытыкі і літаратуразнаўства.

Упершыню ў літаратуразнаўстве Мікола Мікуліч праанлізаваў творчасць С. Станкевіча, Ф. Грышкевіча, Улад.-Ініцкага, А. Смаленца, У. Казлоўшчыка, А. Бартуля, П. Сеўрука – даволі вядомых грамадска-культурных дзеячаў Заходняй Беларусі, аўтараў цікавых мастацкіх твораў, зборнікаў вершаў, тым самым фактычна ўвёў іх у нацыянальны літаратурна-мастацкі кантэкст.

Разгляд літаратурных з’яў і падзей, канкрэтных мастацкіх твораў у манаграфіі вядзецца на шырокім грамадска-палітычным і гісторыка-культурным фоне, з прыцягненнем шматлікіх невядомых ці малавядомых нават спецыялістам архіўных фактаў і дакументаў, у багатым і разнастайным спектры навуковых меркаванняў і ацэнак.

Мікола Мікуліч належыць да ліку вядучых сучасных беларускіх крытыкаў і літаратуразнаўцаў. Манаграфія “Паэзія Заходняй Беларусі (1921 – 1939)” вызначаецца фактурна-зместавай насычанасцю і ёмістасцю, канцэптуальна-цэласным аналізам заходнебеларускага паэтычнага працэсу, грунтоўнасцю літаратуразнаўчага дыскурсу, удумлівасцю і праніклівасцю назіранняў і вывадаў. Ёй уласцівы добрая ступень канкрэтна-гістарычнай дыялектычнасці, кампазіцыйная стройнасць і гарманічнасць, пластычная выверанасць і мяккасць аўтарскага разважання. Несумненна, яна з’яўляецца вялікім укладам таленавітага даследчыка ў распрацоўку актуальных праблем гісторыі беларускай літаратуры ХХ ст., у развіццё сучаснай айчыннай філалогіі.

**Анатоль ЛІТВІНОВІЧ,**
кандыдат філалагічных навук.

Алена ВОСТРЫКАВА

# ЗАСНАВАЛЬНІК ЧЭШСКАЙ БЕЛАРУСІСТЫКІ ВАЦЛАЎ ЖЫДЛІЦКІ

## ДА 80-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ДАСЛЕДЧЫКА

Вацлаў Жыдліцкі (16.04.1931 – 19.08.2002) – вядомы чэшскі літаратуразнаўца, даследчык беларускай і ўкраінскай літаратур, перакладчык найлепшых узораў беларускага, украінскага, рускага, польскага мастацкага пісьменства. Доктар філалогіі, прафесар Карлава ўніверсітэта, ганаровы доктар і прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, адзін з заснавальнікаў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Узнагароджаны медалём Францыска Скарыны (1982).

Нарадзіўся вядомы славіст, перакладчык ва Украіне – у вёсцы Тупічаў Турыйскага раёна Валынскай вобласці. Паходзіў з валынскіх чэхаў. Пасля вайны сям'я перасялілася ў Чэхаславакію. У 1955 г. В. Жыдліцкі скончыў Карлаў універсітэт у Празе, працаваў асістэнтам кафедры русістыкі філасофскага факультэта. Абараніў доктарскую дысертацыю "Сучасная беларуская і ўкраінская літаратуры" (1967) і стаў дацэнтам, атрымаў званне прафесара (1976). З 1989 да 1996 г. узначальваў Інстытут па вывучэнні ўсходнееўрапейскіх краін, выхаваў цэлую плеяду перакладчыкаў і літаратуразнаўцаў.



**Уладзімір Караткевіч, Вацлаў Жыдліцкі, Аляксандр Баршчэўскі.** Фота Сяргея Панізніка.

Вацлаў Жыдліцкі даследаваў гісторыю ўкраінскай і беларускай літаратур, беларуска-чэшскія стасункі ад Ф. Скарыны да Я. Купалы. Пісаў пра беларускую паэзію, вылучаў пры гэтым асобу і творчасць М. Багдановіча, падкрэсліваў *"усвядомлены артыстызм паэта"*, тое, што ён даказаў: *"...беларуская мова добра адчувае сябе ў метрах Петраркі і Верлена"*. Пасля 1920-х гг. імя "песняра чыстай красы" некалькі дзесяцігоддзяў не згадвалася ў чэшскай літаратуры. У культурны і навуковы ўжытак яго вярнуў менавіта В. Жыдліцкі.

Вучоны высока ацаніў творчасць вядомых беларускіх пісьменнікаў, даследаваў тыпалогію стылёвых плыней беларускай літаратуры. На яго навуковым рахунку манаграфіі, вучэбныя дапаможнікі, шэраг артыкулаў, такія працы, як "Украінская і беларуская літаратура ў чэшскіх перакладах" (1956), "Малы слоўнік савецкіх пісьменнікаў. Ч. 2: Украінскія і беларускія пісьменнікі" (1959, 1966), "Даследаванні па гісторыі чэшска-беларускай супольнасці" (1960), "Сучасная савецкая літаратура. Т. III. Украінская і беларуская літаратура", "Кароткі нарыс па гісторыі беларускай літаратуры" (1972) і інш. У гэтых грунтоўных выданнях чэшскі навукоўца падаваў біяграфічныя звесткі, ацэньваў стыль і асаблівасці пісьменніцкай манеры, ствараў адмысловыя літаратурныя партрэты, указваў бібліяграфію твораў, якія выйшлі на чэшскай мове.

Вядомы беларускі навукоўца А. Мальдзіс пісаў (Полымя, 1967, № 3), што В. Жыдліцкі глядзеў на беларускую літаратуру "вачыма зычлівага друга" і змог раскрыць непаўторную своеасаблівасць беларускай літаратуры, з дастатковай паўнатой расказаць пра яе гістарычнае мінулае і сучаснасць, здолеў аддзяліць галоўнае ад другаснага, вылучыць тое, што складае прыгажосць нашага сённяшняга пісьменства. У артыкулах, вучэбных дапаможніках і манаграфіях В. Жыдліцкі спыняўся на найбольш знакавых з'явах. У беларускай літаратуры XIX ст. акцэнтаваў увагу на паэзіі В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча, адзначаў яе этнаграфізм і блізкасць да фальклору. З вялікай павагай пісаў пра



***Алена Уладзіміраўна Вострыкава** – літаратуразнаўца, перакладчык. Кандыдат філалагічных навук (1998). Дацэнт кафедры славянскіх літаратур Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Аўтар вучэбна-метадычных дапаможнікаў "Гісторыя чэшскай літаратуры II паловы XIX стагоддзя" (2002), "Польская і чэшская паэзія памежжа XIX – XX стагоддзяў" (у суаўтарстве з М. М. Хмяльніцкім) (2004), "Чэшская літаратура: вернутыя імёны" (2005), "Чэшская літаратура памежжа XIX – XX стагоддзяў" (2008), шматлікіх навуковых і навукова-метадычных публікацый.*

творчасць Я. Купалы, яго верш "А хто там ідзе?", лірыку М. Багдановіча, у якой беларускае слова ўпершыню загучала ў класічных і сучасных мастацкіх формах.

На думку В. Жыдліцкага, беларуская літаратура ўжо на пачатку XX ст. паказвала чалавека ва ўсіх сферах сацыяльнага, матэрыяльнага і духоўнага існавання. Чэшскі даследчык вылучаў дзве стылёвыя лініі: рэалістычна-аналітычную (Я. Колас) і імпрэсіяністычную (З. Бядуля). В. Жыдліцкі апісваў гісторыю "Маладняка", жанравую і стылёвую шматвектарнасць беларускай літаратуры, беларускі раман ("Сокі цаліны" Ц. Гартнага, трылогію "На ростанях" Я. Коласа, раманную творчасць К. Чорнага).

Чэшскі крытык супрацьпастаўляў 1920-я і 1930-я гг. у беларускай літаратуры, але пагаджаўся, што ў 1930-я гг. былі не толькі памылкі. Тады нарадзіліся такія творцы, як А. Куляшоў, П. Панчанка.

Пра беларускую ваенную прозу В. Жыдліцкі пісаў як пра *"інтымную, аўтабіяграфічную споведзь"*, падрабязна спыняўся на мастацкай пераканаўчасці, высокім эстэтычным узроўні, псіхалагізме твораў пра Вялікую Айчынную вайну. На яго думку, пералічаныя характарыстыкі ўласцівы творам І. Шамякіна, І. Навуменкі, А. Адамовіча і асабліва В. Быкава. Гэтыя пісьменнікі, падкрэслівае чэшскі даследчык, паказвалі не толькі гераізм, але і трагічнасць ваенных падзей. Высокія мастацкія якасці В. Жыдліцкі знаходзіў у такіх кнігах пра мінулае, як "Птушкі і гнёзды", "Людзі на балоце", "Данута", дзе аўтары вяртаюцца ў сваё дзяцінства і юнацтва.

Адным з найлепшых беларускіх твораў пра сучаснасць В. Жыдліцкі лічыў раман "Сэрца на далоні" І. Шамякіна. Не абмінаў увагай лірыку М. Лужаніна, П. Броўкі, А. Куляшова, Р. Барадуліна. У. Караткевіча інтэрпрэтаваў як прыроджанага філосафа, якому ўласціва глыбіня думкі і багатая асацыятыўнасць. Менавіта філасофскі падтэкст актуалізуецца ў гістарычных раманах і аповесцях Караткевіча ("Каласы пад сярпом тваім", "Сівая легенда" і інш.), якія з'яўляюцца больш сучаснымі, чым некаторыя творы пра сучаснасць. В. Жыдліцкі аналізаваў творчасць У. Караткевіча ў тыпалагічных сувязях і параўнаннях з украінскімі аўтарамі.

Даволі падрабязна даследчык разглядаў творы І. Навуменкі, В. Быкава, А. Адамовіча, А. Карпюка. Вызначаў агульнае і адметнае ў творчых індывідуальнасцях В. Адамчыка, Б. Сачанкі, М. Стральцова, І. Пташнікава. Асобныя манаграфічныя раздзелы прысвечаны Я. Брылю, В. Быкаву, І. Мележу, І. Навуменку, П. Панчанку, М. Танку.

Развіццё беларускай драматургіі В. Жыдліцкі называў недастатковым. Вышэй ацэньваў здабыткі камедыйнага жанру, у прыватнасці п'есы А. Макаёнка.

Калі-нікалі даследчык глядзеў на беларускую літаратуру досыць суб'ектыўна, абмінаў увагай некаторыя класічныя творы. Але гэта права кожнага даследчыка – рабіць уласны адбор. Янка Саламевіч пісаў пра бачанне беларускай літаратуры чэшскім вучоным (ЛіМ, 25.05.1967): "Да ацэнкі пэўных канкрэтных твораў і ўвогуле творчасці пісьменнікаў В. Жыдліцкі падыходзіць з меркай дасягненняў агульнаеўрапейскіх літаратур. І гэта правільна, бо дае магчымасць ярчэй падкрэсліць як тое лепшае, чаго дамаглося наша прыгожае пісьменства на сучасным этапе, так і выявіць недахопы, вызначыць тыя далі і гарызонты, да якіх неабходна імкнуцца".

Вацлаў Жыдліцкі – аўтар вялікага артыкула пра беларускую літаратуру, які быў уключаны ў сёмы том васьмітомнага выдання "Гісторыя сусветнай літаратуры", што выйшаў у 1975 г. у Заграбе пад рэдакцыяй А. Флакера. Праз год гэты том быў перакладзены на албанскую мову і выдадзены ў Прышціне. Г. Бінава падкрэслівае, што менавіта Жыдліцкі пісаў артыкулы пра ўкраінскую і беларускую літаратуры ў нядаўна выдадзеную ў Чэхіі васьмітомную літаратурную і дваццацітомную агульную энцыклапедыі.

Даследчык удзельнічаў у працы міжнародных славістычных кангрэсаў, Саюза пісьменнікаў Беларусі, чытаў лекцыі па чэшскай літаратуры і раіў кнігі чэшскіх аўтараў для перакладу на беларускую мову. Паступова навуковыя зацікаўленні В. Жыдліцкага засярodзіліся цалкам на беларускай літаратуры як самастойнай дысцыпліне. Ён аддаў беларусістыцы чатыры плённыя дзесяцігоддзі педагагічнай і навуковай дзейнасці.

Цікавасць да беларускай літаратуры ў В. Жыдліцкага ўзнікла яшчэ ў канцы 1950-х гг.,



**Міхась Забэйда-Суміцкі, Валянціна Караткевіч, Уладзімір Караткевіч, Вацлаў Жыдліцкі.** Прага. 1973 г. Фота Сяргея Панізніка.

калі дырэктар Інстытута славістыкі Чэхаславацкай акадэміі навук і загадчык кафедры русістыкі Карлава ўніверсітэта Юліус Даланскі прапанаваў свайму аспіранту заняцца беларускай мовай. Але і сам Жыдліцкі яшчэ ў сярэдзіне 1950-х вывучаў беларускую мову і друкаваў асобныя артыкулы і рэцэнзіі пра беларускую літаратуру. У 1957 г. з'явіліся яго першыя пераклады апавяданняў Цішкі Гартнага і Кузьмы Чорнага. У 1978 г. беларускі паэт, перакладчык чэшскай паэзіі С. Панізнік спытаў у інтэрв'ю з вучоным, адкуль узнікла цікавасць да беларускай мовы і літаратуры. У адказ пачуў, што ўсё пачалося са слова "сябра". В. Жыдліцкі чытаў верш Максіма Рыльскага "На братняй зямлі" з падзагалоўкам "Прысвячаецца беларускім сябрам", зацікавіўся незнаёмым словам, стаў шукаць яго этымалогію і так адкрыў для сябе новы свет беларускай культуры, мовы і літаратуры. У 1961 г. чэшскі навукоўца цэлы год праходзіў стажыроўку ў Мінску і вельмі добра вывучыў беларускую мову, пра што неаднойчы згадваў Ніл Гілевіч.

Пасля вяртання ў Прагу В. Жыдліцкі стаў выкладаць беларускую мову, чытаць лекцыі па беларускай літаратуры, набраў аспірантаў-беларусістаў. У лекцыях на філфаку Карлава ўніверсітэта, у навуковай і папулярызатарскай рабоце ён усё больш увагі аддаваў беларусістыцы, падкрэсліваў, што па-беларуску сёння сцвярджаюцца агульначалавечыя мастацкія каштоўнасці.

Вацлаў Жыдліцкі – першы ў Чэхаславакіі даследчык чэшска-беларускіх літаратурных сувязей. У гэтым напрамку ён пачаў працаваць яшчэ ў 1950-я гг. З тых часоў таленавіты чэшскі літаратар і вялікі знаўца ўкраінскай і беларускай літаратур амаль кожны год друкаваў артыкулы па актуальных праблемах беларускай літаратуры, заўсёды цікавіўся маладой беларускай літаратурай, пераадоленнем пэўных тэматычных бар'ераў. Ведаў сучасную беларускую крытыку, пісаў, што яна набыла сталасць, глыбіню і аналітычнасць. Ён часта згадваў імёны Р. Бярозкіна, У. Калесніка, А. Адамовіча, В. Каваленкі, А. Лойкі, С. Александровіча і інш.

Дасягненні беларускіх пісьменнікаў сам В. Жыдліцкі разглядаў таксама на фоне дасягненняў сусветнай літаратуры. Параўноўваў беларускія творы з творамі польскіх, чэшскіх і іншых аўтараў. У размове з Алесем Мажэйкам (ЛіМ, 18.08.1967) даследчык казаў: *"У беларускай літаратуры цяпер маюцца творы, якія даюць падставу лічыць яе адной з сусветных літаратур. Але шкада, што гэтыя творы не заўсёды вядомыя свету. І, я думаю, беларусы самі маглі б зрабіць тое-сёе для выхаду іх літаратуры на сусветную арэну. Важна ўстанавіць непасрэдныя дзелавыя кантакты людзей, якія кроўна зацікаўлены ў літаратурным узаемаабмене, у прапагандзе беларускай літаратуры. Чаму б, напрыклад, Саюзу пісьменнікаў не склікаць у Мінску нараду ўсіх перакладчыкаў, якія даносяць беларускую прозу і паэзію да зарубежнага чытача? А пабыць у краіне, адчуць яе непаўторную красу, грунтоўна пазнаёміцца з жыццём і мовай народа – гэта для перакладчыка неабходна, як паветра"*.

Вацлаў Жыдліцкі шмат зрабіў, каб пазнаёміць чэшскага чытача з беларускай літаратурай: пераклаў творы "Я з вогненнай вёскі…" А. Адамовіча, Я. Брыля і У. Калесніка, "Хатынская аповесць" А. Адамовіча, "Птушкі і гнёзды", "Ніжнія Байдуны", "Апошняя сустрэча" Я. Брыля, "Абеліск" і "Дажыць да світання" В. Быкава, "Дзікае паляванне караля Стаха", "Нельга забыць", "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", "Чорны замак Альшанскі" У. Караткевіча, "Данута" А. Карпюка, "Мсціжы" І. Пташнікава, "Гандлярка і паэт", "Сэрца на далоні" І. Шамякіна і інш. Ён аўтар анталогіі сучаснай беларускай паэзіі, зборнікаў выбранага з ранніх вершаў Я. Купалы і твораў М. Танка, пачынаючы са зборніка "Мой хлеб надзённы". В. Жыдліцкі сам рабіў для гэтых зборнікаў пераклады разам з маладым тады перакладчыкам Ільёй Гайслерам.

Чэшская даследчыца Г. Бінава (Славянскія літаратуры ў кантэксце сусветнай: матэрыялы V Міжнар. навук. канф., прысвечанай 80-годдзю

БДУ. – Мінск, 2001. – Ч. 2) зазначае, што гэтыя пераклады выклікалі шмат зацікаўленых водгукаў як у Чэхіі, так і ў Беларусі. Яны вылучаюцца добрым адчуваннем асаблівасцей беларускай мовы. Г. Бінава таксама падкрэслівае, што менавіта па рэкамендацыі В. Жыдліцкага і з яго дапамогай перакладаць беларускую паэзію сталі Яраслаў Кабічак, Гана Врбава, Мілада Вечэржава, Іржына Міклушакава і інш. Пры яго дапамозе ў Славакіі ўзнікла славянскае выдавецтва "Ліпа", у якім па ініцыятыве В. Жыдліцкага выйшла некалькі кніг беларускіх аўтараў. Да большасці з іх перакладчык сам напісаў пасляслоўі, прадмовы, літаратурна-крытычныя артыкулы або каментарыі. Усё гэта ён рабіў для таго, каб беларуская літаратура палюбілася замежнаму чытачу, была прынята душой і сэрцам. Адзначым, што працу даследчыка і перакладчыка ён не раздзяляў, казаў, што ў Чэхіі ўжо склалася такая традыцыя: выкладчыкі самі перакладаюць з іншамоўных літаратур.

Вацлаў Жыдліцкі лічыў, што чэшская і беларуская літаратуры вельмі блізкія (ЛіМ, 25.09.1987): «*Для нашых літаратур заўсёды была характэрная трывалая ўвага да ўсяго каштоўнага ў свеце. Нашы "малыя народы" намнога ўважней прыслухоўваліся да ўсяго, што прыходзіла са свету, чым большасць так званых вялікіх народаў, якія звыкла больш разлічваюць на ўласную скарбніцу, на сваю культурную самадастатковасць. Абапіраючыся на фальклор і выкарыстоўваючы дасягненні сусветнай літаратуры, пісьменнасць нашых народаў хутка дасягнула высокага ўзроўню. Прытым, аднак, нашы літаратуры ніколі не карысталіся сусветнай славай, не заваёўвалі пераможна нават еўрапейскага чытача – хоць многімі сваімі якасцямі, уласцівасцямі, безумоўна, стаялі і стаяць на сусветным узроўні. Асабліва паэзія, але пра гэта вядома адносна нямногім чытачам, перш за ўсё спецыялістам, літаратуразнаўцам, славістам*».

Ад беларускай літаратуры В. Жыдліцкі чакаў не толькі мастацкіх набыткаў, але і непасрэднай працы ў палітычным і ідэалагічным фарміраванні нацыі, у развіцці і абароне мовы, пашырэнні асветы, устанаўленні культурных сувязей з іншымі народамі. Гэтага, на думку даследчыка, ад беларускай літаратуры заўсёды вымагаў і сам час, сама гісторыя. Ён падкрэсліваў, што на беларускай літаратуры ляжыць глыбокі адбітак сур'ёзнасці, палітычнай і грамадскай адказнасці, яна амаль ніколі не мела ў сабе элементаў фармальнай гульні, фрывольнай безадказнасці, лёгкай бестурботнасці, а была зацятай і па-апостальску важнай.

Вядомы славіст быў асабіста знаёмы і блізка сябраваў з такімі беларускімі пісьменнікамі, як У. Караткевіч, Я. Брыль, С. Панізнік, В. Быкаў, М. Танк, І. Шамякін, А. Адамовіч. Чэшскі даследчык прызнаваўся ў размове з С. Панізнікам (ЛіМ, 25.09.1987), што яго цягне да твораў паэта і празаіка У. Караткевіча. В. Жыдліцкі ўспрымаў яго як стваральніка беларускага гістарычнага рамана. Чэшскі даследчык асабіста пазнаёміўся з Караткевічам яшчэ ў 1968 г. Больш за сорак гадоў В. Жыдліцкі сябраваў з Я. Брылём, які *"даў яму магчымасць адчуць беларускую душу"*.

Вацлаў Жыдліцкі за сваю нястомную дзейнасць па папулярызацыі і даследаванні беларускай літаратуры заслугоўвае вялікай любові, павагі беларускага народа і вялікай удзячнасці, бо пераканаўча паказаў чэшскаму народу і ўсяму свету, што беларуская літаратура – багатая, арыгінальная і эстэтычна сталая.

Алег ЛОЙКА

**ПАМЯЦІ ВАЦЛАВА ЖЫДЛІЦКАГА**

*Што ж ты так бушавала, Влтава,*
*Што не стала майго Вацлава,*
*Нашага Вацлава не стала, –*
*Што ж ты так бушавала,*
*Влтава?!*

*Беларускаму слову "сябры"*
*Пакланяўся ты, ніжай зары,*
*Тэзайменны святому Вацлаву,*
*Святога множачы славу,*

*Ды – занямелая рука*
*Беларускага сябрука,*
*Якой і з красы слова нашага*
*Славяншчыне назапашана…*

*Карлава ўніверсітэта лавы*
*Шырэлі ад запросін Вацлава,*
*І Гашакавыя каля Влтавы –*
*Шырэлі ад запросін Вацлава, –*

*Ды не пашырэюць больш,*
*Увайшлі ў берагі Влтавы,*
*Ды не сяброў тваіх боль,*
*Не жаль Беларусі ласкавай.*

*Актуальная тэма*

Таццяна СТАРАСЦЕНКА

# РЭЛІГІЙНЫ ДЫСКУРС: УНУТРАНЫ І ЗНЕШНІ ДЫЯЛОГ

## НА МАТЭРЫЯЛЕ ПСАЛМОЎ

Апошнім часам павялічваецца колькасць лінгвістычных даследаванняў, прысвечаных аналізу функцыянальнай і полевай структуры рэлігійнай жанравай прасторы. Згодна з функцыянальнай дыферэнцыяцыяй вылучаюць рытуальныя, арыентацыйныя і аганальныя жанры [1, с. 224]. Спецыфіка рэлігійнага дыскурсу найбольш выразна прасочваецца пры разглядзе жанраў полевай арганізацыі – першасных (псалом, прытча, малітва) і другасных (пропаведзь, споведзь, пастарскія гутаркі).

Адным з асноўных першасных жанраў рэлігійнага дыскурсу выступае псалом. На думку К. Бабыровай, мэтазгодна выдзяляць групы псалмоў па ўнутранай інтэнцыі, часавай аднесенасці, характары і ключавой стратэгіі [1, с. 228]. Аднак вылучэнне апошняй групы (па ключавой стратэгіі) не ўяўляецца істотным, паколькі эфект ацэнкі і тлумачэння прысутнічае ў папярэдніх трох разнавіднасцях.

Псалмы ўнутранай інтэнцыі падзяляюцца на дыдактычныя і інтэрагатыўныя. Дыдактыка экспліцытна выражаецца дзеясловамі загаднага ладу, якія ўзмацняюць уздзеянне Бібліі і набліжаюць такія тэксты да публіцыстычных. Многія рысы публіцыстыкі заўважаны даследчыкамі і ў іншых жанрах рэлігійнага дыскурсу [4, с. 10; 6, с. 6]. Прыклады дыдактычных псалмоў: ***Будзьце*** *мужныя і крэпкія духам – усе, што чакаеце на Госпада!* (Псалтыр 31, 25)*; ***Радуйцеся*** *ў Госпадзе і* ***весяліцеся****, пабожныя!* ***Радуйцеся*** *ўсе шчырыя сэрцам!* (32, 11); ***Спадзявайся*** *на Госпада і добрае* ***рабі****,* ***жыві*** *на зямлі і цноту* ***хавай*** (37, 3); *Ад гневу* ***ўхіляйся****,* ***кінь*** *ярасць;* ***не распальвайся*** *гневам, каб благога табе не зрабіць* (37, 8); ***Выслаўляйце*** *Госпада на гуслях, на гуслях і галосным пяяннем! На трубах і гукам рагоў* ***спраўляйце*** *ўрачыстасць прад Царом Госпадам!* (98, 5 – 6).

Дзеяслоўныя формы загаднага ладу, уключаныя ў павучальныя інтэнцыі, выражаюць адкрыты зварот да рэцыпіента. Імпліцытны характар павучання дазваляе адрасату рабіць самастойныя высновы: *Закон Гасподні дасканалы: ён душу пасілкуе. Аб'ява Гасподняя пэўная, яна прастака навучае. Загады Госпада справядлівыя, яны радуюць сэрца; запаведзь Гасподняя прачыстая, яна вочы прасвятляе. Служэнне Госпаду чыстае, яно навекі трывацьме; прысуды Гасподнія правільныя, яны ўсе справядлівыя* (19, 8 – 10).

Ацэначны характар псалма рэалізуецца праз лексемы *дасканалы, пэўная, справядлівыя, радуюць, прачыстая, прасвятляе, правільныя*, якія ўздзейнічаюць на свядомасць адрасата.

Псалмы інтэрагатыўнай накіраванасці маюць дыялагічную форму: *Госпадзе! Каму дадзена будзе гасціць у палатцы Тваёй, каму жыць на гары Тваёй святой? Таму, хто жыве беззаганна і робіць справядлівасць і ад сэрца ўсяго праўду гаворыць, хто языком сваім не абмаўляе, нічога благога другому не робіць і не ўзводзіць ганьбы на бліжняга свайго* (15, 1 – 3); *Каму можна ўзысці на гару Гасподнюю і хто на месцы Яго святым стаяць мае? Той, у каго рукі бязвінныя і сэрца чыстае, хто душы сваёй да марноты не нагінае і не божыцца крывадушна, – той атрымае багаслаўленне ад Госпада і справядлівасць ад Бога, Які дапамагае яму* (24, 3 – 5).

Першая фаза інтэрактыўнага блока блізкая да рытарычнага пытання. Тым не менш такое пытанне не застаецца без адказу самога ж адрасанта. Адказ афармляецца ў форме складаназалежнага сказа, які ўзмацняе экспрэсію дыялагічнага маўлення. Некаторыя пытанні – структурна-семантычныя складнікі псалмоў – з'яўляюцца рытарычнымі, бо адказ цалкам прадказальны. Экспліцытна не выражаны, ён, аднак, абсалютна зразумелы, прадказальны для адрасата: *Дакуль, Госпадзе: ці навекі забудзеш мяне? Дакуль будзеш аблічча Сваё ўкрываць ад мяне? Дакуль пеставаць мне сум у душы маёй, тугу ў сэрцы маім*

* Новы Запавет і псалмы. – Таронта : Глабальнае місіянерскае радыёслужэнне, 1985. Далей цытаты даюцца паводле гэтага выдання.



***Таццяна Яўгенаўна Старасценка*** – *мовазнаўца. Кандыдат філалагічных навук (2001). Закончыла Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. М. Горкага (1993). Дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка. Даследуе пытанні стылістыкі беларускай мовы.*

*з дня ды на дзень? Дакуль вораг мой будзе мецьнада мной перамогу?* (13, 2 – 3); *Што за карысць у крыві ў маёй, у тым, што зыду я ў магілу? Ці пыл можа хваліць Цябе? Ці можа праўду Тваю абвяшчаць?* (30, 10).

У гэтых пытаннях адрасант выяўляе свае эмоцыі, разважаючы над адносінамі паміж сабой і Богам.

Тэкставы матэрыял псалмоў можа быць аднесены да розных часавых планаў – рэтраспектыўнага, інтраспектыўнага і цяперашняга. Псалмы рэтраспектыўнага характару звязваюцца з сённяшнім і будучым асэнсаваннем жыцця, што выражаецца адпаведнымі дзеяслоўнымі формамі: *Але ты, Госпадзе, шчыт для мяне, Ты слава мая і* ***падымаеш*** *галаву маю. Голасна* ***гукаў*** *я да Госпада, і* ***пачуў*** *мяне з гары Свае святое.* ***Кладуся*** *я і* ***засынаю****; і* ***прабуджаюся****, бо Госпад* ***бароніць*** *мяне. Не* ***палохаюся*** *я безлічы ваякаў, што* ***абступілі*** *мяне наўкола* (3, 4 – 7); *Ты* ***напоўніў*** *сэрца маё вялікшай радасцю, чым* ***маюць*** *яны, сабраўшы збожжа й віна багата. Супакойна* ***лягу*** *я і* ***засну****, бо Ты, Госпадзе,* ***даеш*** *мне жыць спакойна сярод небяспекі* (4, 8 – 9); *Госпад* ***даў*** *пазнаць Сябе, учыніўшы суд; ва ўчынках рук сваіх* ***заблутаўся*** *бязбожнік.* ***Зыдуць*** *бязбожнікі ў пекла – усе народы ў пекла, што Бога* ***забылі*** (9, 17 – 18); ***Глянуў*** *Госпад з неба на сыноў чалавечых, каб пабачыць, ці ёсць разумны, што Бога* ***шукае****. Усе чыста* ***адхінуліся****, усе* ***аказаліся папсаванымі; не было*** *нікога тамака, хто б* ***рабіў*** *дабро: нікагусенькі! Няўжо ж* ***не апамятаюцца*** *ўсе злачынцы, што народ мой* ***з'ядаюць****, быццам хлеб* ***ядуць****, ды Госпада* ***не прызываюць****? Дык* ***задрыжаць*** *яны там ад страху, бо ёсць Госпад сярод роду справядлівых!* (14, 2 – 5).

Дыялагічная форма сувязі мінулых падзей з сённяшнім і будучым часавымі планамі дазваляе адрасанту апраўдаць пэўныя падзеі, звязваючы іх з колішнімі памылкамі або, наадварот, узорнымі паводзінамі і ўчынкамі, ухваленымі Богам.

Паводле характару вылучаюцца медытацыйныя, наратыўныя, канстатыўныя, апелятыўныя і эматыўныя псалмы. Медытацыйныя жанры аформлены як разважанне: *Міласэрны Госпад і добры, да гневу няскоры й шчодры на ласку. Не назаўсёды ён гневам палае і не навекі помніць ліхое. Не водле грахоў нашых нам Ён дае і не адплачвае па правіннасцях нашых, але, як высока неба над зямлёю, так вялікая ласка Яго дзеля тых, што баяцца Яго. Як далёкі ад захаду ўсход, так далёка Ён нашы праступкі ад нас аддаліў. Як літуецца бацька над дзецьмі, гэтак Госпад літуецца над тымі, што баяцца Яго. Бо ведае Ён, з чаго злеплены мы, памятае, што мы – толькі пыл* (103, 8 – 14).

Паўторы і паралелізм канструкцый узмацняюць уздзеянне на рэцыпіента, прысутнасць якога пастаянна адчуваецца ў скрытым дыялогу. Так, адказам на пытанне *"Хто выкажа магутнасць Госпада, абвесціць усю славу Ягоную?"* (106, 2) з'яўляецца выказванне: *"Шчаслівыя тыя, што праўду захоўваюць і ў кожную часіну справядлівасць чыняць"* (106, 3). Экспліцытна рэалізуюцца толькі рэплікі аднавектарнай накіраванасці, аднак рэакцыя адказу відавочная.

Псалмы наратыўнага характару яднаюць два пласты быцця – мінулы і цяперашні, адлюстроўваючы дыялог мінулых падзей і сённяшняга жыцця чалавека: *Калі сэрца маё занямела і нутро маё калацілася, дык я розум страціў і не ведаў нічога, ды быў перад Табой, як жывёла. Але астаўся я пры Табе назаўсёды! Ты трымаеш мяне за правую руку маю. І вядзеш Ты мяне паводле Тваёй пастановы, і пасля сустрэнеш мяне ды ў пашане* (73, 21 – 24).

Гэты сегмент адлюстроўвае не толькі мінулае, што выражана дзеясловамі прошлага часу, але і сённяшні час (ужыты дзеясловы цяперашняга часу *трымаеш, вядзеш*) і нават перспектывы будучыні (яе рэалізуе дзеяслоў будучага часу *сустрэнеш*).

Псалмы канстатыўнага характару маюць антанімічны змест, што адзначаюць і даследчыкі: "Ключавой лініяй семантычнага кантрасту, якая ўдзельнічае ў стварэнні антанімічнага мікракантэксту Бібліі, з'яўляецца супрацьпастаўленне праведнасці і граху" [2, с. 4]. Яно складае аснову кантрасту паміж светам Бога і светам чалавека: *Бо ведае Ён, з чаго злеплены мы, памятае, што мы – толькі пыл. Чалавек – як трава, яго дні; як краска ў полі, так ён цвіце. Праляціць подмух ветру, і няма ўжо яго, і ўжо месца ягонае не пазнае яго. Але ласка Гасподня ад веку й да веку над тымі, што баяцца Яго, і справядлівасць Ягоная над сынамі сыноў тых, што хаваюць запавет Яго ды закон Яго памятаюць, каб спаўняць яго* (103, 14 – 18).

Бог – крыніца пастаянства, чысціні, справядлівасці, чалавек – толькі часовы госць на зямлі, і

гэтая часовасць выражаецца ў сімвалічным напаўненні лексем *пыл, трава, краска*.

Эфект кантрасту ўласцівы і публіцыстычнаму дыскурсу, што ўзмацняе ўздзеянне на адрасата.

Псалмы апелятыўнага характару маюць выразную камунікатыўную сутнасць (гэта дамінантная рыса рэлігійнага дыскурсу ў цэлым) і дыялагічную накіраванасць. Сярод іх ёсць прыклады наладжвання чалавекам кантакту з Богам і Бога з чалавекам: *Калі гукаю, пачуй мяне, Божа, Справядлівасць мая! У цясноце даваў Ты мне прасторнасць. Злітуйся нада мною і пачуй малітву маю!* (4, 2); *Выслухай словы мае, Госпадзе, паглядзі на ўздыханні мае. Пачуй гучны крык мой, Цару мой і Божа мой, бо да Цябе малюся. Спазаранку пачуй, Госпадзе, голас мой; да світання стану перад Табою і буду спадзявацца* (5, 2 – 4).

*Дык апамятайцеся, цары, зразумейце перасцярогу, суддзі зямныя! Служыце Госпаду са страхам і радуйцеся з дрыжаннем* (2, 10 – 11); *Сыны людзей: дакуль слава Мая зневажацца будзе? Дакуль марноту любіць будзеце ды ілжы шукаць?* (4, 3).

Такія псалмы могуць змяшчаць просьбу аб дапамозе і нават папрок Усявышняму: *Госпадзе, не адхіляй міласэрнасць Тваю ад мяне; ласка і вернасць Твая захавае навекі мяне* (40, 12); *Змілуйся нада мною, Божа, з ласкі Тваёй, ды праз вялікую міласэрнасць Тваю даруй мне беззаконні мае! Абмый мяне ўсяго ад правіннасцяў маіх і ачысці мяне ад грэху майго* (51, 3 – 4).

*Дакуль, Госпадзе: ці навекі забудзеш мяне? Дакуль будзеш аблічча Сваё ўкрываць ад мяне? Дакуль пеставаць мне сум у душы маёй, тугу ў сэрцы маім з дня ды на дзень? Дакуль вораг мой будзе мець нада мной перамогу?* (13, 2 – 3). Рэпліка папроку ў бок адрасата можа зыходзіць і ад Бога: *Сыны людзей: дакуль слава Мая зневажацца будзе? Дакуль марноту любіць будзеце ды ілжы шукаць?* (4, 3).

Псалмы эматыўнага характару выражаюць ілакутыўную мадальнасць праз адпаведныя сродкі. У рэпліках адрасанта могуць выяўляцца як станоўчыя эмоцыі (узвышэнне Бога, захапленне яго справамі, радасць кантактаў з Усявышнім), так і адмоўныя (скаргі на жыццёвыя праблемы і недахоп дапамогі): *Госпад добры і справядлівы, дык паказвае дарогу грэшнікам. Ён вядзе пакорных да праўды і ўбогім сцежкі свае паказвае. Усе шляхі Гасподнія – ласка ды праўда для тых, што захоўваюць запаведзь Яго і абʼявы Ягоныя* (25, 8 – 10); *Госпад ёсць светласць мая і збаўленне маё: каго ж мне баяцца? Госпад ахова жыцця майго: каго ж мне палохацца?* (27, 1); *Госпад заслона мая і мой шчыт; на Яго спадзявалася сэрца маё, і ён успамог мяне; і ўзрадавалася сэрца маё, і песняй маёю дзякаваць буду Яму* (28, 7); *Шчасце таму, каго выбраў Ты і прыблізіў, каб жыў ён у сенях Тваіх; насычацца будзем дабром Твайго дому, святога храма Твайго. Страшнымі ўчынкамі даеш нам адказ паводле Тваёй справядлівасці, Божа, – Ты, што ёсць наша збаўленне, усіх канцоў свету і далёкага мора надзея! Што ўгрунтаваў Сваёй сілаю горы і моцаю падперазаўся. Што ўсцішаеш шум мора, шум хваляў ягоных і хваляванне народаў* (65, 5 – 8); *Я заграз у глыбокім балоце бяздонным; я папаў у глыб водную, і цячэнне мяне залівае. Я знямогся ад крыку, засохла горла ў мяне; змарыліся вочы мае, выглядаючы Бога майго* (69, 3 – 4); *Усцяж зневажаюць мяне мае ворагі; і тыя, што супраць мяне паўстаюць, праклінаюць мяне. Ем я попел за хлеб і напой мой са слязьмі мяшаю праз гнеў Твой і абурэнне; бо падняў Ты мяне ды вон кінуў. Мае дні, быццам цені, знікаюць, і сохну я, быццам трава* (102, 9 – 12).

Такім чынам, рэлігійны дыскурс (у прыватнасці, псалмы) мае інтэрактыўную, або дыялагічную, накіраванасць. Унутраны дыялог рэалізуецца праз наяўнасць адрасата, адрасанта і адпаведную форму пабудовы рэплік. Знешні дыялог выяўляе сувязь рэлігійнага дыскурсу з публіцыстычным дзякуючы пабуджальнай мадальнасці, разнастайным сродкам уздзеяння, а таксама звароту да кантраставага прынцыпу асэнсавання катэгорый быцця.

**Спіс літаратуры**


1. **Бобырева, Е. В.** Религиозный дискурс : ценности, жанры, стратегии (на материале православного вероучения) : монография / Е. В. Бобырева. – Волгоград : Изд-во ВГПУ “Перемена”, 2007. – С. 224 – 299.

2. **Ильченко, А. В.** Библия как образец текста, построенного по принципу контраста : автореф. дис. … канд. филол. наук : 10.02.19; 10.02.04 / А. В. Ильченко; Педагогический институт ФГОУ ВПО “Южный федеральный университет”. – Ростов н/Д, 2008. – 24 с.

3. **Карасик, В. И.** Языковой круг : личность, концепты, дискурс / В. И. Карасик. – М. : Гнозис, 2004. – С. 266 – 276.

4. **Кот, С. О.** Дискурсний аналіз проповіді як морально-духовного жанру словесності (на матеріалі православної Різдвяної проповіді) : автореф. дис. … канд. філол. наук : 10.02.02 / С. О. Кот; Національний педагогічний університет ім. М. П. Драгоманова. – Київ, 2006. – 20 с.

5. **Савин, Г. А.** Коммуникативные стратегии и тактики в речевом жанре современной православной проповеди : автореф. дис. … канд. филол. наук : 10.02.01 / Г. А. Савин; Российский университет дружбы народов. – М., 2009. – 26 с.

6. **Савина, М. М.** Синтаксис проповедей русских священников XVIII – XIX веков : автореф. дис. … канд. филол. наук : 10.02.01 / М. М. Савина; Рязанский государственный университет. – Тамбов, 2008. – 23 с.

Алесь КАЎРУС

# КАРЭКТЫЗМЫ-РЭДАКТЫЗМЫ, або ЯК РОБІМ ПРАЎКІ

## З НАЗІРАННЯЎ РЭДАКТАРА І НАВУКОЎЦЫ

Наватвор *карэктызм* ужываецца ў мовазнаўчых публікацыях. Так называю неабгрунтаванае і няўдалае ўмяшанне ў аўтарскі тэкст, якое вядзе да з'яўлення памылкі або недакладнасці. Параўнаем структурна падобныя словы (некаторыя з негатыўнай эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай): *вульгарызм*, *жарганізм*, *паланізм*, *неалагізм*, якія ўжываюцца пры даследаванні мовы.

Здаецца, аднак, тэрмін *карэктызм* у першую чаргу падкрэслівае пралікі карэктара, хоць да "непаляпшэння" (устрымаюся казаць "псаванне") тэксту прычыняецца не ў меншай меры і рэдактар, увогуле рэдагавальнік (ім можа быць і аўтар, які цытуе чужыя тэксты). Таму двухслоўны вытвор *карэктызм-рэдактызм* больш адпавядае характару і зместу задуманага цыкла аповедаў, прысвечаных пераважна беспадстаўнаму зыначанню аўтарскага тэксту. Калі ж недакладнасці, хібы ідуць ад самога аўтара тэксту, дык у рэчышчы нашай індывідуальнай тэрмінатворчасці іх можна абазначаць словам *аўтарызмы* (далей паказваюцца галоўным чынам на матэрыяле "Кароткай граматыкі беларускай мовы", 2007).

### "...АБШАРЫЦЬ КІШЭНІ СВАЕ ПАМЯЦІ"

Не адно пакаленне беларускіх філолагаў засвоіла выказванне Якуба Коласа наконт "пашырэння рамак мовы", у прыватнасці яго жыццёва мудрую, навукова слушную параду: "Перад увядзеннем кожнага новага слова трэба добра абшарыць кішэні свае памяці, перагледзець слоўнікавыя і фальклорныя крыніцы, прыслухацца да жывой гаворкі – а можа і знойдзецца якраз тое, што неабходна, што ўжо ўжывалася і чамусьці забыта ці ўжываецца і невядома нам" ("Развіваць і ўзбагачаць літаратурную мову").

Нядаўна я ўбачыў гэтую цытату ў допісе, прысвечаным культуры мовы (ЛіМ. 19.03.2010). Прабягаў вачыма – і нібы правяраў даўно запомненае і ўсвядомленае "кіраўніцтва да дзеяння". І нават ад першага разу не заўважыў замены ключавога слова: на месцы звыклага *абшарыць* стаяла *абшнарыць*.

Неспадзяванка!.. Што адбылося?

Можа, аўтар допісу ці стыль-рэдактар палічылі, што *абшнарыць* больш па-беларуску, чым *абшарыць* (апошняе не падаецца ў БРС-1962). Але, паводле ТСБМ, абодва гэтыя словы стылістычна раўназначныя – гутарковыя. Апрача таго, слова *абшарыць* часцей ужывальнае. Нават з гэтай, чыста моўнай прычыны (калі не браць пад увагу наогул недапушчальнасць "удасканалення" тэксту класіка) зробленая замена неправамерная. Іншая рэч, калі б аўтар допісу ў працэсе тэксталагічных назіранняў выявіў і давёў, што гэтую замену (у нейкім варыянце тэксту) прапанаваў сам Якуб Колас. Але ў такім разе трэба даць адпаведную заўвагу.

### "...БЫЦЬ ГАТОВАМУ ДАЦЬ ВУЧНЯМ ТЛУМАЧЭННЕ"

Адзін мой артыкул у часопісе "Роднае слова" (2009. № 7) завяршаўся парадай: "Што можна параіць настаўніку? Рыхтуючыся да заняткаў, трэба ўважліва перачытваць тэксты, сказы на прадмет іх адпаведнасці патрабаванням культуры мовы і стылістыкі і пры выяўленні хібаў, памылак **быць гатоваму** даць вучням лінгвістычна і метадычна прыдатнае тлумачэнне".

Праз нейкі час гэты артыкул стаў састаўной часткай, ці, як цяпер кажуць, складовікам рыхтаванай кнігі. Чытаючы рукапіс, рэдактар злёгку падкрэсліла слова *гатоваму*, засумняваўшыся, ці ўжываецца яно ў беларускай мове. Без пярэчання аўтар улічыў заўвагу – замяніў форму давальнага склону прыметніка *гатоваму* на форму творнага склону *гатовым*, якая ў прыведзенай вышэй цытаце загучала для рэдактара болей звыкла (*быць гатовым*), хоць у кантэкст яна ўпісваецца не лепш.

Праўка невялікая, "шараговая", але яна асела ў памяці. Не-не дый уздумаецца пра яе. Чаму я напісаў *быць гатоваму*? Напэўна, тут не мая моўная самачыннасць, напэўна, так ёсць у беларускай мове (што я і пераняў, можа, нават неўсвядомлена).

Звярнуўся да лінгвістычнай літаратуры. У "Граматыцы беларускай мовы. Т. II. Сінтаксіс" (Мінск, 1966) такі спосаб выражэння выказніка не адзначаны. Гэтак – і ў "Кароткай граматыцы беларускай мовы. Ч. 2. Сінтаксіс" (Мінск, 2009). Далей паспрабаваў правесці пошук непасрэдна ў літаратурных тэкстах. Вынік не прымусіў сябе чакаць.

Выказнік, у складзе якога выказальнае слова – прыметнік, дзеепрыметнік, лічэбнік, – стаіць у форме давальнага склону, ужывалі пісьменнікі розных пакаленняў (у некаторых прыкладах такая словаформа выконвае ролю іншых членаў сказа).

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 1.*

*Важна адно – **быць жывому**, жыць і змагацца*; *– Дазвольце мне, як старшыні сходу і нашага бюро, **падпісацца першаму**, – дадаў ён*; [Бабка Параска:] *Няхай пакідаюць яго* [свет] *ліхія людзі, а вам жыць яшчэ ды **жыць** і не **аднаму**, а з прыгожаю жонкаю!* (Я. Колас. На ростанях). *Платон падаў сваё рашэнне ў рэўкоме **ехаць** яму **першаму*** (Ц. Гартны). *Пад'ела* [Жэнька] *спяшаючыся – Петрык не даваў. Яму ўжо даўно абрыдла **сядзець прывязанаму*** (К. Крапіва). *Не, **весялейшаму** / Трэба **быць**, а я плачу – пяю* (А. Гарун). *Павіталіся мы сцюдзёна і смешна… І спярша – "рукі па швам", мусіць, каб **першаму** не **павітацца** са мною за руку ці ад неспадзяванасці* (М. Гарэцкі). [Стары:] *Пройдзеш, дзеткі. Толькі тут нацяхнькі балота. Мабыць, **босаму прыйдзецца пераходзіць***; *Нядобра **быць аднаму** ў такі вечар* (Я. Скрыган). [Зелянюк:] *Трэба **быць хітраму**, Тацяна*; *Ён напружыў усе сілы, каб **быць спакойнаму*** (М. Зарэцкі). *…Каб праставаць роўную, правільную дарогу, каб што найболей ад тае* [старое] *бытнасці **адменнаму быць**, нашай рэвалюцыяй зазначылі сябе* [начапіўшы чырвоны бант]; [Волька:] *Чаго там надта **лезці першаму**. Хай хто накшы* (Л. Калюга). *Пясок на дарогах перагараў на мяккі прысак. **Босаму** па ім нельга было **ступіць** аднаго кроку – пякло* (І. Чыгрынаў).

Разгляданыя ўжыванні сустракаюцца і ў мове сродкаў масавай інфармацыі: *Пісьменнік хоць і любіў выпіць, але не дазваляў сабе **сесці** за пісьмовы стол **нецвярозаму*** (Наша Ніва. 1.12.2010). *У музей можна **прыйсці аднаму** ці з сябрам* (Беларускае радыё. Канал "Культура". 23.01.2011).

Нават з гэтых нешматлікіх прыкладаў (збіраных не праз гады, а выпісаных за колькі разоў "пад артыкул") відаць, што канструкцыя тыпу *быць гатоваму* ў беларускай мове ёсць і ў маім тэксце з'явілася не выпадкова. А не прайшла на старонку кнігі толькі таму, што сталы (і ўжо стары) аўтар без спробы супраціўлення здаўся маладому рэдактару. Наўрад ці можна лічыць такую пазіцыю аўтара вартай пераймання.

#### *СЦЮДЗІНА, СЦЮДЗЕНА, СЦЮДЗЁНА*

Разглядаючы верш Максіма Танка "У гэты дзень" (Роднае слова. 2010. № 10), у прыватнасці, абгрунтоўваючы меркаванне, што аўтарскае безасабова-прэдыкатыўнае слова *сцю́дзіна* пры публікацыі твора было заменена (магчыма, рэдактарам ці карэктарам) на слова *сцюдзёна*, я спаслаўся на "Слоўнік Гродзенскай вобласці" Т. Сцяшковіч, у якім зафіксавана слова *сцю́дзіна*, і на сваю родную (в. Брусы) гаворку, дзе ўжываецца слова *сцю́дзена*.

Спаслаўся – ну і на здароўе, можа сказаць чытач. Навошта згадваць такі нязначны факт?

У сапраўднасці слова *сцюдзіна* вымагае таго, каб зноў да яго вярнуцца. Калі ў вершы Максіма Танка (аўтограф) *сцюдзіна* ўжыта як безасабова-прэдыкатыўнае слова, дык у слоўніку Т. Сцяшковіч яно характарызуецца як назоўнік жаночага роду. І ўсё ж я палічыў патрэбным выкарыстаць гэтае слова, каб пацвердзіць яго наяўнасць у беларускіх гаворках. Бо з ілюстрацый-сказаў пры слове *сцюдзіна* зразумеў, што яны неадэкватна былі ўспрынятыя запісвальнікамі дыялектнай лексікі ці ўкладальнікам дыялектнага слоўніка.

Прачытаем гэты слоўнікавы артыкул.

СЦЮДЗІНА *ж.* Холад, мароз. Натта с'ц'ўдз'ина была надойчы, аш трыццаць градусаў марозу. Сялец Смарг. Ну й с'ц'удз'ина ў хац'е, йак вы ц'ерп'иц'а? Угляны Смарг.

Калі *сцюдзіна* – холад, **мароз**, дык навошта паўтараць яшчэ раз (*трыццаць градусаў* **марозу**). Прыслоўе *надта* ў якасці азначэння да назоўніка звычайна не ўжываецца. Апытваныя маглі б сказаць: *Моцная (вялікая) сцюдзіна*. А вось прыслоўі *надта*, *вельмі*, *моцна* з безасабова-прэдыкатыўным словам спалучаюцца звыкла: *Надта сцюдзіна (сцюдзена, сцюдзёна), вельмі сцюдзіна* і пад.

Магчыма, занатоўваючы слова *сцюдзіна* і яго ілюстрацыі, запісалі дзеяслоў *было* невыяўна, падобна да *была*. А можа, адразу няправільна ўспрыняўшы *сцюдзіна* як назоўнік, дыялектолагі "падагналі" да яго форму дзеяслова. Гэтаму магло паспрыяць слова *халадзіна*.

Што да другога сказа, дык яго змест і будова цалкам адпавядаюць таму, каб слова *сцюдзіна* лічыць за безасабова-прэдыкатыўнае слова. Як прыслоўе тлумачыцца яно ў "Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе паграніччя".

Як бачым, карэктаванне ілюстрацыйнага матэрыялу не дазваляе даць дакладную семантычную і граматычную характарыстыку слова. Запісы жывой мовы для мэт лінгвістычнага даследавання рэдагавання не дапускаюць.

#### "АСЦЕРАГАЙМАСЯ ПАМЫЛАК"

Пад такою назваю здаў у рэдакцыю "ЛіМа" артыкул. У карэктуры выправілі: "Асцерагайцеся памылак". Гэткага адкрыта і традыцыйна настаўніцкага тону (маўляў, вы, вучні, не ведаеце – я, настаўнік, ведаю) нельга было прыняць. У маіх публікацыях з абсягу культуры мовы праводзіцца, высноўваецца думка, што вучыцца павінны ўсе: і той, каго вучаць, і той, хто вучыць. Карацей кажучы, вучыць – і вучыцца!

Аналагічны сэнс перадаецца формай загаднага ладу дзеяслова *асцерагаймася*: заклікаем не дапускаць памылак не толькі чытача (слухача), але разам і самі сябе. Сказана дакладна, сцісла (паводле прынцыпу "эканоміі моўных сродкаў") і па-беларуску. Іншыя магчымыя варыянты: *Да-*

*вайце асцерагацца памылак*, *Будзем асцерагацца памылак*, *Трэба асцерагацца памылак* – саступаюць сінтэтычнай форме адэкватнасцю і выразнасцю выказвання думкі.

Выслухаўшы мае меркаванні, рэдактар не сказаўшы ні слова пярэчання аднавіў ранейшы загаловак "Асцерагаймася памылак" (ЛіМ. 25.07.2003). Зазначым, што сама па сабе гэтая форма ў рэдактара не выклікала заўваг: аўтары "ЛіМа", пісьменнікі, журналісты – знаўцы беларускай мовы – нярэдка ўжываюць дзеясловы загаднага ладу з канчаткам *-ма* (*-мо*): *будзьма разам*, *згадайма* і пад.

### "ПІ ЖА МІЛА І ВЯСЁЛА, МІЛАЯ ПТАШКА…"

Прачытаўшы нясконачаную частку сказа з апавядання Цішкі Гартнага "Думкі беларуса", можна падумаць, што нехта запрашае птушку выпіць, напіцца вады. Але з кантэксту твора (перад цытаваным сказам распавядаецца: "Ці ж не чуваць, як ужо **пяе** першы жаваранак ідучага адраджэння?!") відаць, што гаворка ідзе пра птушку, якую апавядальнік заклікае спяваць.

У першым выданні твора было: "**Пей** жа міла і вясёла, мілая пташка…" [Наша Ніва. 13(26).08.1909].

Перад намі яскравы прыклад таго, як рэдактар ці карэктар правіць тэкст толькі на падставе формы слова, зусім не думаючы пра змест (у дзеяслове *пей* ім убачылася і пачулася *пі* 'спажывай вадкасць'). Што слова перакручана механічна, пацвярджаецца і тым, што за ім стаіць часціца *жа*, хоць (пасля галоснага) павінна быць *ж*.

Увогуле не пашанцавала формам загаднага ладу дзеясловаў пры выданні і перавыданні твораў Цішкі Гартнага ў зборніку "Завяўшая краса" (Мінск: Мастацкая літаратура, 2001).

Так, правільную аўтарскую форму загаднага ладу першай асобы множнага ліку з канчаткам *-ем* (*-эм*), якая з'яўляецца нарматыўнай і ў нашы дні, карэктары выпраўляюць на форму з канчаткам *-ём* (*-ом*): *– **Ідзём, ідзём** хутчэй!.. Паганыя, як у іх усё скора робіцца! Ці бачыш ты? – паўшэптам выказаў ён ні то да дзяўчат, ні то сам да сябе…* ("Трэскі на хвалях").

Добра, што хоць зроблена гэта не па ўсіх творах (зборнік вычытвалі да друку чатыры карэктары): *Хлопцы жартавалі: – Давайце **запяем** вясельную* ("Праводзіны").

Не ўсе рэдактары, карэктары распазнаюць, размяжоўваюць у тэксце формы абвеснага і загаднага ладу дзеяслова. Ведаючы, што ў 1-й асобе множнага ліку цяперашняга і будучага часу ўжываецца (вымаўляецца, пішацца) канчатак *-ём* (*-ом*) (*ідзём вуліцай*), і баючыся, хаця б не парушыць гэтага правіла, яны заадно, механічна пераносяць яго [канчатак *-ём* (*-ом*)] і на загадны лад: *ідзём на двор!* (замест правільнага *ідзем* / *хадзем на двор*).

### "БЕРАГ, ПАДМЫВАЕМЫ ВАДОЮ…"

Запаў у памяць прыклад з даўняга ці то падручніка мовы, ці то метадычнага дапаможніка: *Бераг, **падмываемы вадою**, абсоўваўся…* Асноўнае тут – выдзеленае словазлучэнне. Нейкаму аўтару трэба было праілюстраваць сказам аўтарытэтнага пісьменніка, што ў беларускай мове такія дзееприметнікі ўжываюцца.

Шкада, сёння гэтую кнігу знайсці не магу. Запомніўся ж сказ не толькі таму, што з гадоў вучнёўства любіў запамінаць прыклады да правілаў, каб карыстацца імі як узорамі. Падчас вучобы ў аспірантуры і пасля, калі глыбей знаёміўся з мовай Якуба Коласа, даводзілася не раз бачыць (чытаць) у апавяданні "У старых дубах" сказ у аўтарскай рэдакцыі: *Ад доўгіх часаў бераг **падмываўся вадою**, паволі асоўваўся і агаляў тоўстыя карэнні старога дуба.*

Коласаўскі сказ мае натуральную, у адпаведнасці з беларускай граматыкай будову, і патрэбны сэнс дакладна выказаны ў ім без дапамогі неўласцівага беларускай мове дзееприметніка.

З фактамі пераробкі (і нават падробкі) аўтарскіх сказаў я неаднойчы сутыкаўся і пазней, калі працаваў рэдактарам у выдавецтве "Народная асвета" (1974 – 1981).

Аўтар метадычных дапаможнікаў і суаўтар падручніка "Беларуская мова" для IV класа школ з беларускай мовай навучання прыдумляў сказы і падпісваў іх як Коласавы. Накшталт: *Пралятаалі гусі / Ў небе Беларусі*. Пытаюся: "З якога твора сказ? Прыдумалі самі?" Запытаны вінавата-горка ўсміхнуўся: "Адкуль пазнаў?" – "Якуб Колас можа б напісаў: …*Небам Беларусі* ці яшчэ як… А ўвогуле сказ роблены, псеўдамастацкі".

Але аднаго разу не дапусціць "суаўтарства" гэтага настаўніка-ветэрана з Якубам Коласам не ўдалося. У табліцы па беларускай мове ён замяніў у сказе Якуба Коласа дзееприметнік *зарослы* на *заросшы*, якога вымагала тэма. Табліца была ўжо гатовая, трэба падпісваць у друк. Я не пагадзіўся. На яго бок стаў галоўны рэдактар. Удвух націснулі на мяне…

Увогуле з гэтым аўтарам працаваць было нялёгка. Не памятаю, з якім яшчэ словам была падобная гісторыя. Ён ніяк не хацеў пісаць яго паводле літаратурнай нормы. Нават схадзіў на прыём да першага намесніка міністра асветы. І тая распарадзілася: "Пісаць так, як піша Ш-к".

Калі думаю, разважаю пра дзееприметнікі, пра іх ужыванне, карціць сказаць уголас: "У маіх навуковых публікацыях (больш як 250) я не ўжыў ніводнага дзееприметніка з суфіксамі *-уч-*, *-юч-*, *-ач-*, *-яч-*, *-ем-*". Але я не магу безагаворачна агучыць ці "алітарыць" гэтую думку. І вось чаму.

У маім артыкуле "Аб'ект даследавання – стылістыка", надрукаваным у "Настаўніцкай газеце"

(13.02.1974), рэдактар ці карэктар паправіў сказ: “Мы разглядалі прыназоўнікі *праз* і *цераз* якраз у стылістычным кірунку, у плане выбару слова, **найбольш адпавядаючага** стылю паведамлення (і, вядома ж, паняццю)”.

У аўтарскім варыянце было: *найбольш адпаведнага* (ці *якое найбольш адпавядае*). Значыць, дзеепрыметнік мне ўзычылі супрацоўнікі рэдакцыі.

За што не магу ім падзякаваць. Але перапрашаю мажлівага чытача гэтага даўняга артыкула.

Заадно хочацца сказаць, што выпрацаваць пазіцыю адносна дзеепрыметнікаў дапамог мне артыкул «Пра лямант *-уючых* і “лемантуючых”» (Полымя. 1964. № 7). Гэтая згадка – і мая шчырая ўдзячнасць яго аўтару Анатолю Клышку.

Падчас вучобы на гісторыка-філалагічным факультэце (1954 – 1959) мы, студэнты, такой навукі не атрымалі, пра што могуць сведчыць недрукаваныя фантазійна-альбомныя радкі:

Не з адною вуліцаю крочыў –
Толькі пра адну цябе пішу,
Бо з дзяўчат, **трапляўшых** мне на вочы,
Ты адна патрапіла ў душу.

**НЕ КОЖНЫ ЛЕЎ – МІКАЛАЕВІЧ, А ІВАН – ПАЎЛАВІЧ**

Канец 1980-х. У выдавецтве “Народная асвета” рыхтуецца да друку кніга – аповесць “Дорогие мои мальчишки”. Набралі і вычыталі тэкст, мастак зрабіў афармленне. На вокладцы і тытуле прозвішча аўтара: Лев Кассиль.

Далей праца над кнігай вялася ў новым выдавецтве “Юнацтва”, якое было заснавана ў студзені 1981 г. на базе рэдакцый выдавецтваў “Мастацкая літаратура” і “Народная асвета”.

І вось кніга выйшла. Гартаю (я ж адзін з двух рэдактараў). Увага спынілася на так званых выхадных дадзеных: “Лев **Николаевич** Кассиль”.

Жах! Ён жа Леў Абрамавіч!

Памылка магла ўзнікнуць так. Звычайна на апошняй старонцы кнігі даюцца звесткі пра выданне, у тым ліку поўнае імя і прозвішча аўтара. Робяць гэта ў тэхнічнай рэдакцыі, але, як правіла, паводле ўзгодненасці з літаратурным рэдактарам.

На гэты раз тэхрэдактар вырашыў абысціся сваім філалагічным досведам, напэўна, разважаючы: славуты пісьменнік – Леў Талстой, па бацьку ён – Мікалаевіч. Леў Касіль таксама знакаміты пісьменнік. То хіба ж ён можа быць не Мікалаевіч?

Прыкладна гэтак – напаўжартоўна і напаўсур’ёзна – тлумачыў я сам сабе прычыну выдавецкай прамашкі ў той далёкі час.

Цяпер жа, калі пісаў гэтую нататку, адкрыліся новыя дэталі.

Звярнуўся ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі. Каталог паказаў: сярод дзясяткаў выданняў твораў Л. Касіля на рускай мове, ажыццёўленых рознымі выдавецтвамі СССР, няма ніводнага, дзе імя па бацьку гэтага пісьменніка было б Николаевич, а не Абрамович.

Але мая праца з каталогамі не была марнай. Высветлілася: Львом Мікалаевічам назвалі Касіля ў выданнях твораў, якія выйшлі ў Мінску ў перакладзе на беларускую мову. Напрыклад: Касіль Леў Мікалаевіч. Ільдзіна-халадзіна. Дзяржвыд, 1935; Леў Мікалаевіч Касіль. Выбуховы груз і іншыя апавяданні. Дзяржвыд БССР, 1947.

Сёння, бадай, немагчыма высветліць, ці была сувязь нашай памылкі з даўнімі перакладамі твораў Л. Касіля. А вось на пытанне “Чаму Льву Касілю змянілі імя па бацьку ў нас на Беларусі?” адказ маглі б даць гісторыкі і палітолагі.

Падобная гісторыя – замена імёнаў па бацьку – здарылася і з беларускімі пісьменнікамі.

Выдавецтва “Народная асвета” апублікавала кнігу І. Шамякіна “Трывожнае шчасце” (1973). У выхадных дадзеных надрукавана: Иван Павлович Шамякин. Зразумела, Шамякіна пераблыталі з Іванам Паўлавічам Мележам. Іван Пятровіч, як расказвалі ў выдавецтве, досыць спакойна, з разуменнем паставіўся да гэтага недагляду. Хоць ён ужо быў аўтарам папулярных раманаў, але і Мележ на сваім рахунку меў выдатныя творы “Людзі на балоце”, “Подых навальніцы”. І, мабыць, не меншая, чым у Шамякіна, была яго чытацкая вядомасць і грамадская значнасць. Можна сказаць, на той час гэтыя аўтары-цёзкі, аўтары-землякі належалі да адной вагавай катэгорыі. Дык і збліжэнне іх па лініі роднасці – “прыпісванне” ім аднаго бацькі – напэўна, не зусім выпадковае, механічнае.

А вось яшчэ “анамастычная” згадка, што прыпадае на пачатак цяперашняга, XXI стагоддзя.

Галоўны рэдактар часопіса прапанаваў раскрыць ініцыялы беларускіх пісьменнікаў (П. Броўка, П. Глебка і інш.) у рыхтаваным да друку артыкуле. І рэдактар, дарэчы, на думку супрацоўнікаў часопіса, аўтарытэтны, кваліфікаваны, зараз жа напісала: Пятро Броўка, Пятрусь Глебка…

А побач, у кніжнай шафе пры сцяне, стаяла БелСЭ (галоўны рэдактар яе Пятрусь Броўка), іншыя даведнікі, выпушчаныя выдавецтвам “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”. Падысці і адгарнуць патрэбны том – цяжэй, лепш – паспадзявацца на сваю памяць.

І нарэшце такое.

Звычайна пры пашпартызацыі сказаў-прыкладаў у дужках ставіцца пачатковая літара імя і цалкам прозвішча аўтара: (*А. Асіпенка*). Але ў адным выпадку ў мяне было напісана: (*Аркадзь Марціновіч*). Пільны рэдактар заўважыла гэта і *Аркадзь* замяніла на *А.* Пры гэтым растлумачыла: “Трэба захоўваць паслядоўнасць падачы ілюстрацыйнага матэрыялу”. Я папрасіў даць

цалкам імя пісьменніка – дзеля дакладнасці: *А. Марціновіч* расчытваецца і як Алесь Марціновіч (вядомы пісьменнік).

Паслядоўнасць часам даводзіцца парушаць.

**"СЛОВА НАША РОДНАЕ"**

Рэдагуючы рукапіс "Беларуская мова. Падручнік для 4 класа школ з рускай мовай навучання" (выйшаў у 1978 г.), мне давялося самому шукаць верш пра родную мову: той, што прапанавалі аўтары, не падыходзіў. У 70 – 80-я гады была завядзёнка такім вершам пачынаць падручнік.

Цэлы суботні ці нядзельны дзень перабіраў (і чытаў) зборнікі, тамы беларускіх паэтаў, балазе яны былі даступныя – выстаўленыя на паліцах у Дзяржаўнай бібліятэцы Беларусі. І, на шчасце, знайшоў шуканае – верш Петруся Броўкі "Родныя словы".

Тады падумалася: я, жывучы ў вялікім горадзе, сталіцы Беларусі, гэтулькі часу затраціў на пошук. А як жа недзе там, у далёкай вёсцы або мястэчку, настаўнік знойдзе патрэбны тэкст? Так узнікла ідэя скласці кнігу твораў пра родную мову, дадаўшы да іх метадычныя парады.

Звярнуўся з гэтай прапановай у выдавецтва "Юнацтва". Загадчыца рэдакцыі Алена Васілевіч з увагай і разуменнем паставілася да маёй задумы-клопату, прапанавала і дапамагла напісаць заяўку.

Падганяны дабрачынным "самаабавязкам", узяўся за працу. Праз нейкі час здаў рукапіс у выдавецтва. Рэдактар Ніна Травінская (прозвішча зменена) азнаёміла мяне, здаецца, чамусьці вусна, з сваім фактычна адмоўным водгукам: "Каб нас за гэту кнігу не абвінавацілі ў нацыяналізме!" Можа, да ідэйна шкодных яна залічыла верш Уладзіміра Караткевіча "Беларуская песня", які сёння гучыць як неафіцыйны гімн Беларусі? Ці вершы Янкі Купалы, Максіма Танка…

Што я мог сказаць ёй, дарэчы, літаратару? Пераконваць, выхоўваць яе, ужо сталую, з грамадска вызначанай пазіцыяй, у новы, перабудовачны час?

Рукапіс прыйшлося забраць. Але, як той казаў, свет не без добрых людзей. Прыняла рукапіс да друку галоўны рэдактар выдавецтва "Народная асвета" Юлія Бураўкіна. У рэшце рэшт кніга "Слова наша роднае" выйшла ў свет (1986). І ёю карыстаюцца ў школах і ВНУ.

Для чытачоў часопіса "Роднае слова", спадзяюся, могуць мець цікавасць некаторыя пытанні, якія ўзнікалі падчас працы над тэкстамі, што падаюцца ў гэтай кнізе.

Побач з лінгвістычна-інфармацыйнай змястоўнасцю браўся пад увагу культурамоўны аспект твора (яго фрагмента) – найперш правільнасць мовы.

Выявіліся асобныя недакладнасці, хібы ў падбіраных тэкстах. Што рабіць у такім разе аўтару (укладальніку) кнігі? Пры мажлівасці ўступаць у кантакт з аўтарам тэксту.

У вершы Юрася Свіркі "Словы" ў першапублікацыі (ЛіМ. 29.04.1983) другая страфа мае рэдакцыю:

У нас хапае слоў сваіх
(Іх пазычаць няма патрэбы)
Ад чыстых даляў веснавых,
Ад глыбіні ўлетку неба.

Сказ, што ў дужках, гучыць занадта катэгарычна (мовы не абыходзяцца без пазычання). Апрача таго, гэтая думка выказваецца ў радку *У нас хапае слоў сваіх*, які, відазменены, ужыты ў вершы 6 разоў.

Паэт улічыў заўвагу – замяніў радок: *Святлістых, важкіх, нібы глеба.*

Нейкую моўную хібу (якую – забыўся) убачыў я ў добрым вершы Сяргея Законнікава. Патэлефанаваў яму (ён рабіў тады ў ЦК КПБ). Адказ быў своеасаблівы: праз некалькі дзён у "ЛіМе" ўбачыў новы верш С. Законнікава "Добрае слова". Яго я і ўзяў у кнігу. Але шкадую, што ў яе не трапіў і той, раней знойдзены мною верш.

Зразумела, калі аўтара няма ў жывых, справа вельмі ўскладняецца: выправіць у яго тэксце тую ці іншую недакладнасць, хібу, памылку амаль немагчыма.

***"Можа мовы чужой навучуся…"***

Гэта радок з верша Ларысы Геніюш "Мая мова", які пачынаецца страфой:

Ў добры час, на улонні вясковым,
дзе вадзіца крынічная б'е,
навучыўся я матчынай мове
і задуманых песняў яе.

Кідаецца ў вочы граматычная непаслядоўнасць. Дзеяслоў *навучыўся* мае пры сабе два залежныя, злучаныя пры дапамозе злучніка *і* назоўнікі – *мове*, *песняў*. У такім кантэксце, ужытыя як аднародныя дапаўненні, яны павінны мець форму або толькі давальнага (*мове*, *песням*), або толькі роднага склону (*мовы*, *песняў*).

Паспрабуем растлумачыць узніклую супярэчнасць. Напэўна, пры публікацыі верша ў зборніку "Невадам з Нёмана" (Мінск, 1967) рэдактар (А. Кудравец) ці карэктар (Л. Ванчук) зрабіў праўку першапачатковага (аўтарскага) словазлучэння *навучыўся матчынай мовы* паводле сучаснай літаратурнай нормы, а частку сказа пакінуў без змен. Такое меркаванне пацвярджаецца іншымі радкамі верша: *Можа **мовы** чужой **навучуся**, / каб суседзяў гасцінна вітаць.*

Калі б назоўнікі былі аднолькава ўжытыя ў форме роднага склону (*мовы*, *песняў*), памылкі не было б: такія варыянты вядомыя беларус-

кай літаратурнай мове. Напрыклад, паслядоўна ўжываюцца ў творах Ядвігіна Ш. (*Чэшскае дзіця павінна **вучыцца** чэшскіх **прыказак**, **вершаў**, **песень** і народных **танцаў**…*), сустракаюцца ў вершах Янкі Купалы (***Наўчыўся** я **слоў** беларускіх ад маці*), у іншых пісьменнікаў.

І ўсё ж верш "Мая мова" я падаў у кнізе "Слова наша роднае" (1986) паводле першапублікацыі – рабіць праўку ўстрымаўся.

На жаль, памылка ідзе далей. У каментарыях да зменених "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" (2008) чытаем: "У вершаваных тэкстах для захавання рыфмы замест *у* складовага можа пісацца *ў* нескладовае (і наадварот): *Ў добры час на улонні вясковым, дзе вадзіца крынічная б'е, навучыўся я матчынай мове і задуманых песняў яе* (Л. Гаўрылкін)" (Роднае слова. 2009. № 6).

Да граматычнай хібы, якая была ў вершы, далася новая: пераблытана прозвішча аўтара.

Як з'явілася апошняя памылка? Мо ў нейкіх лінгвістычных картках-прыкладах прозвішча і імя пісьменніка былі пададзены скарочана: *Л. Г.* А каментатары правілаў гэтае скарачэнне раскрылі наўздагад. Ці, можа, які дасціпнік пажартаваў з мовазнаўцаў наконт іх літаратурнай дасведчанасці? Але ж цяпер яны "падмацаваліся" за кошт даследчыкаў з Інстытута літаратуры – аб'яднаныя ў адной навуковай акадэмічнай установе. І маюць усе магчымасці (і правы) паспяхова вырашаць праблемы аўтарства тэксту, яго аўтэнтычнасці.

Ці трэба нагадваць, што для ілюстравання правілаў належыць браць словы, сказы, тэксты без памылак?!

### *"…І вяшчала людзям лёс"*

Тады, пры падрыхтоўцы рукапісу кнігі "Слова наша роднае", была заўважана хіба ў страфе з верша Паўлюка Пранузы "Родная мова".

Зязюля кукавала ў лесе
**І вяшчала людзям лёс**;
Парашутысткаю Алеся
Ляцела з сінявы нябёс.

Сказаць вобразна, страфа кульгае на адзін радок. Памятаю, глядзеў гэты верш у зборніках розных гадоў, але іншай рэдакцыі радка не выявіў. Цяпер, працуючы над артыкулам, звярнуўся да першапублікацыі (Беларусь. 1945. № 11-12):

Зязюля кукавала ў лесе,
**Людзям угадваючы лёс**.
Парашутысткаю Алеся
Ляцела з сінявы нябёс.

У такой рэдакцыі другі радок страфы даецца і ў зборніку П. Пранузы "У дальнім раёне. Вершы" (Мінск, 1954).

Такім чынам, першапачаткова радок быў няўсечаны, "поўны". Далей магло быць так. Аўтар сам ці на прапанову рэдактара зрабіў выпраўленне: *Зязюля кукавала ў лесе / І вешчавала людзям лёс*. Дзеяслоў *вешчаваць* ужываецца ў беларускай мове, падаецца ў ТСБМ. Але раней ён мог быць невядомы рэдактару ці карэктару, і яго замянілі болей пашыранай формай *вяшчаць*. Як бы ні было ў сапраўднасці, рэдактар і карэктар аказаліся не на вышыні: дапусцілі псаванне аўтарскай страфы, а значыць і ўсяго верша.

### *"…Штогод – то перахрышчваюць вуліцу"*

У вершы Максіма Танка "Была калісьці…" ёсць радкі: *Але галовы адміністрацыйныя / **Штогод** – то перахрышчваюць вуліцу…*

І пры ўключэнні верша ў кнігу "Слова наша роднае" (1986), і пасля кожны раз, калі ён трапляў на вочы, штосьці не дазваляла (і не дазваляе) прыняць *штогод* як складанае слова – прыслоўе.

Пад радкамі, у якіх яно ўжыта, "прасвечваецца" канструкцыя: *Але галовы адміністрацыйныя / Што ні год – то перахрышчваюць вуліцу…* Слова *год* з'яўляецца тут назоўнікам, які ўваходзіць у акалічнаснае спалучэнне *што ні год*. Так яно ўспрымаецца і ў вершы (чаму дапамагае частка парнага злучніка *то*).

Зрэшты, канструкцыя *Што год, то перахрышчваюць вуліцу* хоць рэдкая, але не індывідуальна-аўтарская, яна мае аналаг у жывой народнай мове: *Што край, то абычай* (Прыказка). Параўнаем: *Што ні край, то абычай*.

А вось пісаў Ядвігін Ш.: *Апрача платы, бываюць і гасцінцы на святы, а **што пяць гадоў** плата павялічваецца амаль не ўдвая* ("Золата").

Выяўляюцца падставы да таго, каб пап(аналізную) лексічную адзінку *штогод* разглядаць (і пісаць) як два асобныя словы: элемент парнага злучніка *што* і назоўнік *год*.

Гэтае разважанне-вывад падмацоўваецца ТСБМ. У ім падаецца часавы злучнік *што* ў значэнні 'як толькі': – *Будзе і наша свята. **Што дзень** – то бліжэй яно* (Я. Брыль).

І, бадай, самае галоўнае – першапублікацыя верша (Полымя. 1963. № 3): *…**Што год** – то перахрышчваюць вуліцу.*

Параўнаем: *І раптам з Домскай вежы проста ў хмары / Ўзняліся з хрыплым крыкам крумкачы, / Як чорныя крыжы вякоў мінулых; / **Што год**, то крыж* (У. Караткевіч. Мая Іліяда. Мінск, 1969, с. 20).

Такім чынам, у разгледжаным выпадку напісанне *штогод* – арфаграфічная памылка, зробленая ў выдавецтве. Яе можна і трэба выправіць у наступных публікацыях верша. Зрабіць гэта павінны тэкстолагі. Але пакуль тое ды сёе, я ўзяў на сябе смеласць і напісаў у радку з верша Максіма Танка ***што год*** у маёй кнізе "Да свайго слова" (Мінск, 2011).

*Заканчэнне будзе.*

*Малады даследчык прапануе*

# ВЕРБАЛІЗАЦЫЯ ЭТЫКЕТНЫХ ЖЭСТАЎ У ЭПІСТАЛЯРНЫМ ТЭКСЦЕ

## З ЛІСТАВАННЯ РЫГОРА БАРАДУЛІНА І ВАСІЛЯ БЫКАВА

Жэстам у "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы" называецца "рух рукі, галавы, які абазначае што-небудзь або суправаджае размову" [6, с. 203]. У семіётыцы словам *жэст* абазначаюць рухі цела (не толькі галавы ці рук), якія служаць канвенцыянальнымі знакамі, што адрознівае жэсты ад фізіялагічных рухаў. Асобны падклас значымых жэстаў складаюць этыкетныя жэсты, якія "выконваюцца ў канкрэтных, строга фіксаваных сітуацыях у якасці элемента, што перадае ці інфармацыю пра структуру калектыву, у яны ўключаны выканаўца жэста, ці інфармацыю пра тып сітуацыі, якая разгортваецца" [3, с. 196]. Да іх адносяцца жэсты вітання і развітання, застольныя, дыпламатычныя, рэлігійныя і некаторыя іншыя. Асаблівасцю прагматычных каардынат ліста (я – ты – тут – зараз) з'яўляецца дыстантнае размяшчэнне камунікантаў у часе і прасторы, што вядзе да вербалізацыі жэстаў, якія суправаджаюць кантактныя зносіны. Разгледзім асаблівасці слоўнага адлюстравання этыкетных жэстаў у перапісцы класікаў беларускай літаратуры Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна [2; 5].

У ліставанні пісьменнікаў, што ахоплівае 43 гады (1960 – 2003) і змяшчае 203 беларускамоўныя (133 барадулінскія і 70 быкаўскіх) лісты і паштоўкі*, адзначаны наступныя вербалізаваныя жэсты (далей ВЖ): "абдымкі", "паклон", "пацалунак", "біццё чалом", "кленчанне", "хіленне галавы", "хіленне чала". Названыя ВЖ перадаюцца ў перапісцы моўнымі адзінкамі, якія з'яўляюцца дэрыватамі этыкетных жэстаў і валодаюць адметнымі прагматычнымі, семантычнымі і стылістычнымі характарыстыкамі. Звяртае на сябе ўвагу тое, што ў перапісцы няма намінацый поціску рукі, характэрных для беларускага эпісталярыю XX ст. Напрыклад: *Затым цісну моцна Вашу руку* (Я. Купала. Ліст да Б. Эпімаха-Шыпілы), *Крэпка цісну Вашу руку* (Я. Колас. Ліст да І. Крупені), *Моцна цісну Вашу руку* (К. Крапіва. Ліст да Л. Рахленкі). Гэта сведчыць пра тое, што стасункі паміж майстрамі слова і землякамі былі сяброўскімі, пазбаўленымі адцення афіцыйнасці. Вербалізаваныя жэсты выяўляюць розную частотнасць у перапісцы.

Найбольш ужывальныя вербалізаваныя жэсты – "абдымкі" і "паклон", якія сустракаюцца адпаведна ў 53,2% і 52,2% ад агульнай колькасці пасланняў. Чатыры разы выкарыстаны намінацыі пацалункаў у лістах В. Быкава; адзначаны адзінкавыя ўжыванні формул *хілю галаву, хілю чало, б'ю чалом, чалом табе, чалом, кленчу тваім слядам* у пасланнях Р. Барадуліна.

У лістах Рыгора Барадуліна, як бачым, выразней акрэслена вертыкальная лінія жэстаў ↕ (паклон, кленчанне, хіленне галавы і чала, біццё чалом), у пасланнях Васіля Быкава – гарызантальная ↔ (абдымкі, пацалункі).

Вызначым у ліставанні майстроў слова адзінкі для намінацыі кожнага жэста з улікам спадарожных інтэнсіфікатараў і запоўненасці пазіцый "выканаўца" – "атрымальнік" ВЖ.

У перапісцы ВЖ "абдымкі" ўжываецца ў развітальным комплексе і прызначаны для завяршэння кантакту ў сяброўскай, прыязнай танальнасці. Гэтаму спрыяюць як колькасныя (*моцна, дужа*) ці якасныя (*шчыра, сардэчна, са шчырасцю*) інтэнсіфікатары, так і ўключэнне ў выкананне / атрыманне жэста трэціх асоб (сямейнікаў і нават барадулінскага катá Мірона). Яшчэ адно прызначэнне ВЖ "абдымкі" – ён выкарыстоўваецца ў афармленні віншавальных пасланняў: *Віншую цябе, **абдымаю**, вельмі жадаю табе шчасьцейка і здароўя* (В. Быкаў), *Дужа б я хацеў **абняць** цябе ў гэты дзень* [дзень нараджэння паэта], *ды, здаецца, ня выпадзе* (В. Быкаў). Згадка пра немагчымасць фізічна выканаць жэст падкрэслівае яго біялагічную аснову – цялеснасць. Яна таксама можа быць актуалізавана праз выкарыстанне формы імператыва: ***Абдымі** Валічку і **пацалуй** Дамінічку. Ад мяне і Ірыны Міхайлаўны* (В. Быкаў) – адрасант даручае выкананне жэста адрасату, які фізічна можа яго здзейсніць.

ВЖ "паклон", у адрозненне ад "абдымкаў", часцей сустракаецца ў асноўнай частцы пісьма і можа мець у якасці "выканаўцы" не адрасанта, а трэцюю асобу (трэціх асоб). Семантыка вербалізаванага паклону як этыкетнага знака выяўляецца ў кантэксце. "Паклон" можа выступаць як суправаджэнне прывітання, зычэння / пажадання, падзякі, шанавання.

Паклон у эпісталярным тэксце можа выкарыстоўвацца як знак сувязі з роднай зямлёй,

* Кніга "Дажыць да зялёнай травы" [2], як і своеасаблівы дадатак да яе [5], утварае складанае жанрава-кампазіцыйнае цэлае, у якім, апрача ўласна лістоў, змешчаны паэтычныя пасланні Р. Барадуліна, аўтографы абодвух творцаў, прыватныя лісты і паштоўкі, якія абагульнена называем у артыкуле *лістамі* (*пасланнямі*).

**Табліца 1. Частотнасць вербалізаваных жэстаў у ліставанні Р. Барадуліна і В. Быкава.**

| Вербалізаваны жэст | Рыгор Барадулін (133 пасланні) | | Васіль Быкаў (70 пасланняў) | | Разам (203 пасланні) | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасць лістоў з ВЖ | % | Колькасць лістоў з ВЖ | % | Колькасць лістоў з ВЖ | % |
| Абдымкі | 61 | 45,9 | 47 | 67,1 | 108 | 53,2 |
| Паклон | 98 | 73,7 | 8 | 11,4 | 106 | 52,2 |
| Пацалунак | 0 | 0 | 4 | 5,7 | 4 | 2 |
| Біццё чалом | 3 | 2,3 | 0 | 0 | 3 | 1,5 |
| Кленчанне | 1 | 0,8 | 0 | 0 | 1 | 0,5 |
| Хіленне галавы | 1 | 0,8 | 0 | 0 | 1 | 0,5 |
| Хіленне чала | 1 | 0,8 | 0 | 0 | 1 | 0,5 |

**Табліца 2. Вербалізаваны жэст "абдымкі" ў ліставанні Р. Барадуліна і В. Быкава.**

| Адзінка для намінацыі жэста | Інтэнсіфікатары | "Выканаўца" жэста | | "Атрымальнік" жэста | | Ілюстрацыя[1] |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Адрасант | Трэцяя(ія) асоба(ы)[2] | Адрасат | Трэцяя(ія) асоба(ы) | |
| *Абдымаем* | – | + | + | + | – | ***Абдымаем*** [тут і далей вылучана намі. – **Д. Д.**] *цябе, даражэнькі!* (В. Быкаў). |
| | *Моцна* | + | + | + | + | *Моцна* ***абдымаем*** *Васіль і Ірына* (В. Быкаў). |
| | *Сардэчна* | + | + | + | + | *Сардэчна* ***абдымаем*** *– вашы Быкавы з вуліцы Танкавай* (В. Быкаў). |
| | *Са шчырасцю* | + | + | + | + | *Са шчырасцю* ***абдымаем*** *вас – Васіль і Ірына Быкавы* (В. Быкаў). |
| | *Шчыра* | + | + | + | + | *Шчыра* ***абдымаем*** *вашы Ірына і Васіль* (В. Быкаў). |
| *Абдымаю* | – | + | – | + | + | *А пакуль што –* ***абдымаю*** *цябе і ўсіх тваіх – да Мірона ўключна* (В. Быкаў). |
| | | + | – | + | – | ***Абдымаю*** *цябе, браток мой, заступнік мой, залаты Васілю!* (Р. Барадулін). |
| | *Дужа* | + | – | + | – | *А я цябе дужа* ***абдымаю****, шчасьцейка табе і здароўя* (В. Быкаў). |
| *Абдымі* | – | + | + | – | + | ***Абдымі*** *Валічку і пацалуй Дамінічку. Ад мяне і Ірыны Міхайлаўны* (В. Быкаў). |
| *Абняць* | – | + | – | + | – | *Дужа б я хацеў* ***абняць*** *цябе ў гэты дзень, ды, здаецца, ня выпадзе* (В. Быкаў). |

[1] У ілюстрацыйным матэрыяле захаваны асаблівасці аўтарскага правапісу.
[2] "Выканаўцам" / "атрымальнікам" жэста можа выступіць не толькі чалавек, але і жывёла (кот Мірон, якога Барадулін згадвае як члена сям'і), а таксама персаніфікаваныя з'явы прыроды і культуры (гл. вербалізацыю жэста "паклон" у гэтым артыкуле).

увогуле Радзімай. Невыпадкова ў пасланнях Р. Барадуліна вербалізаваны паклон можа быць адпраўлены ад *усіх шчырых і верных беларусаў, усіх добрых людзей*, а таксама ад *роднай зямелькі, родных аблачынак, бусьлянятак* і пад. Цікава, што чужая зямля, рэаліі чужой прыроды ў пасланнях не выступаюць як "выканаўцы" жэста – яны сведчаць пра вялікую адлегласць паміж карэспандэнтамі і гэтым павышаюць каштоўнасць камунікацыі: ***Паклон*** *табе з-за акіяну* (Р. Барадулін), *Дарагія Валічка і Рыгорка,* ***паклон*** *вам з далёкай і змрочнай краіны* (В. Быкаў).

Фізічнасць жэста "паклон" праяўляецца праз інтэнсіфікатары, якія спадарожнічаюць вербалізаванай адзінцы: ***паклон*** *– нізкі, да зямлі, долу*. Гэты пералік дапаўняецца эпітэтам *зямны* з вершаванай часткі пасланняў: *Зямны* ***паклон*** *табе, Васіль, / Ушацкі волат на планеце* [2, с. 33]. Сустракаем у лісце Рыгора Барадуліна і індывідуальна-аўтарскае азначэнне для паклону – *вушацкі* (выступае ў спалучэнні з прыметнікам *нізкі*). Працэс адыходу пры вербалізацыі ад цялеснай асновы жэста ілюструецца прыкладам у лісце Барадуліна: *Дарэчы, званіў неяк Арнольд Макмілен і пытаўся, ці атрымаў ты ягоную кніжку. Прыслаў мне паштоўку на колькі словаў, усё па-беларуску. У канцы: "Вялікі* ***паклон*** *Быкаву"* [2, с. 166]. Як бачым, брытанскі беларусіст выкарыстоўвае інтэнсіфікатар *вялікі*, які не суадносіцца з фізічнымі параметрамі выканання жэста "паклон".

Вербалізаваныя "паклон" і "абдымкі" могуць выкарыстоўвацца ў якасці развітальных формул як паасобку, так і ў межах аднаго паслання. Магчымыя мадыфікацыі вербалізаванага жэставага спалучэння "паклону" і "абдымкаў" з улікам "атрымальнікаў": а) паклон прызначаны членам сям'і, абдымкі – адрасату: ***Паклон*** *вяльможнай спадарыні Міхалішцы!* ***Абдымаю*** (Р. Барадулін); б) паклон прызначаны адрасату і членам сям'і, абдымкі – толькі адрасату: ***Паклон*** *ад усёй на-*

**Табліца 3. Вербалізаваны жэст “паклон” у ліставанні Р. Барадуліна і В. Быкава.**

| Адзінка для намінацыі жэста | Інтэнсіфікатары | “Выканаўца” жэста | | “Атрымальнік” жэста | | Ілюстрацыя |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Адрасант | Трэцяя(ія) асоба(ы) | Адрасат | Трэцяя(ія) асоба(ы) | |
| *Кланяецца* | – | – | + | + | + | *Яна* [жонка] – ***кланяецца*** *ўсім* (В. Быкаў). |
| | | – | + | – | + | *Ірына таксама* ***кланяецца*** *ўсім тваім дзяўчаткам* (В. Быкаў). |
| *Кланяцца* | – | – | + | + | – | *Прыязджаў цыганскі паэт зь Лёндану Вальдко Калінін, таксама захапляўся табой і прасіў* ***кланяцца*** *табе* (Р. Барадулін). |
| *Паклон* | – | + | + | + | + | ***Паклон*** *табе й панавітай Ірыне Міхалішцы ад усёй нашае сям'і аж да Мірона* (Р. Барадулін). |
| | | + | + | – | + | ***Паклон*** *Ірыне Міхалішцы ад усіх нас* (Р. Барадулін). |
| | | – | + | + | – | *Дарэчы, кожны раз Ганад просіць перадаць табе прывітаньне й* ***паклон*** (Р. Барадулін). |
| | *Да зямлі* | + | – | – | + | ***Паклон*** *да зямлі Ірыне Міхалішцы!* (Р. Барадулін). |
| | *Долу* | + | – | – | + | ***Паклон*** *долу Ірыне Міхайлаўне* (Р. Барадулін). |
| | *Нізкі* | + | + | – | + | *Нізкі* ***паклон*** *вяльможнай спадарыні Ірыне Міхалішцы ад нашых нябёсаў, ад нашых дасьвецьцяў, ад мяне* (Р. Барадулін). |
| | | + | – | – | + | *Нізкі* ***паклон*** *Валечцы і Ілонцы* (В. Быкаў). |
| | | – | + | + | + | *Нізкі* ***паклон*** *і вітаньні табе й Ірыне Міхалішцы ад усіх добрых людзей, ад усіх маіх!* (Р. Барадулін). |
| | *Нізкі, вушацкі* | + | – | – | + | ***Паклон*** *Ірыне Міхалішцы нізкі, вушацкі!* (Р. Барадулін). |
| *Паклоны* | – | + | + | + | + | *Прывітанне й* ***паклоны*** *ад усёй нашай хаты табе й Ірыне Міхалішцы* (Р. Барадулін). |

*шай сям'і табе й Ірыне Міхалішцы.* ***Абдымаю*** *цябе* (Р. Барадулін). Вербалізаваны “паклон” часцей выступае формулай ветлівасці ў дачыненні да трэціх асоб, у той час як “абдымкі” – у адносінах да адрасата.

ВЖ “пацалунак” досыць распаўсюджаны ў развітальным комплексе беларускага сяброўскага ліста, напрыклад: *Цалую тваю мілую пасівелую галаву* (Я. Колас. Ліст да М. Лынькова), *Цалую цябе* (К. Чорны. Ліст да П. Глебкі). Аднак яго частотнасць у перапісцы В. Быкава і Р. Барадуліна невысокая. Аналіз ужывання намінацый пацалункаў сведчыць пра маркіраванасць гэтага ВЖ: Васіль Быкаў дасылае пацалункі малым істотам (унучцы Р. Барадуліна Дамінічцы і кату Мірону) ці выкарыстоўвае гэты жэст для перадачы прывітання ад жонкі Ірыны Міхайлаўны. Адзначаны толькі адзін выпадак, калі В. Быкаў непасрэдна звяртаецца да Р. Барадуліна з вербалізаваным пацалункам (гл. апошнюю ілюстрацыю ў табліцы 4).

Лексема *чало* ў сучаснай беларускай мове адносіцца да высокага стылю [6, с. 742]. Формулы з гэтым кампанентам ужываюцца камунікантамі для выражэння пачцівых адносін да суразмоўцаў. Этыкема *б'ю чалом* (і яе варыянт *чалом*) выкарыстоўваецца Рыгорам Барадуліным у заключным комплексе ліста і цалкам адпавядае адзначанай намі вертыкальнай лініі жэстаў у ліставанні народнага паэта. Калі ВЖ “біццё чалом” сустракаецца ўжо ў помніках старажытнабеларускай пісьменнасці [гл. 4, с. 407], то “хіленне чала” можна лічыць індывідуальна-аўтарскім варыянтам вербальнага азначэння паклону, фізіялагічнай асновай якога з'яўляецца “нахіленне галавы або верхняй часткі тулава” [6, с. 426].

Адметны характар мае і зварот *кленчу слядам тваім*, які адпавядае рускай эпісталярнай канструкцыі *припадаю к твоим стопам (ногам)*, што ўжываецца як “узвышаная формула мужчынскага вітання, выражэння адданасці, любові да адрасата” [1, с. 433]. ВЖ з кампанентам *чало* і зварот з *кленчу* з'яўляюцца алюзіямі на хрысціянскія малітоўныя жэсты (гл. у пацвярджэнне напісанне займеннікаў у апошняй ілюстрацыі ў табліцы 5), што дазваляе меркаваць пра высокадухоўнае, нават сакралізаванае стаўленне паэта да сусветна вядомага пісьменніка-земляка. Пра гэта гаворыць і сам Рыгор Барадулін у адным з лістоў: “…ты ў храме душы маёй другі пасля Бога” [2, с. 32].

Формула *хілю галаву*, хоць і блізкая паводле структуры і стылістычнай афарбоўкі да выразу *хілю чало*, мае зусім іншае функцыянальнае прызначэнне: яна выкарыстоўваецца як знак пашаны памяці памерлага: *Прымі мае спачуванні.* ***Хілю галаву*** *перад светлай памяццю тваёй мамы* (Р. Барадулін).

Такім чынам, вывучэнне эпісталаграфіі беларускіх пісьменнікаў дазваляе вылучыць багаты рэпертуар вербалізаваных этыкетных жэстаў, якія ўжываюцца для ўстанаўлення і заканчэння кантакту, моўнага афармлення падзякі, віншавання, зычэння, выражэння пашаны да жывых і памерлых асоб. Вербалізацыя адбываецца праз

**Табліца 4. Вербалізаваны жэст "пацалунак" у лістах В. Быкава.**

| Адзінка для намінацыі жэста | Інтэнсіфікатары | "Выканаўца" жэста | | "Атрымальнік" жэста | | Ілюстрацыя |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Адрасант | Трэцяя(ія) асоба(ы) | Адрасат | Трэцяя(ія) асоба(ы) | |
| *Пацалуй* | – | + | + | – | + | *Абдымі Валічку і* ***пацалуй*** *Дамінічку. Ад мяне і Ірыны Міхайлаўны.* |
| *Пацалункі* | – | + | – | – | + | ***Пацалункі*** *– Дамінічцы і кату Мірону.* |
| *Цалуе* | – | – | + | + | + | *З Богам, любыя мае. І нашы – кажа Міхайлішка, якая ўсіх вас* ***цалуе****.* |
| *Цалую* | – | + | – | + | – | *Абдымаю і* ***цалую****, твой Васіль Быкаў.* |

**Табліца 5. Вербалізаваныя жэсты з кампанентам "чало" ў лістах Р. Барадуліна.**

| Адзінка для намінацыі жэста | Інтэнсіфікатары | "Выканаўца" жэста | | "Атрымальнік" жэста | | Ілюстрацыя |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Адрасант | Трэцяя асоба | Адрасат | Трэцяя асоба | |
| *(Б'ю) чалом* | – | + | – | + | – | *Абдымаю цябе.* ***Б'ю чалом****.* |
| | | + | – | + | – | ***Чалом*** *табе!* |
| *Хілю чало* | – | + | – | + | – | *Абдымаю цябе.* ***Хілю чало*** *перад Табою!* |

адлюстраванне і пераасэнсаванне фізічных параметраў і ўмоў выканання жэста, што праяўляецца ў выбары "выканаўцаў" / "атрымальнікаў" ВЖ, спадарожных інтэнсіфікатараў ветлівасці і адпаведных граматычных формаў. Даследаванне семантычных, прагматычных і стылістычных характарыстык вербалізаваных жэстаў у ліставанні Рыгора Барадуліна і Васіля Быкава не толькі выяўляе спецыфіку беларускага эпісталярнага этыкету ў 2-й палове XX – пачатку XXI ст., але і служыць своеасаблівым ключом да разумення творчых індывідуальнасцей знакамітых майстроў слова і стасункаў паміж імі.

**Спіс літаратуры**

1. **Балакай, А. Г.** Словарь русского речевого этикета : ок. 6000 этикетных слов и выражений / А. Г. Балакай. – М. : Астрель : АСТ : Хранитель, 2007.

2. **Дажыць да зялёнай травы…** : ліставанне і аўтографы Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна (1960 – 2003) / уклад., прадм. і камент. С. Шапрана. – Львів : ВолЯ, 2008.

3. **Крейдлин, Г. Е.** Кинесика / Г. Е. Крейдлин // Словарь языка русских жестов // С. А. Григорьева, Н. В. Григорьев, Г. Е. Крейдлин. – М. : Вена : Языки русской культуры; Венский славистический альманах, 2001. – С. 166 – 254.

4. **Лепешаў, І. Я.** Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў / І. Я. Лепешаў. – Мінск : БелЭн, 2004.

5. **Твая паэзія вартая, каб гучаць з нябесных сфераў** : Невядомыя старонкі ліставання Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна / прадм. і падрыхт. да друку С. Шапрана // Дзеяслоў. – 2010. – № 1. – С. 284 – 287.

6. **Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы.** – Мінск : БелЭн, 2002.

**Дзмітрый ДОЎГАЛЬ,**
аспірант кафедры беларускай мовы
Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта
імя А. А. Куляшова.

*Артыкул рэкамендаваны да друку доктарам філалагічных навук В. Рагаўцовым.*

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2011 год

ЧЭРВЕНЬ

**1 чэрвеня –** 105 гадоў таму пачала выдавацца грамадска-палітычная і літаратурная газета "Могилёвский вестник". Выдавалася да 1917 г.

100 гадоў з дня нараджэння Якуба Міско (1911 – 1981), празаіка, публіцыста, паэта, перакладчыка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

95 гадоў з дня нараджэння Міколы Гваздова (1916 – 1937?), паэта

**3 чэрвеня –** 75 гадоў з дня нараджэння Алеся Дзятлава, празаіка, нарысіста

**6 чэрвеня –** 110 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Глазырына (1901 – 1961), празаіка, драматурга

**9 чэрвеня –** 130 гадоў з дня нараджэння Івана Луцкевіча (1881 – 1919), палітычнага дзеяча, археолага, этнографа, публіцыста

**10 чэрвеня –** 80 гадоў з дня нараджэння Леанарда Чурко (1931 – 1983), графіка

**11 чэрвеня –** 75 гадоў з дня нараджэння Эрнста Гейдэбрэхта, мастака тэатра. Жыве ў Германіі

**13 чэрвеня –** 115 гадоў з дня нараджэння Аляксея Сідарава (1891 – 1978), гісторыка мастацтва, кнігазнаўцы

**14 чэрвеня –** 115 гадоў з дня нараджэння Пятра Татарыновіча (1896 – 1978), святара, культурна-грамадскага дзеяча, літаратара, выдаўца

90 гадоў з дня нараджэння Ісака Маслана (1921 – 1996), мастака-афармляльніка, графіка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

80 гадоў з дня нараджэння Ігара Сарокіна, спевака, заслужанага артыста Расіі, народнага артыста Беларусі. Жыве за мяжой

**15 чэрвеня –** 115 гадоў з дня нараджэння Паўла Каравайчыка (1896 – 1937), крытыка, публіцыста, паэта

75 гадоў з дня нараджэння Івана Маркевіча (1936 – 1981), паэта

*Працяг на с. 53, 106.*

*З гісторыі мовы*

# НЕКАЛЬКІ ЗАЎВАГ ПРА ТРАНСФАРМАЦЫЮ МЕТАТЭЗЫ ПЛАЎНЫХ У БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Трансфармацыя атрыманых у спадчыну ад праславянскай мовы дыфтангічных спалучэнняў галосных з плаўнымі ў сярэдзіне слова – метатэза плаўных – як абумоўленая тэндэнцыяй да адкрытасці складоў адносіцца да фанетычных змен пазнейшай праславянскай пары, што пераканальна засведчана рознымі вынікамі гэтага працэсу ў трох падгрупах славянскіх моў. Па гэтай праблеме выказана некалькі меркаванняў. Больш верагодная гіпотэза А. Селішчава, сутнасць якой зводзіцца да таго, што ў заходнеславянскай падгрупе, акрамя чэшскай і славацкай моў, адбылася толькі перастаноўка галосных з плаўнымі. На месцы праславянскіх спалучэнняў **or*, **ol*, **er*, **el* з'явіліся спалучэнні *ro*, *lo*, *re*, *le* (няпоўнагалоссе заходнеславянскай рэфлексацыі).

У паўднёваславянскай падгрупе, а таксама чэшскай, славацкай і стараславянскай пісьмова-літаратурнай мовах, акрамя таго, адбылося падаўжэнне галосных *о > а*, *е > ѣ* (*ра*, *ла*, *рѣ*, *лѣ*) (няпоўнагалоссе заходнеславянскага тыпу).

Ва ўсходнеславянскіх мовах у сувязі з адзначанай тэндэнцыяй да адкрытасці складоў пасля плаўнага развіўся такі ж галосны, які папярэднічаў яму (т. зв. поўнагалоссе *оро*, *оло*, *ере*, *еле*). Змены, што адбыліся потым, у асноўным звязаны з пашырэннем акання, якое ў беларускай мове ў адрозненне ад рускай захавалася на пісьме ў першым пераднацiскным складзе (*бало́та*, *бяро́за*, *варо́ты*), першым і другім складах перад націскам (*барада́*, *барана́*, *галава́*), а таксама ў паслянаціскных складах (*бе́раг*, *во́лас*, *го́лас*, *зо́лата*, *по́рах*, *со́рам*). Стараславянскі варыянт слова *сорам* невядомы, аднак у беларускіх палескіх гаворках, а таксама гаворках паўночна-ўсходняй дыялектнай зоны ён, як і вытворныя ад яго (*страм*, *страмата*, *страмоцце*), характарызуецца наяўнасцю эпентэзы [т] (гл.: Лексічны атлас беларускіх народных гаворак, т. 3, карта № 23 і каментарый да яе на с. 31. Мінск, 1996; далей ЛАБНГ).

Іншыя змены ў трансфармацыі метатэзы плаўных звязаны з занядбаннем закона складовага сінгарманізму, згодна з якім пасля мяккага шыпячага захаваўся галосны пярэдняга ўтварэння [е], тады як пасля палаталізаванага (ацвярдзелага) плаўнага [л] на месцы [е] з'явіўся галосны задняга рада [о > а] (так званая першая стадыя лабіялізацыі [е]). У старажытнарускай мове ў адпаведнасці з няпоўнагалоссем заходне- і паўднёваславянскай рэфлексацыі (*mleko* ў польскай, *млѣко*, *плѣнъ* у стараславянскай) поўнагалоссе *еле* трансфармуецца ў *оло* (*молоко*, *полонъ*, *полова*). У беларускай мове, акрамя іх, вядомы дзеяслоў *палаць* 'ачышчаць абмалочанае ці абтоўчанае зерне'. Пасля мяккіх шыпячых [ж], [ш] у адпаведнасці з адзначаным законам складовага сінгарманізму на месцы *еле* з'явілася спалучэнне *ело* (*шеломъ*, *ошеломить* 'пазбавіць прытомнасці, моцна ўдарыўшы па шлеме'), а таксама *желуб*, якому ў беларускай мове адпавядае варыянт *жо́лаб*.

Акрамя дэпалаталізацыі санорнага плаўнага [л], адзначаныя змены, магчыма, звязаны з яго лабіялізацыяй, набліжэннем па артыкуляцыі да білабіяльнага [в] і нескладовага [ў], менавіта па наяўнасці якога беларуская мова ў галіне фанетыкі адрозніваецца ад іншых славянскіх моў: *говорил*, *давно* – у рускай, *гаварыў*, *даўно* – у беларускай мове, у рускай – *волк*, ва ўкраінскай – *вовк*, а ў беларускай – *воўк*.

Трансфармацыя метатэзы плаўных звязана таксама з рэдукцыяй у паслянаціскным складзе, дзе другі кампанент поўнагалосся *оло* замяняецца галосным [ы] (*полымя* пры стараславянізме *пламя*) або выпадае (*гарнастай* пры *hranostaj* у чэшскай і *gronostaj* у польскай мове).

У адрозненне ад рускай, трансфармацыя метатэзы плаўных у беларускай мове непасрэдна звязана з уплывам суседняй польскай мовы. Так, што датычыць паланізма *chłop*, то ён як апорнае слова значнага словаўтваральнага гнязда па значэнні адпавядае сучаснаму беларускаму *халоп*. Некаторыя вытворныя ад *chłop*, а менавіта *chłopiec*, *chłopczyk*, вядомы беларускай мове. Больш за тое, у сувязі з аканнем спалучэнне *ло* як паказчык заходнеславянскага няпоўнагалосся замянілася спалучэннем *ла*, якое ў дадзеным выпадку не з'яўляецца паказчыкам няпоўнагалосся паўднёваславянскай рэфлексацыі: *хлапе́ц*, *хлапе́цкі*, *хлапе́чы*, *хлапчаня́*, *хлапчанё*, *хло́пча*, *хлапчу́к*, *хлапчуко́вы*, *хлапчы́на*, а таксама *хлапе́чнік* як пазнейшая калька з рускага *мальчишник*.

З заходнеславянскім няпоўнагалоссем звязана паходжанне такіх беларускіх тапонімаў, як *Брэст*, *Гродна* і *Драгічын* (летапісныя назвы *Берестье*, *Берестъ*, *Городен*, *Городня*, *Дорогичинъ*). Тое ж самае трэба сказаць пра тапонімы *Навагрудак* (летапісныя *Новогородокъ*, *Новоградокъ*, *Новогрудокъ*), *Крулёўшчына* (вёска і чыгуначная станцыя ў Докшыцкім раёне). Дарэчы, у сваім зыходным значэнні 'каралеўскі маёнтак' слова *krlews* заха-

валася ў польскай мове (Wielki słownik polsko-rosyjski. Warczawa – Moskwa, 1967, s. 342; далей WSPR). Сказанае дае падставу сцвярджаць, што трансфармацыя плаўных, атрыманая ў спадчыну ад праславянскай мовы, у працэсе гістарычнага развіцця беларускай мовы працякала ў адпаведнасці з такімі фанетычнымі працэсамі, як развіццё і пашырэнне акання, зацвярдзенне шыпячых, дэпалаталізацыя і лабіялізацыя санорнага зычнага [л] і замена яго ў гэтай сувязі білабіяльным [в] і поўнагалосным [ў], з чым звязана лабіялізацыя галоснага [е] з наступнымі зменамі яго (*еле* > *ело* > *оло* > *ола*), а таксама ўплывам суседняй польскай мовы. Справа ў тым, што ў беларускай мове, як і ў польскай, у формах назоўнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў, па паходжанні звязаных з заходнеславянскім няпоўнагалоссем і ўсходнеславянскім поўнагалоссем, назіраецца ссоўванне артыкуляцый па пад'ёме. Сярэднелабіялізаваны галосны [о] замяняецца моцналабіялізаваным гукам [у], які ў польскай мове перадаецца літарай *ó*, што назіраецца пераважна пад націскам (дарэчы, націск у польскай мове на перадапошнім складзе). У ненаціскных складах галосны [о] як кампанент заходнеславянскага няпоўнагалосся захоўваецца, што, напрыклад, назіраецца ў вытворных і сконавых формах паланізма *smród*: *smródynia*, *smródzic*, *smródliwy*; *co wolno wojewodzie, to nie tobie smródzie* (прымаўка "не ўсякаму ўсякае дазваляецца") (WSPR, s. 980). Дарэчы, іх семантычныя адпаведнікі з націскам на галосным [о] як другім кампаненце поўнагалосся занатаваны ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы": *смурóд*, *смурóдзіць*, *смурóдлівы*, *смурóднасць*, *смурóдны* (т. 5, с. 223).

У народных беларускіх гаворках словы *смурóдзіна*, *смурóдзіць*, *смурóднік*, *смурóда*, *смурóды* невыпадкова пераважаюць на тэрыторыях, сумежных з Польшчай, а ў гаворках паўночнаўсходняй дыялектнай зоны, на Магілёўшчыне і Гомельшчыне, ім адпавядаюць варыянты з націскам на другім кампаненце поўнагалосся: *смарóдзіна*, *сморóдыны*, *смарóдыня*, *смарóднік*, *смарóда* (ЛАБНГ, т. 1, карта № 23 і каментарый да яе на с. 24).

Дарэчы, слова *парэчкі* і вытворныя ад яго як назвы чорнай смародзіны адзначаны толькі ў 11 населеных пунктах. Гэта, відаць, невыпадкова. Хутчэй за ўсё, яно пашырана як назва белых, жоўтых, а таксама чырвоных парэчак, як у Дубровенскім раёне Віцебскай вобласці. У сувязі са сказаным паўстае пытанне, на якой падставе малавядомае слова *парэчкі* і вытворныя ад яго замацаваліся ў якасці літаратурнай нормы як назвы чорных парэчак, а пашыраныя ў народных гаворках *смарóдзіна* і яго варыянты не кадыфікаваны. На жаль, такія выпадкі не адзінкавыя.

Нягледзячы на абмежаванасць разгледжанага фактычнага матэрыялу, можна прыйсці да высновы, што трансфармацыя метатэзы плаўных на беларуска-польскім памежжы была абумоўлена ўзаемадзеяннем беларускіх і польскіх племянных дыялектаў праславянскай пары. Гэта выявілася ў тым, што ў залежнасці ад артыкуляцыі галоснага [о] як кампанента поўнагалосся і заходнеславянскага няпоўнагалосся ў ненаціскных складах, як і пад націскам, ён замяняецца галосным [у]. Даследаванне тэхналогіі паслядоўнасці гэтых і іншых асаблівасцей верагодных змен на сучасным этапе немагчыма без выкарыстання метадаў эксперыментальнай фанетыкі на больш шырокім фактычным матэрыяле беларускай і польскай моў.

**Аляксей ГРУЦА,**
доктар філалагічных навук.

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2011 год

ЧЭРВЕНЬ

*Працяг. Пачатак на с. 51.*

**16 чэрвеня –** 100 гадоў з дня нараджэння Дзмітрыя Лукаса (1911 – 1979), кампазітара, педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

100 гадоў з дня нараджэння Ганны Сапрыкі (1911 – 1962), празаіка, паэткі, перакладчыка

80 гадоў з дня нараджэння Людмілы Ізмайлавай (1931 – 1999), жывапісца

**17 чэрвеня –** 70 гадоў з дня нараджэння Мікалая Сіраты, баяніста, дырыжора, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**18 чэрвеня –** 110 гадоў з дня нараджэння Навума Гурвіча (1901 – 1991), артыста балета

100 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Шыдлоўскага (1911 – 2002), дзеяча самадзейнага мастацтва, кампазітара, педагога, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

90 гадоў з дня нараджэння Марка Русіна (1921 – 1977), кампазітара, педагога

85 гадоў з дня нараджэння Лявонція Гараніна, літаратуразнаўцы

**19 чэрвеня –** 70 гадоў з дня нараджэння Івана Ласкова (1941 – 1994), беларуска- і рускамоўнага паэта, празаіка, перакладчыка, крытыка. Жыў у Якуціі

60 гадоў з дня нараджэння Ірыны Ухванавай-Шмыгавай, мовазнаўцы, сацыёлага

*Заканчэнне на с. 106.*

*Гістарычны слоўнік распавядае*

# *НАПИТОКЪ, НАПОЙ, ПИТЬЕ…*

## НА МАТЭРЫЯЛЕ ПОМНІКАЎ СТАРАБЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА

Тысячагоддзямі працягваецца пазнанне чалавекам навакольнага свету. Гэтая велізарная праца знаходзіць сваё адлюстраванне ў мове, якая з'яўляецца не толькі сродкам зносін, але і помнікам духоўнай працы мінулых пакаленняў. Менавіта пры вывучэнні старажытнай мовы можна даведацца пра жыццё і побыт народа, пра развіццё грамадства, пра саму мову.

На матэрыяле помнікаў старабеларускага пісьменства XIV – XVIII стст. разгледзім групу слоў, якія ў старажытнасці былі агульнымі для назваў піцця. Гэта словы, аб'яднаныя на аснове паняцця, што належыць усім лексемам групы. Менавіта з агульным паняццем 'піццё' ў пісьмовых крыніцах вылучаюцца найменні ***напитокъ, напой, питье*** (***питие***), ***поенье, трунокъ***.

Сучасны "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" дае два значэнні слова *піццё*: 1) дзеянне паводле знач. дзеясл. *піць*; 2) тое, што п'юць; напітак [ТСБМ, т. 4, с. 262].

У помніках старабеларускага пісьменства даследаваныя лексемы, утвараючы некалькі сінанімічных аб'яднанняў, зафіксаваны ў наступных значэннях.

Першы сінанімічны рад са значэннем 'піццё (як дзеянне)' складаюць найменні ***напитокъ, напой, питье (питие)***, утвораныя ад дзеясловаў, звязаных з працэсам спажывання: *вода… до напи$^{т}$кꙋ з$^{ѕ}$гожею была людови* (Мак., 372); *стꙋдна водꙋ горкꙋю а до напою незгожꙋю выдавала зе жродла* (Мак., 372); *Сее мѣстце велми злое… не мае$^{т}$ и воды ку пи$^{т}$ю* (Біблія, 198); *никто васъ ѡсужаеть о ꙗдении, или питии* (Будны, 40б). Не зафіксаваны з гэтай семантыкай словы ***поенье*** і ***трунокъ***.

Другі сінанімічны рад са значэннем 'тое, што п'юць' прадстаўлены ўсімі разгледжанымі лексемамі – ***напитокъ, напой, питье (питие), поенье, трунокъ***: *было ее ꙗденіе быліе травное, а напито$^{к}$ вода морскаꙗ* (Зб. 752, 16); *тыми рꙋками… не могъ трѧсꙋчисѧ покармꙋ и напою до оустъ своихъ принести* (Каліст, I, 54б); *да тот снег селене сбирають… да панове его коупѧт. да и к столꙋ коу ѡхложенію питіа шинковати собе велѧт* (Валх., 44б); *Питіе мое з$^{ѕ}$ плачемъ мѣшалемъ* (Мак., 227); *поенье$^{ж}$ оу сꙋдѣ$^{х}$ златы$^{х}$* (Зб. 262, 127); *тое чоповое отъ всякихъ трунковъ… плачоно быти маетъ* (АЗР, III, 194, 1576).

Трэці сінанімічны рад са значэннем 'спецыяльна прыгатаваная для піцця вадкасць, у тым ліку і хмяльны напітак' прэзентуюць найменні ***напитокъ, напой, питье (питие), трунокъ***: *такимъ напиткомъ… не вольно имъ шинковати* (АЗР, III, 257, 1580); *ѡдна только, ѡного пресла$^{д}$кого, длѧ тыхъ гостей з$^{ѕ}$готованого напою, кроплѧ такъ вер$^{ѕ}$хо$^{в}$ного Ап$^{с}$лѡ$^{м}$ оупоила, ижъ… з радости… не вѣдалъ што мовилъ* (Карп., 22б); *по$^{д}$чашии носили пи$^{т}$е в ку$^{б}$кахъ золоты$^{х}$* (Алекс., 18); *реклъ емꙋ фили$^{п}$: не лека$^{ѕ}$се велики$^{ѕ}$ цесарꙋ трꙋ$^{н}$кꙋ, але его пи$^{ѕ}$* (Алекс., 14). Не выяўлена ў такім значэнні лексема ***поенье***.

Акрамя таго, як засведчыў ГСБМ, кожнае з разгледжаных слоў мае ў пісьмовых крыніцах дадатковую семантыку. Так, са значэннем 'выпіванне; ужыванне хмяльных напіткаў' зафіксаваны лексемы ***напитокъ*** і ***питье***: *вжо отбывшы отъ себе тотъ напитокъ горѣлки, до него мѣлъ тотъ замыслъ* (АСД, I, 296, 1636); *не маю напити отъ даты сего сознанья… такъ въ корчме яко тежъ и въ вольномъ питью* (ИЮМ, VIII, 224, 1594).

Са значэннем 'кошт выпітага віна; сума пазыкі за віно' адзначана найменне ***напой***: *Хветко Хритаповичъ чинил пилность… противъ Антона Озаровича… до права о петдесят грошей напою* (АВК, XXXIX, 164, 1579).

Толькі слова ***поенье*** ўжываецца як 'паенне, напойванне (жывёлы)': *велъ дей тотъ подданый… коня своего и моего для поенья до воды* (АВК, XXXVI, 235, 1582); *дворницы за догляданье и поенье коня… дали золотый одинъ* (ИЮМ, I, 34, 1679).

Лексема ***трунокъ*** зафіксавана ў значэнні 'мікстура, вадкае лякарства': *не рѣзаньемъ, нѣ паленьем$^{ѕ}$, анѣ троунками, але самымъ тол$^{ѕ}$ко словомъ лѣчитъ и оуздоровлѧетъ* (Каліст, II, 18б – 19).

Для больш дакладнай дыферэнцыяцыі і семантычнага ўдакладнення паняцця 'піццё' ў помніках старабеларускага пісьменства ўжываўся шэраг аналітычных найменняў, утвораных ад агульных назваў піцця з мэтай канкрэтызацыі іх значэння. У залежнасці ад значэння далучанага прыметніка (дзеепрыметніка) складаныя найменні можна класіфікаваць наступным чынам:

1) 'хмяльны напітак' – ***напитокъ хмельный, напой пъяный, напой упияючийся, питие упояющее, питье корчемное, питье пъяное***: *Сі-*

*кера, ев: хмѣлныи напитоκ* (Бяр., 309); *вино и напою пьѧного ѡт молодоcти своеs не пиʌ* (Зб. 255, 155); *вина и секѣра або напою ꙋпиѧючогосѧ не меʌ пит николи* (Зб. 255, 158б–159); *купиши… вина или некоего иного питиѧ ꙋпоѧющего* (Скар. ДЗ, 31б); *ѡт корчемноᵍ питѧ воздержѣмсѧ* (Чэцця, 298б); *ни ѡдного питья пьѧного не пиʌ николи* (Валх., 83);

2) ‘мікстура, вадкае лякарства’ – ***трунокъ лекарский***: *зноснѣй боль зs хоробы терпѣти, нѣжъ зs лѣкарскихъ трꙋнкѡвъ оулsженье* (Каліст, II, 33б);

3) ‘атрута’ – ***трунокъ смертный, трунокъ ядовитый***: *тобѣ смертныs трꙋнокъ подаст* (Алекс., 38б); *пошедши до лѣкара добре ꙋмѣетного, и кꙋпилъ ꙋ него трꙋнокъ велми ѧдовитыs* (Алекс., 44). Як бачым, у залежнасці ад семантыкі далучанага прыметніка слова ***трунокъ*** набывае супрацьлеглае значэнне.

Акрамя таго, прыметнікі ў спалучэнні з разгледжанымі назоўнікамі ўказваюць на якасную характарыстыку піцця. Вылучаюцца наступныя групы складаных найменняў:

– па смаку – ***напой (вдячный*** [прыемны на смак], ***горкий, прикрый, смаковитый, смачный), питие сладкое, трунокъ горкий***: *при вдѧчных напоѧх при пахничꙋхъ зельѣкахъ на зѣлѣкахъ прошекъ, в напоѧх трꙋтизна* (Зб. 259, 57б); *напой прикрый естъ и горкій* (Варл., 32); *вмѣсто коренныхъ потравъ, смаковитыхs напоев… огонь неꙋгосаючій* (Каліст, II, 132 – 132б); *потрав роcкошныx и напоев смачныx на cтолы поcтавлено* (Зб. 259, 119б); *Даваите сладкое питие немощsнымъ* (Скар. ПС, 47); *телесный лѣкар… горкіи трꙋнки даетъ* (Каліст, I, 58б – 59);

– па сіле ўздзеяння, праяўлення – ***напитокъ моцный, напой окрутнейший***: *маеm сѧ вароват напитков моцныx* (Зб. 261, 260); *даʌ емꙋ ѡкрꙋтнеsшыs напой* (Зб. 82, 63б);

– па вартасці – ***напой коштовный***: *поставлено бы пред него потравы и напои коштовныи* (Мак., 66);

– па паходжанні – ***напитокъ прывозной, питье привозное, питье чужое, трунокъ обций*** [чужаземны]: *на вечность надали… вольность складу и шынку медового, пивного и горелочного и прывозного напитку* (ИЮМ, I, 365, 1626); *цэны шынкованѧ питьѧ привозного* (Ст. 1566, 37); *купцы чужыи… продавати маютъ… пиво Немецкое и иншое питье чужое* (КЗ, 703, 1498); *На который погребъ мой медовъ и солодовъ и… обцихъ трунковъ есть* (АВК, II, 43, 1617);

– з указаннем на ўласцівасці піцця – ***питие веселящееся, питье забытное, питье милостное*** [любоўнае]: *А вѣдаи (и)же лекари хотѧт питиѧ веселѧщагосѧ* (Арыст., 216 – 217); *чашу забытного питьѧ дала ему* (Бава, 153); *Говорнар шолъ и принесъ кубокъ з оное флѧшы милостного питѧ… и далъ Трыщану, а другии далъ Ижоте* (Трыст., 67);

– з указаннем кампанента, з якога выраблена піццё – ***питье роженое*** [з ружы]: *напоить его питьем рожены* (Арыст., 216).

У пераносным значэнні адзначаны лексемы ***питье (питие)*** і ***напой*** як ‘тое, што дае матэрыял, служыць крыніцай для чаго-н.; духоўныя патрабаванні’: *дш҃а… маетs покармs и напои дꙋховныи, и шатꙋ нбснꙋю* (Мак., 12 – 13); *тотъ которыs пришоʌ абы даʌ правдивыs напоs* (Зб. 255, 16); *Вси пили тоеж питsе дх҃овное* (Выкл., 37б).

Даследаваная група слоў, за выключэннем наймення ***поенье***, зафіксавана ва ўсіх жанрах старабеларускага пісьменства. Лексема ***поенье*** не адлюстравана ў свецкіх творах і ўвогуле мае найменшую колькасць фіксацый. Колькасна пераважаюць прыклады са словам ***питье***. Акрамя таго, названая лексема мае самую раннюю фіксацыю ў рэлігійных і свецкіх творах, дзе адлюстравана ў значэнні ‘тое, што п’юць’: *сеи бо днь без питьѧ моутисѧ на срдци чл҃вкоу* (Чэцця, 174б, 1489); *Александръ не оуимешь ѡт лихиx дѣлъ слоуᵍ своиx. нижли оурѧдивши ѡбход иx питьем, и ѧдением* (Арыст., 167; сярэдзіна XVI ст.). У помніках дзелавога зместу ***питье*** таксама мае самую раннюю фіксацыю адносна астатніх разгледжаных слоў, але ў значэнні ‘спецыяльна прыгатаваная для піцця вадкасць, у тым ліку і хмяльны напітак’: *купцы чужыи… продавати маютъ… какое-кол[ъ]ве и пиво Немецкое и иншое питье чужое – бочкою целою* (КЗ, 703, 1498). З той жа семантыкай у помніку дзелавога пісьменства першую фіксацыю мае запазычанне ***трунокъ*** (< польск. *trunek* < с.-в.-н. *trunk*) [ДЗ, с. 326]: *таковый не маеть мѣти и на день ку трунку ихъ братскому ся вкупити* (АЮЗР, I, 105, 1538).

Трэба адзначыць, што вывучаныя лексемы, выступаючы сінонімамі, маглі паралельна бытаваць у межах аднаго помніка і нават у межах адной старонкі: *реклъ емꙋ филиn: не лекаsсе великиs цесарꙋ трꙋнкꙋ, але его пиs: а зараз алеѯандер трꙋнокъ принѧʌ* (Алекс., 14); *подчашии носили питe в кубкахъ золотыx* (Алекс., 18); *вода… до напитꙋ зsгожею была людови* (Мак., 372); *стꙋднѧ водꙋ горкꙋю а до напою незгожꙋю выдавала зе жродла* (Мак., 372).

У сучаснай беларускай мове даследаваныя найменні або звузілі сваю полісемантычную, або набылі монасемантычную структуру. З агульнай семантыкай ‘піццё’ захаваліся лексемы *напітак, піццё (← питье)*. Слова *паенне (← поенье)* ужываецца са значэннем ‘паенне; напойванне’. Як абласное фіксуецца ў ТСБМ *трунак* са зна-

чэннем ‘алкагольны напітак’ і зусім не прадстаўлена лексема *напой*, якая адлюстравана ў “Слоўніку новых слоў беларускай мовы” В. Уласевіч, Н. Даўгулевіч (Мінск, 2009) са значэннем ‘напітак, пітво’.

Варта адзначыць, што ў “Гістарычным слоўніку беларускай мовы” не зафіксавана найменне *питво*, якое ў “Слоўніку рускай мовы XI – XVII стст.” мае значэнне ‘піва, брага, хмяльны напітак’ і датуецца 1697 г. [т. 15, с. 60]. У сучаснай беларускай мове гэтае слова ўжываецца даволі шырока, яно стала сінанімічным адпаведнікам да слова *піццё*.

**Скарачэнні**

**АВК** – Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею для разбора древних актов, т. I – XXXIX. – Вильна, 1865 – 1915; **АЗР** – Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные археографическою комиссиею, т. I – V. – СПб., 1846 – 1853; **Алекс.** – “Александрыя” пачатку XVII ст. (рукапіс РНБ); **АСД** – Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, т. I – XIV. – Вильна, 1867 – 1904; **АЮЗР** – Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, т. I – XV. – СПб., 1863 – 1892; **Бава** – “Аповесць пра Баву” каля 1580 г. (рукапіс Бібліятэкі імя Э. Рачынскага ў Познані); **Бельск.** – Летаписецъ то естъ кроиника, з розных многих а досветчоных авторов и историков диялектом руским естъ зложона (“Хроника” М. Бельскага пачатку XVII ст.). Рукапіс Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, F. IV. 688; **Біблія** – “Біблія” пачатку XVII ст. (рукапіс РНБ); **Будны** – “Катэхізіс” С. Буднага (Клецк, 1562); **Бяр.** – “Лексікон” П. Бярынды (Куцеін, 1653); **Валх.** – “Аповесць аб трох каралях-валхвах” канца XV ст. (рукапіс РНБ); **Выкл.** – “Выклад тлумачэнняў біблейскіх кніг” сярэдзіны XVII ст. (рукапіс БАН Украіны); **ГСБМ** – Гістарычны слоўнік беларускай мовы. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982; **ДЗ** – Даўнія запазычанні беларускай мовы / А. М. Булыка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1972; **Зб. 82, 255, 259** – Зборнікі павучанняў сярэдзіны XVII ст. (рукапісы БАН Літвы); **Зб. 261** – Зборнік павучанняў пачатку XVII ст. (рукапіс БАН Літвы); **Зб. 262** – Зборнік біблейскіх кніг пачатку XVI ст. (рукапіс БАН Літвы); **ИЮМ** – Историко-юридические материалы, извлеченные из архивных книг губерний Витебской и Могилевской, вып. I – XXXII. – Витебск, 1871 – 1906; **Каліст** – “Евангелле вучыцельнае” Каліста (Еўе, 1616); **Карп.** – “Два казанні” Л. Карповіча (Еўе, 1615); **КЗ** – Литовская метрика. Книги записей // РИБ, т. XXVII. – СПб., 1910; **Скар.** – “Біблія” выдання Ф. Скарыны; **ДЗ** – Другазаконне; **ПС** – Прытчы Саламонавы; **ПЦ** – Першая кніга царстваў (Прага, 1516 – 1519); **СлРЯ** – Словарь русского языка XI – XVII вв. / под ред. С. Г. Бархударова. – М.: Наука, 1977; **Ст. 1566** – Статут Вялікага Княства Літоўскага 1566 г. (рукапіс РНБ); **ТСБМ** – Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. – Мінск: БелСЭ, 1977 – 1984; **Чэцця** – “Чэцця” 1489 г. (рукапіс БАН Украіны).

**Ганна ФЕДАРЭНКА,**
навуковы супрацоўнік аддзела
гісторыі беларускай мовы
Інстытута мовы і літаратуры
імя Якуба Коласа і Янкі Купалы
НАН Беларусі.

*З гісторыі мовы*

Вольга ГАЛАЙ

# АДЛЮСТРАВАННЕ ЯЎРЭЙСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЎПЛЫВУ Ў БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Няма такога народа, які быў бы ізаляваны ад суседзяў. Паміж суседзямі заўсёды існавалі і існуюць узаемаадносіны. Няма і такіх моў, якія развіваліся б адасоблена ад іншых. У кожнай мове абавязкова сустракаецца шмат слоў, перанятых з іншых моў. Дарэчы, мовы між сабою пераплецены не толькі дзякуючы агульнаму паходжанню, але і дзякуючы запазычванню.

У беларускай і яўрэйскай* мовах многа агульных слоў. І гэта невыпадкова: жывучы побач, беларусы запазычвалі словы з яўрэйскай мовы, а яўрэі – з беларускай. Магчыма, праз яўрэяў у беларускую мову прыйшло і шмат нямецкіх слоў.

Як вядома, яўрэі на землях Беларусі сяліліся з даўніх часоў. У сярэдзіне XIV ст. яны былі сталымі жыхарамі Брэста, Гродна, у выніку чаго ў 1388 г. князь Вітаўт уручыў ім даравальную грамату. Значыць, яўрэяў ужо ў самым пачатку існавання Вялікага Княства Літоўскага было нямала. Спачатку яны пасяліліся ў гарадах і каралеўскіх маёнтках, потым у маёнтках знатнай

* Назва “яўрэйская мова” – дастаткова ўмоўная. Яна выкарыстоўваецца ў дачыненні да гаворак, якія развіваліся на аснове сярэдневерхненямецкага дыялекту пад уплывам старажытнай яўрэйскай мовы. Гэтыя гаворкі былі распаўсюджаны на беларускіх землях у часы Вялікага Княства Літоўскага. Яны адлюстраваны ў розных пісьмовых крыніцах і творах мастацкай літаратуры. Яўхім Карскі такія гаворкі называў яўрэйска-нямецкім жаргонам.

шляхты і, нарэшце, дробнай. Займаліся яны земляробствам, гандлем, рознымі рамёствамі. Асабліва многа яўрэяў з'явілася ў ВКЛ пасля Люблінскай уніі.



***Вольга Максімаўна Галай** – даследчык моў. Кандыдат філалагічных навук. Дацэнт кафедры нямецкай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Закончыла Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў (1964). Выкладала беларускую і нямецкую мовы ў школах Брэстчыны і Міншчыны. З 1969 г. – у БДУ. Аўтар шматлікіх прац па методыцы выкладання нямецкай мовы.*

Напластаванні іншамоўнай лексікі ў беларускай мове ўпершыню выявіў Яўхім Карскі. У сваёй працы ён даў спіс слоў, што пранікслі ў нашу мову "прама ад немцаў або з яўрэйскага жаргону. Гэта асабліва можна сказаць у дачыненні да слоў, якія датычацца гандлю, кавальскага і цяслярскага рамёстваў, бо названыя галіны знаходзіліся галоўным чынам у руках яўрэяў" [1, с. 154]. Вось некаторыя словы са спіса Я. Карскага: *агундэръ* 'сабачы сын' – яўр.-ням. *a hund der*; *балагола, балагула* 'вялікая крытая яўрэйская павозка' – яўр.-ням. *balgole*; *бáхýрка, бáхýр, бахурóк* 'каханка, каханак, дзіця' – яўр. *Bocher* / *bacher* (у "Этымалагічным слоўніку нямецкай мовы" Ф. Клюге: *Bocher* 'вучань', яўр. *bāchur* 'малады чалавек', яўр.-ням. *bocher* 'вучань'); *бэбухи* 'ўнутранасці', яўрэйскае слова мае значэнне 'падушкі'; *кагáлъ* 'яўрэйскае духоўнае грамадства, натоўп' – яўр. *kahał*; *кум-геръ, кумагеръ* 'запрашэнне ісці' – яўр. *kumaher*, ням. *komme her*; *нэмаць* 'красці' ад ням. *nehmen* 'узяць' праз яўрэйскае; *трефъ* 'нячыстае' – яўр.-ням. *trejf* 'нячысты, забаронены да ўжывання'; *гой* 'празванне хрысціян яўрэямі' з яўр.-ням. *goj*; *пэйсъ* 'пасма валасоў на скронях' з яўр. *pejes*; *хала* 'пшанічная булка, выпечаная пэўным чынам' – яўр.-ням. *chale*; *фарфоли* 'вядомая яўрэйская страва' – яўр.-ням. *farfel*; *фанаберия*, вытворнае ад яўр.-ням. *faine* 'прыгожы' і *berje* 'хват, майстар' і шмат іншых (1, с. 156 – 157).

"Яўрэі былі амаль што выключным гандлёвым элементам, насіцелямі эканамічнай сувязі паміж краінамі, яны служылі не толькі праваднікамі тавараў ад аднаго народа да другога, але і праваднікамі слоў з адной мовы ў другую" [2, с. 209]. Удзельная вага яўрэйскага насельніцтва ў гарадах Беларусі ў XVI ст. складала ад 2 да 10% усіх жыхароў (Брэст – 10,4%, Гродна – 8,3%, Кобрын – 8,9%, Бялынічы – 7,9%, Нясвіж – 5%, Пружаны – 4,3%) [3, с. 206].

Асабліва ж шырокі прыток яўрэяў на сталае жыхарства назіраўся ў XIX ст. "У 1897 г. яўрэі складалі 17,4% насельніцтва [Гродзенскай] губерні. Яны займаліся пераважна рамяством і гандлем, таму пасяляліся ў гарадах і мястэчках. У Гродне на іх долю прыпадала 48% жыхароў, у мястэчках губерні – да 60%. Аднак з-за замкнёнага ўнутранага ладу жыцця, што дыктаваўся строгімі законамі іўдаізму, яўрэі істотна не ўздзейнічалі на этнакультурныя працэсы. І толькі з другой паловы XIX ст., пасля ліквідацыі кагальнай сістэмы, калі ўсё больш разбураліся патрыярхальныя этнічныя традыцыі яўрэйскага насельніцтва, шырыліся і мацнелі яго духоўныя сувязі з іншымі этнасамі, найбольш – з беларусамі. Даўно ведаючы і шануючы беларускую мову, яўрэі пераймалі некаторыя асаблівасці побыту і творчасці беларусаў і ў сваю чаргу перадавалі ім майстэрства ў кавальстве, шавецтве, кравецтве, рымарстве, гарбарстве. Рамёствы гэтыя хутка пераходзілі на вёску. Так, у пачатку 60-х г. XIX ст. у Гродзенскай губерні было 1103 шаўцы ў гарадах і 1385 на вёсцы. Культура вырабаў і высокая этычнасць адносінаў з заказчыкам (таксама і з пакупніком у гандлі) садзейнічалі трываламу ўключэнню яўрэйскага этнасу ў жыццё краю" [4, с. 11].

Іван Насовіч у "Словаре белорусского наречия" (СПб., 1870) таксама зафіксаваў шэраг слоў, запазычаных з яўрэйскай або праз яўрэйскую мову: *штофировать* 'багата апранаць', *шлоган* 'пакаранне розгамі', *шалберъ* 'абманшчык, хітрун', *шнапс* 'гарэлка', *цымусъ* 'страва', *сницаръ* 'майстар' (старабеларускае *шницаръ, сницаръ* 'рэзчык'; польск. *snycerz* ад н.-в.-ням. *Schnitzer*; сучасн. дыялектнае *шніцар* 'рэзчык па дрэве; рэзчык дошак на пілараме'), *сница* 'пласцінка, скобка', *трефъ* 'па яўрэйскім законе нячысты, забаронены да ўжывання', *шмэръ* 'шум', *шкель* 'насмешнік, жартаўнік', *шамберъ* 'абманшчык', *рохля* 'неакуратная жанчына', *кошеръ* 'ачышчэнне', *кгиморникъ* 'хітрун', *кум-геръ* 'ідзі сюды' і інш.

Нікога не здзіўляе, што "яўрэі, жывучы сумесна з беларусамі на працягу стагоддзяў, пераймалі ад іх шмат слоў, а беларусы ў сваю чаргу таксама запазычвалі словы з мовы яўрэйскай. Побач са словамі ўласнаяўрэйскага паходжання з яўрэйскай мовы перайшло ў беларускую мову шмат нямецкіх і іншых чужаземных лексіч-

ных адзінак, бо дзякуючы гістарычным умовам жыцця яўрэяў (шматлікім перасяленням) гаворкі яўрэяў увабралі ў сябе шмат слоў з іншых моў” [2, с. 209].

Бясспрэчную вартасць для выяўлення запазычанняў у беларускай мове мае праца М. Шульмана, які прыводзіць:

а) агульныя для беларускай і яўрэйскай моў словы, запазычаныя беларусамі з нямецкай і іншых моў праз польскую або яўрэйскую: *абцас, бавэлна, варштат, гвалт, гарбар, дах, дрот, друкар, каўнер, кахля, кіт, кляштар, келішак, коўдра, крэйда, крышталь, паля, плюдры, пушка* ‘каробка’, *рабаваць, разынкі, рэшта, смалец, спацэр, цабула, цукар, цымбал, цына, шаля, швагер, шпунт* і інш.;

б) агульныя для беларускай і яўрэйскай моў словы, запазычаныя яўрэйскай мовай з беларускай, польскай і іншых моў: *бульба, бэз, ваверка, вячэра, ганак, гляк, гультай, качка, карчма, квасоль, кучмы, лейцы, мурашка, падлога, паліца, паша, пляма, прыпячак, раіць, труна* і інш.;

в) яўрэйскія словы, запазычаныя беларускай мовай: *бахур, гіморы, кагал, маца, пейсах, рэбохі, хала, цымас, шабаш* і інш. [2, с. 211 – 216].

Лінгвістычныя крытэрыі (фанетыка-марфалагічнае аблічча і семантыка слоў) даследавання таксама ўказваюць на магчымасць пранікнення лексікі нямецкага паходжання праз яўрэйскую мову. Параўнаем, напрыклад: нов.-в.-ням. *Absatz* – яўр. *Abzas* – сучасн. літаратурнае *абцас*; нов.-в.-ням. *Rosine* – яўр. *Rosinkes* (яўрэйскія словы запісаны лацінскімі літарамі) – польск. *rodzynki* – ст.-бел. – *розынки, родзынки*, сучасн. літаратурнае *разынкі*, дыялектн. *родзынкі*; с.-в.-ням. *drat* – яўр. *Drot* – польск. *drót* – ст.-бел. і сучасн. літаратурнае *дрот*; нов.-в.-ням. *Geschäft* – яўр. *Gescheft* (вымаўляецца *Gischef*) – дыялектн. *гішэфт*; нов.-в.-ням. *Gewalt* ‘сіла, насілле; улада’ – яўр. *Gwalt* ‘насілле; крык’ – польск. *gwałt* ‘сіла, насілле; шум’ – ст.-бел. *кгвалтъ, гвалтъ* ‘насілле; павіннасць; штраф’ – сучасн. літаратурнае *гвалт* ‘здзек; уціск; крык, лямант; кліч аб паратунку’; ст.-в.-ням. *buhsa* – яўр. *Puschke* – польск. *puszka* – ст.-бел. *пушка* ‘каробка’ – сучасн. дыялектн. *пушка* ‘каробка’.

Варыянты і мадыфікацыі формы дапамагаюць вызначыць перадатачнае моўнае асяроддзе, факт пасрэдніцтва той ці іншай мовы. Параўнаем сучаснае літаратурнае *цвік*, дыялектнае *цьвек, цвак, цвок* і с.-в.-ням. *zwic, zwec* – яўр. *Zwoc, Zwak* – польск. *ćwiek*; с.-в.-ням. *krâm* ‘пакрыццё шалаша; дах будкі; гандлёвая будка; тавар; дробныя грошы за прададзены тавар’ – польск. *kram* ‘гандаль’ – яўр. *Krom* ‘магазін; тавар’ – ст.-бел. *крама, крамъ* ‘гандлёвая будка; тавар’ – сучасн. літаратурнае *крама* ‘магазін’, дыялектнае *крама, крам, кром* ‘тавар; магазін; тканіна; жалезная планка для закрывання магазіна’.

У народных гаворках (намі даследавана 38 раёнаў Беларусі) сустракаецца значная колькасць запазычанняў праз яўрэйскую мову, а, магчыма, гэта і яўрэйскія словы: *грайзэга* ‘круглая піла з вялікімі нахіленымі зубамі для падоўжанай і папярочнай распілоўкі сталярнага матэрыялу’; *пуцэлцал* ‘шавецкая прылада для навядзення глянцу на рантах і абцасах абутку’; *стрыца, трыца* ‘колца ў калаўроце з выемкай, на якую накладваюць шнур’; *фукталь* ‘машына для ачысткі зерня пасля арфы’; *бэбэхі* ‘ўнутранасці; скручаная шэрсць на авечцы’; *пэйсы, пейсы* ‘валасы’; *талмуд* ‘тоўстая кніга’; *цугундэр* ‘хітрун; гультай; нядбайнік; канец, які прывядзе да голаду’; *пфыфэрка* ‘распыляльнік’; *цымус* (акрамя літаратурнага ‘салодкая страва з морквы’) ‘самае цікавае, істотнае; сутнасць каго-, чаго-н.’; *шабáш* ‘канец работы; перапынак для адпачынку’; *хеўра* ‘банда (*адна хеўра* – пра людзей адных поглядаў, паводзін)’; *хаўрус* ‘група людзей, звязаных агульнымі інтарэсамі; саюз; садружнасць’; *хванабэрыя* ‘ганарыстасць’; *дабара* ‘пустаслоў’; *гіморы* ‘хітрасць’; *балагол* ‘перавозчык людзей ці грузаў’; *шахер-махер* (нов.-в.-ням. *Schacher und Macher*) ‘махлярская здзелка, спрытная ашуканская аперацыя’ і інш.

Наяўнасць запазычанняў з яўрэйскай мовы ў беларускіх народных гаворках пацвярджае даволі цесныя і працяглыя гісторыка-культурныя стасункі абодвух народаў. Яўрэйскія лексічныя запазычанні трапілі ў паўсядзённае ўжыванне беларусаў, адаптаваліся да беларускай моўнай рэчаіснасці і працягваюць жыццё ва ўлонні беларускай культуры.

**Спіс літаратуры**

1. **Карский, Е. Ф.** Белорусы / Е. Ф. Карский. – Вильно, 1904. – Т. 1 : Введение к изучению языка и народной словесности.

2. **Шульман, М.** Аб агульных элементах у беларускай і яўрэйскай мовах / М. Шульман // Полымя. – 1926. – № 8.

3. **Копысский, З. Ю.** Экономическое развитие городов Белоруссии (XVI – XVII вв.) / З. Ю. Копысский. – Минск, 1966.

4. **Пяткевіч, А.** Рэгіянальныя асаблівасці культуры Гродзеншчыны / А. Пяткевіч // Беларусіка=Albaruthenica : Кн. 3 : Нацыянальныя і рэгіянальныя культуры, іх узаемадзеянне. – Мінск : Навука і тэхніка, 1994.



# МЕТОДЫКА І ВОПЫТ



Віктар ІЎЧАНКАЎ

## *"АБЫЯКУ – АБЫ-ЯК"*, ці АГУЛЬНЫЯ ЗАЎВАГІ ПРА НАПІСАННЕ ПРЫСЛОЎЯЎ РАЗАМ, АСОБНА, ПРАЗ ЗЛУЧОК

*Працяг. Пачатак у №№ 1 – 3.*

Прыслоўі – адметны скарб мовы, у іх адцяняюцца самыя розныя характарыстыкі дзеяння, прадмета, прыметы: *млосна, паважліва, зранку, золка, жартам, гвалтам, асобна, россыпам, пешшу, сам-насам, сапраўды, сарамяжліва, абаранкам* і шмат іншых. Яны могуць абазначаць прымету і спосаб дзеяння, паказваць на месца, час, абставіны.

Сам тэрмін *прыслоўе* паказвае на тое, што яно павінна быць "пры слове", чытай – пры дзеяслове: ***чуйна** рэагаваць, **хутка** бегчы*. Гэта прасочваецца і ва ўкраінскай мове, і ў рускай. У апошняй паходжанне тэрміна звязваецца з коранем *-реч-*, які раней быў шматзначным, утрымліваў у сабе і значэнне 'глагол'. Таму калі стараруская "наречие" літаральна перакласці на сучасную рускую мову, то атрымаецца штучнае слова "наглаголие". Падобная асаблівасць прыслоўяў адзначалася яшчэ старажытнымі рымлянамі, якія гэтую часціну мовы так і назвалі: *adverbium*, ці "прыдзеяслоўе", бо слова *verbum* абазначае 'дзеяслоў', а прыстаўка *ad-* – 'пры'. Па найменні бачым, што беларускае *прыслоўе* найбліжэй стаіць да ёмкага абазначэння лінгвістычнага тэрміна.

Для беларускай мовы характэрны прыслоўі, якія па-руску перадаюцца двума, трыма словамі ці нават цэлымі сказамі: *адвячоркам, анігáдкі, аніяк, дакуль, датуль, дасюль, нáзіркам, напавер, напоўніцу, напрадвесні, наўзáхапкі, наўзбоч, нацямочку, папраўдзе, перадусім, укоптар, ураздроб, усцяж, цёмначы.*

Напісанне прыслоўяў традыцыйна выклікае шмат пытанняў. Гэта тлумачыцца тым, што прыслоўі маюць "індывідуальны" характар, бо абумоўліваюцца кантэкстам. Іх кадыфікацыя накіравана на канкрэтныя маўленчыя выпадкі. У тэксце часам цяжка адрозніць прыслоўі ад іншых часцін мовы. Напрыклад, прыслоўе *абыяк* мае сінонімы *сяк-так, так-сяк, як-небудзь, неяк, нейк.* У творах мастацкай літаратуры гэтае ж прыслоўе можа набыць зусім іншае гучанне і стаць нават назоўнікам з ацэначным значэннем. Так, у вершы "Абыяк" Васіля Віткі чытаем:

Абыяку – абы-як,
Або гэтак, або так.
Абыяку – абы,
Абы збыць абы-куды
Абы-што, абы-чыё,
Абы толькі не сваё.
Абыяк – абібок.
Вось і ўвесь яго
Урок.

Выбарачны падыход да замацавання напісання прыслоўяў, з аднаго боку, абумоўлены ўстойлівасцю традыцый пісьма, а з другога – жывым характарам працэсу адасаблення ад іншых часцін мовы і магчымасцю па-рознаму інтэрпрэтаваць адзін і той жа факт. У сучасных даследаваннях выказваюцца самыя розныя меркаванні пра шляхі развіцця прыслоўяў. Гэта, вядома ж, уплывае на арфаграфію і перашкаджае ў некаторых выпадках вывесці ўніверсальныя правапісныя нормы.

## *НІЗАШТО НЕ СКАЖУ*, ці НАПІСАННЕ ПРЫСЛОЎЯЎ РАЗАМ

Родная мова вылучаецца тым, што адносіцца да флектыўных: мы злучаем слова са словам пры дапамозе флексіі – канчатка: *беларуск**ае** прыслоў**е**, беларуск**аму** прыслоў**ю**, беларуск**ім** прыслоў**ем*** і г. д. Мовы такога тыпу адносяцца да сінтэтычных, простых. У процівагу складаным, ці аналітычным, – такім, як англійская, французская і інш. Ва ўсходнеславянскіх мовах амаль усе самастойныя часціны мовы (назоўнік, прыметнік, дзеяслоў, займеннік, лічэбнік) змяняльныя. Яны добра ўкладваюцца ў сінтэтычны лад, бо граматычныя значэнні выражаюцца ў самім слове, а

не па-за яго межамі. У аналітычных жа мовах слова – перадатчык толькі лексічнага значэння, а граматычнае значэнне афармляецца асобна: парадкам слоў, службовымі словамі, інтанацыяй і да т. п. Змяняльнасць слова ў іх неактыўная і не мае такіх функцыянальных нагрузак, як, напрыклад, у беларускай, рускай, польскай і інш. Аднак нельга сказаць, што флектыўныя мовы існуюць у чыстым выглядзе. Для кожнай з іх характэрны праявы таго ці іншага тыпу. Напрыклад, у нас ёсць даволі цікавая ў гістарычных адносінах часціна мовы – прыслоўе, фарміраванне якой пачалося яшчэ ў дапісьмовую эпоху. Гэты працэс працягваецца, бо прыслоўе – адна з самых жывых, рухомых і прадуктыўных часцін мовы.

Прыслоўе ўзнікае з развіццём абстрактнага мыслення як сродак выражэння акалічнаснай характарыстыкі дзеяння або стану, адцягненых граматычных значэнняў часу, прасторы, спосабу, ступені і меры. Прыслоўі займаюць так бы мовіць прамежкавае становішча ў беларускай, рускай і ўкраінскай мовах (рус. *наречие*, укр. *прислівник*), бо адносяцца да нязменных. Аднак яны могуць мець ступені параўнання (*весела – весялей, блізка – бліжэй, дрэнна – горш, больш дакладна, менш удала*), формы ацэнкі (*хуценька, страшэнна, танюсенька, памаленечку*) і меры якасці (*далекавата, даўгавата*). У сучасных мовах клас прыслоўяў няспынна папаўняецца.

У беларускай мове прыслоўі суадносяцца з асноўнымі разрадамі імён і дзеясловаў. Заўважаецца, што сувязь прыслоўяў з імёнамі больш цесная, чым з дзеяслоўнымі формамі, але прыслоўі больш часта прымыкаюць да дзеясловаў. Адбываецца няспынны рух іменных формаў у сістэму прыслоўяў. Так, назоўнік можа набываць акалічнаснае значэнне: *прыйшоў назаўтра*, але *адкласці на заўтра*.

Неабходна адрозніваць прыслоўі *нашто, нізашто, зусім, затым* ад спалучэнняў займеннікаў з прыназоўнікамі: *нашто* (з якой мэтай?) *ты гэта робіш?* і *ён не ведаў, на што спадзявацца*; *нізашто* (ні пры якіх умовах, ні ў якім разе) *не скажу* і *пакараны ні за што* (дарэмна); *зусім здаровы* і *з усім атрадам*; *падумай, а затым скажы* і *стаяў за тым домам*.

Пералічаныя асаблівасці ўплываюць на арфаграфічныя нормы прыслоўяў і робяць іх “цяжкімі” для напісання. У новай рэдакцыі “Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі” правілы напісання прыслоўяў разам, асобна і праз злучок аб’яднаны ў § 38. Пагаворым пра напісанне прыслоўяў разам, калі два і нават тры словы аб’ядноўваюцца ў адно.

Пішуцца разам прыслоўі, утвораныя ад прыслоўяў прыставачным спосабам: *назаўтра, назаўсёды, назаўжды, назусім, намнога, наколькі, настолькі, нашмат, насупраць, заўчора, залетась, паслязаўтра, пазаўчора, пазалетась, замнога, задоўга* і інш. Ад такіх прыслоўяў трэба адрозніваць спалучэнні назоўнікаў з прыназоўнікамі, якія ўжываюцца ў значэнні дапаўнення. Назоўнікі з прыназоўнікамі пішуцца асобна: *на заўтра* (*адкласці*), *за дзякуй* (*рабіць*), *да заўтра* (*скончыць*); *ад цямна да відна*, *з цямна да цямна*, *да ранку*, а таксама – *у адно*, *па двое*, *па трое* і інш.

Звернем увагу на распаўсюджаную памылку ў рускамоўных беларусаў, якія па беларускай мадэлі ўтвараюць рускія прыслоўі тыпу *замного, засладко*. Такіх прыслоўяў у рускай мове проста не існуе: *намного*, прыслоўе (*намного лучше*), але *на много лет*. Памылка выклікана інтэрферэнтным уплывам.

У беларускай мове разам пішуцца:

прыслоўі, утвораныя ў выніку спалучэння прыназоўнікаў *у* і *на* з рознымі склонавымі формамі колькасных і зборных лічэбнікаў: *удвая*, *утрая*, *удваіх*, *утраіх*, *утрох*, *учатырох*, *усемярых*, *удвух*, *удзвюх*, *усямёх*, *надвое*, *натрое*;

прыслоўі, утвораныя ад прыметнікаў прыставачна-суфіксальным спосабам: *дабяла*, *дачыста*, *дасуха*, *дасыта*, *здалёку*, *звысоку*, *зрэдку*, *справа*, *сослепу*, *змоладу*, *змалку*, *злёгку*, *паблізу*, *папросту*, *паціху*, *падоўгу*, *пароўну*, *улева*, *управа*, *навечна*, *надоўга*, *насуха*, *зажыва*, *зацемна*, а таксама *заадно*, *наўдалую*, *ушчыльную*, *урассыпную*, *упустую*, *збольшага*, *нашто*, *навошта*, *нізашто*, *потым*, *надта*, *зусім*, *затым*, *прытым* і інш.

**Увага!** Спалучэнні прыназоўнікаў з займеннікамі пішуцца асобна: *на што*, *ні за што*, *з усім*, *за тым*.

Пішуцца разам прыслоўі, утвораныя ў выніку спалучэння:

прыназоўнікаў і склонавай формы назоўнікаў, якая самастойна не ўжываецца: *бесперастанку*, *дашчэнту*, *досыць*, *замуж*, *запанібрата*, *знячэўку*, *знянацку*, *навобмацак*, *наогул*, *напагатове*, *напавал*, *напалам*, *наперакор*, *напярэрэз*, *напрост*, *напярэймы*, *насцеж*, *наўздагон*, *наўздзіў*, *наўпрост*, *наўскос*, *наўцёк*, *неўзабаве*, *неўпапад*, *паасобку*, *паблізу*, *спакон*, *уваччу*, *удоўжкі* (*удоўж*), *упокат*, *употай*, *усутыч* і інш.;

прыназоўнікаў з формамі назоўнікаў і іншых часцін мовы, калі да падобнай формы назоўніка не можа быць далучана азначэнне або пастаўлена склонавае пытанне з адпаведным прыназоўнікам: *апоўдні*, *апоўначы*, *даволі*, *дадому*, *замужам*, *зроду*, *наадварот*, *наадрэз*, *накрыж*, *напаказ*, *напалавіну* (*напалову*), *наперамейку*, *напракат*, *напралом*, *напрыклад*, *насілу*, *насмерць* (але: *не на жыццё, а на смерць*), *наўдачу*, *навек*, *паволі*, *падрад*, *падчас*, *пакрысе*, *увосень*, *уброд*, *уголас*, *удзень*, *углыб*, *упершыню*, *уранку*, *уранні*, *уразброд*, *усур’ёз* і інш.;

прыназоўнікаў з формамі назоўнікаў *верх*, *ніз*, *перад*, *зад*, *бок*, *гара*, *высь*, *век*, *пачатак*, *раз*,

*ноч*, *вечар*, *раніца* і іншых пры адсутнасці пры іх азначэння або дапаўнення: *зверху*, *наверх*, *уверх*, *уверсе*, *данізу*, *знізу* (але: *з верху да нізу*), *наніз*, *унізе*; *наперад*, *уперад*, *упярэдзе*; *ззаду*, *назад*, *узад*; *збоку*, *набок*, *убок*, *убаку*; *дагары*, *згары*, *угары*, *угару*; *увысь*; *удалеч*; *навек*, *навекі*; *спачатку*, *упачатку*; *адразу*, *ураз*; *уночы*, *поначы*; *звечара* (але: *з вечара да ранку*), *надвечар*, *увечары*; *зранку* (але: *з ранку да вечара*), *уранку*.

Спалучэнні прыназоўнікаў з назоўнікам пры наяўнасці паяснялънага слова пішуцца асобна: *на верх гары*, *на ніз ямы*, *у высь завоблачную*, *у даль палёў*, *на векі вечныя*, *у пачатку года*, *з пачатку вясны*.

Пішуцца разам прыслоўі *таксама*, *гэтаксама*, *штодзень*, *штоноч* (*штоночы*), *штовечар* (*штовечара*), *штотыдзень* (*штотыдня*), *штомесяц*, *штогод* і інш.

# *ПАМЫЛКІ НА-ГАРА*, ці НАПІСАННЕ ПРЫСЛОЎЯЎ ПРАЗ ЗЛУЧОК І АСОБНА

Напісанне прыслоўяў праз злучок мае вызначаныя нормы і характарызуецца пэўнай стабільнасцю. Аднак у маўленчай практыцы сустракаем нямала памылковых выпадкаў, калі адно і тое ж прыслоўе пішацца па-рознаму. Асабліва ў гэтым плане вылучаецца слова *на-гара*, якое прыйшло ў мову з прафесійнай лексікі шахцёраў. *На-гара* – значыць ‘наверх, на паверхню зямлі’: шахцёры падкотвалі ваганеткі з рудой, перакульвалі ў бункер, а з бункера руда каўшамі выграбалася наверх, на-гара. У пераносным значэнні *выдаваць на-гара* – выраблязь, ствараць, прапаноўваць і г. д. нешта хутка і ў вялікіх колькасцях. У прэсе, інтэрнэце можам знайсці: *Усяго ж з дня запуску ў эксплуатацыю і да пачатку ліпеня завод* ***выдаў “на гара”*** *больш за 20 тысяч тон прадукцыі* (Хойніцкія навіны. 10.07.2010); *Аляксандар Саладуха* ***выдаў на гара*** *свой твор “Не крамсайце вы малога”* (з інтэрнэту); *Але ж, глядзі ты, спрамагліся* ***выдаць “на-гара”*** *і Саню Хацкевіча, і Валіка Бялькевіча, і Сашка Глеба* (з інтэрнэту). Ва ўсіх трох выпадках напісанне прыслоўя няправільнае.

У новай рэдакцыі “Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі” апушчана заўвага “Правіл…” (1959), але старая норма не адменена: “…пішацца праз злучок прыслоўе *на-гара* (тэхнічны тэрмін)”. Адзначым, што прыняцце новай рэдакцыі правапісу не скасоўвае ранейшыя нормы, якія датычаць канкрэтных слоў і пазіцый. Напрыклад, такой: у прыслоўях з прыстаўкай ***па-***, утвораных ад складаных прыметнікаў, якія пішуцца праз злучок, злучок ставіцца толькі пасля ***па-***: *па-сацыялдэмакратычнаму*.

Пішуцца праз злучок прыслоўі *па-першае*, *па-другое*, *па-трэцяе* і г. д., а таксама ўтвораныя ад прыметнікаў і займеннікаў прыслоўі, якія пачынаюцца з *па-* і заканчваюцца на *-ску* (*-цку*), *-і* (*-ы*), *-аму* (*-яму*), *-ому*, *-му* (*-йму*): *па-гаспадарску*, *па-беларуску*, *па-брацку*, *па-мастацку*, *па-бацькоўску*, *па-чалавечы*, *па-хлапечы*, *па-добраму*, *па-ранейшаму*, *па-даўняму*, *па-веснавому*, *па-мойму*, *па-свойму* і інш.

Асаблівай увагі патрабуюць правілы напісання прыслоўяў асобна. У новай рэдакцыі пералічаны асноўныя моманты.

Асобна пішуцца прыназоўнік *у* і склонавая форма поўнага прыметніка ў значэнні прыслоўя, калі яна пачынаецца з галоснай: *у адкрытую*.

Пішуцца асобна блізкія па значэнні да прыслоўяў спалучэнні назоўніка з прыназоўнікам:

калі паміж прыназоўнікам і назоўнікам можна паставіць азначэнне: *у момант* (*у адзін момант*), *у тупік* (*папаў у такі тупік, што не выбрацца*), *да астатку* (*да самага астатку*);

калі назоўнік у пэўным (адным) значэнні захаваў хоць бы некаторыя склонавыя формы з прыназоўнікамі (за выключэннем назоўнікаў *верх*, *ніз*, *перад*, *зад*, *бок*, *гара*, *высь*, *далеч*, *век*, *пачатак*, *раз*, *ноч*, *вечар*, *ранак* і інш.): *пад паху*, *пад пахі*, *пад пахамі*; *па часе*, *да часу*, *з часам*, *у час*; *праз меру*, *у меру*, *па меры*; *на памяць*, *на памяці*, *па памяці*; *на руку*, *не з рукі*; *да душы*, *па душы*; *у пару*, *да пары*, *не ў пару*; *за мяжой*, *за мяжу*, *з-за мяжы*; *за граніцай*, *з-за граніцы*.

Пішуцца асобна наступныя блізкія па значэнні да прыслоўяў спалучэнні назоўнікаў з прыназоўнікамі:

*без*: *без упынку*, *без аглядкі*, *без разбору*, *без развагі*, *без толку*, *без канца*; але: *бясконца*, *безупынна*, *безаглядна*, *безразважна*, *бесталкова*;

*да*: *да адвалу*, *да зарэзу*, *да ўпаду*, *да смерці*;

*на*: *на баку*, *на хаду*, *на ляту*, *на скаку*, *на віду*, *на смак*, *на слых*, *на вока*, *на грэх*, *на дзіва*, *на славу*, *на смех*, *на гвалт*, *на злосць*, *на жаль*;

*з*: *з налёту*, *з разбегу*, *з разгону*, *з размаху*, *з наскоку*, *з ходу*, *з гарачкі*.

Пішуцца асобна:

спалучэнні часціц *не* і *ні* з прыназоўнікавымі формамі назоўнікаў: *не ў меру*, *не ў пару*, *не ў лад*, *не пад сілу*, *не да смеху*, *не да спеху*, *не да смаку*, *не да твару*, *не на жарт*, *ні на ёту*, *ні за грош*;

спалучэнні назоўнікаў, якія пачынаюцца з галоснай, з прыназоўнікам *у*: *у абхват*, *у абдымку*, *у абмен*, *у абрэз*, *у адзіночку*, *у абцяжку*, *у імгненне* і інш.;

выразы: *усё роўна*, *усё адно*, *як бачыш*, *як след*, *як мага* і інш.; але: *якраз*.

*Працяг будзе.*

*Рыхтуемся да цэнтралізаванага тэсціравання*

# ТЭСТ ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

**Частка А**

**А1.** Адзначце словы, у якіх падкрэсленыя літары абазначаюць гук [з′]:
1) адзвінець; 4) зжаліцца;
2) звесці; 5) з ячменю.
3) каўказскі;

**А2.** Адзначце назоўнікі, у якіх націск падае на другі склад:
1) арышт; 4) упрысядкі;
2) навіна; 5) факсіміле.
3) наспех;

**А3.** Адзначце словы, у якіх пішацца літара *а*:
1) Т_рэза; 4) мн_гапланавы;
2) ц_на; 5) в_гнепрыпасы.
3) т_рфахімічны;

**А4.** Адзначце словы, у якіх пішацца літара *е*:
1) зм_рзанне; 4) м_дагонка;
2) _гіпет; 5) ц_жкаваты.
3) л_гкавырашальны;

**А5.** Адзначце правільна напісаныя словы:
1) прайнвентарызаваць; 4) прыдуць;
2) прайграць; 5) разіграны.
3) зымшыць;

**А6.** Адзначце прыклады, у якіх на месцы пропуску пішацца літара *ў*:
1) рады_с; 4) на _краіне;
2) па-_збекску; 5) абмярко_ваць.
3) паў_стаў;

**А7.** Адзначце правільна напісаныя словы (формы слоў):
1) Аліг'еры; 4) лепелскі;
2) з людзмі; 5) адмоў'е.
3) глыб'ю;

**А8.** Адзначце правільна напісаныя словы (формы слоў):
1) разводзе; 4) прычындалье;
2) цішшу; 5) група.
3) расечаны;

**А9.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца літара *д*:
1) брыльян_шчык; 4) дойлі_ства;
2) абхо_чык; 5) ука_чык.
3) а_каз;

**А10.** Адзначце словы з вытворнай асновай:
1) абутак; 4) зараз;
2) аршанскі; 5) бяспека.
3) думаючы;

**А11.** Адзначце антонімы:
1) былое – будучае;
2) дзень – уначы;
3) нямоглы – хваравіты;
4) назначыць – звольніць;
5) сустрэча – расставанне.

**А12.** Адзначце прыклады, у якіх правільна ўжытыя склонавыя канчаткі назоўнікаў:
1) з Міхасём Лыньковам;
2) пад Слонімам;
3) сонечнага ранку;
4) у пуху;
5) аб каралі.

**А13.** Адзначце складаныя назоўнікі, якія пішуцца праз злучок:
1) бенза_піла; 4) контр_ігра;
2) Бялыніцкі_Біруля; 5) конь_скакун.
3) грам_малекула;

**А14.** Адзначце словазлучэнні з адноснымі прыметнікамі:
1) срэбны пух; 4) лімонны сок;
2) глухі стук; 5) студэнцкая канферэнцыя.
3) братава паліто;

**А15.** Адзначце складаныя прыметнікі, якія пішуцца праз злучок:
1) жывёла_гадоўчы;
2) народна_гаспадарчы;
3) Усходне_Кітайскае мора;
4) трох_гадовы;
5) лос_анджэлескі.

**А16.** Адзначце сказы, у якіх ёсць дзеясловы закончанага трывання.

1) Поплаў краскамі прыбраўся яркімі, кліча ў госці да сябе здалёк.

2) Далей наш шлях ляжаў праз топкае балота, і рэчы давялося несці на сабе.

2) У Гомелі ішоў снег, сухі, лёгкі.

3) За рупліваю працай калгаснай спеў дзяўчат скалыхне сіні гай.

4) Тут кожнае сэрца вялікаю працай сагрэта.

5) Сінела неба ў пасвятлелых шыбах.

**А17.** Адзначце сказы, у якіх ёсць дзеясловы загаднага ладу.

1) Дык скажы ж мне, дубе, адкуль твая сіла?

2) Які дзівосны сад квітнеў бы тут, каб рука чалавека адвяла воды горных рэк.

3) Давай крыху патупаем па Мінску.

4) Матчыных слоў не забуду ніколі, дружбу шаную, што з вамі ствараў, з вамі, сябрамі, якіх яшчэ ў школе роднымі сэрцу навечна абраў.

5) Вось і лета сышло, адспявала калоссе, цяжка нам заўважаць, як з'яўляецца восень.

**А18.** Адзначце сказы, у якіх выдзеленыя словы пішуцца праз злучок.

1) Сярожка, *на_што* ты так зрабіў?

2) Стаяла бяззорная, *па_асенняму* цёмная ноч.

3) Слон пакуль што *як_ніяк* трымаўся на нагах.

4) *Па_трэцяе* марожанае пайшлі разам.

5) Праз расчыненыя *на_сцеж* вокны чуваць быў дружны спеў жаваранкаў.

**А19.** Адзначце сказы, у якіх *не (ня), ні* трэба пісаць разам.

1) Не_пачаўшы, не_скончыш.

2) Адзін яшчэ не_пажаўцелы ліст зляцеў з дуба.

3) Ні_колі ні_хто з настаўнікаў не чуў, каб яны перакінуліся зняважлівым словам.

4) Арцём Захаравіч адчыніў бакавое шкло, выкінуў не_дакурак, сняжынкі халодным струменем уварваліся ў машыну.

5) Ведаю: сабе ў жыцці ніколі не даруеш не_пройдзенай найменшай сцежкі, як не даруеш не_сустрэтае вясны ці не_прапетай песні.

**А20.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў ужываецца *ні*.

1) _ разу не быў у тых мясцінах.

2) Хто _ гляне на нас, сам, як мак, расцвіце.

3) _дзе далёка-далёка гуў грузавік.

4) Нават ворагі _ маглі _ дзівіцца мужнасці і гераізму абаронцаў крэпасці.

5) Чаго толькі там _ было!

**А21.** Адзначце словазлучэнні, у якіх правільна выдзелены галоўныя словы:

1) духмяныя *грушы*;

2) вярнуцца *апоўначы*;

3) кожны з *чытачоў*;

4) *захапляцца* словам;

5) на *жыццёвай* дарозе.

**А22.** Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі словамі і іх сінтаксічнай роляй. Адзначце нумар правільнага адказу.

А. Жанчына страціла ў сваім жыцці *самае дарагое* і *адзінае*.

Б. Бусла ведае *кожны*.

В. *Далей* у хмызняку я прыкмеціў пацямнелыя лункі.

Г. Рыгораў сын таксама *студэнт*.

| | |
|---|---|
| 1. Дзейнік. | 4. Азначэнне. |
| 2. Выказнік. | 5. Акалічнасць. |
| 3. Дапаўненне. | |

| | |
|---|---|
| 1) А4Б1В5Г2; | 4) А4Б1В3Г2; |
| 2) А3Б4В5Г2; | 5) А3Б1В5Г2. |
| 3) А3Б4В5Г1; | |

**А23.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску абавязкова ставіцца працяжнік.

1) Ты _ мой госць.

2) Спрадвеку фальклор _ невычарпальная крыніца паэзіі.

3) Сёння дзень _ цёплы і радасны.

4) Некалькі невялікіх крам _ вось і ўвесь гандаль.

5) Сват _ не сват, а чалавек свойскі.

**А24.** Адзначце сказы, у якіх знакі прыпынку пры аднародных членах пастаўлены правільна.

1) Адтуль далятала то дзявочая прыпеўка, то выбух смеху, то пераліў звонкага гармоніка.

2) Вочы зліпаюцца і бачаць не цёмную шэрань гасцінца, а асветленае сонцам поле.

3) У апошніх, сонечных промнях абрысы палаца трацяць выразнасць.

4) Пёсік у мяне быў хоць і малы, але смелы.

5) Рыбацкая снасць, сетка, нерат, вуды – была адмысловая ў дзядзькі Марціна.

**А25.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць коску.

1) А вышэй у нябесным блакіце, у раскошнай ляноце плывуць_ як кавалачкі ваты_ невялікія, рэдкія аблачынкі.

2) Дзявяты гадок, чытае_ як рэпу грызе.

3) У хаце было так цёмна_ як у яме.

4) Яны развіталіся_ як браты.

5) Звон іх зліваецца з Бухенвальдскім набатам, з жалобнай музыкай над магіламі ахвяр Лідзіцэ і Арадура і гучыць_ як палымяны заклік: “Людзі, будзьце пільныя!”

**А26.** Адзначце сказы, у якіх выдзеленыя курсівам словы трэба выдзеліць знакамі прыпынку.

1) І толькі ён *мароз заўзяты, мароз занадта зухаваты* адзін па лесе пахаджае.

2) У такіх жанчын, як Вольга *акрамя мацярынскага эгаізму* ёсць яшчэ інтуіцыя і мудрасць.

3) Выгнуўшы шыю, павольна праляцела чапля і *ўжо мінуўшы мяне* пракрычала нешта скрыпучым голасам.

4) Жанчыны сядзелі *абліваючыся гарачымі слязьмі*.

5) Без буслоў бяздоннае сіняе неба становіцца *пустым і нецікавым*.

**А27.** Адзначце сказы, у якіх набраныя курсівам словы трэба выдзеліць коскамі.

1) Лабановіч *відавочна* быў задаволены, што не трэба доўга шукаць фурманкі.

2) *Часам* пры гэтых гаворках успаміналі Ганніну маці-нябожчыцу, казалі, што дачка ва ўсім выйшла ў матку.

3) Спявалі дрэвы, і *няхай ціхім, але неадольным спевам* адгукалася сэрца.

4) Лейцаў з рук не выпускай *яздок*!

5) Мы зайшлі ў крайнюю хату, пабудаваную *напэўна* пасля вайны.

**А28.** Адзначце складаназлучаныя сказы, у якіх на месцы пропуску трэба паставіць працяжнік.

1) Пройдзе час _ і ўздымецца, узнясецца над зямлёй, над дрэвамі.

2) Яшчэ тыдзень-другі _ і на змену дожджыку пасыплецца снег, ляжа на зямлю мяккім пухам.

3) Твар яго павернуты да мяне _ але позірк накіраваны кудысьці міма, удалечыню.

4) То салавей зальецца ўдала_ то шпак пасобіць ценарком.

5) У кватэры зараз жа грукнула крэсла_ і пачуліся крокі.

**А29.** Адзначце складаназалежныя сказы, у якіх трэба паставіць дзве коскі.

1) Як хацеў бы я па палях прайсці і напіцца іх пахам, росамі, паглядзець, зірнуць як жыты растуць як калосікі наліваюцца!

2) Хто не ведае як б'ецца, сціскаецца сэрца ад хвалявання калі праз шмат гадоў раптам убачыш мясціны з якімі звязана тваё жыццё!

3) Крынічка цякла сабе, не думаючы якую важную ролю выконвае яна ў аб'яднанні жыцця.

4) Вярталіся дадому мы позна калі пачынае астываць цёплы пясок і душнаватае паветра напаўняе наваколле.

5) Як толькі вызвалілі Церахоўку і мая маці стала паштальёнам дзядзька Піліп толькі тое і ведаў што пераймаць яе каля сваёй хаты.

**А30.** Адзначце бяззлучнікавыя сказы, у якіх знакі прыпынку паміж часткамі пастаўлены правільна.

1) Звяртаюся з просьбаю я – занясіце хутчэй у Чырвоную кнігу верасы і чабор, наша слова і наша імя.

2) Каля ганка спыніўся: чорны воран кружыўся над хатай і трывожна каркаў.

3) Крані нагой сухую галінку – ягада пырсне на жоўта-чырвоны падапрэлы пад снегам брусьнічнік, пакоціцца з лістка на лісток і стухне недзе ў счарнелым імху.

4) Тут жа часамі нясмела пастукваў мужыцкі воз: мізэрны конік дробна перабіраў нагамі па цвёрдым бруку.

5) Пра полацкага князя хадзілі легенды, паданні, быліны – пісаў аб ім аўтар "Слова пра паход Ігараў".

**А31.** Адзначце схему, якой адпавядае пастаноўка знакаў прыпынку ў сказе з простай мовай.

Што ты, Саўка, бунтуеш строга звярнуўся да яго войт кажы да ладу, калі з табой людзі гавораць.

1) "П, – а, – п".
2) "П, – а. – П".
3) "П, – а, – П".
4) "П", – а.
5) "П? – а. – П".

## Частка Б

**Б1.** Дапішыце сказ.

Дакладная вытрымка з якога-небудзь твора, ужытая з мэтай падмацавання пэўнай думкі, – гэта…

**Б2.** Знайдзіце зборны лічэбнік. Запішыце яго ў форме творнага склону.

1) пяцідзясяты; 4) чатыры шаснаццатыя;
2) пяцёра; 5) мільён.
3) трыста сем;

**Б3.** Знайдзіце ў сказе фразеалагізм. Вызначце, якім членам сказа ён з'яўляецца. Адказ запішыце ў форме назоўнага склону.

У хаце на ўсю іванаўскую круцілі вальс.

**Тэкст да заданняў Б4 – Б6, Б8**

1) Перасталі ісці дажджы, кудысьці сплылі хмары, а сонца пякло так, што і дзецца ад яго не было куды. 2) Няйнакш сваю віну старалася загладзіць. 3) А яшчэ праз пару дзён дождж *зацерусіў*. 4) Ды сапраўдны грыбасей!

5) Пасля гэтага дожджыку ў суботу раненька я падаўся ў лес. 6) Па грыбы. 7) І вельмі ж ужо абрадаваўся, калі на Светлай палянцы набрыў на маладзенькія лісічкі, затым *зрэзаў* каля дваццаці жоўтых сыраежак. 8) Праз нейкую гадзіну знайшоў адзін падбярозавік і два падасінавікі. 9) А калі *ля* самай сцяжынкі ў верасе згледзеў два з карычневымі капялюшыкамі баравікі, маёй радасці не было канца.

**Б4.** Ад выдзеленага ў 3-м сказе дзеяслова ўтварыце дзеепрыметнік залежнага стану прошлага часу і запішыце яго ў пачатковай форме.

**Б5.** Запішыце, якой часцінай мовы з'яўляецца выдзеленае ў 9-м сказе слова.

**Б6.** Вызначце спосаб утварэння выдзеленага ў 7-м сказе слова. Адказ запішыце ў форме назоўнага склону.

**Б7.** Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і іх відамі. Адказ запішыце.

А. Са свайго языка спусціш – на чужым не зловіш.
Б. Недалёка ад вёскі – сенажаць.
В. Імклівы і песенны час.
Г. З баравін патыхала жывіцай.

1. Двухсастаўны. 4. Безасабовы.
2. Назыўны. 5. Няпэўна-асабовы.
3. Абагульнена-асабовы.

**Б8.** Дапішыце сказ.

Сродкамі сувязі 3-га і 4-га сказаў з'яўляюцца…

### АДКАЗЫ

**Частка А: А1.** – 1, 2, 5; **А2.** – 3, 4, 5; **А3.** – 2, 4; **А4.** – 2, 4; **А5.** – 2, 3; **А6.** – 2, 5; **А7.** – 1, 3; **А8.** –2, 5; **А9.** – 2, 3, 4; **А10.** – 1, 2, 3; **А11.** – 1, 4, 5; **А12.** – 2, 3, 4; **А13.** – 2, 3, 5; **А14.** – 4, 5; **А15.** – 3, 5; **А16.** – 1, 2, 3; **А17.** – 1, 3; **А18.** – 2, 3; **А19.** – 3, 4, 5; **А20.** – 1, 2; **А21.** – 1, 4; **А22.** – 5; **А23.** – 2, 4; **А24.** – 1, 2, 4; **А25.** – 1, 3; **А26.** – 1, 2, 3; **А27.** – 1, 4, 5; **А28.** – 1, 2; **А29.** – 1, 5; **А30.** – 2, 3; **А31.** – 5.

**Частка Б: Б1.** – цытата; **Б2.** – пяцярымі; **Б3.** – акалічнасць; **Б4.** – зацярушаны; **Б5.** – прыназоўнікам; **Б6.** – прыставачны; **Б7.** – А3Б1В2Г4; **Б8.** – злучнік, сінонім.

Падрыхтавала
**Святлана ВАСІЛЕВІЧ.**

*Прапануем план-канспект*

Міхаіл ШАЎЧЭНКА

# СКЛАДАНЫ СКАЗ

## УРОК-АБАГУЛЬНЕННЕ Ў Х КЛАСЕ

**Мэты:** сістэматызаваць веды вучняў па вывучанай тэме; удасканальваць уменне знаходзіць у тэкстах складаныя сказы розных тыпаў, ставіць знакі прыпынку на мяжы частак складаных сказаў, рабіць сінтаксічны разбор складанага сказа; вучыць ужываць складаныя сказы ў вусным і пісьмовым маўленні; удасканальваць арфаграфічныя навыкі, звязнае маўленне, навыкі перакладу тэксту з рускай на беларускую мову; выхоўваць паважлівае стаўленне да гістарычнай спадчыны.

**Тып урока:** абагульнення і сістэматызацыі ведаў.

**Форма ўрока:** завочная экскурсія.

### ХОД УРОКА

**I. Арганізацыйна-матывацыйны этап.**

**1. Арганізацыйны момант.**

• ***Уступнае слова настаўніка.***

**2. Праверка дамашняга задання.**

• ***Апытванне.***

1. У якім раздзеле аб мове вывучаюцца будова і значэнне словазлучэнняў, сказаў, тэкстаў?

2. Які сказ называецца складаным?

3. На якія групы падзяляюцца складаныя сказы паводле іх структуры, значэння і сродкаў сувязі?

4. Якія адносіны могуць выражацца паміж часткамі складаназлучанага сказа?

5. Раскажыце пра пастаноўку знакаў прыпынку ў складаназлучаным сказе?

6. Што выступае сродкам сувязі ў складаназалежным сказе?

7. Назавіце віды даданых сказаў паводле значэння.

8. Пералічыце знакі прыпынку ў бяззлучнікавым складаным сказе.

9. Якія віды сувязі могуць спалучацца ў складаных сказах? Як называюцца такія сказы?

10. Назавіце два варыянты пабудовы схемы сказа.

• ***Работа па картках.***

*У час франтальнага апытвання трое вучняў працуюць па картках (гл. дадатак).*

• ***Работа каля дошкі.***

*Два вучні працуюць з дэфармаванымі сказамі.*

**Настаўнік.** Запішыце сказы, выпраўце ў іх памылкі, расстаўце знакі прыпынку, назавіце сродкі сувязі паміж часткамі сказа, зрабіце схему.

1. Наваградак быў першай сталіцай магутнай дзержавы Велікага княства Літоўскага якое падчас свайго росквіту разкінулася ад берагоў балтыйскага мора да чорнага ад буга да акі.

2. Гомельскі парк помнік садова паркавага мастацтва які быў заснаваны у першай палове XIX стагоддзя і размешчаны уздоўж ракі сож.

**II. Этап сістэматызацыі і замацавання.**

• ***Вуснае паведамленне вучня.***

*Праецыруецца на дошку фотаздымак Мазырскага замка.*

**Настаўнік.** Уважліва паслухайце паведамленне пра гістарычныя мясціны горада Мазыра. На слых вызначце: ужываюцца ў вусным маўленні складаныя сказы ці не.

**Вучань.** Гістарычным цэнтрам старажытнага Мазыра з’яўляецца Замкавая гара, дзе ў XI – XII стст. размяшчаўся дзядзінец, найбольш старажытная ўмацаваная частка горада. Пазней тут быў узведзены драўляна-каменны замак, які існаваў у XVI – XVII стст., а ў XVIII ст. быў перабудаваны ў палацава-замкавы комплекс – рэзідэнцыю мазырскага старасты.

Мазырскі замак не раз быў сведкам і ўдзельнікам гістарычных падзей. У розныя часы Мазыр належаў і кіеўскім, і чарнігаўскім, і турава-пінскім князям. У XIII – XVI стст. горад неаднаразова рабавалі татары. У 1240 г. татары прыйшлі на Беларусь, але літоўска-беларускія дружыны разбілі іх недалёка ад Мазыра, каля Скрыгалава. Аднак у наступным годзе татары прыйшлі з большым войскам і разбілі беларуска-літоўскую дружыну. Мазыр зноў быў разрабаваны і спалены. Да сярэдзіны XVI ст. Мазырскі замак не адзін раз бачыў каля сваіх сцен ворагаў, у тым ліку і крымскіх татар, і магутныя войскі маскоўскіх князёў.

У XVI – XVIII стст. Мазыр з’яўляўся цэнтрам староства і адначасова павета. У розныя часы на пасадзе Мазырскага старасты былі прадстаўнікі самых магутных магнацкіх родаў Беларусі: Гаштольды, Нарбуты, Радзівілы, Тышкевічы, Хадкевічы і інш.

У 1655 г. горад быў захоплены рускімі войскамі, якія зноў поўнасцю разбурылі яго, знішчылі амаль што ўсё насельніцтва. Нягледзячы на ўсе хваляванні, мазыране кожны раз падымалі разбураны і спалены горад з руін і попелу, аднаўлялі, а іншы раз будавалі нанава.



***Міхаіл Мікалаевіч Шаўчэнка** – мовазнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя І. П. Шамякіна. Закончыў Мазырскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя Н. К. Крупскай (1985). Займаецца вывучэннем пытанняў лексікалогіі, дыялекталогіі і методыкі выкладання беларускай мовы. Мае больш за 40 публікацый. Сярод іх – манаграфія "Рэлігійная лексіка ў беларускай мове", вучэбны дапаможнік "Практыкум па беларускай мове. Тэставыя заданні" (у суаўтарстве з Л. Мазуркевіч), вучэбна-метадычны дапаможнік "Педагагічная практыка па беларускай мове і літаратуры: для студэнтаў IV і V курсаў філалагічнага факультэта дзённай і завочнай формы навучання" (у суаўтарстве з В. Шаўчэнкай), з'яўляецца адным з суаўтараў вучэбна-метадычнага дапаможніка "Курсавыя працы па сучаснай беларускай мове: тэматыка, бібліяграфія, метадычныя парады".*

**III. Карэкцыйны этап.**

***• Выкананне заданняў карэкцыйнага характару.***

**Настаўнік.** Наведаем славуты Навагрудак. Успомніце, хто з беларускіх паэтаў нарадзіўся тут, на Навагрудчыне. (*Адам Міцкевіч.*)

Пра сваю маленькую радзіму паэт пісаў так: "Маленства край! Ты з намі да скanання, чысты, святы, як першае каханне" [2, с. 80]. Звярніце ўвагу на тэкст, што змешчаны на дошцы, выканайце наступнае заданне.

*Тэкст праецыруецца на дошку.*

**Заданне 1.** Спішыце тэкст, раскрыйце дужкі і расстаўце прапушчаныя знакі прыпынку. Зрабіце лінейныя схемы складаных сказаў. Вызначце стыль тэксту.

Навагрудак. Менавіта так прычым з націскам на другім складзе называюць свой гора(т, д) яго жыхары. Можа і сапраўды маюць рацыю.

Так сталася што пачуў я аб Навагрудк(у, е) ў часы далёкага дзяцінства. Суседка бабуля Шура якая ведала проц(?)му старадаўніх пада(н, нн)яў казак жахлівых гісторый аднойчы распавяла аб тым як даўным(даўно) ворагі (не)маглі ўзяць магутны (н, Н)авагра(дск, цк)і замак што стаяў на высокім узгорку. І (не)захапілі б яго каб не выпадак. Ваявода які кіраваў абаронай быў даўно закаханы ў іншаземную каралеўну і (не)аднойчы сватаўся да яе але прыгажуня кожны раз адмаўляла. І раптам яму перадалі ліст у якім каралеўна казала што згодна выйсці за яго замуж калі ён здасць замак. І аслеплены сваім пачуццём, ваявода ра(с, сс)чыніў перад ворагамі браму [1, с. 8 – 9].

***• Работа ў групах.***

**Настаўнік.** А зараз вы будзеце "падарожнічаць" па знакамітых мясцінах Беларусі.

*Клас дзеліцца на групы.*

*Першая група* наведае маленькія і ўтульныя Ружаны, дзе ад часоў княжання Сапегаў стаіць велічны, хоць і разбураны, палацавы комплекс.

*Другая група* пазнаёміцца з Радзівілаўскім заапаркам у Нясвіжы, пра які ў вершы "Альба" Уладзіслаў Сыракомля пісаў так:

Як тут цудоўна, і цяніста, і зялёна,
Зайдзі ў алею ліп і ў беразняк бялёсы,
Прадзедаўскаю мысляй
падбадзёрвай лона
І ў час даўнейшы памяццю
сваёй заносся [8, с. 9].

*Трэцяя група* наведае Мірскі замак.

*Да кожнага тэксту падабраны фотаздымкі, на якіх адлюстраваны гістарычныя мясціны, пры аналізе тэкстаў фотаздымкі праецыруюцца на дошку.*

**1-я група.** Прачытайце тэкст і дайце яму загаловак. Вызначце стыль тэксту. Выпішыце ўсе складаныя сказы, расстаўце ў іх знакі прыпынку. Зрабіце сінтаксічны разбор вылучанага сказа. Падкрэсліце дзвюма рыскамі літары, якія абазначаюць два гукі.

Рэчка Ружанка – тонкі блакітны паясок. Таму лічаць некаторыя і наваколыцы пачалі называць сваё селішча Ружанай, Ружаначкай, а цяпер Ружанамі.

Упершыню Ружаны ўзгадваюцца летапісцамі ў 1552 г. *Калі ж мястэчка займела права на ўласны герб дык жыхары выбралі за свой знак чырвоныя ружы на срэбраным полі а ў цэнтры шчыта яны змясцілі мужчынскую постаць з крыжам і лілеяй у руках.* Адбылося гэта ў далёкім ужо 1637 г. Напрыканцы XVI ст. Ружаны прылічыліся да шматлікіх "Сапежанскіх земляў". Тады з'явіўся двухпавярховы крыжападобны мураваны палац з трыма вежамі. З птушынага палёту гэтыя пабудовы нагадвалі вялікую каменную ружу.

<…> І вось у канцы XVIII ст. знайшоўся архітэктар які падараваў Ружанам адраджэнне. Гэта быў Ян Бекер. За няпоўныя два дзесяцігоддзі (1779 – 1792) дойлідамі былі пабудаваны Петрапаўлаўская царква ды кляштар уніяцкага ордэна базыльянаў а затым і касцёл Святога Казіміра [Паводле: 3, с. 20 – 21].

**2-я група.** Спішыце, раскрыйце дужкі, пастаўце знакі прыпынку. Дайце назву тэксту, вызначце яго стыль. Зрабіце схему першых трох складаных сказаў і сінтаксічны разбор вылучанага сказа.

У прыгарадзе Нясвіжа (а, А)льбе ёсць закінуты і з(?)дзічэлы стары парк. Паркам цяпер назваць яго цяжка бо гэта хутчэй лясны ма(с, сс)іў (не)ўтульны і змрочны але разгарнуўшы кнігі ды пажоўклыя ад часу рукапісы можна ўявіць што адбывалася ў (а, А)льбе ў даўнейшыя часы…

Самая першая з(?)вестка пра (а, А)льбу гэта план палаца збудаванага ў 1604 г. князем Мікалаем Крыштофам Радзівілам Сіроткам. Палац быў вельмі сціплы, драўляны, (два)павярховы але (не)далёка ад яго Сіротка зрабіў звярынец для якога спецыяльна прывё(з, с) э(к, г)затычных жывёл з Афрыкі, Італіі, Палесціны. *Да пачатку XVIII стаго(дз, ддз)я звестак пра (а, А)льбу на жаль (не)захавалася але можна сцвяр(дж, ж)аць што да гэтага часу ўсе (с, С)іроткавы пабудовы добра даглядаліся і дабудоўваліся наступнымі нясвіжскімі князямі бо згадкі пра тыя(ж) палац і звярынец сустракаюцца і ў канцы XVIII стаго(дз, ддз)я якое стала для (а, А)льбы сапраўднай залатой парой.*

Але ў 1790 г. пасля смерці бяздзетнага Пане Каханку вялізнае (н, Н)ясвіжскае княства засталося яго (пяць)гадоваму пляменніку Дамініку Гераніму Радзівілу апекунам якога было не да (а, А)льбы бо яны больш клапаціліся аб асабістым узбагачэнні. Таму маленькі (В, в)ерсаль паступова занепадае: (не)дагледжаныя палацы пачынаюць разбурацца шляхтай ды сялянамі [4, с. 20].

**3-я група.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову, дайце яму назву. Вызначце стыль тэксту. Зрабіце сінтаксічны разбор выдзеленага сказа і схемы ўсіх складаных сказаў.

Замок в местечке Мир Гродненской области был возведен на правом берегу речушки Мирянки. На каждом углу, выступая за периметр стен, возвышается мощная башня, а в глубине двора стоит трехэтажный дворец, пристроенный к северной и восточной стенам замка.

Башни возведены с таким расчетом, чтобы удобно было вести фланговый огонь, а большинство бойниц предназначалось для стрельбы из пушек. *Все башни спланированы как самостоятельные углы обороны: если бы противник прорвался внутрь двора или пошел на штурм, из них можно было вести круговой обстрел.* Каждая башня имела по пять ярусов боя с большим количеством бойниц и сложную систему внутренних переходов. Завершались башни бойницами, которые позволяли защищать подступы к стенам и через которые можно было сбрасывать на врага камни, гранаты, лить кипяток и смолу. Внутри башня разделена на пять ярусов [9, с. 135].

*Праводзіцца праверка работы ў групах.*

**IV. Кантрольна-рэфлексійны этап.**

**3. Падвядзенне вынікаў урока.**

*На дошку праецыруюцца сказы.*

**Заданне 2.** У сказах пастаўце знакі прыпынку, суаднясіце схемы і сказы ў правільным парадку.

А. Гасцінныя маладзечанцы запрашаюць наведаць свой утульны горад прайсці па прыгожым цяністым парку спыніцца ля помніка М. К. Агінскаму удыхнуць паветра стагоддзяў наталіцца музыкай [5].

Б. Кожны магілёвец ведае што над Буйніцкім полем месцам суровых баёў 1941 года развеяны прах Канстанціна Сіманава і што менавіта з Магілёва ў гады вайны знік славуты крыж Еўфрасінні Полацкай зроблены першым вядомым беларускім мастаком-ювелірам Лазарам Богшам [6].

В. І ўсё ж у Нясвіж з’ездзіць варта каб у прагматычны век душа не развучылася адгукацца на хараство каб у старым парку разгаварыць амаль анямелыя постаці каб адчуць сябе пілігрымам на вышараваных да бляску за сотні гадоў камянях пад вечнымі нясвіжскімі брамамі [7, с. 19].

Г. Філіял Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея сёння знаходзіцца ў Камянецкай вежы што была пабудавана ў XVIII стагоддзі дойлідам Алексам і мела назначэнне парубежнага апорнага пункта [9, с. 6].

Д. Ёсць на Беларусі мясціны якія захапляюць архітэктурнымі помнікамі гістарычнымі падзеямі загадкавымі сітуацыямі ў далёкім мінулым [7, с. 18].

для чаго?
1. [ ], (каб …), (каб …), (каб …).

якія?
2. [наз.], (якія… ⊜, ⊜, ⊜).

што?
3. [дзеясл.], (што …) і (што …).
4. [ ]: [⊜, ⊜, ⊜, ⊜].

якой?
5. [наз.], (што… ⊜ і ⊜).

*Выкананне задання правяраецца вусна.*

**4. Выстаўленне і каменціраванне адзнак.**

**5. Рэфлексія.**

1. Калі вы працавалі над тэкстамі, якія пачуцці і ўяўленні ўзнікалі ў вас?
2. Аб чым даведаліся вы, калі прачыталі і пачулі гістарычныя тэксты на ўроку?
3. Ці атрымалі вы задавальненне ад сённяшняга ўрока?
4. Які настрой выклікаў у вас сённяшні ўрок?
5. Якія моманты ўрока вам найбольш спадабаліся? Чаму?

**6. Дамашняе заданне.**

## ДАДАТАК

**Картка 1.*** Перакладзіце тэкст на беларускую мову, дайце яму назву. Выразна прачытайце тэкст перад вучнямі класа. Скажыце, што адчулі вы, калі перакладалі тэкст? Якімі пачуццямі напоўнілася ваша душа? Хто такія дрыгавічы? Зрабіце сінтаксічны разбор першага сказа.

Есть на Полесье уголок, который постоянно привлекает к себе внимание археологов, историков, просто туристов. Это туровская земля. Основан был Туров на земле дреговичей. Со временем суждено было стать ему сердцем Полесья. В древнерусский период город был центром Туровского княжества и, по мнению учёных, в IX – XI веках был в Древней Руси вторым по значению после Киева. В состав Туровского княжества входили Пинск, Гродно, Мозырь и другие населённые пункты.

Более тысячи лет стоит этот город на Припяти, первые упоминания о нём на страницах Лаврентьевской летописи уносят нас к 980 году. Город занимал около 2,5 *га* земли, жителей, по мнению ученых, было всего лишь 5 – 7 тысяч человек.

В Турове жили и творили добро священники Кирилл, Мартин и Лаврентий, позже причисленные к лику святых.

Епископ Кирилл Туровский был философом, литератором, автором многих проповедей, поучений, молитв. Современники назвали его "Златоустом, просиявшим паче всех на Руси". Его имя известно далеко за пределами Беларуси, а любая библиотека мира сочла бы за великую честь быть обладательницей творений К. Туровского.

**Картка 2.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову, дайце яму загаловак. Зрабіце сінтаксічны разбор першага сказа. Растлумачце правапіс вялікай літары.

На сороковом километре от областного центра шоссе Брест – Каменец с крутого поворота устремляется в гору, и путешественник, нетерпеливо ожидающий встречи с волшебным миром Беловежской пущи, на некоторое время забывает о цели своего путешествия. Его внимание переключается на утопающие в зелени белые глыбы новых домов, живописно расположившихся на пологих холмах. Это – одна из окраин городского посёлка Каменец. Чуть в стороне, за краем буйной зелени, словно часовой столетий, возвышается монолит Каменецкой вежи. За ней иглой вонзается в небо тонкий шпиль колокольни. А несколько левее разноцветной гурьбой к прозрачной ленте реки Лесной подступают одноэтажные дома.

* Картка павышанай цяжкасці.

**Картка 3.** Напішыце невялікі тэкст пра любую гістарычную мясціну нашага краю. У тэксце вызначце складаныя сказы, зрабіце іх сінтаксічны разбор, пабудуйце схемы гэтых сказаў.

**Картка 4.** Прачытайце выразна верш Васіля Жуковіча. Вызначце складаныя сказы, якія супадаюць з паэтычнай страфой. Зрабіце іх сінтаксічны разбор. Чаму ў канцы трэцяй страфы няма знака прыпынку? Якімі пачуццямі напоўнены гэты верш?

Я родам з тых мясцін,
Дзе і раку завуць Лясною,
Дзе у бярозы і сасны
Аблокаў пух над галавою.
Пад месяцам прыціхне бор,
І лягуць казачныя цені,
І да стажка у светлы двор
Падыдуць лёгкія алені.
Загляне ў вокны цішыня,
Абрусам маці стол засцеле.
Пра князя ратных валынян,
Пра Камянец і Берасцею
Пачне расказваць дзед. І шум
Сівых вякоў дыхне над пушчай…
Май толькі чуйную душу
І сэрцам, сэрцам будзь відушчы.

В. Жуковіч.

## АДКАЗЫ

**Заданне 1.**

1. [… дзеясл.], (што…). (як?)
2. [наз., (якая…) …аб тым], (як… наз.), (што…). (якая?; аб чым?)
3. [дзеясл.], (каб…). (пры якой умове?)
4. [наз., (які…) ⊖ і ⊖], але [ ]. (які?)
5. [наз.], (у якім… дзеясл.), (што…), (калі…). (які?; што?; пры якой умове?)

**Заданне 2.**

А. 4; Б. 3; В. 1; Г. 5; Д. 2.


### Спіс літаратуры

1. **Багадзяж, М.** Былая сталіца дзяржавы / М. Багадзяж // Бярозка. – 1998. – № 12.
2. **Беларуская мова** : зборнік дыктантаў / склад. Я. М. Адамовіч [і інш.]. – Мінск, 1998.
3. **Бензярук, А.** Пра мястэчка-ружу / А. Бензярук // Бярозка. – 2000. – № 4.
4. **Куваеў, А.** Маленькі Версаль пад Нясвіжам / А. Куваеў // Бярозка. – 2000. – № 2.
5. **Роднае слова.** – 2003. – № 3. – Вокл.
6. **Роднае слова.** – 2003. – № 8. – Вокл.
7. **Скобла, М.** Вечныя брамы Нясвіжа / М. Скобла // Бярозка. – 1998. – № 7.
8. **Сыракомля, У.** Вершы / У. Сыракомля // Роднае слова. – 2003. – № 6.
9. **Ткачёв, М. А.** Замки Беларуси / М. А. Ткачёв. – Минск, 2002.

З вопыту работы

Часлава СТАНІШЭЎСКАЯ

# СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ З РОЗНЫМІ ВІДАМІ СУВЯЗІ

## УРОК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ (XI КЛАС)

**Мэты:** падагульніць і сістэматызаваць веды вучняў пра віды складаных сказаў, фарміраваць уменні вызначаць віды складаных сказаў, удасканальваць навыкі пастаноўкі знакаў прыпынку; выхоўваць самастойнасць і адказнасць за прынятыя рашэнні.

**Тып урока:** урок падагульнення і сістэматызацыі ведаў.

**Від урока:** урок з выкарыстаннем прыёмаў модульнай тэхналогіі.

**Абсталяванне:** табліца "Віды складаных сказаў"; схемы, апорныя канспекты; перакладныя руска-беларускія слоўнікі.

### ХОД УРОКА

**І. Арганізацыйны момант.**

**ІІ. Паведамленне тэмы і мэт урока.**

**ІІІ. Актуалізацыя апорных ведаў.**

*Прызначаецца вучань-кансультант, які аказвае неабходную дапамогу ў час выканання заданняў.*

• ***Франтальнае апытванне.***

1. Чым адрозніваецца просты сказ ад складанага?

2. Пералічыце віды складаных сказаў.

3. Назавіце віды сувязі частак у складаназлучаных, складаназалежных і складаных бяззлучнікавых сказах.

4. Ахарактарызуйце сказ з рознымі відамі сувязі частак.

• ***Практычная праверка ведаў.***

**Заданне.** У тэксце ўстаўце прапушчаныя літары, пастаўце неабходныя знакі прыпынку, вусна вызначце віды складаных сказаў (па варыянтах).

**Варыянт 1.**

1. Перад раніцай прашумела навальніца. 2. На світанні яна сціхла дождж с…шоў на захад а за ім хутка сплылі хмары. 3. Над вымытымі вадой палямі засінела чыстае неба і заз…хацела яркае жнівеньскае сонца. 4. І неба і сонца пераліваючыся в…сёлкавымі кол…рамі адбіваліся ў н…злічоных буйных кроплях што былі шчодра ра…ыпаны па пожні. 5. Здавалася што гэта не кроплі а крупінкі сонца якія разам з дажджом асыпаліся на зямлю. 6. Калі сонца паднялося вышэй на зямлю зноў с…шла гарачыня. 7. Дні стаялі ўвесь час пагодныя неба сінела высокае на ім толькі зрэ…ку зіхацелі белыя як пух воблачкі.

**Варыянт 2.**

1. Уехалі ў лес і сняжынкі як (бы) запаволілі сваё імклівае кружэнне. 2. (Па)абапал дарогі ц…гнуўся бор з высокімі старымі соснамі галіны якіх павіслі над шашой. 3. На галінах асядалі разбураліся зоркі сняжынак і на дол павольна ц…русіўся снег. 4. Адразу знікла а…чуванне імклівасці руху палёту але з'явілася новае пачуццё захапленне веліччу і хараством лесу. 5. Паважна і ўрачыста кланяліся машыне рэдкія бярозы і дубы на якіх (дзе) нідзе звісала пад цяжарам снегу карычневае лісце. 6. Сосны велічна ўздымалі ў неба свае заснежа…ыя галовы. 7. Уяўлялася што пад гэтымі соснамі неяк асабліва ўтульна і цёпла.

*Тэкст у кожнага вучня. Два вучні працуюць каля дошкі і будуюць схемы вызначаных сказаў. Праз хвілін 6 – 8 усім раздаюцца правільна запісаныя тэксты са схемамі для самаправеркі.*

**IV. Фарміраванне ўменняў і навыкаў.**

• ***Слыхавы тэст.***

На слых, карыстаючыся табліцай "Віды складаных сказаў" (гл. дадатак), вызначыць від складанага сказа, абазначыць пэўнай лічбай, сумiраваць.

1. Рэкі сцякаюцца к мору, лес уздымаецца к сонцу, людзі да шчасця імкнуцца, песні ад радасці льюцца (4). 2. Богаслаўлёнае імя Францыска Скарыны сёння з тымі, хто клапоціцца пра адраджэнне душы чалавечай, хто дбае пра вялікую будучыню народа (3). 3. Над ускрайкам лесу, дзе пачыналіся жоўтыя пяскі, зазвінела песня ляснога жаваранка (2). 4. Хто не спытаў хоць раз трывогі, жыццю не ведае цаны (2). 5. У юнацтве жывеш, не асабліва думаючы пра вынікі ўласных учынкаў, але ён немінучы, прыход той хвіліны, калі да бязлітаснасці ясна сам бачыш: жывеш па старых шпаргалках (5). 6. Жыццё не застыла ў халодным граніце, і праўда з няпраўдай не скончыла бой (1). 7. Нашто на зямлі сваркі і звадкі, калі ўсе мы разам імкнёмся да зор? (2). 8. Не судзіце – і не будзеце судзімыя: бо якім судом судзіце, такім і вас асудзяць, якою меркаю мераеце, такой і вас адмераюць (5).

4+3+2+2+5+1+2+5=24

*Для кантролю запісваецца матэматычны адказ на дошцы, перад гэтым праводзіцца вы-*



*Часлава Іванаўна Станішэўская – настаўнік беларускай мовы і літаратуры вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі СШ № 94 г. Мінска. Закончыла Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. М. Горкага (1987).*

*барачная праверка, засяроджваецца ўвага на правільнай нумарацыі кожнага сказа.*

**V. Замацаванне ведаў, уменняў і навыкаў.**

*Прапаноўваецца 5 рознаўзроўневых заданняў на выбар.*

**1-ы ўзровень.**

Выпішыце з тэксту складаныя сказы, падкрэсліце граматычную аснову.

**Сваё дрэва**

Хто дрэва пасадзіў, той дабро людзям зрабіў. Дрэвы ўпрыгожваюць жыццё цэлым пакаленням. Добры звычай саджаць дрэвы ў гонар якой-небудзь важнай падзеі.

Вось ты пайшоў у школу. Гэта вялікая падзея ў тваім жыцці. Пасадзіў дрэўца ў сваім ці школьным садзе або на вуліцы каля свайго дома. Хіба не цудоўна: ты расцеш і дрэўца тваё расце! Школу будзеш заканчваць дарослым. Вырасце і тваё дрэўца. Нездарма ж многія дрэвы маюць імёны: дзедава груша, маміна яблыня, дзядзькава вішня.

У памяць родным і блізкім, што загінулі на вайне, людзі даюць дрэвам імёны герояў. Няхай захоўваюць добрую памяць пра дарагіх людзей.

**2-і ўзровень.**

Дапоўніце сказы такім чынам, каб атрымаліся складаныя.

Канчалася лета, замірала прырода…

Быў той час…

Але свет пабудаваны так…

Мароз такі…

Чалавек жыве дзеля…

**3-і ўзровень.**

Выпішыце з твораў мастацкай літаратуры 3-4 складаныя сказы, вызначце іх від, пабудуйце схемы.

**4-ы ўзровень.**

**Варыянт 1.**

Запішыце правільна сказ, выканайце поўны сінтаксічны разбор.

Радзіма – гэта і сонца ў цябе над галавой і паветра якім дыхаеш гэта і вернасць твайго сябра і мова якую даў табе народ і песня што засталася ад прадзедаў.

**Варыянт 2.**

Практ. 264. Складзіце сказы па схемах.

[ ], ( ): [ ].

( ), [ ] – [ ].

[ ], ( ); [ ], ( ), ( ).

**5-ы ўзровень.**

**Варыянт 1.**

Напішыце сачыненне-мініяцюру на адну з прапанаваных тэм, выкарыстоўваючы розныя віды складаных сказаў, пабудуйце схемы.

**Тэмы сачыненняў.**

1. У бібліятэцы.
2. Мая запаветная мара.
3. Перад кантрольнай.

**Варыянт 2.**

Перакладзіце сказ на беларускую мову, расстаўце знакі прыпынку, вызначце від сказа, пабудуйце схему.

И если придётся защищать свою страну то где-то в глубине сердца я буду знать что я защищаю и этот клочок земли научивший меня видеть и понимать прекрасное как бы невзрачно на вид оно ни было этот лесной задумчивый край любовь к которому не забудется как никогда не забывается первая любовь.

**Варыянт 3.**

Складзіце тэзісы да выступлення на лінгвістычную тэму "Загадка складанага сказа" (у тэзісах выкарыстайце складаныя сказы рознай будовы).

*Праверка, абавязковая для ўсіх.*

**VI. Дамашняе заданне. Рэфлексія.**

Ці ўдалося нам рэалізаваць пастаўленую мэту?

Якія этапы, віды работ вас зацікавілі? Чаму?

Што, на ваш погляд, не атрымалася?

Што на ўроку здалося цяжкім і складаным?

**ДАДАТАК**

**Табліца. Віды складаных сказаў.**

| Від складанага сказа | Парадкавы нумар |
|---|---|
| Складаназлучаны | 1 |
| Складаназалежны | 2 |
| Складаназалежны з некалькімі даданымі часткамі | 3 |
| Складаны бяззлучнікавы | 4 |
| Складаны сказ з рознымі відамі сувязі частак | 5 |

**Тэкст для самакантролю**

**Варыянт 1.**

1. Перад раніцай прашумела навальніца. 2. На світанні яна сціхла, дождж сышоў на за-

хад, а за ім хутка сплылі хмары. 3. Над вымытымі вадой палямі засінела чыстае неба і зазіхацела яркае жнівеньскае сонца. 4. І неба, і сонца, пераліваючыся вясёлкавымі колерамі, адбіваліся ў незлічоных буйных кроплях, што былі шчодра рассыпаны па пожні. 5. Здавалася, што гэта не кроплі, а крупінкі сонца, якія разам з дажджом асыпаліся на зямлю. 6. Калі сонца паднялося вышэй, на зямлю зноў сышла гарачыня. 7. Дні стаялі ўвесь час пагодныя, неба сінела высокае, на ім толькі зрэдку зіхацелі белыя, як пух, воблачкі.

**Схемы для самакантролю**

**Варыянт 1.**

1. [ ].

Просты сказ.

2. [ ], [ ], а [ ].

Складаны сказ з рознымі відамі сувязі частак.

3. [ ] і [ ].

Складаназлучаны сказ.

4. [ ], (што…).

Складаназалежны сказ з даданай азначальнай часткай.

5. [ ], (што…), (якія…).

Складаназалежны сказ з некалькімі даданымі часткамі.

6. (Калі…), [ ].

Складаназалежны сказ з даданай акалічнаснай умовы.

7. [ ], [ ], [ ].

Складаны бяззлучнікавы сказ.

**Тэкст для самакантролю**

**Варыянт 2.**

1. Уехалі ў лес, і сняжынкі як бы запаволілі сваё імклівае кружэнне. 2. Паабапал дарогі цягнуўся бор з высокімі старымі соснамі, галіны якіх павіслі над шашой. 3. На галінах асядалі, разбураліся зоркі сняжынак, і на дол павольна церусіўся снег. 4. Адразу знікла адчуванне імклівасці руху, палёту, але з'явілася новае пачуццё: захапленне веліччу і хараством лесу. 5. Паважна і ўрачыста кланяліся машыне рэдкія бярозы і дубы, на якіх дзе-нідзе звісала пад цяжарам снегу карычневае лісце. 6. Сосны велічна ўздымалі ў неба свае заснежаныя галовы. 7. Уяўлялася, што пад гэтымі соснамі неяк асабліва ўтульна і цёпла.

**Схемы для самакантролю**

**Варыянт 2.**

1. [ ], і [ ].

Складаназлучаны сказ.

2. [ ], (…якіх…).

Складаназалежны сказ з даданай азначальнай часткай.

3. [ ], і [ ].

Складаназлучаны сказ.

4. [ ], але [ ].

Складаназлучаны сказ.

5. [ ], (на якіх…).

Складаназалежны сказ з даданай азначальнай часткай.

6. [ ].

Просты сказ.

7. [ ], (што…).

Складаназалежны сказ з даданай дапаўняльнай часткай.

**Схемы і знакі прыпынку ў складаназлучаным сказе**

1. [ ], і [ ].

Злучнікі: спалучальныя (*ды* ў значэнні *і*, *ні – ні*), супраціўныя (*а*, *але*, *ды* ў значэнні *але*, *аднак*, *затое*, *дык*), размеркавальныя (*ці*, *або*, *то – то*, *не то – не то*, *ці то – ці то*).

2. [дзеянне] – і [вынік або нечаканае дзеянне].

3. [агульны дададзены член, часціца ці пабочнае слова] і [ ].

**Схемы складаназалежных сказаў**

1. [ ], (калі…).
2. (Калі…), [ ].
3. […, (каго…), ].
4. [ ], (асабліва калі…).
5. […таму], (што…).
6. [ ], (таму што…).
7. [ ], (як…), (як…), (як…).
8. [ ], (калі што…).
9. [ ], (што…), (калі…), дык…).
10. [ ], (што…), (каб…).

**Схемы і знакі прыпынку ў бяззлучнікавым сказе**

1. [ ], [ ].

Часткі цесна звязаныя па сэнсе, абазначаюць адначасовыя ці паслядоўныя з'явы.

2. [ ]; [ ].

Сувязь паміж часткамі менш цесная (ёсць свае знакі прыпынку), абазначаюць адначасовыя ці паслядоўныя з'явы.

3. [ ]: [ ].

Другая частка паясняе, дапаўняе сэнс першай або абазначае прычыну таго, пра што гаворыцца ў першай.

4. [ ] – [ ].

Часткі выражаюць адносіны часу або ўмовы, проціпастаўленне, вынік, вывад, параўнальнае значэнне, хуткую змену падзей, далучальныя адносіны.

# КОМПЛЕКСНАЯ РАБОТА ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ І ЛІТАРАТУРЫ

## ТРЭЦІ (АБЛАСНЫ) ЭТАП РЭСПУБЛІКАНСКАЙ АЛІМПІЯДЫ ШКОЛЬНІКАЎ. 2010/2011 НАВУЧАЛЬНЫ ГОД

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 2, 3.*

### XI КЛАС

**Заданне 1.** Беларускі мовазнавец Янка Станкевіч настойліва даводзіў, што "парадак літар беларускай кірыліцы павінен быць такі: О, А, Э, Б, Г, Ґ, Х, Д, Е, Ё, Я, ДЗ, ДЖ, З, Ж, І, Й, К, Л, М, Н, Ф, П, Р, С, Ш, Т, В, У, Ў, Ь, Ц, Ч, Ы, Ю".

Чым можна растлумачыць незвычайны пачатак такога варыянта алфавіта: *О, А, Э…?*

Максімальная колькасць балаў – 4.

______________________________

______________________________

**Заданне 2.** Спалучыце паронімы *заспакаяльны – заспакоены – заспакойлівы* з адпаведнымі ім словамі.

Максімальная колькасць балаў – 5.

| Словы: вестка, дзіця, кроплі, лекі, пакупнік, пасажыр, песня, словы, сродкі, угаворы | |
|---|---|
| заспакаяльны | |
| заспакоены | |
| заспакойлівы | |

**Заданне 3.** Устанавіце адпаведнасць паміж тэрмінамі, якія прапаноўваліся ў 20-я гг. XX ст., і іх сучаснымі варыянтамі. Адказ запішыце ў форме літарна-лічбавага спалучэння.

Максімальная колькасць балаў – 3 (0,5 за правільна вызначаную пару).

| Тэрмін 20-х гг. XX ст. | Сучасны адпаведнік тэрміна |
|---|---|
| А. зельнік | 1. гібрыд |
| Б. мяшанец | 2. паразіт |
| В. прысваенне | 3. гербарый |
| Г. чужаед | 4. інтэрмедыя, інтэрлюдыя |
| Д. паміждзея | 5. гармонія |
| Е. суладжванне | 6. асіміляцыя |

Правільны адказ: ______________________________.

**Заданне 4.** Запішыце значэнне фразеалагізмаў. Укажыце, якія ўяўленні або з'явы рэчаіснасці ляжаць у іх аснове.

Максімальная колькасць балаў – 3 (за значэнне фразеалагізма – 0,5, за тлумачэнне паходжання – 0,5).

1) Адным мірам мазаны: ____________________.
2) Вомегам вылазіць: ____________________.
3) Дарогу перабягаць: ____________________.

**Заданне 5.** Запоўніце табліцу, указаўшы ролю слова *калі* і тып сказаў, у якіх яно ўжываецца.

Максімальная колькасць балаў – 6.

| Сказ | Тып сказа | Роля слова *калі* |
|---|---|---|
| 1. У той дзень, калі яны сустрэліся, зацвіла чаромха. | | злучальнае слова |
| 2. | складаназалежны з даданай дапаўняльнай | |
| 3. Яму было вядома, калі прывязуць новыя падручнікі. | | |
| 4. | складаназалежны з даданай акалічнаснай умовы | злучнік |

**Заданне 6.** Падбярыце кантэкст, у якім слова *так* будзе адпавядаць указанаму значэнню.

Максімальная колькасць балаў – 5.

| Значэнне | Кантэкст, які пацвярджае значэнне |
|---|---|
| 1) выражэнне сцвярджэння, згоды | |
| 2) выражэнне агульнага значэння неакрэсленасці, незавершанасці думкі | |
| 3) выражэнне агульнага значэння роздуму, меркавання | |
| 4) выражэнне агульнага значэння радасці, задавальнення | |
| 5) выражэнне здзіўлення, абурэння, нязгоды | |

**Заданне 7.** Адзначце графічна (→), якія з прыведзеных жанраў адпавядаюць афіцыйна-справавому стылю. Адказ растлумачце.

Максімальная колькасць балаў – 5.

| | | |
|---|---|---|
| канвенцыя | **Афіцыйна-справавы стыль** | закон |
| эсэ | | фельетон |
| канспект | | акт |
| заява | | рэпартаж |
| анатацыя | | лекцыя |
| балада | | ультыматум |
| мемарандум | | справаздача |
| хайку | | тэзісы |
| статут | | нота |
| прэс-канферэнцыя | | тлумачальная запіска |

Абгрунтаванне: ______________________________.

**Заданне 8.** Запоўніце табліцу (с. 73).

Максімальная колькасць балаў – 9 (1 бал за правільны адказ).

**Заданне 9.** Адзначце "лішняе" ў прыведзеным пераліку. Выбар растлумачце.

Максімальная колькасць балаў – 2.

"Дзікае паляванне караля Стаха", "Бандароўна", "Люцыян Таполя", "Пошукі будучыні",

| Род літаратуры | Аўтар – творчае імя | Аўтар – сапраўднае імя | Твор | Жанр | Ідэя і яе ўвасабленне | Характэрная цытата – ілюстрацыя з твора |
|---|---|---|---|---|---|---|
| лірыка | | Максім Багдановіч | | філасофская / патрыятычная лірыка | ідэя неўміручасці народнага духу, адраджэння роднага краю | |
| ліра-эпас | Якуб Колас | | | | аўтабіяграфічны твор; шырокае адлюстраванне народнага побыту і прыроды; філасофская ідэя зямлі і волі | Мой родны кут, як ты мне мілы! |
| драма | | Іван Луцэвіч | | | пошукі маладым пакаленнем рэальных шляхоў вызвалення Бацькаўшчыны | Сымон: На вялікі сход! Па Бацькаўшчыну!!! |

“Будзем сеяць, беларусы!”, “Кветка пажоўклая”, “Гандлярка і паэт”.

Правільны адказ: ___________________________.

Абгрунтаванне: ______________________________.

**Заданне 10.** Устаўце прапушчаныя словы. Запішыце назву твора, псеўданім і сапраўднае імя аўтара, час напісання твора.

Максімальная колькасць балаў – 9
(1 бал за кожны правільны адказ).

З легендаў і казак былых пакаленняў,
З калосся ________ жытоў і пшаніц,
З сузор’яў і сонечных цёплых праменняў,
З грымучага ззяння бурлівых крыніц,
З птушынага шчэбету, шуму дубровы,
І з гора, і з радасці, і з усяго
Таго, што лягло назаўсёды ў аснову
Святыні народа, бяссмерця яго, –
Ты выткана, дзіўная родная мова.

Няма на зямлі таго шчасця і гора,
Якога б ты нам перадаць не магла.
Няма такіх ________, глыбокага мора
І гор, праз якія б ты не правяла
Мяне на радзіму, туды, дзе сягоння
Стаіць акрываўлены вораг з пятлёй
Над спаленай хатай, над родным загонам,
Над ________ і над песняй маёй, –
Над тым, што было
і што век будзе вольным.

Народ пранясе цябе, родная мова,
Святлом ________ у сэрцы сваім
Праз цемру і годы змаганняў суровых.
Калі ж ападзе і развеецца дым
І нівы васкросшыя закаласяцца, –
Ізноў прашуміш ты вясновым дажджом,
Ізноў зазвініш ты у кожнай у хаце,
________ дасі іх сярэбраны гром
І вусны расквеціш усмешкай дзіцяці.

Назва твора: _______________________________.

Псеўданім: _________________________________.

Сапраўднае імя аўтара: ______________________.

Час напісання твора: ________________________.

**ТЭКСТ ДЛЯ ВОДГУКУ**

**Хата з краю**

Мая хата – з краю.
Таму ў яе першую грукаюць
Вятры, збіўшыся з дарогі,
Хмары снежныя і дажджлівыя,
Птушкі пералётныя,
Сакавікі і лістапады,
Кірмашовыя дні,
Працавітыя будні,
Змораныя падарожнікі…

Мая хата – з краю.
І ў таго, хто жыве ў ёй,
Усе дні – клапатлівыя,
Усе ночы – бяссонныя,
Усе лавы – занятыя.
І ніколі не гуляюць,
Ні хвіліны не сяткуюць
Ні печ, ні качарэжнік,
Ні міскі, ні лыжкі,
Ні конаўкі, ні цымбалы.

Максім Танк.

**ДАВЕДКІ**

**Заданне 1.**

К а м е н т а р ы й: Аўтар такога варыянта алфавіта лічыць, што традыцыйная паслядоўнасць графічных знакаў не адпавядае асаблівасцям гукавой сістэмы беларускай мовы. Найбольш характэрнымі з іх з’яўляюцца аканне (пераход ненаціскных *о* / *э*), яканне (пераход *е* ў першым складзе перад націскам у *я*), што на графічным узроўні мае дакладныя літарна-гукавыя суадносіны. Пры традыцыйным размяшчэнні “словы з этымалагічным *о* ў корані, але з розным націскам, стаяць у слоўніку ў межах той самай літары далёка адно ад аднаго”. Таму такі пачатак алфавіта (“абэцэды”) павінен замацаваць спецыфічныя рысы фанетычнай сістэмы беларускай мовы на графічным узроўні і зрабіць алфавіт максімальна празрыстым.

| Род літаратуры | Аўтар – творчае імя | Аўтар – сапраўднае імя | Твор | Жанр | Ідэя і яе ўвасабленне | Характэрная цытата – ілюстрацыя з твора |
|---|---|---|---|---|---|---|
| лірыка | *Максім Багдановіч* | Максім Багдановіч | *"Санет" ("Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі…")* | філасофская / патрыятычная лірыка | ідэя неўміручасці народнага духу, адраджэння роднага краю | *радок з твора* |
| ліра-эпас | Якуб Колас | *Канстанцін (Міхайлавіч) Міцкевіч* | *"Новая зямля"* | *паэма* | аўтабіяграфічны твор; шырокае адлюстраванне народнага побыту і прыроды; філасофская ідэя зямлі і волі | Мой родны кут, як ты мне мілы! |
| драма | *Янка Купала* | Іван Луцэвіч | *"Раскіданае гняздо"* | *сацыяльна-філасофская драма* | пошукі маладым пакаленнем рэальных шляхоў вызвалення Бацькаўшчыны | Сымон: На вялікі сход! Па Бацькаўшчыну!!! |

**Заданне 2.**

| Словы: вестка, дзіця, кроплі, лекі, пакупнік, пасажыр, песня, словы, сродкі, угаворы. | |
|---|---|
| заспакаяльны | *кроплі, сродкі, лекі* |
| заспакоены | *дзіця, пакупнік, пасажыр* |
| заспакойлівы | *угаворы, словы, песня, вестка* |

**Заданне 3.**

Правільны адказ: А3, Б1, В6, Г2, Д4, Е5.

**Заданне 4.**

1) Адным мірам мазаны: *'тое самае, аднолькавыя, адзін аднаго варты'. У складзе ФА – царкоўнае слова "міра" 'духмяны алей для хрысціянскага абраду мірапамазання'.*

2) Вомегам вылазіць: *'не прайсці бясследна'. Вомег (балігалоў) – атрутная расліна. Лісты выклікаюць хуткае атручванне. Спачатку ўзнікла свабоднае словазлучэнне "вомег вылазіць", а потым пад уплывам ФА пераасэнсаванне "бокам вылазіць".*

3) Дарогу перабягаць: *'перашкаджаць камусьці, апярэджваць у чым-н.'. У аснове ляжаць даўнія вераванні: калі кот, заяц, ліса або чалавек "з дрэнным вокам" перабягалі дарогу, то не пашанцуе.*

**Заданне 5.**

| Сказ | Тып сказа | Роля слова *калі* |
|---|---|---|
| 1. У той дзень, **калі** яны сустрэліся, зацвіла чаромха. | *складаназалежны з даданай азначальнай* | злучальнае слова |
| *2. Я не ведаю, **калі** скончыцца гэты дождж.* | складаназалежны з даданай дапаўняльнай | *злучальнае слова* |
| 3. Яму было вядома, **калі** прывязуць новыя падручнікі. | *складаназалежны з даданай дзейнікавай* | *злучальнае слова* |
| *4. **Калі** падрыхтуешся, здасі экзамен на выдатна.* | складаназалежны з даданай акалічнаснай умовы | злучнік |

**Заданне 6.**

1) – *Ці падрыхтаваў ты рэферат па беларускай мове?*

– ***Так!*** (Выражэнне сцвярджэння, згоды.)

2) – *Што новага чуваць?*

– *Ды **так**…* (Выражэнне агульнага значэння неакрэсленасці, незавершанасці думкі.)

3) – ***Так**… І што зараз з гэтым рабіць?!.* (Выражэнне агульнага значэння роздуму, меркавання.)

4) – ***Так**, гэта адбылося: я пераможца!* (Выражэнне агульнага значэння радасці, задавальнення.)

5) – ***Так**! Хто казаў, што я не стану прызёрам алімпіяды?* (Здзіўленне, абурэнне, нязгода.)

**Заданне 7.**

Каментарый: Афіцыйна-справавому стылю, з характэрнымі толькі для яго лексічнымі, марфалагічнымі, сінтаксічнымі і іншымі асаблівасцямі, адпавядаюць жанры, у якіх у большай ці меншай ступені адлюстраваны адносная ўстойлівасць, адсутнасць эмацыянальнасці, сціласць, кампактнасць выкладу, клішыраванасць, дакладнасць, стандартызаванасць, ці так званы фармальны кансерватызм.

А гэтым патрабаванням адпавядаюць наступныя жанры: *канвенцыя, заява, мемарандум, статут, закон, акт, ультыматум, справаздача, нота, тлумачальная запіска.*

**Заданне 8.**

Правільныя адказы: гл. табліцу ўверсе старонкі.

Каментарый: У вызначэнні жанру твора "Раскіданае гняздо" Я. Купалы не прымаюцца адказы *гістарычная драма, сацыяльна-побытавая драма, звычаёвая драма.*

**Заданне 9.**

Правільны адказ: "Будзем сеяць, беларусы!".

Абгрунтаванне: твор лірычнага роду літаратуры (верш). Астатнія творы належаць да эпасу або ліра-эпасу.

**Заданне 10.**

Правільныя адказы:

– цяжкога, нетраў, будучыняй, незгасальным, цымбалам;

– "Родная мова";

– Максім Танк – Яўген (Іванавіч) Скурко;

– 1943 г. (у часы Вялікай Айчыннай вайны).

Падрыхтавалі
**Усевалад РАГОЙША,**
**Аляксандр РАДЗЕВІЧ,**
**Ірына САВІЦКАЯ.**

Алена САЛАМЕВІЧ

# МНЕМОНІКА ПРЫ ВЫВУЧЭННІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

*Працяг. Пачатак у № 2.*

***Лёня, Зося – дзеці* (правапіс мяккага знака, фанетычнае падаўжэнне зычных, суседняя мяккасць зычных, свісцячыя гукі).** Для таго каб паспяхова засвоіць некалькі правілаў, рэкамендую запомніць сказ: *Лёня, Зося – дзеці*. Чаму менавіта *Лёня*? Можна і *Лена*. Спачатку нават сама выкарыстоўвала гэтае слова. Пасля замяніла яго іншым, з мяккім гукам [н'] (Лёня), бо хацелася мець сказ, у якім усе зычныя гукі мяккія, а ў слове *Зося* першы гук таксама цвёрды. На гэты "недахоп" абавязкова трэба звярнуць увагу навучэнцаў (адначасова стымуляваць іх на пошукі ідэальнага сказа), інакш мнемоніка можа не дапамагчы, а перашкодзіць. Зрабіць гэта можна наступным чынам: "Вылучаем усе літары, якія служаць для абазначэння зычных гукаў: *л*, *н*, *з*, *с*, *дз* (дзве літары для абазначэння гука [дз']), *ц*, запомнім, што ў нашым сказе яны хоць і не ўсе абазначаюць мяккія гукі, але спатрэбяцца для запамінання пяці правілаў, дзе будуць абазначаць толькі мяккія гукі".

***Правіла першае:*** у беларускай мове толькі пасля гэтых літар пішацца <u>змякчальны мяккі знак</u>: *соль, глянь, мазь, вось, заходзь, глядзець* (на канцы слова); *лялька, гляньма, вазьму, касьба, дзядзька, цьма* (у сярэдзіне слова перад зычным).

***Правіла другое:*** у беларускай мове толькі пасля гэтых літар пішацца <u>раздзяляльны мяккі знак</u>: *лье, каньён, Лавуазье, Касьян, мадзьяр, парцьеры* (у сярэдзіне слова перад *е, ё, ю, я, і*).

***Правіла трэцяе:*** у беларускай мове толькі гэтыя літары пры падвойным напісанні (ці тры літары *ддз*) абазначаюць <u>падоўжаныя мяккія</u> зычныя гукі: *вяселле, Любанню, дробяззю, гуссю, роўняддзю, пяццю*. Безумоўна, нельга забываць, што яшчэ могуць падаўжацца тры зацвярдзелыя; не блытаць фанетычнае падаўжэнне з марфалагічным падваеннем (падвойным напісаннем літар на стыку марфем).

У беларускай мове могуць падаўжацца 9 гукаў – 6 *мяккіх* [л'], [н'], [з'], [с'], [дз'], [ц'] і 3 *зацвярдзелыя* [ж], [ч], [ш] – *у становішчы паміж галоснымі*. Падоўжанае вымаўленне зычных на пісьме абазначаецца падвойным напісаннем адпаведнай літары: калоссе, падарожжа, але суддзя (3 літары). Задумвацца трэба над кожным словам правіла. У словах *Беларуссю, Прыпяццю* падаўжэнне ёсць, а ў словах *шасцю, радасцю* няма. Трэба запомніць, *якія гукі* могуць падаўжацца. *Каменне, калоссе, маззю, смецце* – у кожным слове дзве выдзеленыя літары абазначаюць адзін падоўжаны мяккі гук, а ў словах *каменны, рассунуць, раззлаваць, гнацца* – дзве літары абазначаюць доўгі цвёрды (а ў слове *гнацца* дзве *цц* – зацвярдзелы) гук. Але ж цвёрдыя [н], [с], [з], [ц] не падаўжаюцца, тут марфалагічнае падваенне. Фанетычнае падаўжэнне развілося ў беларускай мове на месцы былых спалучэнняў зычных (яны былі ў корані) і гука [j] (ён быў суфіксам), на мяжы кораня і суфікса, таму падоўжаныя зычныя звычайна знаходзяцца *ў канцы слова*. У рускай мове падаўжэнне не развілося, таму часта можна прывесці адпаведнік з рускай мовы, дзе ёсць гэты гук [j]: *калоссе* (рус. *колосья*), *пяццю* (рус. *пятью*), *заціўша* (рус. *затишье*), *ноччу* (рус. *ночью*). Пры марфемным разборы дзве (ці тры) літары, якія абазначаюць адзін падоўжаны гук, знаходзяцца *ў межах адной марфемы*, а пры марфалагічным падваенні дзве літары – у розных марфемах, абазначаюць яны адзін доўгі гук, які ўтварыўся з двух: *вучыцца* (з націскам на другім складзе – інфінітыў) – марфалагічнае падваенне (першая літара *ц* у суфіксе, другая – у складзе постфікса *-ца*), *вучыцца* (з націскам на першым складзе – дзеяслоў у форме 3-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу) – таксама марфалагічнае падваенне (першая літара *ц* у складзе канчатка *-ыц-*; другая – у складзе постфікса *-ца*). Праўда, у зваротных дзеясловах першага спражэння ў форме 3-й асобы адзіночнага ліку вылучаюцца постфіксы *-цца*: *бярэцца* – марфалагічнае падваенне (хоць 2 літары *ц* і ў адной марфеме, але ж падаўжацца можа толькі мяккі [ц'], а тут гук [ц] зацвярдзелы).

***Правіла чацвёртае:*** <u>суседняя мяккасць</u> гукаў [н'], [з'], [с'], [дз'], [ц'] (акрамя першага гука з нашага сказа – [л]).

1) Гукі [з], [с] перад наступнымі мяккімі (толькі не перад [г'], [к'], [х']) становяцца мяккімі [з'], [с']: [с'н'эх] *снег*, [з'м'эна] *змена*, [з'йэхац'] *з'ехаць*, [з' дз'эц'м'і] *з дзецьмі* (але: [сх'іл] *схіл*, [ск'інуц'] *скінуць*, [зг'інуц'] *згінуць*).

2) Калі літары *д, т* аказваюцца ў пазіцыі перад мяккім [в'], то яны змяняюцца, як і перад ётавымі галоснымі і мяккім знакам, адпаведна

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 2.*

на *дз, ц* (гучаць [дз’], [ц’] – адбываецца дзеканне і цеканне): ***дз**ве, **дз**веры, ча**ц**вёрты, **ц**вік, **ц**вілы, рас**ц**вітаць*. Перад мяккім гукам [м’] таксама гучыць мяккі [дз’]: ***Дз**мітрый.* Праўда, не гучаць [дз’], [ц’] на месцы *д, т* прыставачных і прыназоўнікавых: ***ад**вячорак, а**д** верасу* (напісанне супадае з вымаўленнем).

3) Назіраецца суседняя мяккасць гука [н’] перад [л’], [н’], [з’], [с’], [дз’], [ц’], а таксама перад [j] [1, с. 12]: *са**н**лівы, со**н**нік, гартэ**н**зія, пе**н**сія, кама**н**дзір, і**н**дзеец, ма**н**цёр, і**н**’екцыя* (выключэнне: *падманлівы, бензін, транзіт, кан’юнктура, кан’юнктыў*).

***Правіла пятае:*** возьмем толькі словы *Зося, дзеці*. Літары *з, с, дз* (калі перадаюць адзін гук), *ц* абазначаюць **свісцячыя гукі**, якіх у беларускай мове 8:

мяккія [з’], [с’], [дз’], [ц’]: ***з**вер, **с**мех, **дз**ядуля, пя**ць***;

цвёрдыя [з], [с], [дз]: ***з**оры, **с**он, пэн**дз**аль, **дз**ынкаць*;

зацвярдзелы [ц]: ***ц**ырымонія, **ц**эгла, вучы**цц**а*.

Ведаць свісцячыя трэба для захавання арфаграфічных нормаў, калі ў слове побач стаяць свісцячы і шыпячы ([ж], [ш], [дж], [ч]). Наступны гук уплывае на вымаўленне папярэдняга: сшытак [шшытак], зжаваць [жжавац’], рэчцы [рэццы], вучышся [вучыс’с’а] (ці [ш̅ытак], [ж̅авац’], [рэц̅ы], [вучыс̅’а]).

Для вучняў выпускных класаў дастаткова прапанаваць для запамінання сказ. З вучнямі сярэдніх класаў карысна развучыць наступны верш (ці хоць бы разабраць, прааналізаваць).

***Лёня, Зося – дзеці***

Лёня, Зося – дзеці,
Найлепшыя ў свеце.
Любяць пасмяяцца,
З Муркай забаўляцца.

Вучаць сваю мову,
У школу гуляюць,
*Мяккі знак* у словах
Хуценька ўстаўляюць:

Ляльку Лёнька возьме:
– Зоська, гуляць будзьма!
Песенькі спяваюць,
Гульні выдумляюць.

З дзьмухаўцоў вяночкаў
Зоська назвівае,
Процьму кветак дочкі
Маме назбіраюць.

Лёня, Зося – дзеці,
Найлепшыя ў свеце:
Гукі вывучаюць,
*Падаўжэнне* знаюць:

Зелле і Купалле,
Спатка*нн*е, світа*нн*е,
Рыззё і палоззе,
Ка*сс*ё і кало*сс*е,

Стаго*дд*зе, разво*дд*зе,
Жы*цц*ё, узбалоцце,
Ды і падаро*ж*жа,
Ці*ш*шу, но*ч*чу, збо*ж*жа.

Лёня, Зося – дзеці,
Веды папаўняюць,
*Мяккасць ад суседзяў*
*Зычных* вывучаюць:

Пе*с*ні, поспех, не*с*ці,
*З*мены, *з*’ява, ве*з*ці,
Дзвюх, Дзвіна і дзверы,
Ча*ц*вер, за*ц*вярдзелы.

Але: *с*хема, *с*кінуць,
Рэзгіны і згінуць –
Ўсё дзяўчынкі знаюць
І “дзясяткі” маюць.

Спачатку трэба паразважаць, каго называюць такімі імёнамі: Лёнем могуць называць хлопчыка з афіцыйным іменем Леанід, а Лёняй – дзяўчынку з афіцыйнымі імёнамі Леаніла ці Леаніда. Назоўнік Лёня ў залежнасці ад таго, хто з’яўляецца носьбітам гэтага імені, скланяецца па-рознаму. Адносіцца да рознаскланяльных, калі носьбіт імені – хлопчык: Н. Лёня; Р. Лёні; Д. Лёню; В. Лёню; Т. Лёнем; М. аб Лёню (Н., Р., В. – канчаткі 1-га скланення, Д., Т., М. – канчаткі 2-га скланення); калі носьбіт – дзяўчынка, скланяецца так, як назоўнік 1-га скланення з мяккай асновай: Лёня, Лёні, Лёні, Лёню, Лёняй, аб Лёні. У нашым вершы Лёня – дзяўчынка. Лёня і Зося – дзве сястрычкі.

Потым трэба патлумачыць, што важна запомніць назву верша і ўсе зычныя з яе. Гэта спатрэбіцца для вывучэння як мінімум трох правілаў: 1) *правапіс мяккага знака*, варта дадаць, што ў верш не ўключаны прыклады па напісанні раздзяляльнага мяккага знака; 2) *фанетычнае падаўжэнне зычных* (дадаюцца яшчэ зацвярдзелыя гукі [ж], [ч], [ш]); 3) *суседняя мяккасць зычных* [з’], [с’] (даюцца і выключэнні), [дз’], [ц’] (перад мяккім [в’]).

Акрамя прыкладаў слоў, у якіх выдзелены літары, вучням можна прапанаваць знайсці прыклады на гэтыя правілы ў іншых слупках верша.

**Правапіс мяккага знака:** *любя**ць**, вуча**ць**, гуляю**ць**, хуце**нь**ка, устаўляю**ць**, пісе**нь**кі, спяваю**ць**, гу**ль**ні, выдумляю**ць**, **дзь**мухаўцоў, Зо**сь**ка, про**ць**му, назбіраю**ць**, вывучаю**ць**, знаю**ць**, папаўняю**ць**, мякка**сць**, маю**ць***.

**Фанетычнае падаўжэнне зычных:** *падаўжэ**нн**е*;

**Суседняя мяккасць зычных:** ***с**веце, па**с**мяяцца, **с**пяваюць, **з** дзьмухаўцоў, на**з**вівае, на**з**біраюць, **с**вітанне, мякка**с**ць*.

У верш, як бачым, уключана шмат слоў, у якіх пішацца мяккі знак: у форме 3-й асобы множнага ліку дзеяслова, у назоўніках *дзьмухавец, процьма* (трэба запомніць, што ва ўсіх словах з каранямі *-дзьм-, -цьм-* пішацца мяккі знак: *дзьме, падзьмуў, здзьмухнуць, цьма, цьмяны, зацьменне, цьмянець*), у памяншальна-ласкальных формах назоўнікаў: *Лёнька, Зоська, песенька*; у формах загаднага ладу: *глянь – гляньма, будзь – будзьма*; у суфіксах *-аньк-, -еньк-, -эньк-*: *хуценька*.

Часам вучні блытаюць, калі пасля зычных пішацца мяккі знак, а калі не пішацца, хоць чуваць мяккі гук. Мовазнаўцы прапаноўваюць такое правіла: калі пры змене слова гук (гэта адзін з пяці гукаў – акрамя [л’], бо ён не можа змякчацца пад уплывам наступнага мяккага) застаецца заўсёды мяккім, то гэтая пастаянная мяккасць абазначаецца на пісьме мяккім знакам: слова з верша ***возьме*** мае мяккі знак, бо гэты




**Малюнак Міхася Шацілы.**

гук [з'] заўсёды мяккі, нават калі стаіць перад цвёрдым гукам: *вазьму.* Тое ж са словамі *дзьме, дзьму, цьме, цьма.*

Згодна з даследаваннямі навукоўцаў, канкрэтныя назоўнікі найлепш запамінаюцца, калі яны суправаджаюцца і візуальным, і семантычным кадзіраваннем. Фраза запамінаецца лепш тады, калі яе можна ўявіць зрокава [2, с. 375]. У школьнай практыцы псіхолагі рэкамендуюць больш арыентавацца на міжвольную памяць вучня, эфектыўнасць якой забяспечваецца ўключэннем зрокавых схем, дыяграм, табліц [3, с. 356]. Таму вельмі важна, калі на ўроках выкладчык беларускай мовы выкарыстоўвае дошку для напісання слоў, а ў словах падкрэсліваюцца арфаграмы; калі ў падручніках правіла тлумачыцца з дапамогай разнастайных схем, графічных абазначэнняў, табліц, нават малюнкаў. Карысна для вучняў будзе намаляваць ілюстрацыю да верша, каб асацыяцыя, што дапаможа запомніць правіла, была як "жывая".

Слухач факультэта даўніверсітэцкай падрыхтоўкі Міхась Шаціла зрабіў малюнак, які паказвае, як звязаны зычныя гукі, што абазначаюцца літарамі са сказа *Лёня, Зося – дзеці,* з правіламі.

Вучням старшых класаў можна прапанаваць скласці верш або чатырохрадкоўе на адно з правілаў, хоць аб'ём некаторых з іх не дае магчымасці ўкласціся ў невялікія вершаванкі. Пры тлумачэнні тэмы "Правапіс мяккага знака" мовазнаўцы даюць пералік часцін мовы, іх формаў, у якіх мяккі знак (змякчальны і раздзяляльны) пішацца. З гэтай прычыны верш можа атрымацца велікаваты. Завучваць такія "запамінанкі" не вельмі зручна, аднак папрацаваць на ўроку з імі можна, каб зрокава замацаваць напісанне слоў з мяккім знакам. Мы працягнулі ідэю папярэдняга сачынення, аднак абмежаваліся адной тэмай, стараючыся ўключыць у ілюстрацыю як мага больш слоў і формаў слоў са змякчальным (часткова і раздзяляльным) мяккім знакам.

Лёня, Зося – дзеці,
Найлепшыя ў свеце.
Сонца ўзыдзе *ледзьве* –
На нагах абедзве.

*Ціхенька* усталі,
Ложачкі заслалі.
З тысячай пытанняў
*Будуць* лезці зранку.

Да матулі, *бацькі*,
Да бабулі, *дзядзькі*,
Да дзеда *Касьяна*,
Суседкі *Ульяны.*

*Яблынькі* і ружы,
*Вішанькі* і грушы
Сёстраў *падзываюць*,
З саду не *пускаюць*.

*Клічуць* на прыволле –
У лугі, у поле –
*Лотаць* з *васількамі*,
Неба з *матылькамі.*

*Ліпеньскі праменьчык*
Планаў не *паменшыць* –
*Вельмі* ж *вабіць* рэчка,
Што ля іх мястэчка.

*Ладзіць* з *дзецьмі* танцы
Ў *сіненькай альтанцы*
Пры *старэнькім* дрэве
*Больш* за ўсё ім трэба.

*Восеньскімі* ранкамі
Сёстры на палянках
Пад *карэньчык рэжуць*
*Процьму* сыраежак,

На *пяньках – апенькі*
(То *пяцьсот*, то *женька*).
А яшчэ *мільёны*
Белых *шампіньёнаў*

На лужочку *знойдуць*
І таксама *возьмуць*.
Як данесці *толькі*?
*Вунь* набралі *колькі*!

*Дзьме* вятрыска ў дзверы –
*Снежаньскі*, сіберны.
*Гляньце*: *лепяць* бабу –
Зноў знайшлі забаву.

Хай спытае *хтосьці*
Пра дзяўчынак *штосьці*!
Лёня, Зося – дзеці,
Найлепшыя ў свеце.

Дадзеная ілюстрацыя змяшчае ўсе прыклады на ўжыванне змякчальнага мяккага знака (у прыметніках, утвораных ад назваў месяцаў на *-нь* і ад слова *восень*; у постфіксе *-сьці*; перад суфіксам *-чык*, калі слова без гэтага суфікса заканчваецца на мяккі знак; у суфіксах *-еньк-*, *-эньк-*, *-аньк-*; у складаных лічэбніках з першай часткай *пяць-*, *шэсць-*, *дзевяць-*; у назоўніках у форме творнага склону множнага ліку перад канчаткам *-мі*; у формах множнага ліку загаднага ладу дзеяслова і інш.), а часткова і на правапіс раздзяляльнага мяккага знака (*Касьяна, Ульяны, мільёны, шампіньёнаў*). Пададзены і словы, у якіх часта памылкова пішуць мяккі знак: *абед**з**ве*, *паме**н**шыць*, ***дз**веры.*

Верш можна падаць з пропускам месцаў, дзе навучэнцы павінны ўставіць мяккі знак, патлумачыўшы яго напісанне.

**Літаратура**

1. **Гаўрош, Н. В.** Беларуская мова : тэсты : для школьнікаў і абітурыентаў / Н. В. Гаўрош, В. У. Азарка, А. С. Васілеўская. – Мінск : Выш. шк., 2005.

2. **Майерс, Д.** Психология / Д. Майерс; пер. с англ. И. А. Карпиков, В. А. Старовойтова. – 2-е изд. – Минск : Попурри, 2006. – 848 с.

3. **Ратанова, Т. А., Домашенко, И. А.** Психология общая : учебник / Т. А. Ратанова, И. А. Домашенко. – 2-е изд., доп. и перераб. – М., 2004. – 464 с.

*Працяг будзе.*

*Актуальная тэма*

# ТЫПАЛОГІЯ ПРАКТЫКАВАННЯЎ ПА ФАРМІРАВАННІ КАМУНІКАТЫЎНАЙ КАМПЕТЭНЦЫІ ВУЧНЯЎ

У артыкуле разглядаюцца метадычныя сродкі і тыпалогія практыкаванняў, накіраваных на фарміраванне камунікатыўнай кампетэнцыі вучняў. Да вызначаных камунікатыўна-моўных, камунікатыўна-маўленчых і ўласна камунікатыўных практыкаванняў распрацаваны заданні, на аснове якіх адбываецца вывучэнне моўнага матэрыялу, развіццё маўленчай дзейнасці і засваенне нормаў і правіл арганізацыі моўных зносін.

Асноўная задача моўнай адукацыі на сучасным этапе заключаецца ў тым, "каб беларуская мова трансфармавалася з прадмета выкладання ў механізм фарміравання асобы, яе менталітэту, разумення свету і ўзаемаадносін людзей у свеце" [1, с. 90 – 91]. Дэклараваны ў вучэбнай праграме камунікатыўна-дзейнасны падыход накіраваны на стварэнне для вучняў спецыяльных умоў, "у якіх яны прымалі б удзел у дзейнасці, а сама дзейнасць была б значымай для кожнага, адбывалася б у рамках канкрэтных жыццёвых сітуацый" [2, с. 31], што забяспечыць фарміраванне камунікатыўнай кампетэнцыі вучняў.

Асновай працэсу навучання беларускай мове з'яўляецца маўленчая дзейнасць, арыентаваная на стварэнне ўласных выказванняў. Моўныя веды, уменні і навыкі, неабходныя для маўлення па-беларуску, засвойваюцца з улікам іх камунікатыўнай значнасці. Разам з гэтым трэба фарміраваць *спецыяльныя* ўласна камунікатыўныя ўменні, што "прыстасоўваюць" універсальныя моўныя і маўленчыя веды і ўменні да сацыякультурных умоў, у якіх адбываюцца зносіны. Таму ў працэсе навучання школьнікі павінны засвойваць узоры і правілы культуры маўленчых паводзін, этыкетныя нормы, спосабы выражэння думкі ў адпаведнасці з мэтай, задачамі і сітуацыяй зносін.

Каб забяспечыць фарміраванне камунікатыўнай кампетэнцыі, неабходна дакладна вызначыць метадычныя сродкі і распрацаваць спецыяльную сістэму практыкаванняў, накіраваную на моўнае, маўленчае і ўласна камунікатыўнае развіццё вучняў.

***1. Метадычныя сродкі фарміравання камунікатыўнай кампетэнцыі вучняў.***

Мэтанакіраванае фарміраванне камунікатыўнай кампетэнцыі вучняў адбываецца пры дакладным апісанні сродкаў навучання і выразным бачанні методыкі арганізацыі працы.

Асноўнымі метадычнымі сродкамі дасягнення задач навучання з'яўляюцца тэксты, бо "камунікатыўная кампетэнцыя можа быць сфарміравана толькі на ўзроўні тэксту" [3, с. 7]. На іх аснове распрацоўваюцца адпаведныя практыкаванні, прычым тэкст становіцца аб'ектам аналізу і вынікам камунікатыўна-маўленчай дзейнасці незалежна ад таго, якая моўная тэма вывучаецца ў кожным канкрэтным выпадку.

На аснове аналізу лінгвістычнай і лінгваметадычнай літаратуры (Я. Антонава, Н. Болатнава, Г. Валочка, Ф. Літвінка, Л. Мурына, В. Протчанка, М. Шанскі, М. Яленскі і інш.) вызначым крытэрыі, якімі варта кіравацца пры адборы тэкставага матэрыялу:

1) тэкст як дыдактычны матэрыял "павінен выконваць інфармацыйную, эстэтычную і прагматычную функцыі" [4, с. 129];

2) методыка фарміравання камунікатыўнай кампетэнцыі арыентавана на "тэксты ў іх жанрава-стылістычнай разнастайнасці" [5, с. 19], таму ў працэсе навучання трэба выкарыстоўваць тэксты розных стыляў, тыпаў і жанраў;

3) "аб'ектам разгляду… з'яўляюцца тэксты, роўныя сказу, складанаму сінтаксічнаму цэламу і фрагменту" [6, с. 11];

4) тэксты павінны мець "сітуацыйную аснову", якая стымулюе маўленчую дзейнасць і актывізуе адбор моўных сродкаў у адпаведнасці са сферай зносін.

Заданні да практыкаванняў суадносім з кірункамі працы і разумовымі аперацыямі, якія ажыццяўляюцца ў час працы з тэкстам. Яны носяць аналітычны, аналітыка-сінтэтычны і сінтэтычны характар. Да таго ж прымаем пад увагу, што "вучні авалодаюць маўленча-камунікатыўнымі ўменнямі ў тым выпадку, калі ім будзе прапанавана адпаведная спецыяльным чынам арганізаваная камунікатыўная дзейнасць – differ рознабаковая, цікавая, матываваная, кантралюемая, асобасна значымая" [7, с. 182].

***2. Тыпалогія практыкаванняў па фарміраванні камунікатыўнай кампетэнцыі.***

Тыпалогію практыкаванняў на комплекснай аснове вызначаюць моўныя, маўленчыя і ўласна камунікатыўныя веды, уменні і навыкі, неабходныя для фарміравання камунікатыўнай кампе-

тэнцыі. У адпаведнасці з гэтым прапануюцца камунікатыўна-моўныя, камунікатыўна-маўленчыя і ўласна камунікатыўныя практыкаванні.

Камунікатыўна-моўныя практыкаванні ўключаюць элементы лінгвістычнага аналізу тэксту, пры якім у цэнтры ўвагі знаходзяцца "моўныя сродкі як форма выражэння нашых думак і пачуццяў у розных сферах суразмоўніцтва" [4, с. 25].

Вучні разглядаюць сутнасць вызначаных вучэбнай праграмай моўных з'яў з пазіцыі іх камунікатыўнай значнасці і набываюць уменні правільнага выкарыстання адзінак мовы ў адпаведнасці з нормай. У працэсе выканання камунікатыўна-моўных практыкаванняў вучні авалодваюць сінаніміяй граматычных адзінак, прыходзяць да разумення заканамернасцей іх функцыянавання ў розных тыпах маўлення. Разам з гэтым усведамляюць, што моўныя сродкі – гэта "інструменты", пры дапамозе якіх думкі становяцца выказваннямі, а правільнае і дакладнае іх ужыванне ў вусных і пісьмовых тэкстах грунтуецца на законах мовы. Гэта робіць "зразумелым для вучня *прычыну* вывучэння граматыкі, фанетыкі, марфемікі і іншых раздзелаў праграмы" [8, с. 4], дапамагае асэнсаваць неабходнасць праграмнага матэрыялу.

Камунікатыўна-моўныя практыкаванні носяць аналітычны характар і ўключаюць заданні: *назіранне за спосабамі выражэння думкі – разгляд тэксту "пад лінгвістычным мікраскопам" (М. Шанскі), вызначэнне асаблівасцей ужывання аўтарам лексічных сродкаў, граматычных формаў, характару сінтаксічных канструкцый, выяўленне асаблівасцей лексіка-граматычных з'яў і іх значнасці для выражэння зместу маўлення.*

У выніку дзякуючы практыкаванням такога тыпу вучні авалодваюць камунікатыўна значнымі моўнымі адзінкамі, асэнсоўваюць сістэму моўных сродкаў у адзінстве іх значэння, формы і функцыі.

Гэта стварае аснову для выяўлення стылістычных магчымасцей слова ў працэсе выканання ***камунікатыўна-маўленчых практыкаванняў***, што садзейнічаюць фарміраванню ўменняў ствараць выказванні розных функцыянальна-сэнсавых тыпаў і жанраў як падрыхтаваных, так і спантанных (экспромтам), калі неабходна "выбраць патрэбную моўную форму, спосаб выражэння ў залежнасці ад умоў камунікатыўнага акта" [9, с. 38].

У аснове такіх практыкаванняў аналітыка-сінтэтычная праца, скіраваная на зместава-кампазіцыйны аналіз тэксту. Увага вучняў акцэнтуецца на сэнсавым, сінтаксічным і структурным адзінстве тэксту, яго функцыянальна-сэнсавых і жанравых асаблівасцях, што дапамагае замацаваць веды па лінгвістыцы і стылістыцы тэксту.

Камунікатыўна-маўленчыя практыкаванні на вылучэнне *асноўных прымет тэксту* дапамагаюць зразумець правілы кампазіцыйнай арганізацыі выказвання, прыёмы выражэння вядомай і новай інфармацыі, усвядоміць, што тэкст – гэта цэласнае, складанае ўтварэнне, якое валодае звязнасцю і мае пэўную структуру. Да іх фармулююцца заданні, якія прапануюць *вызначыць ступень рэалізацыі задумы аўтара, выдзеліць патрэбныя сэнсавыя часткі, апорныя факты ў тэксце, структураваць часткі, спраектаваць далейшы змест тэксту; запомніць неабходную інфармацыю і даць ёй ацэнку ў сваім выказванні.*

Прапануем заданні, звязаныя з засваеннем маўленчых паняццяў:

1) *маўленчая сітуацыя*: аднавіць маўленчую сітуацыю, апісаць папярэднія падзеі, вызначыць задачу моўных зносін (паведамленне, уздзеянне, гутарка), адпаведнасць моўных сродкаў абставінам і адрасату; вызначыць камунікатыўную задачу, сітуацыйныя асаблівасці ўмоў афіцыйнага і неафіцыйнага маўлення;

2) *тэма тэксту*: пра што паведамляе аўтар, з якой мэтай падае інфармацыю, як дапамагае сітуацыя маўлення разгарнуць змест выказвання;

3) *асноўная думка тэксту*: удумацца ў змест, які камунікатыўны намер аўтара, што сцвярджае аўтар, чым карысная інфармацыя для адрасата;

4) *загаловак тэксту*: падабраць назву пры яе адсутнасці, суадносячы з задумай выказвання ці камунікатыўным намерам;

5) *кампазіцыя выказвання*: вызначыць пачатак і заканчэнне, асобныя часткі тэксту, асноўную частку;

6) *цэласнасць, разгорнутасць і паслядоўнасць*: вызначыць сэнсавыя адносіны паміж часткамі, што было вядома адрасату і што новага паведамляе аўтар; апорныя словы і сказы ў тэксце, дзякуючы якім разгортваецца задума аўтара; сродкі выражэння камунікатыўнай устаноўкі аўтара выказвання; ставіць пытанні ад аднаго сказа да наступнага; вызначыць сродкі сувязі сказаў у тэксце – незалежныя / залежныя адзін ад аднаго сказы, паслядоўны ці паралельны парадак сказаў у тэксце; знаходзіць сродкі сувязі сказаў у тэксце – лексічны паўтор, аднакарэнныя словы, займеннікі, прыслоўі, семантычна блізкія словы, сінонімы, злучнікі; выкарыстоўваць вядомую інфармацыю для сувязі сказаў у тэксце і новую для развіцця зместу выказвання;

7) *завершанасць*: вызначыць, ці дасягнута камунікатыўная мэта аўтара;

8) *апавяданне як функцыянальна-сэнсавы тып маўлення*: характарызаваць сітуацыю маўлення і ўсведамляць камунікатыўную мэту апавядання, знаходзіць часткі апавядання – зачын, завязку, развіццё падзей, кульмінацыю, канец апавядання; вызначаць спосабы выражэння вядомай і новай інфармацыі, прыёмы перадачы паслядоўнасці падзей, сродкі выражэння адносін аўтара да

выказвання; падбіраць фактычны матэрыял для ўласных тэкстаў-апавяданняў;

9) *апісанне як функцыянальна-сэнсавы тып маўлення*: характарызаваць сітуацыю маўлення і вызначаць камунікатыўную мэту апавядання; называць найбольш істотныя прыметы пры апісанні прадметаў, характарызаваць прадметы і з'явы па адной ці некалькіх прыметах, ствараць мастацкае апісанне праз вобразную характарыстыку прадметаў з дапамогай вобразна-выяўленчых сродкаў мовы, даваць навуковае апісанне, дакладна падаваць галоўныя прыметы ў строгай лагічнай паслядоўнасці; падбіраць фактычны матэрыял для ўласных тэкстаў-апісанняў;

10) *разважанне як функцыянальна-сэнсавы тып маўлення*: характарызаваць сітуацыю маўлення і ўсведамляць камунікатыўную мэту разважання; вызначаць кампазіцыйныя асаблівасці разважання (тэзіс, галоўная думка, аргументы і прыклады, вывад), вызначаць прычынна-выніковую сувязь з'яў і падзей, знаходзіць доказы; падбіраць фактычны матэрыял у адпаведнасці з камунікатыўнай мэтазгоднасцю выказванняў-разважанняў.

Уменні, якія фарміруюцца пры выкананні такіх заданняў, з'яўляюцца базавымі камунікатыўнымі ўменнямі. На іх аснове засвойваюцца такія якасці маўлення, як лагічнасць, дакладнасць, дарэчнасць, даступнасць.

Камунікатыўна-маўленчыя практыкаванні распрацоўваюцца на аснове ўзаемасувязі відаў маўленчай дзейнасці – аўдзіравання, чытання, гаварэння, пісьма, у адпаведнасці з камунікатыўнай сітуацыяй, якую разглядаем "як фрагмент рэчаіснасці, адлюстраваны ў тэксце" [4, с. 319].

З мэтай фарміравання камунікатыўнай кампетэнцыі вучняў навыкі чытання неабходна ўдасканальваць у працэсе дзейнасці, што мае практычнае значэнне. У цэнтры ўвагі ў такім выпадку знаходзяцца інфармацыйныя ўменні, фарміраванне якіх адбываецца мэтанакіравана і матывуецца імкненнем вучняў набыць неабходныя звесткі.

Таму камунікатыўна-маўленчыя практыкаванні будуць уключаць наступныя заданні: *прачытаць тэкст і знайсці патрэбную інфармацыю ў адпаведнасці з мэтавай устаноўкай, выявіць пазіцыю аўтара, якасна перапрацаваць прачытанае і самастойна кампенсаваць недахоп звестак, абапіраючыся на ўласны вопыт, трансфармаваць форму тэксту, разгарнуць тэматычны сказ абзаца.*

У час правільна арганізаванага чытання будуць фарміравацца такія камунікатыўныя якасці маўлення, як багацце, правільнасць, выразнасць і вобразнасць.

Развіццё ўменняў і навыкаў гаварэння пры вывучэнні беларускай мовы павінна адбывацца з улікам асаблівасцей моўнай адукацыі ў сітуацыі білінгвізму. Фарміраванне двухмоўнай асобы прадугледжвае развіццё ўмення маўленчай мабільнасці, магчымасці свабодна весці суразмоўніцтва на дзвюх мовах у залежнасці ад камунікатыўнай сітуацыі. Разам з тым пры падрыхтоўцы вусных выказванняў неабходна вучыць аўтаномнаму выкарыстанню сродкаў розных моўных сістэм.

На гэта накіраваны камунікатыўна-маўленчыя практыкаванні з заданнямі на *складанне творчых маналогаў і дыялогаў, пераказ, разгорнутых адказаў на пытанні, семантычнае мадэляванне, што значыць стварэнне тэксту на аснове камбінаванага спосабу тлумачэння значэння лексемы ў сукупнасці ўсіх лексіка-семантычных характарыстык.*

Важнае месца сярод камунікатыўна-маўленчых практыкаванняў займаюць *пераклад і моўная перапрацоўка тэксту (пераклад-пераказ).* У працэсе перакладу і творчага асэнсавання тэксту сродкамі другой мовы развіваюцца ўменні маўленчай мабільнасці вучняў і самакантролю ў час камунікацыі, папярэджваюцца як моўныя, так і маўленчыя памылкі ў выказваннях, замацоўваюцца спецыфічныя моўныя і маўленчыя нормы.

Пісьмо – прадуктыўны від маўленчай дзейнасці. Фарміраванне ўменняў пісьмовай мовы адбываецца на аснове ўзаемасувязі вуснага і пісьмовага маўлення. Тэксты, якія будуюць вучні ў працэсе выканання камунікатыўна-маўленчых практыкаванняў, матывуюцца рэальнымі патрэбамі іх стварэння ў розных жыццёвых сітуацыях. Таму ў заданнях *указваюцца асаблівасці пэўнага жанру ў адпаведнасці са сферай маўлення – афіцыйнай ці неафіцыйнай, мэта, адрасат пісьмовага тэксту.*

Для фарміравання камунікатыўнай кампетэнцыі неабходна засяроджваць увагу на маўленчых паводзінах, культуры маўлення, этычных нормах, падводзіць вучняў да свядомага і мэтанакіраванага выбару моўных сродкаў у адпаведнасці з сітуацыяй і сферай маўлення.

***Уласна камунікатыўныя практыкаванні*** распрацоўваюцца на аснове *камунікатыўнага аналізу тэксту* і *імітацыі працэсу моўных зносін*.

Уласна камунікатыўныя практыкаванні, распрацаваныя на аснове камунікатыўнага аналізу тэксту, уключаюць наступныя заданні: *даць характарыстыку сферы і сітуацыі, у якіх адбываецца маўленне; ахарактарызаваць удзельнікаў камунікацыі; вызначыць мэту і камунікатыўную задачу выказвання; вызначаць, што пабудзіла да маўленчага дзеяння; знаходзіць апісанні нормаў паводзін; знаходзіць формулы маўленчага этыкету, абгрунтоўваць іх выбар, падбіраць да этыкетных выразаў сінанімічныя, даваць творчую ацэнку сітуацыі маўлення.*

Імітацыя розных сфер узаемадзеяння людзей адбываецца дзякуючы ўключэнню ў працэс навучання элементаў гульні. Яны павінны быць арганічна звязаны з лінгвістычнай тэмай і з маўленчым матэрыялам. Таму важным для засва-

ення ўласна камунікатыўнага зместу з'яўляецца не столькі ролевы аспект гульні (размеркаванне і ўказанне роляў), колькі, перш за ўсё, маўленчы і этычны аспекты – стварэнне выказвання пэўнай формы, выбар спосабаў выражэння думкі, засваенне нормаў маўленчых паводзін і сродкаў этыкету, неабходных для здзяйснення маўленчага акта.

На аснове гэтага распрацоўваецца ўласна камунікатыўнае практыкаванне, у якім умова гульні ўключае заданне, *накіраванае на стварэнне выказванняў* на розныя тэмы ў адпаведнасці з сітуацыяй і мэтай маўлення. Апісанне разнастайных жыццёвых сітуацый выклікае цікавасць, актывізуе навучанне, садзейнічае хуткаму ўключэнню ў суразмоўніцтва.

**Спіс літаратуры**

1. **Канцэпцыя вучэбнага прадмета "Беларуская мова"** // Роднае слова. – 2009. – № 8. – С. 90 – 96.
2. **Мурына, Л. А.** Сістэмна-функцыянальны і камунікатыўна-дзейнасны падыходы пры навучанні мовам у школе / Л. А. Мурына, Г. М. Валочка // Беларуская мова і літаратура. – 2006. – № 10. – С. 28 – 32.
3. **Кудрявцева, Т. С.** Современные подходы к обучению речи / Т. С. Кудрявцева // Русский язык в школе. – 1996. – № 3. – С. 3 – 7.
4. **Болотнова, Н. С.** Филологический анализ текста : учеб. пособие / Н. С. Болотнова. – 3-е изд., испр. и доп. – М. : Флинта : Наука, 2007. – 250 с.
5. **Валочка, Г. М.** Лінгваметадычная сістэма развіцця звязнага маўлення школьнікаў пры навучанні беларускай мове : аўтарэф. дыс. … док. пед. навук / Г. М. Валочка. – Мінск, 2008. – 48 с.
6. **Литвинко, Ф. М.** Методика изучения разделов курса русского языка (функциональный подход) : курс лекций для студентов филологического факультета / Ф. М. Литвинко. – Минск : БГУ, 2001. – 175 с.
7. **Яленскі, М. Г.** Лінгвадыдактычная парадыгма асобасна арыентаванага навучання мове ў сучаснай школе / М. Г. Яленскі. – Мінск : НІА, 2002. – 212 с.
8. **Антонова, Е. С.** "Тайна текста" и секреты методики / Е. С. Антонова // Русский язык в школе. – 2002. – № 2. – С. 3 – 12.
9. **Быстрова, Е. А.** Цели обучения русскому языку, или Какую компетенцию мы формируем на уроках / Е. А. Быстрова // Русская словесность. – 2003. – № 1. – С. 35 – 40.

**Святлана МАРТЫНКЕВІЧ,**
старшы выкладчык кафедры беларускага мовазнаўства
Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта
імя П. М. Машэрава.

*Артыкул рэкамендаваны да друку доктарам педагагічных навук прафесарам М. Яленскім.*

*Працяг будзе.*

*Метадыст прапануе*

Вольга ПРАСКАЛОВІЧ

# НАВУЧАННЕ ВІДАМ ЛІТАРАТУРНА-ТВОРЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ Ў АСПЕКЦЕ ЖАНРАВАГА ПАДЫХОДУ

У артыкуле разглядаецца актуальная для беларускай метадычнай навукі і школьнай практыкі праблема фарміравання вопыту творчай дзейнасці вучняў агульнаадукацыйных устаноў пры вывучэнні літаратуры.

Тэарэтычныя праблемы навучання школьнікаў відам творчай дзейнасці актыўна распрацоўваюцца ў сучаснай беларускай і рускай методыцы выкладання літаратуры (І. Аркін, Г. Кудзіна, В. Левін, У. Маранцман, З. Наўлянская, В. Русілка, А. Руцкая, В. Смыкоўская і інш.).

Мэта прапанаванага артыкула – ахарактарызаваць агульнатэарэтычныя пазіцыі методыкі навучання відам літаратурна-творчай дзейнасці ў аспекце жанравага падыходу, прапанаваць метады і прыёмы, якія рэалізуюць задачы крэатыўнага развіцця школьнікаў пры вывучэнні беларускай літаратуры, комплекс творчых заданняў, з дапамогай якіх фарміруюцца ўменні, неабходныя для стварэння вучнямі ўласных прадуктаў слоўнай дзейнасці як эквіваленту асобаснага адукацыйнага прырашчэння.

Навучанне відам літаратурна-творчай дзейнасці ў аспекце жанравага падыходу прадугледжвае павышаную ўвагу да вывучэння мастацкага твора з улікам яго родава-жанравых асаблівасцей, бо ў разуменні жанру, як падкрэсліваў акадэмік М. Лазарук, "хаваюцца вельмі важныя сакрэты мастацкай спецыфікі, характару вобразнасці, кампазіцыйнай арганізацыі твора, сістэмы выяўленчых прыёмаў і сродкаў". Менавіта родава-жанравыя асаблівасці мастацкага тэксту і абумоўліваюць методыку яго аналізу: "прырода твора", паводле трапнай заўвагі М. Рыбнікавай, дыктуе метадычныя прыёмы яго вывучэння, творчай інтэрпрэтацыі мастацкага тэксту.

Паспрабуем праілюстраваць рэалізацыю методыкі навучання відам літаратурна-творчай дзейнасці ў аспекце жанравага падыходу на прыкладзе вывучэння паэтычных твораў (раздзел "Загадкавая краіна Паэзія") у VII класе.

Аўтары вучэбнай праграмы і вучэбнага дапаможніка для вучняў VII класа агульнаадукацый-

ных устаноў мэтанакіравана змясцілі ў гэтым раздзеле толькі паэтычныя творы і адвялі на іх вывучэнне 9 гадзін.

"Звышзадача" (тэрмін К. Станіслаўскага) настаўніка пры вывучэнні літаратурнага матэрыялу раздзела "Загадкавая краіна Паэзія" – падрыхтаваць удумлівых чытачоў паэзіі, развіць культуру чытання твораў гэтага складанага для ўспрымання літаратурнага роду, узбагаціць веды вучняў пра сутнасць і характар паэзіі як віду літаратурна-мастацкай творчасці, пра спецыфічную мову паэзіі, выпрацаваць уменне аналізаваць паэтычны тэкст, стымуляваць уласную культуратворчую дзейнасць школьнікаў.

Вывучэнне прапанаванага матэрыялу мэтазгодна праводзіць комплексна: разгляд і замацаванне тэарэтыка-літаратуразнаўчых ведаў і паняццяў пра паэзію спалучаць з навучаннем школьнікаў асноўным відам літаратурна-творчай дзейнасці.

Арганічнымі метадамі і прыёмамі, якія дазваляюць гэтага дасягнуць, на думку метадыстаў*, з'яўляюцца наступныя: выразнае чытанне; вуснае слоўнае маляванне, ілюстраванне; супастаўленне верша і адпаведных дзённікавых матэрыялаў; выяўленне фактаў біяграфіі паэта, якія пакладзены ў аснову твора; знаёмства з гісторыяй яго напісання; супастаўленне розных варыянтаў верша; параўнанне верша і блізкіх да яго твораў музычнага і выяўленчага мастацтва (у тым ліку песень, напісаных на дадзены тэкст, і ілюстрацый да яго); супастаўленне вершаў розных аўтараў на адну і тую ж тэму або вершаў, напісаных адным аўтарам у розны час; параўнанне арыгінала твора і яго перакладаў на вядомыя вучням мовы; складанне "хрэстаматыі" з твораў паэта; разгорнутае маналагічнае выказванне вучняў паводле афарыстычных радкоў верша. Эфектыўнымі, пры ўмове творчага і педагагічна ўважлівага выкарыстання, могуць быць прыёмы, што стымулююць уласную вершатворчасць вучняў: дапісванне апошняга радка альбо страфы верша, напісанне вершаў па зададзенай схеме чаргавання радкоў (трыялет, актава, санет), напісанне вершаў па зададзеных рыфмах ці на прапанаваную тэму і г. д.

Для замацавання ведаў па раздзеле "Загадкавая краіна Паэзія" аўтары вучэбнага дапаможніка для VII класа прапаноўваюць наступную творчую працу: *паспрабаваць напісаць верш, напрыклад, на тэму "Зіма" або "Першы снег", ужываючы рыфмаваныя словы <…>. Першы радок можа быць такім: "Зіма скавала рэчак бег…" – або іншым* [1, с. 91].

Як сцвярджае П. Лявонава, "падказка гатовых рыфмаў зусім не азначае, што свой верш трэба складаць толькі па іх, яна даецца для таго, каб абудзіць творчую фантазію і вобразныя ўяўленні вучняў" [2, с. 82].

У метадыцы навучання літаратуры, а найбольш у школьнай практыцы** даўно прапагандуюцца заданні на ўласную вершатворчасць вучняў. Літаратурная праца вучняў каштоўная пазнавальна-выхаваўчым вынікам, магчымасцю самавыяўлення, самасцвярджэння праз творчасць. На думку В. Русілкі, «толькі адзінкі з тых, хто спрабуе свае сілы ў прыгожым пісьменстве, становяцца прафесійнымі літаратарамі. Аднак спроба творчасці дапамагае лепш зразумець і самога сябе, і тыя законы, па якіх "майструецца" твор. Да таго ж гэта проста цікава!» [3, с. 23]. Пра гэта пісаў яшчэ акадэмік Іван Замоцін, якога па праве можна лічыць "бацькам" методыкі навучання беларускай літаратуры, першапраходцам у развіцці методыкі як навукі: "Школа, зразумела, не выхоўвае спецыяльна паэтаў, якія аперыруюць мастацкім стылем, але яна выхоўвае ў шырокім сэнсе працаўнікоў культуры, для якіх мастацкі стыль павінен быць не толькі зразумелым, але і даступным для выкарыстання ў практыцы іх штодзённага жыцця, бо кожны павінен умець да некаторай ступені маляўніча выявіць прадукты свайго і чужога мыслення і кожны павінен умець сродкамі эмацыянальнай мовы гаварыць аб сваіх і чужых пачуццях… Гэта дыктуецца і ўкладам сучаснага жыцця, калі жывое слова, апранутае ў яркую і вобразную форму, з'яўляецца фактарам у грамадскай працы" [4, с. 11]. У справе заахвочвання да вершатворчасці кожнага вучня варта ўважліва прыглядзецца да метадычных залацінак вядомых у рэспубліцы настаўнікаў: Г. Аўласенкі, А. Белакоза, М. Верціхоўскай, І. Волкава, Т. Трафімчык, В. Туркевіча, Л. Ясевіч і многіх іншых, чые імёны мы рэгулярна сустракаем на старонках часопісаў. В. Туркевіч сцвярджае: "Хай сабе не стануць

* **Русілка, В.** Незвычайнае літаратуразнаўства : вывучэнне твора ў яго родавай і жанравай спецыфіцы : 8-ы кл. : дапам. для настаўнікаў агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / В. Русілка. – Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2010. – 64 с. – (Беларуская літаратура. Факультатыўныя заняткі); **Руцкая, А.** Методыка выкладання беларускай літаратуры : вучэб. дапам. / А. Руцкая, М. Грынько. – Мінск : Изд-во Гревцова, 2010. – 184 с.

** **Аўласенка, Г.** Азы вершаскладання / Г. Аўласенка. – Мінск : Выдавецтва "Чатыры чвэрці", 2011. – 164 с.; **Белакоз, А.** Вучу дзетак складаць вершы / А. Белакоз // Бел. мова і літ. у шк. – 1991. – № 10. – С. 39 – 42; **Баевский, В.** Сочинение стихов и уроки литературы / В. Баевский // Лучший учитель – творчество / под ред. В. Лейбсона. – М. : Просвещение, 1966. – С. 53 – 72; **Волкаў, І.** Далучэнне школьнікаў да творчасці : з вопыту работы / І. Волкаў. – Мінск : Нар. асвета, 1992. – 128 с.; **Зепалова, Т.** Можно ли научить детей писать стихи? / Т. Зепалова // Лит. в шк. – 1977. – № 2. – С. 66 – 70; **Новлянская, З.** "Стихи – продолженье моё и начало…" / З. Новлянская. – М. : Знание, 1982. – 95 с.; **Туркевіч, В.** Творчасці зярняты залатыя… : метад. эцюды настаўніка / В. Туркевіч. – Мінск : Нар. асвета, 1988. – 110 с.

такія вучні паэтамі, але аматарамі паэзіі, літаратуры наогул, прыхільнікамі кнігі, добрымі чытачамі яны будуць. А хіба гэтага мала?" [5, с. 78].

Навучанне вершатворчасці – справа надзвычай адказная і далікатная, якая патрабуе вялікай педагагічнай культуры, тактоўнасці і эстэтычнага густу настаўніка-славесніка. Пры гэтым важна, каб вучні разглядалі такія заданні перш за ўсё як спробу наблізіцца да таямніц загадкавай краіны Паэзія, законаў яе стварэння. Для таго каб вучні зразумелі, як ствараюць вершы, варта звярнуцца да сведчанняў саміх пісьменнікаў [6, с. 103 – 104]. У выніку чаго вучні пераканаюцца, што "сачыненне вершаў – гэта не праца, а стан" (Р. Музіль). Пісаць вершы дадзена не кожнаму, бо, паводле выказвання М. Багдановіча, "душа ў паэта, калі спараджае ён дзіўныя вершы, нябесным агнём абагрэта, і ў час той між люду ён – першы…", але навучыцца разумець вершы, адчуваць прыгажосць прыроды і самога жыцця можна. Гэтаму і вучыць нас Паэзія.

На ўроках літаратуры ў адпаведнасці з распрацаванымі намі падыходамі да вывучэння раздзела "Загадкавая краіна Паэзія" вялікая ўвага аддаецца крэатыўна-дызайнерскай і маўленчай дзейнасці, звязанай з самарэалізацыяй кожнага вучня праз розныя віды індывідуальнай творчасці. Формы прэзентацыі – слоўныя (вуснае выказванне, водгук, эцюд, анатацыя да паэтычнага зборніка, ліст-падзяка паэту, мініінтэрв'ю, дыялог сучасніка з паэтам або лірычным героем і інш.), графічныя (кластар, геаметрычная фігура, схема, эскіз, фотакалаж ці калаж з малюнкаў і рэпрадукцый, насценгазета, альманах і да т. п.), сінтэтычныя (музычна-слоўны, маляўніча-слоўны, тэатралізацыя і г. д.), дэкаратыўна-прыкладныя (лепка, вышыўка, аплікацыя, саломапляценне, разьба па дрэве і да т. п.), мультымедыйныя (стварэнне прэзентацыі, камп'ютарнай анімацыі, каляровай версіі рэкламы паэтычнага зборніка, прэс-рэліза, слайд-шоу, відэаролікa, вэб-старонкі і да т. п.).

Настаўнік можа арганізаваць уключэнне вучняў у творчую дзейнасць пры дапамозе метаду праектаў. У якасці прыкладу можна прывесці творчы калектыўны праект "Загадкавая краіна Паэзія" і некаторыя заданні для творчых майстэрняў. Заданне для мастакоў – намаляваць карту краіны Паэзія, для паэтаў – прыдумаць сімволіку краіны (гімн, герб, сцяг) і назвы геаграфічных аб'ектаў: горад Лірнікаў, архіпелаг Рыфмаў, востраў Санетаў, даліна Вершаў, мыс Ямбаў, Дактылічнае пласкагор'е, гара Анапест, возера Амфібрахій і г. д.; для гісторыкаў – расказаць пра гісторыю гэтай краіны, яе загадкі і таямніцы; для культуролагаў – распрацаваць эмблему верша (або творчасці паэта, самога паэта), параўнаць верш і блізкія да яго творы музычнага і выяўленчага мастацтва і г. д.

Прыводзім "эмблему" творчасці народнага паэта Беларусі Янкі Купалы, самога паэта ва ўяўленні аўтара аповеду "Румянка – эмблема паэта" У. Ліпскага: "Будучы ў Горы-Горках, Янка Купала сустракаўся са школьнікамі. Пабываў у сельскагаспадарчым інстытуце, абгледзеў мясцовы батанічны сад. Гуляў па старым парку. Там жа яго віталі дэлегаты настаўніцкай раённай канферэнцыі і вучні мясцовых школ.

Дзяўчынкі ў нацыянальных беларускіх строях паднеслі Янку Купалу румянкі. Абвясцілі, што менавіта гэтыя кветкі і ёсць эмблемай творчасці паэта, самога паэта. Што ж за яны, тыя краскі?

Дык вось, у свеце ёсць за пяцьдзясят відаў румянкаў. У Беларусі жывуць толькі дзікія. Яны – лекавыя, алейныя, фарбавальныя, медадайныя і крыху атрутныя. Растуць каля дарог, на незасеяных палетках, на сухіх гарыстых схілах. На гэтых раслінах – простае, як шаблі, лісце, а кветкі – ярка-сіне-фіялетавыя. Маюць няправільную форму, у густых завітках, падобных на шырокія гронкі.

Такую эмблему прыдумалі горацкія настаўнікі і вучні народнаму паэту Беларусі Янку Купалу" [7, с. 165].

Фарміраванне практычных крэатыўна-маўленчых уменняў і навыкаў пераносіцца ў сшытак на друкаванай аснове, які з'яўляецца неад'емнай часткай вучэбнага дапаможніка, своеасаблівым практыкумам.

З мэтай актывізацыі маўленчага развіцця кожнага вучня выкарыстоўваецца маляванне: паспрабаваць перадаць праз колеры пачуцці, настрой, навеяныя творамі музычнага, выяўленчага і паэтычнага мастацтваў, і расказаць, чаму менавіта гэтыя колеры і адпаведныя вобразныя сродкі спатрэбіліся; падрыхтаваць малюнак-ілюстрацыю да вуснага выказвання паводле афарыстычных радкоў верша; размаляваць эмблему верша згодна з уласным бачаннем і аргументаваць свой выбар; адлюстраваць на малюнку сваё ўяўленне таго, што з'яўляецца сімвалам паэзіі, творчасці паэта; дамаляваць серыю малюнкаў у адпаведнасці з рухам перажыванняў лірычнага героя і прааналізаваць, чым абумоўлены выбар паэтам мастацкіх сродкаў для стварэння ўнутранага свету героя; падрыхтаваць фотакалаж або калаж з рэпрадукцый і ўласных малюнкаў на тэму верша і зрабіць высновы пра вобразна-выяўленчую палітру верша; намаляваць некалькі ілюстрацый да верша і паспрабаваць аформіць іх у выглядзе кнігі, расказаць, якой бачыцца вокладка да яе, аргументаваць свой выбар; падрыхтаваць вусную або пісьмовую замалёўку, сугучную вершу, намаляваць ілюстрацыі да яго, наладзіць выставу

малюнкаў, параўнаць сваю творчасць з работамі мастакоў-ілюстратараў, змешчанымі на форзацы вучэбнага дапаможніка (у дадатках да практыкума), і паразважаць, ці ўдалося мастакам адлюстраваць настрой верша; дапоўніць відарыс любімым героем, які глядзіцца ў люстэрка (возера) і бачыць у ім сваё адлюстраванне, і г. д.

Выяўленчая дзейнасць выкарыстоўваецца па той прычыне, што "маляванне ёсць графічная мова, якая ўзнікае на аснове слоўнай мовы" (Л. Выгоцкі). Значыць, маляванне, як справядліва адзначае М. Яленскі, "можна лічыць не толькі сродкам эстэтычнага развіцця, але ў некаторай ступені і сродкам актывізацыі маўленчага развіцця. Дзіцячая ілюстрацыя каштоўная не тэхнікай выканання, а выяўленнем, разуменнем і вытлумачэннем таго ці іншага вобраза. Малюнак разглядаецца як сродак графічнага і моўнага самавыражэння асобы, а маляванне – як сродак індывідуальнага эстэтычнага развіцця, узбагачэння ўяўлення, фантазіі" [8, с. 121].

У ходзе навучання культуратворчасці вучні не толькі авалодваюць версіфікатарскімі ўменнямі, запамінаюць ужывальныя ў вершах вобразна-выяўленчыя сродкі, словы і выразы, але і засвойваюць іх правапіс. Такім чынам, на занятках работа над паэтычным словам вядзецца ў непарыўнасці двух яе відаў, лексічнага і арфаграфічнага. Такі прыём спадарожнага навучання выхоўвае культуру маўлення і ўвагу да паэтычных сродкаў, што будуць ужыты вучнямі ва ўласных вершах.

Эфектыўнасць фарміравання паэтычных здольнасцей школьнікаў залежыць ад стварэння ў агульнаадукацыйнай установе атмасферы духоўнасці, творчасці: сістэматычны выпуск літаратурных стэндаў, радыё- і насценных газет, бюлетэняў, альманахаў, часопісаў і альбомаў, выданне рукапісных зборнікаў вучнёўскай codeшатворчасці, падрыхтоўка твораў для публікацыі ў перыядычным друку, правядзенне свят паэзіі з запрашэннем паэтаў, арганізацыя віктарын, конкурсаў, кіраўніцтва працай літаратурнага гуртка, факультатыву. У сувязі з гэтым актуалізуецца праблема псіхалагічнай і метадычнай падрыхтоўкі педагога да арганізацыі і кіравання культуратворчай дзейнасцю вучняў, бо "галоўная функцыя настаўніка – кіраванне працэсам навучання, выхавання, развіцця, фарміравання" [9, с. 232]. За мяжой усю сістэму дзеянняў настаўніка ўсё часцей называюць "педагагічным менеджментам", а яго самога "менеджарам" навучання, выхавання, развіцця і г. д.

Акрамя асноўнай формы арганізацыі навучання культуратворчасці – урока, жанравы падыход эфектыўна рэалізуецца праз факультатыўныя заняткі як абавязковыя састаўныя варыятыўнага кампанента ў змесце літаратурнай адукацыі. Напрыклад, факультатыўныя заняткі "Браму скарбаў сваіх адчыняю…" (V клас), "Слова – радасць, слова – чары…" (VI клас) Л. Цітовай; "Таямніцы паэзіі і загадкі прозы" (VII клас) Т. Логінавай, Т. Мароз; "Незвычайнае літаратуразнаўства: вывучэнне твора ў яго родавай і жанравай спецыфіцы" (VIII клас) В. Русілкі, а таксама "Беларускі фальклор: апавядальныя жанры" (V клас), "Беларускі фальклор: каляндарна-абрадавая паэзія" (VI клас), "Беларускі фальклор: сямейна-абрадавая паэзія" (VII клас) Л. Цітовай; "Вытокі тэатральнага мастацтва" (V клас), "Асновы тэатральнай культуры" (VI клас), "Беларуская літаратура і тэатр" (VII клас), "Тэатры Беларусі" (VIII клас) Т. Мароз; "Юны карэспандэнт" (VIII клас) І. Гоўзіч і іншыя даюць вучням магчымасць усвядоміць асаблівасці асноўных тыпаў літаратурнай творчасці – паэзіі, прозы, драматургіі, а таксама авалодаць уменнямі самастойнай інтэрпрэтацыі тэксту з дапамогай сумежных відаў мастацтва (тым больш што жанравыя іх законы ў многім супадаюць), неабходнымі спосабамі крэатыўнай дзейнасці па ажыццяўленні ўласных вопытаў мастацка-творчага характару: мастацкія замалёўкі, апавяданні, нарысы, вершы і інш.

**Спіс літаратуры**

1. **Лазарук, М.** Беларуская літаратура : вучэб. дапам. для 7-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / М. Лазарук, Т. Логінава. – Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2010. – 304 с.
2. **Карухіна, В.** Урокі беларускай літаратуры ў 8 класе : вучэб.-метад. дапам. для настаўнікаў устаноў, якія забяспечваюць атрыманне агул. сярэд. адукацыі, з беларус. і рус. мовамі навучання / В. Карухіна, П. Лявонава, І. Слесарава. – Мінск : Маст. літ., 2006. – 214 с.
3. **Русілка, В.** Незвычайнае літаратуразнаўства : вывучэнне твора ў яго родавай і жанравай спецыфіцы : 8-ы кл. : дапам. для настаўнікаў агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / В. Русілка. – Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2010. – 64 с. – (Беларуская літаратура. Факультатыўныя заняткі).
4. **Замоцін, І.** Мастацкая літаратура ў школьным выкладанні : метадыч. нарысы / І. Замоцін. – Мінск, 1927. – Вып. 1. – 125 с.
5. **Туркевіч, В.** Творчасці зярняты залатыя… : метад. эцюды настаўніка / В. Туркевіч. – Мінск : Нар. асвета, 1988. – 110 с.
6. **Логінава, Т.** Беларуская літаратура ў 7 класе : дапам. для настаўнікаў, якія забяспечваюць атрыманне агул. сярэд. адукацыі, з бел. і рус. мовамі навучання / Т. Логінава, Т. Мароз. – 2-е выд., перапрац. – Мінск : Сэр-Вит, 2007. – 336 с. – (Майстэрня настаўніка).
7. **Ліпскі, У.** Янкаў вянок : дзецям пра Янку Купалу / У. Ліпскі. – Мінск : Маст. літ., 2009. – 222 с.
8. **Яленскі, М.** Лінгвадыдактычная парадыгма асобасна арыентаванага навучання мове ў сучаснай школе / М. Яленскі. – Мінск : НІА, 2002. – 212 с.
9. **Подласый, И.** Педагогика : в 2 кн. / И. Подласый. – М. : ВЛАДОС, 1999. – 576 с. – Кн. 1. Общие основы. Процесс обучения.

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

*Актуальная тэма*

# ПРАБЛЕМА ФАРМІРАВАННЯ МЭТАВЫЗНАЧЭННЯ НА ЎРОКУ

*Чалавецтва за многія тысячагоддзі свайго існавання ўсё яшчэ не навучылася вучыцца.*

І. Яфрэмаў.

Рэалізуючы працэс навучання ў сучасных умовах, настаўніку неабходна кардынальна змяніць не толькі тактыку, але і стратэгію ўзаемадзеяння з вучнем: успрымаць яго як паўнапраўнага суб'екта навучання, ставячы перад сабой задачу фарміравання ўнутраных мэт дзейнасці, развіцця яго пазнавальных і камунікатыўных навыкаў. Нават самая дасканалая сістэма мэт навучання мала дапаможа практыцы, калі настаўнік не будзе мець уяўлення пра шляхі дасягнення гэтых мэт праз дзейнасць вучняў, паслядоўнасць выканання імі асобных дзеянняў.

Вялікую ролю ў гэтым набывае псіхолага-педагагічная кампетэнтнасць настаўніка: валоданне методыкай фарміравання матывацыі і мэтавызначэння школьнікаў, іх аналітычных здольнасцей, а таксама педагагічны прагноз і рэфлексія сваёй дзейнасці, рэфлексійнае кіраванне дзейнасцю вучняў.

Аб'ём навуковай і навукова-педагагічнай інфармацыі прымушае творчага настаўніка крытычна асэнсоўваць праграмны матэрыял і ўласны педагагічны вопыт, шукаць новыя формы і метады, што дазваляюць не толькі "рэалізаваць" матэрыял у вучэбным працэсе, але і самарэалізоўвацца ў такой дзейнасці. Дапамога ў гэтым кірунку эфектыўная толькі ў тым выпадку, калі настаўнік асэнсоўвае, што галоўным для вучня сёння з'яўляецца ўменне паставіць перад сабой мэту вучыцца – знаходзіць адказы на пытанні, якія цікавяць, перапрацоўваць інфармацыю, умець яе лагічна выказаць, – гэта значыць настаўніку трэба навучыць школьніка працаваць з дакументамі, тэкстамі, даведнікамі, слоўнікамі. Будуць развіты гэтыя ўменні – будуць трывалымі веды. Значыць, задача ў тым, каб зразумець, што і як матывуе вучняў на працэс фарміравання мэтавызначэння і як гэтыя фактары ўплываюць на задачу павелічэння інтэнсіўнасці такой працы ў цэлым, таму мэтавызначэнне – праблема сучаснага ўрока, бо настаўнік не займае пазіцыю транслятара гатовых ведаў, ён роўны вучню ў пошуку ісціны, адкрыты для любой інфармацыі, станоўча настроены на зваротную сувязь, а вучань не пасіўны слухач, ён кіруе сваёй вучэбнай дзейнасцю, яму неабходна валодаць навыкамі пастаноўкі мэты. Яны павінны быць дыягнастычныя, канкрэтныя, зразумелыя, рэальныя, пабуджальныя.

Не менш важны момант – сфарміраваць у школьнікаў навыкі актыўнай дзейнасці праз уменне ставіць перад сабой вучэбную мэту, бо гэта інструмент самарэалізацыі асобы, магчымасці адаптацыі ў грамадстве, захавання яго фізічнага і маральнага здароўя, калі нават адпачынак будзе ўспрымацца як форма развівальнай дзейнасці. Кантынгент вучняў па ўзроўні развіцця разумовай дзейнасці нераўнамерны, і, каб дабіцца ад усіх такой якасці дзейнасці, якая характарызавалася б высокім узроўнем засваення ведаў, неабходна валодаць рознымі прыёмамі (спосабамі) фарміравання мэтавызначэння. Пад разумовай дзейнасцю маем на ўвазе максімальнае ўменне ўзнаўляць змест ведаў і ўменняў, уменне выконваць заданні па ўзоры, карыстацца інструкцыямі, правіламі, ажыццяўляць дзейнасць па алгарытмах (прадпісаннях), узноўленых па памяці. Павышэння эфектыўнасці засваення ведаў можна дасягнуць праз фарміраванне мэтавызначэння, бо калі навык сфарміраваны, вучань ужо мае матыў працаваць на ўроку. Выкарыстанне розных прыёмаў мэтавызначэння садзейнічае ўмеламу, майстэрскаму правядзенню ўдзельнікаў педагагічнага працэсу праз этапы фарміравання (развіцця) ведаў, уменняў і навыкаў. Нагадаем, што практычна ўсе прыёмы фарміравання мэтавызначэння будуюцца на дыялагічнай аснове, таму вельмі важна карэктна фармуляваць пытанні, вучыць дзяцей не толькі адказваць на іх, але і складаць свае.

Прапануем некаторыя прыёмы фарміравання мэтавызначэння.

1. Праз апорныя словы.

На дошцы запісаны апорныя словы *даведаемся, навучымся, паўторым* (можна выкарыстаць прапанаваныя, а можна і іншыя), а да вучняў звяртаемся з пытаннямі: "Пра што мы сёння даведаемся? Чаму навучымся? Што паўторым?" На этапе абагульнення ведаў (можна на працягу ўрока) зноў звяртаемся да вызначаных напачатку задач і ўдакладняем, дапаўняем, структуруем іх адносна разгледжанага прадметнага зместу.

2. Праз праблемную сітуацыю (па М. Махмутаву).

Ствараецца сітуацыя супярэчнасці паміж вядомым і невядомым. Паслядоўнасць прымянення гэтага прыёму: самастойнае рашэнне; калектыўная праверка вынікаў; выяўленне прычын

разыходжання вынікаў або цяжкасцей выканання; пастаноўка мэты ўрока.

Значыць, каб вучань сфармуляваў і прысвоіў сабе мэту, яго неабходна “сутыкнуць” з сітуацыяй, у якой ён зразумее недахоп сваіх ведаў для вырашэння прапанаванай сітуацыі. У гэтым выпадку мэта ім успрымаецца як праблема, якую неабходна вырашыць.

3. Праз апорныя схемы.

Можна карыстацца любой схемай, напрыклад “Сонейка”.




Пры разглядзе тэмы “Прыметнік” вучні з высокім узроўнем навучання самі могуць вызначыць пытанні (задачы) для вывучэння тэмы (запоўніць кружкі), з сярэднім – часткова самі, часткова з дапамогай настаўніка, з нізкім – настаўнік сам запаўняе схему, а ў вучняў высвятляе з якога “сонейка” пачнём вывучэнне тэмы, якім працягнем (каля “сонейка” ставім парадкавы нумар). Усе самастойныя часціны мовы разглядаюцца прыкладна па адной і той жа схеме, таму карыстацца гэтым прыёмам цяжка толькі першы раз, у далейшым, пры вывучэнні іншых часцін мовы, цяжкасці паступова знікаюць.

4. Праз задачы ўрока.

Напрыклад, пры разглядзе тэмы “Назоўнік як часціна мовы” на дошцы, выкарыстоўваючы прыём кантрасту, запісваюцца адукацыйныя задачы ўрока. Разам з вучнямі знаёмімся з імі і выбіраем неабходныя для работы.

– Ведаць азначэнне назоўніка як самастойнай часціны мовы.

– Ведаць азначэнне прыметніка як самастойнай часціны мовы.

– Ведаць, на якія пытанні адказвае назоўнік.

– Ведаць, на якія пытанні адказвае дзеяслоў.

– Умець знаходзіць назоўнікі ў сказах.

– Умець знаходзіць злучнікі ў сказах і інш.

Чым вышэйшы ўзровень навучання, тым меншы кантраст у пераліку пытанняў.

5. Праз эпіграф урока (праз праблемныя пытанні).

Ціха па мяккай траве
Сінявокая ноч прахадзіла;
Ціха з заснуўшых палян
Плыў у гару і знікаў,
Быццам дым сіняваты з кадзіла,
Рэдкі, прывідны туман…

М. Багдановіч.

Напрыклад, пры разглядзе тэмы “Прыметнік як часціна мовы” на дошцы запісваюцца малавядомыя радкі з верша М. Багдановіча, падкрэсліваюцца прыметнікі (або не запісваюцца ўвогуле, або выбіраюцца для работы адзін-два з усіх), а пасля вучні адказваюць на пытанні, якія падводзяць да пастаноўкі мэты ўрока.

• На якія пытанні адказваюць падкрэсленыя словы?

• Хто здагадаўся, якая гэта часціна мовы?

• Працягніце сказ: “Сёння на ўроку мы разгледзім…, навучымся…”

Азначэнне *сінявокая* не запісваецца (можна прапусціць некалькі прыметнікаў), а да вучняў звяртаемся з прапановай узнавіць прапушчанае слова / словы.

• На якія пытанні адказваюць падабраныя вамі словы?

• Як называецца гэтая часціна мовы? (Калі вучні не адказваюць, звяртаемся да падручніка, указаўшы старонку.)

Абавязковымі ўмовамі выкарыстання пералічаных прыёмаў з’яўляюцца: улік узроўню ведаў і вопыту вучняў; даступнасць – гэта значыць адпаведная ступень цяжкасці; цярпімасць, неабходнасць прымаць розныя меркаванні, але абавязкова з абгрунтаваннем; уся работа павінна быць накіравана на актыўную мысленчую дзейнасць.

Эфектыўнасць прыёмаў залежыць ад ступені іх тэхналагічнасці, г. зн. здольнасці выклікаць неабходны педагагічны вынік. Разам з тым адзін і той жа прыём можа мець розны метадычны ланцужок.

Рэжысура ўрока дазваляе праз фарміраванне мэтавызначэння надаць яму сучаснае гучанне, стварае ўмовы для раскрыцця індывідуальнасці дзіцяці, яго шматгранных здольнасцей, нават ва ўмовах масавай школы можна пераўтварыць традыцыйнае навучанне ў інавацыйнае, павысіць яго якасць, тым самым садзейнічаць фарміраванню светапогляду школьнікаў, настаўнікаў, бацькоў, культуры міжасобасных і калектыўных адносін, якія з’яўляюцца асновай у павышэнні эфектыўнасці работы (вучэбна-выхаваўчага працэсу).

**Спіс літаратуры**

1. **Аствацатуров, Г. О.** Технология целеполагания урока / Г. О. Аствацатуров. – Волгоград : Учитель, 2008.

2. **Конаржевский, Ю. А.** Анализ урока / Ю. А. Конаржевский. – М. : Центр “Педагогический поиск”, 2003.

3. **Куриленко, Н**. Возможности интерактивного обучения в преподавании педагогики / Н. Куриленко, В. Чечет // Веснік адукацыі. – 2005. – № 8. – С. 24 – 28.

**Марыя КНЫШ,**
дацэнт кафедры педагогікі МГІРА,
**Антон КНЫШ,**
аспірант Нацыянальнага інстытута адукацыі.





*Вяртанне да вытокаў*

Анатоль СТАТКЕВІЧ-ЧАБАГАНАЎ

# КАЗАНОВІЧЫ ГЕРБА "ГРЖЫМАЛА"



**Герб "Гржымала" роду Казановічаў.**

У 1960-я гг., калі я вучыўся ў Ленінградзе, пасля дзесяцігоддзяў маўчання пачала абуджацца цікавасць да забароненай тэмы белагвардзейскага руху ў перыяд грамадзянскай вайны. Незвычайны інтарэс выклікала ў тыя часы кніга Міхаіла Булгакава "Белая гвардия". Ёю зачытваліся многія, абмяркоўвалі на бясконцых студэнцкіх дыспутах. Мае сімпатыі былі на баку тых герояў рамана, хто змагаўся за веру, цара і Айчыну. Я быў у меншасці. Чаму? Адказ просты: наша сям'я несправядліва пацярпела ад бальшавіцкай навалы, бо па камуністычнай тэорыі адносілася да варожага класа, які трэба было знішчыць.

Тады ж трапіў у мае рукі і раман Аляксея Талстога "Хождение по мукам", дзе з эпічным размахам распавядалася пра трагічныя падзеі Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Асабліва мяне ўразілі яркія старонкі кнігі з апісаннем рэальных бітваў і эпізодаў Ледзянога паходу Белай арміі. Мяне здзіўляла, чаму аўтар, прыняўшы пасля эміграцыі савецкую рэальнасць і ўслаўляючы яе, паказаў stationоўчы вобраз белагвардзейскага генерала Казановіча.

*Часопісны варыянт выбраных раздзелаў з кнігі "Я – сын Ваш"* ***Анатоля Статкевіча-Чабаганава*** *друкуецца з № 4 за 2010 г.*

Адчувалася, што А. Талстой захапляецца яго рашучасцю, цвёрдасцю вядзення бою і асабістай смеласцю:

*«Генерал Казанович стоял на срубе колодца у железнодорожной будки и спокойно следил за умелыми движениями офицерских цепей, идущих без выстрела. Тонкое, изящное лицо его, с полуседыми длинными усами и подстриженной бородой (как носил государь император), было насмешливо-сосредоточенно, красивые глаза холодно, с женственной страстностью, улыбались. Он был настолько уверен в исходе боя, что ни минуты не захотел ждать дивизии Дроздовского. Он соперничал в поисках славы с Дроздовским, болезненно самолюбивым, осторожным и, часто во вред делу, медлительным. Он любил войну за ее пышный размах, за музыку боя, за громкую славу побед.* <…>

*Видно было, как из окопов поднимались густые цепи противника. Марковцы бежали вперед, ни один не кланялся пулям. Навстречу им ползли тысячи фигурок. Казанович поднял к глазам бинокль. Странно!*

*– Шрапнелью три очереди по товарищам! – приказал он сидевшему у колодца телефонисту.* <…>

*Болезненная усмешка застыла на изящно очерченных губах Казановича… Марковцы не выдержали. Остатки первой роты бежали в пшеницу, легли. Вторая рота отхлынула, легла.*

*Тогда он соскочил с колодца и легко побежал по полю. Его увидали. Ему удалось поднять цепи, крича: "Господа, господа, стыдно!" Он бросил их в штыки, но огонь был так жесток, люди падали в таком изобилии, что цепи снова легли… Неужели это был проигранный бой?»*

Чытаючы ў студэнцкія гады гэтыя радкі, я ніяк не мог падумаць, што буду цікавіцца лёсам генерала Казановіча, больш за тое – стану даследчыкам яго роду. Так, аднойчы дзякуючы маёй родзічцы Наталлі Татур да мяне трапілі забытыя рукапісы Алены Казановіч, дачкі ўзгаданага намі белагвардзейскага генерала Барыса Ільіча Казановіча.



**Барыс Ільіч Казановіч пасля заканчэння Мікалаеўскай акадэміі Генеральнага штаба ў Пецярбургу.** 1899 г.

У дзённіках Алены Барысаўны шмат цікавых звестак з гісторыі роду Казановічаў і роду Астроўскіх, з якога паходзіла яе маці Вольга Мікалаеўна.

Высветлілася, што Казановічы паходзяць з Беларусі, з Магілёўшчыны. Падчас грамадзянскай вайны яны эмігрыравалі, а ў 1950-я гг., калі з'явілася магчымасць, Алена разам з мужам, афіцэрам Сяргеем Карповічам, таксама ўдзельнікам белагвардзейскага руху, вярнулася з чужыны на радзіму.

Мінскія сябры Алены Барысаўны дапамаглі мне ўзнавіць падзеі з жыцця сям'і Карповічаў у эміграцыі і пасля вяртання на радзіму. Сярод іх – Валянціна Іванаўна Івашына, Зінаіда Іванаўна Ляшэвіч і Клаўдзія Сцяпанаўна Глазкова з дачкой Вольгай.

З іх расповедаў стала вядома, што Алена Казановіч нарадзілася ў 1898 г. у Пецярбургу, яе бацька ў той час вучыўся ў акадэміі Генеральнага штаба. Сям'ю часта запрашалі на розныя прыдворныя ўрачыстасці: раўты і балы. Выхаваннем дзяўчынкі і яе малодшага брата Міхаіла займаліся гувернанткі. У падлеткавым узросце Алена хадзіла "разам з цэсарэвічам у сінематограф". Валодала некалькімі замежнымі мовамі, свабодна гаварыла па-французску. Закончыла гімназію ў Магілёве, бо іх радавы маёнтак знаходзіўся непадалёку. Цікава, што падчас вучобы ў гімназіі дзяўчына пазнаёмілася з "задумлівым кадэтам", маладым афіцэрам Сяргеем Карповічам, з якім лёс звядзе іх толькі праз доўгія гады.

У 1915 г. Алена Казановіч закончыла дадатковы клас Харкаўскай жаночай гімназіі імя Д. Абаленскай з прысваеннем звання "домашней наставницы". На той час корпус, у якім служыў палкоўнік Генеральнага штаба Барыс Ільіч Казановіч, знаходзіўся ў Харкаве.

Пасля грамадзянскай вайны сям'я Казановічаў апынулася ў эміграцыі. Спачатку трапілі ў Турцыю, затым па дазволе югаслаўскага цара Барыса (дваюраднага брата Мікалая Другога) пасяліліся ў Бялградзе. Алена прадоўжыла адукацыю ў Францыі, скончыўшы філасофскі факультэт Сарбонскага ўніверсітэта. Лёгка засвоіла сербскую мову, працавала на Бялградскім радыё. Там жа, у Бялградзе, яна сустрэла свайго "задумлівага кадэта". Сяргей Карповіч так і не ажаніўся, гаварыў, што чакаў сустрэчы з Аленай і верыў, што гэта абавязкова адбудзецца. Яму ўдалося разам з групай белагвардзейскіх афіцэраў дабрацца да Югаславіі праз Румынію. Праз некаторы час Алена з Сяргеем ажаніліся, каб больш ніколі не расставацца.

Сяргей Іванавіч Карповіч нарадзіўся ў г. Барысаве Мінскай вобласці, яго дзед быў званаром у царкве, бацька – удзельнікам руска-турэцкай вайны, кавалерам Георгіеўскага крыжа, служыў у гвардыі імператара. Меў і іншыя адметныя ўзнагароды: сярэбраны медаль "За усердие" для нашэння на грудзях на Анненскай стужцы, светла-бронзавы медаль "В память войны с Турциею в 1877 – 1878 гг." і вензельскі знак Гасудара Імператара.

Праз пэўны час жыццё ў эміграцыі наладзілася, але пачалася Другая сусветная вайна. Нямецкія войскі акупавалі Югаславію. Аднойчы нямецкі афіцэр прыйшоў паведаміць генералу Казановічу, што ён павінен узначаліць рускае вызваленчае войска. Барыс Ільіч адмовіўся, прычым трымаўся незалежна і годна: "Хопіць крыві, яе і так шмат праліта, супраць Расіі я не пайду ваяваць".

Пасля вайны сям'ю Казановічаў чакалі новыя выпрабаванні. У выніку ідэалагічнага канфлікту паміж Сталіным і кіраўніком Югаславіі Ціта пацярпелі рускія эмігранты, якія воляю лёсу апынуліся на югаслаўскай тэрыторыі. Пачаліся пераследы. Барыса Ільіча да гэтага часу ўжо не стала. Брат Алены Барысаўны, Міхаіл, пераехаў у Канаду.

Сяргей і Алена Карповічы вырашылі вярнуцца ў Беларусь. Трапіць на радзіму яны маглі толькі праз Венгрыю, дзе ім прыйшлося затрымацца на пяць гадоў. Карповічы пасяліліся ў прыгарадзе Будапешта. Сяргею Іванавічу ўдалося ўладкавацца на працу, Алена займалася хатняй гаспадаркай.

У 1956 г., падчас рэвалюцыйных падзей у Венгрыі, вяртаючыся з вакзала, Алена пакінула су-

мачку ў транспарце. Згубіла ўсе дакументы адразу, што ледзь не прывяло да трагедыі. Справа ў тым, што ў час путча ў Венгрыі ўтварыліся пэўныя групоўкі, якія пераследавалі рускіх. Стала небяспечна нават размаўляць па-руску. Сяргей Іванавіч і Алена Барысаўна звычайна размаўлялі паміж сабою на сербскай або нямецкай мове. Асцярожнічалі недарэмна. Аднойчы да іх дома пад'ехаў веласіпедыст. Малады хлопец папытаўся ў гаспадыні, ці жывуць у іх рускія. Яна сапраўды не ведала, што Карповічы рускія. Калі хлопец назваў прозвішча, жанчына адказала, што такія тут жывуць, але яе кватаранты – сербы. Алене прыйшлося выйсці да незнаёмца, які працягнуў ёй сумачку, згубленую некалькі дзён таму.

З вернутых дакументаў вынікала, што Карповічы рускія, і Алена адчула, што быць бядзе. Яна хутка сабрала рэчы і, выбраўшы момант, калі гаспадыня пойдзе на базар, пайшла да вакзала, каб сустрэць з працы мужа і больш сюды не вяртацца. Інтуіцыя жанчыну не падвяла. Калі Алена выпадкова спаткала былую гаспадыню, то высветлілася, што на яе дом наляцелі нейкія людзі, шукалі рускіх кватарантаў…

Карповічы вырашылі паскорыць ад'езд на радзіму і, як толькі быў атрыманы дазвол, вярнуліся ў СССР. Сяргей Іванавіч уладкаваўся на працу інспектарам будаўнічых аб'ектаў у адным з упраўленняў Міністэрства будаўніцтва. Алена Барысаўна пэўны час выкладала нямецкую мову ў школе № 42 г. Мінска. Памерла яна 4 жніўня 1980 г., а праз чатыры гады не стала і Сяргея Іванавіча…

З дзённікаў Алены Барысаўны Казановіч мы даведваемся, што, па сямейнай легендзе, іх род бярэ пачатак ад кабальера Паолы дзі Казановы з Мілана. Ён прыбыў у Польшчу ў свіце каралевы Боны Сфорцы. Там ажаніўся, быў зацверджаны ў дваранскай годнасці і пажалаваны гербам "Гржымала". Паола Казанова меў трох сыноў. Два старэйшыя ажаніліся з полькамі і засталіся ў аўстрыйскай Польшчы пад прозвішчам Казаноўскіх, а малодшы ўзяў шлюб з памешчыцай з Магілёўшчыны. Маладыя пасяліліся ў яе вотчынным маёнтку. Ад малодшага сына Паолы Казановы нібыта і пайшоў род Казановічаў.

З кніг Магілёўскага магістрата ўдалося даведацца, што ў XVI ст. у Магілёве жылі два браты Казановічы – Гаўрыіл і Яраш. Ад Яраша пайшоў род Алены Барысаўны. Там жа жылі яшчэ некалькі чалавек па прозвішчы Казановіч: Філіп Нікіфаравіч, Нікіфар і Іван, прычым надзел і дом Івана знаходзіліся па суседстве з домам Яраша, што наводзіць на думку пра іх сваяцтва. А вось легенда пра паходжанне Казановічаў ад сыноў кабальера Паолы дзі Казановы патрабуе дадатковага вывучэння.



**Алена Барысаўна Казановіч.** 1916 г.

Той факт, што Казановічы – з польскай шляхты, пацвярджаюць розныя дакументы XVII – XVIII стст. Пётр Мяленцьевіч Казановіч, унук Яраша, быў войтам Магілёва, а з 1661 г. – каралеўскім сакратаром. З прывілея ад 20 мая 1661 г. відаць, што "з продкаў сваіх народжаны дваранін за заслугі і бясстрашша рыцарскае ў вынішчэнні сіл непрыяцельскіх войскаў на горад і зямлю Магілёў наступіўшых, ад караля Польскага Яна Казіміра" пажалаваны вёскай Кутня каля Магілёва.

У гэтым жа прывілеі кароль польскі Пятра Казановіча асобна ад усіх называе "урожденным" і тым самым падкрэслівае, што ён быў патомным дваранінам і "нового жалования в сие достоинство не требующим есть доказывает".

Фёдар Пятровіч Казановіч, сын Пятра, таксама займаў дзяржаўныя пасады, быў каралеўскім сакратаром і магілёўскім войтам. Звесткі пра яго знаходзім у прывілеі караля Яна Казіміра ад 18 ліпеня 1708 г.

Сын Фёдара, унук Пятра Казановіча, Пётр Фёдаравіч Казановіч быў магілёўскім бургамістрам. Яго сын, Гаўрыла Пятровіч Казановіч, "працягваў доўгатэрміновую пад Расійскім Урадам службу": быў магілёўскім войтам, другім старшынёй Магілёўскага губернскага магістрата, калежскім саветнікам. Валодаў маёнткам Кудзіна Магілёўскага павета.

1 сакавіка 1778 г. Гаўрыла Казановіч падаў у Геральдмейстарскую кантору прашэнне аб прызнанні за ім годных правоў і залічэнні з братамі ў лік расійскага дваранства. Да прашэння былі прыкладзены дакументы, узятыя з кніг Магілёўскага губернскага і земскага судоў



**Генерал-лейтэнант Барыс Ільіч Казановіч.**
Сербія, г. Бялград. 1930-я гг.

на польскай мове і перакладзеныя на рускую. Пастановай Урадавага Сената ад 11 сакавіка 1781 г., пасля разгляду доказаў, быў прызнаны ў дваранстве. Указ падпісаны 24 верасня 1781 г. Вядома, што яго жонка Ганна паходзіла з роду Хамянтоўскіх.

Гаўрыла Пятровіч Казановіч у 1805 г. склаў завяшчанне, дзе прасіў пахаваць яго ў царкве Буйніцкага манастыра, пакінуўшы "100 рублёў на памін душы". Маёнтак і 1000 рублёў асігнацыямі завяшчаў жонцы, а таксама прасіў яе даць сынам дваранскае выхаванне.

Сынам завяшчаў маёнтак Кудзіна з сялянамі агульнай колькасцю 526 душ "на равный дележ". Дочкам, як выйдуць замуж, браты павінны былі выплаціць па 2000 рублёў асігнацыямі, а таксама раздзяліць паміж сабою і сёстрамі ўсю маёмасць – коней, скот, "рухлядь", срэбра і інш. Дочкі да замужжа павінны былі заставацца пры маці, а калі, не дай бог, яе не стане, то пры братах, незамужнім дочкам дазваляў у гэтым разе жыць пры замужніх. У канцы завяшчання Гаўрыла Пятровіч просіць "соблюдать последнюю волю под страхом потери благословения", а "если Господь освободит от недуга, то оставляю за собой право переменить сее завещание".

Пётр, Іван і Якаў, сыны Гаўрылы Пятровіча Казановіча, памерлі раней за бацьку. Вядома, што адзін з сыноў, Аляксей Гаўрылавіч, стаў паручнікам, быў паранены ў Барадзінскай бітве, а яго імя ўвекавечана на 15-й сцяне храма Хрыста Збаўцы (Христа Спасителя) у Маскве. У Барадзінскай бітве ўдзельнічаў і яшчэ адзін сын Гаўрылы – паручнік Іларый (Гілярый) Гаўрылавіч Казановіч, у далейшым – падпалкоўнік.

Фёдар Гаўрылавіч стаў капітанам, жыў у Літоўска-Віленскай губерні, а Васіль Гаўрылавіч Казановіч, прадзед Алены Барысаўны Казановіч, – маёрам. Ён ажаніўся з францужанкай Тэрэзіяй па прозвішчы Кален.

У дзённіках Алены Барысаўны прыводзяцца цікавыя ўспаміны пра яе прабабулю французскага паходжання і маёнтак Чамярное, дзе ў канцы XIX – пачатку XX ст. жылі яе продкі: «Чамярное… Я і цяпер яшчэ дакладна памятаю свае тагачасныя ўражанні. Стары вялікі дом, у якім мне здавалася бясконцаю анфілада пакояў, вялікая зала з канцэртным раялем у левым куце, з масіўнымі люстэркамі і бронзавымі кандэлябрамі ў прасценках. Вялікая сталовая з суцэльнай люстраной сцяною ўглыбіні. Яе прыйшлося адгарадзіць невялікай рашоткаю, бо дзеці і сяляне намагаліся ўвайсці ў яе і натыкаліся на люстра. Партрэтная, у ёй мяне прывабліваў вялікі, напісаны алейнымі фарбамі партрэт прадзеда. Ён паказаны вярхом на прыгожым шэрым кані, з тыгравай шкурай, у бліскучым ківеры, чырвоным даламане. Партрэт захапляў мяне! Прадзед быў удзельнікам Айчыннай вайны, у 1814 г. уступіў з нашымі войскамі ў Парыж. А яшчэ вывез з Парыжа прыгажуню-жонку, маладую францужанку. А яна прывезла з Францыі саджанцы сваіх любімых руж і цудоўных ігруш з дзіўнай назвай "Дзеці Ісуса". Грушы славіліся на ўсю ваколіцу. Кусты руж раслі ўздоўж тэрасы. Бэзаваружовыя, з незвычайна тонкім пахам…»

З архіўных дакументаў вядома, што Васіль Гаўрылавіч Казановіч быў узнагароджаны медалямі "За ўдзел у вайне 1812 г." і "За ўзяцце Парыжа".

Адзін з яго сыноў, дзед Алены Барысаўны, Ілья выхоўваўся ў Полацкім кадэцкім корпусе. Потым служыў у лейб-гвардыі ўланскім палку. У час Крымскай вайны Ілья Казановіч імкнуўся трапіць у Севастопаль, дзе ішлі цяжкія баі, але іх полк накіравалі ў Рэвель (Талін), дзе таксама чакалі высадкі англічан.

Там Ілья пазнаёміўся з будучай жонкай Цэцыліяй Густаваўнай фон Эранбуш, маці якой, Лідзія-Элеанора, была дачкой брытанскага консула барона Іагана-Карла Жырарда.

Эранбушы па паходжанні былі шведамі. Прапрадзед Цэцыліі быў вядомым урачом. Як распавядае ў сваіх дзённіках Алена Барысаўна, ён пасляхова лячыў Пятра Першага, які, наведваючы Рэвель, захварэў, а потым і яго жонку, будучую Кацярыну Першую, за што цар прысвоіў Эранбушу званне лейб-медыка і падараваў вялікі надзел зямлі каля свайго Кацярынентальскага палаца. Прадзед Цэцыліі пабудаваў там

двухпавярховы асабняк і разбіў сад, які выходзіў у палацавы парк.

Усе вядомыя продкі Цэцыліі былі ўрачамі, некаторыя карабельнымі. Быў урачом і яе бацька, які сябраваў з вядомым Мікалаем Іванавічам Піраговым, яны разам працавалі ў Дэрпцкім універсітэце.

Пасля адстаўкі ў чыне штабс-ротмістра Ілья Казановіч пераехаў з маладой жонкай у маёнтак Чамярное.

У Ільы і Цэцыліі было чацвёра дзяцей: Сяргей, Вольга, Таццяна і Барыс, бацька Алены, які нарадзіўся 10 ліпеня 1871 г. Калі хлопчыку споўнілася шэсць гадоў, маці павезла яго ў Рэвель, дзе яны жылі ў прадзедаўскім доме ў Кацерыненталі. Кожную раніцу выходзілі ў палацавы парк, маці чытала або рукадзельнічала, а Барыс бегаў па парку. Апрануты ён быў у чорныя аксамітныя шаравары і такую ж паддзёўку без рукавоў, шаўковую кашулю васільковага колеру, круглую шапачку з пер'ямі паўлінаў і лакавыя боцікі.

…У тую раніцу, як заўсёды, Цэцылія з сынам былі ў парку. Час ад часу, адрываючыся ад чытання, яна клікала сына, а ён адгукаўся. Але раптам хлопчык замаўчаў. Устрывожаная маці кінулася ў глыб парку і заўважыла мужчыну і жанчыну, якія хутка беглі да выхаду, цягнучы нешта цяжкае. З іх ношы мільгануў рукаў васільковага колеру. Цэцылія пранізліва закрычала, клічучы на дапамогу. Спуджаныя злачынцы кінулі дзіця і пабеглі. Твар хлопчыка быў закрыты хусцінай, змочанай у эфіры. Маці сарвала яе і дала панюхаць сыну флакон з солямі. Да іх на дапамогу ўжо бег паркавы вартаўнік…

Пазней, чытаючы “Гуттаперчивого мальчика” Д. Грыгаровіча, Алена з жахам думала, што было б з яе бацькам, калі б бабуля спазнілася хоць на хвіліну…

У 1890 г. Барыс Казановіч закончыў Магілёўскую класічную гімназію, а ў 1892 г. – Маскоўскае юнкерскае вучылішча, пасля чаго быў накіраваны на службу ў 5-ы Туркестанскі лінейны батальён. Праз чатыры гады паручнік Казановіч паспяхова паступае ў Мікалаеўскую акадэмію Генеральнага штаба ў Пецярбургу. У гэтым жа 1896 г. Барыс Ільіч атрымлівае сваю першую ўзнагароду – сярэбраны медаль на Аляксандраўскай стужцы ў памяць царавання імператара Аляксандра III.

Падчас вучобы ў акадэміі Барыс Казановіч ажаніўся з Вольгай Мікалаеўнай Астроўскай, дачкой стацкага саветніка Мікалая Ігнацьевіча Астроўскага і народжанай Ушаковай. Дзед Вольгі Мікалаеўны Ігнацій Станіслававіч Астроўскі быў удзельнікам польскага паўстання 1831 г. Пасля заканчэння акадэміі ў 1899 г. Барыс Ільіч атрымаў званне штабс-капітана і быў часова прыкамандзіраваны да войскаў Кіеўскай ваеннай акругі, а праз год яго зноў накіроўваюць у 5-ы Туркестанскі лінейны батальён.

У снежні 1902 г. Барыс Ільіч атрымаў званне капітана і перавод у Генеральны штаб з назначэннем обер-афіцэрам для асобых даручэнняў пры штабе 10-га армейскага корпуса. Роўна праз год, у снежні 1903 г., ён узнагароджаны ордэнам Святога Станіслава 3-й ступені.

Барыс Казановіч удзельнічаў у руска-японскай вайне 1904 – 1905 гг., за што атрымаў ордэн Святой Ганны 3-й ступені з мячамі і стужкай, а таксама ордэны Святога Станіслава 2-й ступені з мячамі, Святога Уладзіміра 4-й ступені з мячамі і стужкай.

У лютым 1905 г. ён камандзіраваны на в. Сахалін для камандавання партызанскім атрадам у складзе Карсакаўскага рэзервнага батальёна. 17 красавіка 1905 г. атрымаў чын падпалкоўніка і з чэрвеня гэтага ж года пераведзены ў палявы штаб Прыамурскай ваеннай акругі ў г. Нікольска-Усурыйскі. Паслужны спіс Барыса Ільіча папоўніўся ордэнамі Святой Ганны 2-й ступені з мячамі і 4-й ступені з надпісам “за храбрасць”.

29 сакавіка 1909 г. атрымаў чын палкоўніка.

Падчас службы ў Туркестане ў лёсе Барыса Казановіча адбылося некалькі знакавых падзей: 31 мая 1907 г. яму “дазволена прыняць і насіць Бухарскі ордэн залатой зоркі 3-й ступені”, тут пачалося яго сяброўства з генералам Карнілавым, будучым галоўнакамандуючым войскамі поўдня Расіі, а 7 лютага 1908 г. у яго нарадзіўся сын Міхаіл, які быў ахрышчаны 9 сакавіка 1908 г. у Ташкенцкім ваенным саборы.

Пастановай Магілёўскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20 ліпеня 1913 г. Барыс Ільіч разам з дзецьмі Аленай і Міхаілам быў далучаны да роду Казановічаў, што зацверджана ўказам па Дэпартаменце Герольдыі ад 17 снежня 1913 г.

На пачатку Першай сусветнай вайны камандзір 127-га Пуцільскага палка Барыс Казановіч праявіў сябе ў баях, за што быў узнагароджаны Георгіеўскай зброяй.

У атэстацыйнай характарыстыцы 1916 г. Барыса Казановіча падаюцца яго якасці камандзіра: “За час апошніх баёў палкоўнік Казановіч на пасадзе начальніка штаба дывізіі праявіў сябе выдатным афіцэрам Генеральнага Штаба. Спакойны, рашучы, хутка разбіраецца ва ўсіх дэталях бою, умее выдатна наладзіць у баі работу штаба. Валодае рэдкай працаздольнасцю. Аддана храбры…”

З 6 снежня 1916 г. Казановіч – генерал-маёр, начальнік штаба 6-й Сібірскай стралковай дывізіі, а ў 1917 г. – камандуючы гэтай дывізіяй.

У жорсткіх баях 6 ліпеня 1917 г. адышлі часці 6-й грэнадзёрскай дывізіі і праціўнік з флан-



**Алена Казановіч з пляменніцай Лідзіяй.**
Сербія. 1930-я гг.

га і тылу пацясніў часці 6-й Сібірскай стралковай дывізіі, якія таксама пачалі адыходзіць, а гэта непазбежна прывяло б да адыходу правага фланга арміі. У гэты напружаны момант генерал-маёр Казановіч, рызыкуючы жыццём, не толькі ўтрымаў указаную для дывізіі лінію, але і выцесніў праціўніка з вёскі Маркопаль, захаваўшы пераправы на рацэ Грабенка. За гэты подзвіг ён быў узнагароджаны ордэнам Святога Георгія 4-й ступені. У той час атрымаць генералу салдацкі ордэн лічылася за вялікі гонар.

Калі адбылася Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г., генерал Казановіч, выхаваны абаронцам "веры, цара і Айчыны", як і большасць афіцэраў, не змог прыняць бальшавіцкіх ідэй. Ён стаў адным са стваральнікаў белай Дабравольніцкай арміі на Доне, якой кіраваў яго сябра генерал Карнілаў. Удзельнічаў ва ўсіх значных бітвах грамадзянскай вайны на поўдні Расіі і вылучыўся як таленавіты военачальнік. У перыяд 1-га Кубанскага (Ледзянога) паходу і штурму Екацерынадара ў 1918 г. быў цяжка паранены. За мужнасць і асабістую храбрасць генерал-лейтэнант Казановіч быў узнагароджаны асаблівым нагрудным знакам белага руху "За Ледзяны паход".

Падчас згаданага паходу Дабравольніцкая армія страціла свайго камандуючага генерала Карнілава. Барыс Ільіч перанёс гэта асабліва цяжка: загінуў не толькі камандзір і аднадумца, але і яго блізкі сябра.

У лістападзе 1919 г. генерал Дзянікін прызначыў яго камандуючым войскамі Закаспійскай вобласці (Туркестанскай Арміі), якія Казановіч адвёў з баямі да Краснаводска і там пагрузіў на караблі.

Пасля эвакуацыі з Крыма ён пэўны час жыў у Галіполі, затым у Сербіі. Да канца жыцця быў старшынёй Галоўнага праўлення Саюза ўдзельнікаў 1-га Кубанскага паходу і Таварыства афіцэраў Генеральнага штаба ў Югаславіі. У 1931 г. быў абраны старшынёй Таварыства вывучэння грамадзянскай вайны.

Памёр генерал Казановіч у рускай бальніцы горада Панчава пад Бялградам 2 чэрвеня 1943 г. Пахаваны на Новых могілках, на галоўнай алеі каля царквы.

Сын генерала Міхаіл у Югаславіі займаўся будаўніцтвам мастоў. Гонарам сям'і з'яўляецца яго мост праз раку Сава, прыток Дуная.

Міхаіл вучыўся ў Марскім корпусе, а пасля эміграцыі ў Югаславію паступіў у Рускі кадэцкі корпус у Сараеве, пасля якога займаўся на механічным факультэце Бялградскага ўніверсітэта. Працаваў на французскім будаўнічым прадпрыемстве "Batignol" і там дзякуючы сваёй энергіі і здольнасцям хутка заслужыў павагу і аўтарытэт.

Пасля Другой сусветнай вайны Міхаіл Казановіч эмігрыраваў у Канаду. Веданне моў і набытая прафесія дапамаглі яму ўладкавацца на працу па спецыяльнасці. Нягледзячы на тое, што Міхаіл быў рускім эмігрантам, за кароткі перыяд яму ўдалося зрабіць ашаламляльную кар'еру. Праз некалькі гадоў ён ужо займаў пасаду генеральнага дырэктара некалькіх электрычных станцый з бюджэтам каля 4 млрд долараў у год.

Міхаіл Казановіч памёр 18 верасня 1996 г. у канадскім горадзе Манрэалі. Пахаваны на рускіх могілках у Роўдане.

Яго дачка Лідзія Чобатава-Казановіч таксама вучылася ва ўніверсітэце Сараева. Абодва яе сыны – Аляксандр і Міхаіл – дактары навук. У сям'і Міхаіла два сыны – Грэгары і Стывен. Усе яны жывуць у ЗША.

…Прасочваючы гісторыю прадстаўнікоў роду Казановічаў, міжволі згадваю словы генерала Дзянікіна з "Очерков русской смуты": "Людзі гінулі, але заставаліся традыцыі, заставалася ідэя барацьбы і непахісная воля да яе прадаўжэння. Старыя, абпаленыя, ссечаныя, але не паваленыя ствалы абрасталі новымі галінамі, пакрываліся маладою лістотаю і зноў стаялі моцна ў навальніцу і ў буру".

*Пераклад з рускай мовы.*

*Працяг будзе.*

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

*З архіваў часу*

Уладзімір СОДАЛЬ

# НАСТАЛЬГІЧНЫЯ ЛІСТЫ З ПОЛЬШЧЫ

## ВЫБРАНАЕ З ПЕРАПІСКІ УЛАДЗІМІРА СОДАЛЯ І ЯНКІ ТАРЧЭЎСКАГА. 1981 – 2000 гг.

Францішку Багушэвічу ідэйна не вельмі пашчасціла на нашчадкаў. Мала хто з іх ганарыўся ягонай творчай спадчынай, шанаваў яго як творцу, часцей родзічы лічылі літаратурную паэтаву працу забаўкай, хобі. Выключэннем былі два ўнучатыя пляменнікі Ф. Багушэвіча: Зыгмунт Абрамовіч і Янка Тарчэўскі.

З Янкам Тарчэўскім я знаёмы з 1981 г. Меў не адну з ім стрэчу. Але было між намі і шматгадовае сур'ёзнае ліставанне. У кожным лісце так ці інакш закраналася паэтава постаць, ягонае асяроддзе. Удакладняліся тыя ці іншыя факты з жыцця Багушэвіча, узгадваліся Кушляны ды іншыя мясціны.

Янка Тарчэўскі нарадзіўся ў 1915 г. у Радзюнах, што на Ашмяншчыне. Маленства прайшло ў засценку Асінаўка. Матуля ягоная была дачкой роднай сястры Ф. Багушэвіча – Ганны. Янку Тарчэўскаму часта даводзілася гасцяваць у пясняровай дачкі Туні. Пра гэта і многае іншае – у лістах, якія ён пісаў мне з Польшчы, куды пераехаў жыць у 1945 г.

Рыхтуючы да друку лісты дзядзькі Янкі, я сам упершыню прачытаў іх адзін за адным. Прачытаў і нібыта яшчэ раз пагутарыў з самабытным чалавекам. Колькі ў ягоных лістах дабрыні, разважлівасці, такту! Дзядзька Янка, здаецца, увабраў у сябе ўвесь беларускі менталітэт. Ёсць у ім, безумоўна, штось і Багушэвічава: непасрэднасць, шчырасць, клопат пра народ, вера, што ён усё ж акрыяе, годна развіне плечы, заганарыцца сваёй спадчынай, такой багатай і непаўторнай. Гэтай верай і жыў дзядзька Янка да апошняй хвілі жыцця. Гэтую веру ён пераняў ад бацькі. А той – ад Багушэвіча. І ўсе яны ў сваёй веры былі непахісныя.

Дзядзька Янка наракаў, што Бог не даў яму лёгкасці пяра, што і адукацыя ў яго невялікая – усяго некалькі класаў польскай школы. Але паздароў Божа, каб гэткі стыль пісьма, які быў у Янкі, мелі многія беларусы з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй. Чытаючы яго лісты, вы адчуеце і своеасаблівы, з шляхетнай годнасцю стыль, і моц слова, і арыгінальнасць думкі! А колькі ў іх звестак пра побыт Багушэвічаў! Лісты Янкі Тарчэўскага – гэта наш духоўны набытак. Дзядзька Янка хоць і паходзіў з Тарчэўскіх, але па сваім духу, па сваім менталітэце ён – з Багушэвічаў.

Першы ліст ад Янкі Тарчэўскага я атрымаў з Вільні, куды ўнучаты пляменнік Ф. Багушэвіча завітаў да свайго блізкага родзіча Браніслава Тарчэўскага. Тады ён пісаў:

*Вільня 11.06.1981 г.**

*Даражэнькі Уладзімір!*

*Прабач, што пішу па-польску, але, як я табе казаў раней, маю пэўныя цяжкасці ў пісанні кірыліцай, а тут і часу трохі скупавата, бо тут мая таварышка падарожжа сядзіць на карку і пілуе, што ўжо трэба ехаць дамоў. Абяцаю, што як шчасліва даеду дадому, то ўжо ў спакоі напішу наступны ліст пабеларуску, так як трэба.*

*Выехалі ад Вас шчаслівымі, што дадзена было пазнаць гэтулькі добрых людзей, убачыць гэтулькі цікавых і дарагіх сэрцу рэчаў, што нават дождж, які пачаў нас паліваць адразу за Мінскам, і цёмныя хмары, што завалаклі гарызонт, не перашкодзілі мне перажыць яшчэ раз у думках тыя ўсе ўражанні трох дзён, пражытых у Вас. А найважнейшым*



**Уладзімір Содаль і Янка Тарчэўскі.** 1987 г.

* Лісты друкуюцца з захаваннем аўтарскага правапісу.

*для мяне ёсць тое, што мае думкі – хоць будуць блукаць далёка ад Вас, будуць калі не такія самыя, то хаця б падобныя на Вашы, і шчыра б жадаў, каб нашы мары як найшырэй увасобіліся ў рэальнасці.*

*Яшчэ раз дзякую Вам за незабыўную гасціннасць. Нізка кланяюся табе і ўсёй тваёй мілай сям'і, як і ўсім добрым людзям, з якімі я пазнаёміўся.*

*Ваш Янка Канцавы.*

Пасля сустрэч у Мінску і Вільні лісты ад дзядзькі Янкі сталі прыходзіць адзін за адным:

*19.07.1981 г.*

*Даражэнькі Уладзімір!*

*Не дарма людзі кажуць: "Адклад – не ідзе ў лад". Вось і я, каб не адкладаў, а хуценька, прыехаўшы дахаты, напісаў да Вас, дык цяпер, атрымаўшы ваш ліст, не было б мне стыдна, бо гэта ж быў мой абавязак: першаму напісаць да Вас. Ну, але што ж зробіш, было мне неяк трудна прыбрацца да пісання. Проста быў я праз нейкі час трохі як непрытомны ад такога натоўпу ўражанняў і перажыванняў, з якімі вярнуўся дадому. Вось і зараз, як жывыя, стаяць у вачах усе тыя абразы, каторыя я бачыў, будучы ў Вас, і тыя добрыя людзі, з каторымі мне давялося весці такія сардэчныя – (а як для мяне – чалавека, закінутага доляй на край свету, – а да таго галоднага роднага слова) дарагія мне і вельмі цікавыя гутаркі. Усё гэта было проста як дабрачынны бальзам на маю, моцна ўжо пакалечаную душу. Дык вазьмі, браток, гэта ўсё пад увагу і даруй мне маю нетактоўнасць. Дадому прыскакаў я шчасліва, без ніякіх прыгодаў, толькі во неяк мне сёлета шанцуе на пахароны. Паехаў у Вільню – трапіў на пахароны. Вярнуўся дахаты і зноў пахароны. Змерла мая цётка – жонка бацькавага брата. Гэта ўжо апошняя асоба з пакалення бацькоў. Прыходзіць чарга на нас ці што? Але пра гэта не варта думаць. Хацеў бы я адказаць на вашае пытанне: адкуль мне ведама, што Багушэвічава радня не вельмі ганарылася яго беларускім пісьменніцтвам. На гэтае пытанне магу адказаць толькі тое, што я часта, пакуль жыла цётка Туня і яе муж Ян (мае хросныя бацькі), я часта бываў у іх. У іх жа бывалі і ведамыя вам паэтавы ўнучкі, а таксама іхні бацька Тамаш і іншыя сваякі. Усе яны гаварылі толькі па-польску, а пісанне беларускіх твораў праз іхняга бацьку і дзеда называлі толькі такой нявіннай забаўкай, такім "хобі". Думаю, што тут трэба браць пад увагу і тое, што Багушэвічы выводзяцца з польскай шляхотчыны і не ўсе яны мелі такое чулае і спагадлівае сэрца на цяжкую долю вяскоўцаў-беларусаў, якое меў паэт. І хоць даказваў ён, што беларуская мова такая самая людская і панская, як усе мовы на свеце, то ўсё ж такі нікога не знаю з блізкай паэтавай радні, хто б пацікавіўся ёю, бо быў бы ён родны з найраднейшых для мяне. Не было такога: хіба толькі далёкі сваяк З. Абрамовіч. <…>*

*Нізенька вам усім кланяюся. Бывайце здаровыя і вясёлыя. Прашу перадаць маё прывітанне шаноўным: прафесару Ф. Я., Генадзю Т. і ўсім тым, каго мне давялося пазнаць і міла пагутарыць. І прашу: не забывайце Янку Канцавога ці яшчэ лепей… Адзінокага.*

*P. S. Калі можаце, прышліце адрас рэдакцыі "Нівы" ў Польшчы.*

Просьбу дзядзькі Янкі я неўзабаве выканаў: паслаў яму не толькі адрас беластоцкай "Нівы", але і свае публікаткі пра ягоныя пабыўкі ў Беларусі і ў Вільні, прынамсі "Пяць дзён з унукам Багушэвіча" ў смаргонскім "Светлым шляху" за 4 жніўня 1981 г. З гэтай нагоды дзядзька Янка напісаў:

*23.IX.1981 г.*

*Даражэнькі Уладзімір!*

*Шчыра дзякую за газэту і за змешчаную ў ёй такую мілую і цёплую маю характарыстыку. Сапраўды, я не заслужыў гэтулькі добрых слоў. Усё там напісана праўдзіва і так, як яно было, толькі ў адным месцы трохі не так. Пішаш, браток, што быццам Багушэвічавы кніжкі ў мяне забіралі асобна Антонавіч і асобна Пяцюкевіч. А было так, што забралі яны цэлы гэты мех кніжак разам у Ашмяну і там, можа, раздзяліліся, а гэта ўжо мне невядома. Ну, і гэта хіба няважна. Надта ж мне зноў непрыемна, што Вы на тым здымачку не ўбачылі Ганны Б. Ну што ж! Я жывой, як ведама, не бачыў, а тое, што гэта яна, знаю толькі з матулінага пераказу і яшчэ з таго, што нешта ёсць падобнага ў рысах твару той кабеты на здымку з маёй маткаю, але гэта, пэўне, таму, што я падходзіў да гэтай справы занадта эмацыйна, а гэта не тое, што кажа вока даследчыка, халодна разглядаючага выяву. Прасіў бы, калі гэты здымачак вам не патрэбны, дык, калі ласка, укіньце ў капэрту і прышліце мне, а то ў маім хатнім альбоме застаецца пустое месца. <…>*

*Да Абрамовіча да гэтага часу не мог я выбрацца, неяк не надта здаровіцца, толькі гаварыў я тут з людзьмі, каторыя яго знаюць і нядаўна бачылі. У кастрычніку, пэўне, і я яго пабачу, бо будзе нагода паехаць у Злотаў машынай.*

*Адносна гальштучка. Эх, браток! Прыехаў бы я, прыляцеў на крыллях, ды не па гальштучак, а па тое, каб яшчэ раз у жыцці паглядзець на родную старонку. Але на гэта трэба мець усякія дакументы, а перш за ўсё трэба, каб нехта прыслаў пасведчанне-запросіну, чаго пакуль што не спадзяюся, і жыць трэба далей, глушачы*

*гэтую настальгію добрымі ўспамінамі. А той гальштучак, дык мне было б вельмі прыемна, каб Вы яго насілі, натуральна, калі ён падыходзіць Вам пад густ. Прыпамінаў бы ён часамі "Янку Адзінокага". Пасылаю нізкія паклоны ўсёй вашай сямейцы і ўсім добрым людзям у Мінску.*

*Ваш Янка.*



***Уладзімір Ільіч Содаль** – літаратурны краязнаўца. Закончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. М. Горкага (1963). Доўгі час працаваў рэдактарам навукова-папулярных і навучальных праграм Беларускага тэлебачання, у тым ліку – тэлечасопіса "Роднае слова". Аўтар шматлікіх кніг пра Францішка Багушэвіча, а таксама альбомаў "Францішак Бенядзікт Багушэвіч. Жыццё і творчасць" (1986) і "Вінцэнт Якуб Дунін-Марцінкевіч. Жыццё і творчасць" (1997). Укладальнік зборнікаў твораў Ф. Багушэвіча "Мая дудка" (1987), "Каму дудка паслушна" (1990), "Францішак Багушэвіч" (разам з Я. Янушкевічам; 1991), аўтар навучальных дыяфільмаў пра Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, К. Каліноўскага.*

У працытаваным лісце дзядзька Янка акцэнтуе ўвагу, што пакуль не спаткаўся з Зыгмунтам Абрамовічам. Але ўжо ў наступным допісе ён падрабязна апісвае сустрэчу з ім. Тут дарэчы згадаць, што Зыгмунт Абрамовіч абвясціў сябе Багушэвічавым унукам яшчэ ў 1909 г. у калектыўным віншаванні "Нашай Нівы". У гэтым віншаванні так і напісана: *З. Абрамовіч – унука Мацея Бурачка…*

*28.07.1982 г.*

*Даражэнькі Уладзімір!*

*Вялікі дзякуй за абшырны ліст, чытаю яго па некалькі разоў і ўсё думаю, як тут магчыма найпаўней адказаць на пастаўленыя Вамі пытанні, і вось выходзіць, што задоўга думаю, час бяжыць, а ў галаве пуста, як у дзіравым гаршчку. Здаецца мне, што ўсё тое, што мне было вядомае пра майго слаўнага дзеда Ф. Багушэвіча, усё Вам расказаў, а прыдумваць не буду, бо занадта шаную Яго памяць. Баліць душа, калі падумаю, што праз нейкую дурную фанабэрыю насьледнікаў з найбліжэйшай паэтавай радні найбольш цэнныя памяткі па ім прапалі беззваротна.*

*Адна толькі для мяне радасьць, што, вось, дзякуючы добрым людзям, не загіне памяць Мацея Бурачка на Беларусі, і за гэта я вельмі ўдзячны ўсім, а найперш Вам, дарагі Уладзімір, за ваш труд і стараньні, каб як найбольш сабраць памятак і ўсялякіх драбніц з Ягонага жыцьця.*

*Неяк на пачатку чэрвеня сабраўся пад'ехаць да З. Абрамовіча, аднавіць нашае знаёмства, ну і даведацца пра фамілію Галоўняў і аб зносінах з імі Ф. Багушэвіча. Знайшоў сп. З. Абрамовіча ў добрым здароўі і гуморы, проста аж не верыцца, што яму столькі гадоў, вось, каб ні тыя беленькія і рэдзенькія валасы на галаве і больш зубкоў у роце, дык быў бы той самы Абрамовіч, каторага я бачыў у 44 годзе. Пагасціліся мы, папілі. Гэта значыць, ён папіў, бо я не магу, а ён тры разы па 50 гр. як за сябе закінаў. І чацвёртую заказваў, толькі тут ужо жонка не пазволіла, з чаго быў надта не задаволены. Але і так дай Бог яму такое здароўе. Расказаў мне ўсё пра Галоўняў і пра Багушэвічаў. Але таксама сказаў мне, што на Вашую просьбу паслаў вам цэлае дрэва генеалагічнае радні Галоўняў з усімі прыдаткамі, так што я не буду паўтараць таго, бо ён гэта зрабіў пэўна лепш, бо ён іх блізкі сваяк. Пасылаю толькі здымачкі, якія зрабіў я, будучы ў іх: Абрамовіч з жонкай і на адной я з Абрамовічам. Думаю, што, можа быць, Вы знаеце яго толькі з перапіскі. А як ён выглядае мо і не ведаеце. Да тых другіх сваякоў яшчэ я не дабраўся з'ездзіць, але як крыху ўпраўлюся ў сваім гародзе з ураджаем, а здароўе пазволіць, то і пушчуся ў дарогу. Можа, што і ўдасца праведаць, хоць вялікай надзеі не маю. Але папрабаваць трэба. Пра сябе пісаць не маю што. Жывецца мне цяжкавата, ведама, як адзінокаму, не магу яшчэ ад таго няшчасьця, якое наведала мяне, атрэсьціся. Пэўна, гэта і немагчыма да канца. Не гневайцеся, што я так нестаранна напісаў, але гэта для таго, што пішу ў гародчыку на калені, ну і прызнаюся, што не надта ўмею пісаць кірыліцай. Прашу, пакланіцеся ад мяне ўсім добрым людзям, каторых пазнаў я, будучы ў Вас. Бывайце ўсе здаровыя, вясёлыя.*

*Ваш Янка.*

У нашым гэтак спраўна наладжаным ліставанні з дзядзькам Янкам на нейкі час, пасля ліста за 28.07.1982 г., настала зацішша, што мяне ўстрывожыла не на жарт. Недзе ў лютым 1983 г. я напісаў яму пра свае трывогі:

*Шаноўны дзядзька Янка!*

*Ці даходзяць мае лісты да Вас? Калі даходзяць, то чаму маўчыцё? Адгукайцеся! Раскажыце, як Вам жылося апошнія гады? Як жывецца? Пра што думаецца? Што ўспамінаецца, прыгадваецца? Ці прыходзяць у гэтых Вашых успамінах Кушляны, Ашмяны? Асінаўка? Ці ўспамінаецца тата? Калі ўспамінаецца, то як?*

*Ці хочацца яшчэ жыць?*

*Як мне, дык часам здаецца, жыццё траціць сэнс. Гэта калі яго адкручваць, як у нас, усё назад, назад. Нават тое, што яшчэ не гэтак даўно цешыла ды радавала, выклікае спакой ды раўна-*

*душша. Не гэтак даўно мне даручылі падрыхтаваць да перавыдання альбома пра F. B. З азартам я ўзяўся за гэтую працу. Падрыхтаваў. Ужо маю і рэцэнзенцкія водгукі. І вось, паводле іх, тое-сёе трэба папраміць, а я ніяк не вазьмуся (пэўна, перагарэў) давесці да ладу і вось трымаю ўжо які месяц. Паміж іншым, у новае выданне альбома будуць уключаны і тыя рэліквіярыкі, што Вы калісь ахвяравалі праз мяне Беларусі.*

*Калі гэта магчыма, раскажыце, успомніце, калі і якімі рэліквіярамі карысталіся Ваша матуля і пры якой нагодзе. Згадайце, якім малітвам яна навучыла Вас. А ці памятаеце якія маміны калыханкі, якія яна вам казкі распавядала? Ці не памятаеце, якія рэліквіяры былі ў Туні, у Багушэвічавай жонкі, урэшце, у якіх пакоях у Кушлянах віселі абразы? Мо памятаеце і якія?*

*Напішыце мне вялікі, вялікі і доўгі ліст і пра тое, што пытаюся, што варта ведаць, як жыў слаўны нашчадак Тарчэўскіх і Багушэвічаў Янка.*

*Паміж іншым, калі б так магло, каб выпала жыць наноў, ад самага пачатку з малых гадоў, то ці так пражыў, як дагэтуль, ці неяк інакш? Якіх бы памылак пазбегнуў? Пішыце. Будзем чакаць. Гэтымі днямі памяць пра F. B. ушанавана на Вілейшчыне.*

*А ці даводзілася Вам, яшчэ маленькаму, наведваць магілку F. B. у Жупранах? Калі даводзілася, то з кім? Як Вам гэта помніцца?*

*І яшчэ адна даўняя просьба: можа б Вы з некім там дамовіліся б і зрабілі здымачак куточка Вашай кватэры, дзе вісіць падабізна F. B. і якісь крыжык каля яго? Што гэта за крыжык? Мо з Кушлянаў?*

*Цікава паглядзець, які Вы цяпер!*

*Калі не складана будзе, паведаміце мне таксама, якія Вы маеце дома беларускія кніжачкі. Ці часта Вы разгортваеце кніжачкі F. B.? Ці так мы патлумачылі ў каментарах? Пішыце.*

*Уладзя Содаль.*

* * *

*9 сакавіка 1983 г.*

*Даражэнькі Уладзімір!*

*Урэшце дачакаўся я весткі ад Цябе. Я ўжо проста непакоіўся, і ўсякія думкі прыходзілі ў галаву, ці там часамі не здарылася штосьці нядобрае, чаму ж так доўга не пішаш? Але вось дзякаваць Богу атрымалася, што мой непакой быў непатрэбны. Дык вось і добра! Вельмі цікавы гэты артыкул з даўнейшай "Крыніцы". Пацьвярджае ён толькі тое, што я табе гаварыў адносна таго, як найбліжэйшая радня трактавала беларускага паэта. Пра людзей, аб каторых пытаеш, нічога не магу сказаць. Не ведаў ані таго Лук'яна, ані таго сваяка, каторы быццам меўся заняцца памяткамі па Ф. Б. Магчыма, што такога сваяка і не было, а мая цётка Туня сказала так, проста, каб адчапіліся дый усё! Я, пераглядаючы ў памяці ўсіх сваякоў, каторых знаў, не знаходжу нікога, хто б цікавіўся творчасцю Ф. Б. і ганарыўся гэтым. Наадварот, усе яны стараліся яе скрыць. Ім не месцілася гэта ў галаве. Як жа ж гэта можа быць: панове, шляхта, а тут раптам дзед беларус. Сорам! Даражэнькі! Ведаю, што чакаеш ад мяне розных інфармацыяў, у розных справах, і я з сваёй стараны вельмі хацеў бы ўсе твае просьбы споўніць, але вось тут бяда, што я не вельмі многа магу, з здароўем чуюся не надта крэпкі, а тут, хочучы штоколек даведацца, трэба паездзіць, а гэтыя паездкі прыходзяцца мне цяжкавата. Просіш мяне аб адрэсе Ежага Багушэвіча ў Шчэцінку, а я не магу яго здабыць. Два разы пісаў да Абрамовіча, бо толькі ён ведае гэты адрас, але чамусьці ён не адпісвае мне. Абяцаў я паехаць да сваякоў, у каторых, спадзяюся, што, можа, знайшлося б штокольвек цікавае, і таксама да гэтай пары не сабраўся. Гэта не значыць, што я ўжо даў пакой усім паездкам, вось толькі каб хутчэй дачакаць лета, то і паедзем. Мы тут вельмі пасябравалі з Анатолем Маўчуном, з каторым плануем паездкі супольныя ўсюды, гдзе можна будзе сабраць звесткі пра Ф. Б. Дык мне гэтыя супольныя паездкі вельмі на руку – а гэта для таго, што Анатоль мае ўласны магнітафон і фотаапарат, так што можна будзе запісваць на стужкі ўсё, што будзе цікавае з гутарак, а таксама зрабіць фотакопіі, калі гаспадарам будзе шкада якой здымкі ці дакументы. Я, будучы ў А. Маўчуна ў Познані, перагледаў беларускія каляндары, каторыя ён збірае ў пачатку іх выдавання ў Польшчы, і вось натрапіў на цікавы артыкул дацэнта Аляксея Пяткевіча (каляндар на 1971 г.) пад загалоўкам "Старонка культурнага яднання". Апісана там многа аб працяглым сяброўстве Ф. Багушэвіча з польскай пісьменніцай Элізай Ажэшкай. Вельмі цёпла апісвае яна ў лістах да Я. Карловіча (1887 – 88 г.) спатканні з Багушэвічам: "Быў у мяне нядаўна Ф. Багушэвіч і чытаў мне байку, доўгую, поўную фантазіі, цудоўную, напісаную па-беларуску. Прыгожы гэта талент". Дык вось, можа, гдзе між памяткамі па Ажэшцы знойдуць словы гэтай байкі, напісаныя рукой Ф. Б., а, можа, і якія лісты яго знойдуцца. Мне нешта здаецца, у Гродне ці ёсць музей Ажэшкі і ці давялося табе туды заглянуць. У папярэднім лісце пісаў ты мне, што, будучы ў Ашмяне, гаварыў з людзьмі, каторыя памятаюць майго тату. Мне вельмі хацелася б ведаць, хто і як успамінаюць яго. Калі час пазволіць, напішы!*

*Жадаю ўсяго найлепшага Табе, тваёй мілай сямейцы і ўсім добрым людзям у Мінску!*

*Янка Т.*

* * *

*2 красавіка 1984 г.*

*Даражэнькі Уладзімір! Падзякаваўшы Табе за лісты і за тое, што не забываеш мяне, хачу адказаць гуртам на абодва. Жаль толькі, што нічога суцешнага не магу напісаць Табе на Твае пытанні, стаўляныя ў лістох. Вось у папярэднім лісце пішаш, што вярнулі табе ліст з Шчэцінка. Адрас такі дастаў я ад Абрамовіча і ягонага зяця. Ці ж бы яны падалі мне фальшывы? Скарэй усяго, калі не змянілі свайго адрасу тыя Багушэвічы, то можа быць, што яны не хочуць мець нічога супольнага з справай, каторая цікавіць нас, а тады няма што і галавы сабе марочыць імі. Толя Маўчун (не ведаю, чаму завуць яго Алесям) абяцаў выясьніць справу гэтага адрасу, праз сваіх знаёмых у Шчэцінку. Тады пабачым, як там ёсьць. Таксама паабяцаў разгледзіцца сярод журналістаў пра тыя асобы, каторыя цікавяць Цябе. Ён у гэтых справах многа спасобнейшы ад мяне і маладзейшы. Таго Паплаўскага я не знаў і нічога мне пра яго невядома, а вось адрывачак верша, што Вам перадала тая маладзічка, узяты пэўна з той цэласьці, каторую любіў мой тата, толькі вельмі перакручаныя ў ім словы. У майго таты напрыклад: той, пра каго мова ў вершы, зваўся Баўтручок, а не Петручок. І не “касьцюм”, – “а кажух умазаўшы балотам”. Ну, бо гдзе ж у тую эпоху, калі жыдкі ў корчмах прадавалі мужыкам гарэлку на гарнцы, кварты і кручкі (кручок – 1/8 кварты), дзе ж тады было ім да касьцюмаў. Я яшчэ маю надзею атрымаць той сшытак, у каторым спісаны “Баўтручок”, так, як калісь гаварыў мой тата, бродзіць ён па маіх сваяках з татавай стараны, і я ведаю, што ён у іх ёсьць, але не магу дапрасіцца, каб мне яго прыслалі, а даехаць да іх далёка, неяк цяжка мне сабрацца даехаць да іх. А цяпер адносна Твайго апошняга ліста: шкада, што не ўдалося Табе выслаць кніжак пра Ф. Б., вельмі хацелася б іх мець. Ну, але што – не турбуйся вельмі, можа, калі прыйдзе час і на гэта. Мая паездка да Я. Мніховіча хаця была і вельмі прыемная, але жаль, што амаль нічога не мог я даведацца ад яго пра Ф. Б. Надта ж нямнога пра яго помніць. Гэта праўда, што, каб і ты, браток, быў пры гэтым, дык можа ўдвух патрапілі б раскалыхаць яго памяць. А вось распытацца пра маю бабку Ганну неяк не прыйшло мне ў галаву, а фактычна мог бы ён успомніць яе. Жывець ён з незамужняй дачкой. Яго адрас: (Jan Mnichowicz ul. Wisniowa 40 m 9 65-517 Zielona Gora). Сваяцтва тых Мніховічаў з Багушэвічамі можна сказаць ніякае, а гэта таму, што нават між маёй мамай і яе братам Янам Мніховічам (муж Туні) была ўжо далёкая радня, хоць прозвішча такое самае. А што той дзед Адам падкаціўся да Ганны Б., дык гэты факт, пэўне, не ўсіх Мніховічаў мог парадніць. Фактычна бацька Яна Мніховіча зваўся Юзаф (Восіп), і ці якраз гэтага знаў Твой знаёмы з Маладэчна, бо быў яшчэ адзін Восіп Мніх, калісь жыў у Крапіўне. Дзе яны падзеліся – не ведаю. Таксама нічога не чуў я пра тыя Ваўкелы, пры нагодзе буду пытацца. Ну, а другая мясцовасьць: Кена ці Кяна “ехаў з Кяны – у Ваўкелы”. Гдзе ж яна? Мне нешта прыпамінаецца, што была яна ці ні толькі каля Астраўца ці Шумска. Можа, паэт узяў гэтыя назовы проста для таго, каб рыфмаваўся верш.*

*Шлю мае нізкія паклоны і прывітанні Табе, усім тваім Родным і знаёмым. Вельмі тужу за Вамі. Янка Адзінокі. Эх, каб можна было б скарыстаць з Твайго запрашэння – ляцеў бы на крылах! <…>*

* * *

*15.11.1987 г.*

*Добры дзень, даражэнькія!*

*Як гэты час хутка бяжыць, я і не агледзеўся, як ужо праляцела два месяцы ад мілай і незабыўнай гасціны ў вас у Мінску, дый не толькі, але таксама і ў Вільні, і ў Ашмяны. Я сам часта думаю сабе: “Як гэта ёсць? Чым жа гэта я заслужыў на столькі дабрыні і такога павbooжання, якога зазнаў я ад вас усіх да мяне нягоднага і чым я за гэта ўсё вам адплачуся?”*

*Прыйшлося мне крыху замарудзіць з лістом да Вас, а гэта дзеля таго, што мне захацелася заспакоіць цікавасць Уладзіміра да тых маіх памятак па бабцы Ганне, пра якія я яму апавядаў. Здымкі гэтых рэчаў зрабіў я адразу, як толькі вярнуўся дахаты, але вось з праяўкай трэба было паехаць у Шчэцін і аддаць у лабараторыю, бо сам гэта зрабіць не рызыкаваў. Праявілі там, здаецца, някепска, але вось з часам дык крыху зацягнулі. Не ведаю, як там Уладзімір ацэніць іх вартасць. Папраўдзе, яны не з’яўляюцца непасрэднымі памяткамі па Ф. Багушэвічу, а па ягонай сястры Ганне, але ўсё ж такі выводзяцца яны з Багушэвічавага дому, і мне вельмі хацелася б, каб яны знайшліся зноў у тым доме-музеі як экспанаты. Як гэтыя рэчы былі дарагія Ганне, відаць па тым, як яна берагла іх, як старалася ўпрыгожыць, асабліва той рэлiквіярык за такім неформенным шкельцам, каторы мела пры сабе, калі цягалі яе па турмах за ўдзел у паўстанні 1863 г. У той час яна і вышыла пацеркамі футаралік, у каторым хавала гэта рэліквіярык.*

*Усе гэтыя рэчы – гэта проста знакі рэлігійнага культу, у каторых сабраныя нейкія драбінкі астанкаў святых. Дык пакуль што паразглядайце іх на здымках, а арыгіналы можа калісь пры якой добрай нагодзе ўдасца вам даручыць. <…>*

*Шлю шчырыя прывітанні ўсёй вашай мілай сямейцы.*

*Янка Т.*

* * *

*Пісаў у 150 угодкі нараджэння Фр. Багушэвіча 21-га сакавіка 1990 году.*

*Даражэнькі Уладзімір! Прабач мне, што вось аж за трэцім тваім лістом сабраўся, каб адпісаць Табе, дык і пачну ад астатняга і ад пытанняў тваіх адносна маёй мамы. Дык вось па парадку, як пытаешся. Нарадзілася яна ў 1882 годзе ў Кушлянах, дзе бабка Ганна з мужам Якімам (Joachim) Мніховічам мелі выдзелены Багушэвічамі ўчастак зямлі і забудову. А як жа! У Асінаўскай хаце кросны штогод, так ад пачатку сакавіка аж да лета палавіну хаты займалі, але перад гэтым ад цёмнай восені ішла апрацоўка лёну, а пасля пража і лёну, і воўны. Бывала аж за поўнач яшчэ бурчэлі калаўроты. Сёння, калі падумаю, дык не магу сабе ўцяміць, адкуль у яе бралася тая сіла, тая цярплівасць. Але хіба была такая патрэба. Ткала ўсё, што было патрэбнае ў гаспадарцы і хаце: усялякія сукны, паўсукенкі, палотны, шарачкі, ткані на мяшкі і гэтак далей. А вось узоры тых посцілак, рушнікоў не ткала, пэўна, не мела на гэта часу. Затое вельмі хораша шыла жаночую вопратку, а як было трэба, то і для мужчын шыла, а ўжо кашуль, то не ведаю, ці сёння ў фабрыках зграбней пашыюць. Па навуку жыцця бабка Ганна маю маму была выправіўшы ў Вільню ў нейкую школу, каторую, відаць, яна скончыла, бо ў Асінаўцы перахоўваўся вялікіх папераў блок з разрысаванымі ў ім часцямі вопраткі, і ў гэтым блоку знаходзіўся таксама нейкі дыплом ці атэстат, ужо не помню. З таго часу да сёння засталася ў мяне як памятка па маме ручная машына да шыцця (Singer), каторую, напэўна, ніхто іншы, як толькі бабка Ганна з мужам справілі дачцэ. Прыехала мама ў Польшчу ў сакавіку 1946 г. і вось у куфэрку, пра каторы таксама пытаешся, паміж свайго адзення і прывезла і машыну, і тыя абразкі, каторыя я Табе завёз. З рэчаў, зробленых яе рукамі, засталася яшчэ толькі такая дзяружка, вытканая з воўны і бавоўны спецыяльна на верхнюю частку коўдры. Калі гаворым пра куфэрак, дык Табе, пэўна, думаецца, што гэта будзе такі адмыслова размаляваны каляровымі кветкамі куфар, якія бацькі давалі дочкам з пасагам. Тут мушу цябе расчараваць. Гэта ёсць салідны, моцна акаваны нават куфэрак, зроблены дзеля ўпакоўкі цэнтрыфугі, маслабойкі і іншых прыладаў да малака, праз гады памарнаваліся, а куфэркам маміным карысталіся. Памерла мама 15 лістапада 1961 г. У папярэднім лісце Ты пісаў, што нехта пытаўся, чые былі ў Ашмяне памяшканні, у каторых жыла Туня з сям'ёй. Дык, напэўна, не была гэта іхняя ўласнасць. А тая кватэра, у якой памерла Туня, гэта была службовая кватэра пры кааператыўным банку, дырэктарам якога быў Ян – муж цёткі Туні, каторы таксама там памёр. На святкаванні Багушэвічага юбілею, хутчэй усяго, пабываць мне не давядзецца. Прычын на гэта сабралася некалькі: галоўная – гэта тая, што вось са здароўем, чуюся, штораз слабейшы, а дарога далёкая… <…>*

*Ваш Янка Адзінокі Самотнік.*

Разам з гэтым допісам да мяне прыйшоў у адным канверце і яшчэ адзін Янкаў ліст, таксама напісаны ў юбілейныя для Ф. Багушэвіча дні, але чамусьці не высланы ў сваю пару.

*Даражэнькі Уладзімір!*

*Сардэчна дзякую табе за памяць і за ліст, а таксама за выразкі з газет. Вельмі ж усё там цікавае, асабліва для мяне, самотніка, закінутага доляй на край свету. Як жа ж хацелася б быць бліжэй тых падзеяў, якія дзеюцца цяпер на маёй роднай Беларусі. Але што ж? Лёсу не адменіш, застаецца толькі вачыма душы ўдзельнічаць у юбілейных святкаваннях, таксама Багушэвічавых, як і Грунвальдскіх, слухаць на мітынгу прамоваў мінскіх дзеячоў, маліцца Богу з біскупам Кандрусевічам па-беларуску ў Кальварыйскім касьцёле, а ў Чырвоным з кс. Матусевічам, каторага віджу на здымку, акружанага цесна народам, каторы як бы не хацеў яго адпусціць, як бы прасіў – "Заставайся з намі!" Толькі вось цікава, ці кс. Матусевіч думае па-беларуску? Калі так – дык няхай яму Бог памагае. А таксама трэба цешыцца, што вось Чырвоны касцёл ужо аддалі вернікам. Я вельмі хацеў і марыў, што вось удасца пабываць яшчэ ў роднай старонцы, чакаў на тое запрашэння, і чым бліжэй было тэрміну юбілею – тым надзея мая радзела і ўрэшце прайшла, але на тры дні перад юбілеем, хоць і "на русском языке", усё такі з запрашэннем мяне хутчэй усяго на граніцы не прапусцілі б. Нефармальнае! Нехта з "Нівы" прысутнічаў на юбілеі і менш-больш апісаў у "Ніве" ўсю ўрачыстасць ускладання вянкоў на магіле, запальванне свечак, а таксама крыху аб самім доме-музею. На здымачках, хоць невыразных, паказаныя між іншым і сваячкі Ф. Б. пры яго магіле. А вось цябе ніяк не змог я прыкмеціць. Ну, што ж, прайшло-мінула – і абышлося без мяне, і так папраўдзе, то навошта я там і патрэбны быў. Ведаеш, братка, я ў душы сваёй ганаруся гэтым, што вось з усіх блізкіх і далёкіх з роду нашага Мацея Бурачка ніколі не цураўся я мовы беларускай, чаго няможна сказаць пра яго найбліжэйшых, каторым усё, што беларускае, было хамскае, а яны ўсё ж такі паходжанне сваё выводзілі з паноў, з шляхты панскай, дык пра долю беларусаў не варта было і гаварыць. Вось толькі чамусь тая гаротная доля, тая крыўда простых людзей закранула сэрца і дзеда Францішка. <…>*

*Працяг будзе.*

*Новае прачытанне*

# ЭТНІЧНАЯ АПЕРЦЭПЦЫЯ ВЕЛІКОДНАГА СВЯТА Ў ТВОРАХ ЯКУБА КОЛАСА

Структурызацыя тэксту мастацкіх твораў народнага паэта Беларусі Якуба Коласа, пранікненне ў іх сэнсавы аб'ём, у працэс азначэння дазваляюць сцвярджаць, што ў творах мастака выразна акрэслена этнічнае ядро беларускай нацыянальнай культуры, дзе на тыпавым і структурным узроўнях адлюстроўваецца матэрыяльная і нематэрыяльная культурна-гістарычная спадчына беларускага народа.

У коласаўскай творчай спадчыне ўвасоблены шматлікія элементы народнай культуры беларусаў, у тым ліку і *святы*. Іх ён разглядаў як сацыякультурную з'яву, што выступае як грамадская падзея ўрачыстага характару, адасобленая ад паўсядзённасці. Гэты непрацяглы адрэзак часу мае асаблівую сувязь са сферай сакральнага і прадугледжвае максімальнае дачыненне да яе ўсіх удзельнікаў свята. Святочная культура беларусаў, лічыў Я. Колас, не толькі структуравала і ўпарадкоўвала час гаспадарчай дзейнасці чалавека, але і вызначала тэрміны правядзення саміх свят. Святаўтваральным фактарам для ўсходніх славян, у тым ліку і беларусаў, быў рух Сонца і Месяца. Архетыпавы вобраз сонца ў творчай спадчыне паэта займае ўстойлівы высокі семіятычны статус і адносіцца да вельмі станоўчага полюса аксіялагічнай шкалы. Я. Колас паказвае яго самым сакралізаваным элементам у структуры часу. Сонечны народны каляндар уяўляў упарадкаваную сістэму падзелу, лічэння і рэгламентацыі года, арганізацыі святочнага цыкла, а таксама гаспадарчай і побытавай практыкі. Ён задаваў пэўны рытм жыцця чалавечай супольнасці, садзейнічаў гармоніі ўнутранага, духоўнага космасу чалавека з навакольным светам, рытмамі і цыкламі Сусвету.

Па меркаванні пісьменніка, акрамя традыцыйнага календара славянскіх народаў значны ўплыў на святочную культуру беларусаў аказала сістэма хрысціянскага летазлічэння, у аснову якога былі пакладзены падзеі з жыцця Ісуса Хрыста і Багародзіцы. На працягу многіх стагоддзяў існавання традыцыйнай культуры беларусаў склаўся велізарны комплекс рэлігійных свят, многія з якіх знайшлі адлюстраванне ў творчай спадчыне Я. Коласа. Так, з паэтычнай дэталізацыяй песняром падаюцца малюнкі падрыхтоўкі і правядзення веснавога свята Вялікадня, якое вядома з часоў язычніцтва. З прыняццем славянамі хрысціянства яно было прымеркавана да падзей уваскрэсення раскрыжаванага Ісуса Хрыста і стала галоўным рэлігійным святам. Яго сакральнасць вызначыла характар паэтычнай вобразнасці, стылю і мовы раздзела "Вялікдзень" у паэме "Новая зямля", многіх старонак трылогіі "На ростанях". Я. Колас надзвычай ярка паказваў пачуцці людзей напярэдадні свята. Дзеці і дарослыя з нецярплівасцю чакалі гэтай падзеі, іх думкі задоўга да Вялікадня былі звязаны з сустрэчай згаданага свята. Увага дзяцей усё больш канцэнтруецца не на вучобе, а на падрыхтоўцы да свята: *"У хаце вучням не сядзіцца – / Прайшла ахвота ў іх вучыцца"* [2, с. 230]; *"А вучні кніжкі пахавалі / І ўжо вялікадня чакалі"* [2, с. 231].

Семантызацыя артэфактаў свята ствараецца ў працэсе падрыхтоўкі да яго, у святочных рытуалах і абрадах. Традыцыйная культура беларусаў патрабавала актыўнага ўдзелу ў святочных дзействах усіх суб'ектаў соцыуму. Таму ўсе коласаўскія літаратурныя героі рыхтуюцца да веснавога свята. Гэта тлумачыцца тым, што сродкамі святочнага дзеяння ў памяці людзей узнаўляюцца найвышэйшыя каштоўнасці быцця, з якімі звязаны сэнс існавання чалавека. Так, да велікоднага свята старанна рыхтавалася сям'я лесніка Міхала: *"Мужчыны загадзя пабрылісь, / Вадою цёплаю памылісь, / Бо трэба ж ім было сабрацца / Паехаць ў царкву спавядацца"* [2, с. 231]. Дзеці таксама ўключаліся ў працу: *"Алесь, Кастусь і Міхаліна – / Сама найшла на іх часіна – / На працу зранку выйшлі самі / І падмялі двор дзеркачамі; / Пясочку потым накапалі / І сцежкі ім панасыпалі"* [2, с. 231].

Беларускія святы суправаджаліся цікавымі і маляўнічымі рытуальна-абрадавымі дзеяннямі, якія грунтоўна ведаў Я. Колас і шматфарбна апісаў у сваіх творах. Паэт у кантэкст святочнага абрадавага дзейства ўключаў шырокае кола прадметаў: прылады працы, ежа, адзенне, хатняе начынне, цацкі, элементы інтэр'ера хаты, царквы і інш. Яны разглядаліся ў паэтычных тэкстах як своеасаблівы сімвалічны код у структуры свята. Найважнейшым атрыбутам вызначэння святочнага статусу з'яўляецца адзенне. Кожны ўдзельнік свята імкнуўся аздобіць сябе новай вопраткай, якая адпавядала б сутнасці

таго ці іншага свята, пераўвасабляла ў святочны дзень чалавека. Я. Колас паказвае, што ўся сям'я Міхала ніколі не сустракала свята ў паўсядзённым адзенні. Вопратка заўжды была чыстая або новая: *"Кабеты, дзеўкі, маладзіцы / Ідуць-плывуць да плашчаніцы / У хустках белых і чырвоных"* [2, с. 235].

Надзвычай вялікая ўвага аддавалася падчас велікоднага свята выбару прасторы, у якой яно адбывалася. Месцам правядзення свят маглі служыць луг, поле, вуліца, двор, лес і інш. Я. Колас у сваіх творах вельмі дэталёва акрэсліў ролю адкрытай і закрытай святочнай прасторы. Прастора, як і самі людзі, пераўтваралася падчас свят. Двор, хата прыводзіліся да ўрачыстага выгляду: *"І ўжо пад вечар сама хата / Была прылучана да свята"* [2, с. 231]. Цэнтрам вясковай святочнай прасторы таксама з'яўлялася царква, дзе, па меркаванні пісьменніка, ажыццяўлялася яднанне яго літаратурных герояў з Богам праз сумесны ўдзел у таінствах. Вось чаму ў Вялікую суботу яны імкнуцца да царквы: *"А цэркза, макаўка святая, / Народу поўна, блескам ззяе"* [2, с. 234]. Функцыю святочнага атрыбута на Вялікдзень, адзначаў Я. Колас, выконваў шэраг прадметаў прыроднага паходжання. Так, царква аздаблялася галінкамі дрэў, кветкамі, сімвалічнымі царкоўнымі рэчамі: *"У сяле на цэркві чуць абачна / Блішчыць ліхтарык і мігае, / Дарожных погляд прыцягае"* [2, с. 233]; *"Сярод царкоўкі плашчаніца / Стаіць між елачак зялёных"* [2, с. 235]. Такім чынам, святочная прастора ў вернікаў выступала як сфера эстэтычнага. Сузіранне яе шматколернасці, гарманічнай прыгажосці не толькі выклікала ў іх захапленне, трапятанне сэрца, але і прыносіла заспакаенне, давала жыватворныя сілы, надзею на лепшую будучыню. Я. Колас адзначаў, што ў перыяд рэлігійных свят людзі рабіліся больш спагадлівымі, уважлівымі адзін да аднаго, міласэрнымі. Так, у сям'і Міхала на Вялікдзень панавала *"лагоднасць, згода і павага / І вельмі сталая развага"*, а *"старыя, дзеці і падросткі, / І шуму тут не падымалі, / Як будным днём з-за кожнай косткі"* [2, с. 231].

У паэтычных і празаічных коласаўскіх творах велікодная абрадавая ежа (чырвонае яйка, соль, пасха, кулічы і інш.) выступае пэўным ключом да разумення сутнасці святочных падзей. Стравы адпавядалі традыцыйным святочным атрыбутам усходніх славян; большасць з іх выкарыстоўваецца і ў нашы дні. З выключным лірызмам паэт паказаў, напрыклад, сімвалічнае значэнне велікоднага снедання. Галоўнай рытуальна-абрадавай стравай у гэты святочны дзень было чырвонае яйка, асвечанае ў царкве. Размаляваныя рознымі ўзорамі курыныя яйкі (*пісанкі*, *крашанкі*, *маляванкі*) з прыняццем хрысціянства ўвайшлі ў абрад святкавання Вялікадня. У чырвоную суботу ў царкве асвячалі не толькі яйкі, але амаль усю святочную ежу. Гэты рытуальна-абрадавы аспект знайшоў адлюстраванне і ў паэме "Новая зямля": *"Нясуць жанкі, нясуць мужчыны / Кашы, каробкі, паўасьміны / І ставяць ў рад на цвінтары / Ўсе велікодныя дары"* [2, с. 235]. Раніцай, пакуль за святочным сталом не разгавеюцца велікодным яйкам, нічога іншага не елі. Яйка дзялілі на столькі частак, колькі ў сям'і было чалавек: *"І гуртам яйкі ачышчаюць, / І па кусочку іх бяруць, / Крыху падсольваюць, ядуць"* [2, с. 237]. Святочны стол у гэты дзень быў надзвычай разнастайны і багаты. Напярэдадні беларусы гатавалі шмат страў, асабліва з мяса, пяклі кулічы, рабілі пасху. Велікодны стол настаўніка Тараса пісьменнік дэталёва апісаў у трылогіі "На ростанях": *"Пасярэдзіне пакоя стаяў доўгі стол, засланы белым абрусам і ўсцяж застаўлены багатаю і разнастайнаю закускай, выпіўкай, пасудаю… Самае пачэснае і віднае месца на стале займала шынка, запечаная ў хлебным цесце. Па велічыні яна нагадвала добрую падушку і ляжала на адмысловым дзеравянным крузе, убраная сцяблінкамі брусьнічніку і вянком з дзеразы… На стале красаваліся засмажаныя парасяты, скруткі каўбас, мяса розных гатункаў, пара індычак, бабкі, мазуркі і цэлая горка афарбаваных яечак"* [1, с. 574]. Не горшым быў велікодны стол і ў пана падлоўчага Баранкевіча. Ён, пісаў Я. Колас, *«быў завалены пірагамі, бабкамі, мясам розных гатункаў і featurenaga прыгатавання. Штук шэсць шкляных банак з крэпкім хрэнам выглядалі з розных месцаў стала, тры "буслы" гарэлкі высока падымалі галовы над статусамі закусак. Шынкі, як падушкі, абтыканыя зелянінаю, ляжалі важна зялёнымі ўзгоркамі»* [1, с. 146]. Багатым быў пачастунак і ў сям'і лесніка Міхала: *"Ляжала шынка, як кадушка, / Румяна-белая пампушка <…> Кілбасы-скруткі, як падковы, / Між сцёган, сала і грудзінак / Красуе ўсмажаны падсвінак"* [2, с. 237].

З тэкстаў мастацкіх твораў Я. Коласа відаць, што ў святочнай культуры вялікую ролю адыгрывала слова. Святочнае дзеянне заўсёды суправаджалася яго энергетычным патэнцыялам. На думку творцы, з дапамогай слова ў рознай форме (песні, прытчы, казкі, загадкі, святочнага пажадання, малітвы і інш.) чалавек размаўляў з Богам, святымі, памерлымі продкамі, прыродай. Я. Колас асабліва ўважліва адбіраў моўны матэрыял пры

абмалёўцы святочных падзей і характарыстыцы ўдзельнікаў свята. Сваякі Міхала, настаўнікі вёскі Мікуцічы спяваюць "Вэсолы": *"А гаспадар ўсё болей з баса / Утне такога выкрунтаса, / Аж сам падзівіцца сабе"* [2, с. 236 – 237]. Функцыянальную накіраванасць маюць у коласаўскіх творах святочныя пажаданні, з якімі звяртаюцца літаратурныя героі падчас застолля. Удзельнікі свята жадаюць адзін аднаму здароўя, даўгалецця, не ведаць гора і смутку. Пажаданні напоўнены спадзяваннямі на добры ўраджай, багаты прыплод хатняй жывёлы, прыбытак у гаспадарцы. Так, Міхал падчас велікоднага снедання зычыць членам сям'і: *"– Дай, божа, за год дачакаць / Здаровым, вясёлым, жывым / І новы вялікдзень таксама спаткаць / У добрым здаровейку ўсім, / Каб гора і смутку не зналі. / – Дай божа! – разам адказалі"* [2, с. 237].

За часы святкавання Вялікадня ў беларусаў склаўся звычай валачобніцтва, калі на першы дзень свята моладзь абыходзіла хаты і віншавала гаспадароў песнямі, пажаданнямі шчасця і дабрабыту. Я. Колас у трылогіі "На ростанях" адзначаў, што *"на вялікдзень звычайна ў госці не запрашалі, хто хацеў, прыходзіў сам. Такі быў звычай, заведзены дзядамі і прадзедамі"* [1, с. 574]. Такімі гасцямі часцей за ўсё былі гурты валачобнікаў, якія складаліся з некалькіх чалавек (7 – 12). *"Не меней дванаццаці маладых настаўнікаў, зволеных са школ, паз'язджаліся ў Мікуцічы святкаваць вялікдзень… На першы дзень вялікадня настаўнікі ўсёй шумнаю грамадою рушылі ў Панямонь аддаваць велікодныя візіты мясцовым інтэлігентам"* [1, с. 369]. Па традыцыі валачобнікі абіралі пачынальніка, ён звычайна вітаў гаспадароў трохразовым "Хрыстос уваскрос!" і пытаўся дазволу "дом засяліць". Астатнія ўдзельнікі абраду падхаплівалі песню або спявалі прыпеў. Нярэдка валачобнікі імправізавалі з замацаваным рэлігійным зместам песні, уводзілі жартаўлівыя радкі, якія характарызавалі адметныя якасці асобы гаспадара. У трылогіі "На ростанях" Я. Колас з уласцівай яму дасціпнасцю стварыў малюнак валачобніцтва. Настаўнікі, літаратурныя персанажы твора, склалі валачобную песню, што спалучала рэлігійны і свецкі змест і была персаніфікавана. Гурт у якасці пачынальніка абраў настаўніка Андрэя Лабановіча, які заводзіў песню словамі: *"Ходзяць валачобнікі без дарог… / Яны не шкадуюць ні горла, ні ног"* [1, с. 570]. Усе астатнія падхоплівалі прыпеўку: *"Памагай, божа, / Прыспрыяй, божа, – / Хрыстос васкрос, / Сын божы"*. Улічылі валачобнікі ў гэтай песні асобасныя якасці гаспадароў, чые двары яны наведвалі: *"Прывітанне ў хату вам, дзядзька Тарас! / Не шкадуй гарэлкі нам і кілбас!"*; *"Жыві і красуйся, Трайчанскі Базыль! / Відзя каля Надзенькі, як матыль"*; *"У Кузьмы Скаромнага дом, як сад. / Нібы майскіх кветак нарасло дзяўчат"* [1, с. 571] і г. д. Заканчвалася песня ў коласаўскіх валачобнікаў велічаннем панямонцаў: *"Што ж? Канчаем песню, бо канчаць пара. / Добрым панямонцам выгукнем – ура!"* [1, с. 571]. Пасля такіх пажаданняў удзячныя гаспадары запрашалі спевакоў за святочны стол або адорвалі рознымі пачастункамі. Валачобнікі загадзя абіралі механошу, які выконваў функцыю зберагальніка пачастункаў.

Старадаўні звычай валачобніцтва, святочныя рытуалы і абрады паступова адраджаюцца ў нашы дні, таму коласаўскія творы з'яўляюцца сапраўднай крыніцай ведаў па арганізацыі святочных імпрэз.

У духоўнай спадчыне Я. Коласа адлюстраваны шматлікія элементы рэлігійнай святочнай культуры беларускага народа. У тэкстах мастацкіх твораў пісьменніка рассыпаны малюнкі святкавання Вербніцы, Уводзін Прасвятой Багародзіцы, Юр'я, Міколы і г. д. Святы Я. Колас трактаваў як канцэнтрацыю жыцця, вынік працы, творчай дзейнасці чалавека, яе плёну. Усе атрыбуты свят, на думку мастака, ствараліся розумам і рукамі чалавека, у святочных абрадах і рытуалах яны набывалі сакральнае значэнне. Увогуле, рэлігійна-сакральны кантэкст назіраецца ў многіх творах Я. Коласа. Трансцэндэнтная прысутнасць вобраза і імя Бога ў тэкстах пісьменніка, на наш погляд, характарызуе рэлігійна-філасофскі погляд самога аўтара на ўзаемасувязь чалавека і свету.

**Спіс літаратуры**

1. **Колас, Я.** На ростанях : трылогія / Я. Колас. – Мінск : Дзярж. вучэб.-пед. выдавецтва Мін-ва асветы БССР, 1958. – 697 с.

2. **Колас, Я.** Новая зямля : паэма / Я. Колас; агул. рэд., паслясл. Я. Янушкевіча; уклад. У. Гілепа, Я. Янушкевіча; прадм. М. Мушынскага; пер. на рус. С. Гарадзецкага [і інш.]; пер. на польск. Ч. Сэнюха; камент. М. Мушынскага, Я. Янушкевіча; маст. В. Шаранговіч. – Мінск : БФК, 2002. – 904 с.

**Аляксандр СМОЛІК,**
доктар культуралогіі,

**Вольга ВЯРБІЦКАЯ,**
магістр культуралогіі.

*Аўтары ахвяруюць ганарар на развіццё часопіса.*

*Светлыя імёны Беларусі*

# "НЯСІЦЕ НАРОДУ ПРЫГАЖОСЦЬ І НЕ ПАТРАБУЙЦЕ ЎЗНАГАРОДЫ"

### ДА 125-ГОДДЗЯ БЕЛАРУСКАГА МАСТАКА МІКАЛАЯ МІХАЛАПА



Мікалай Пракопавіч Міхалап (1886 – 1979) пражыў 93 гады, быў мастаком, педагогам, навукоўцам, нарэшце, заснавальнікам і першым дырэктарам Дзяржаўнай карціннай галерэі Беларусі (цяпер Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь). Таварыскі, прыгожы, добры, заўсёды навідавоку, у працы, ён такімі глыбокімі каранямі ўрос у мастацтва радзімы, што без яго яно, здавалася, не магло быць і асэнсавана. Сябар народнага паэта Беларусі Янкі Купалы, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі скульптара М. Керзіна і народнага мастака Беларусі А. Марыкса, М. Міхалап заўсёды быў у гушчы падзей.

І на працягу ўсяго XX стагоддзя не знайшлося ніводнага часопіса ці выдавецтва, якія прысвяцілі б мастаку артыкул або далі пра яго разгорнутую інфармацыю.

Ён сышоў у нябыт, знік без вестак. І ўспомнілі пра гэта толькі ў XXI ст., калі памерлі амаль усе сведкі спраў мастака, сябры і знаёмыя, якія, нібы матылькі на агонь, зляталіся да яго ў хату са штодзённымі клопатамі, гутаркамі, па раду і дапамогу. Сёння М. Міхалап – усё яшчэ далёкая зорка, чыё святло даносяць толькі некаторыя архіўныя дакументы, кароткія звесткі ў даведніку Саюза мастакоў, вялікі хатні архіў ды некалькі твораў у маладога пакалення сваякоў, якія клапатліва захавалі тое, чаго, магчыма, яшчэ і самі не ацанілі.

Становішча змянілася на пачатку 2000-х гг., калі ў Нацыянальным мастацкім музеі з'явілася неабходнасць спарадкаваць гісторыю ўстановы, а з ёй і дадзеныя пра першага дырэктара. 2003 год стаў пераломным у гісторыі музея і прынёс шмат найцікавейшых звестак пра жыццё і творчасць М. Міхалапа.

Чацвёрты дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея кандыдат мастацтвазнаўства Уладзімір Іванавіч Пракапцоў разгарнуў шырокую дзейнасць, да якой далучыліся шматлікія яго супрацоўнікі. Саюзу мастакоў быў замоўлены партрэт М. Міхалапа, выкананы пазней скульптарам А. Дранцам для вестыбюля музея, дзе ён цяпер і знаходзіцца. Зроблены па фотаздымку бюст паказвае маладога мастака – гэта эмацыйна-мастацкая выява, здольная выклікаць душэўны водгук. Музей нібы ажыў, а М. Міхалап змог зноў сустракаць жаданых гасцей.

Супрацоўнікі музея правялі карпатлівую працу ў дзяржаўных і хатніх архівах, знайшлі звесткі пра яго творы, склалі біяграфію, арганізавалі выставу графікі і керамікі да юбілейнай канферэнцыі, якая адбылася 25 сакавіка 2003 г. У канферэнцыі ўдзельнічалі мастакі, мастацтвазнаўцы, навукоўцы Мінска, Віцебска, Масквы. У дакладах асвятляліся розныя этапы жыцця М. Міхалапа, а разам з імі, з успамінамі калег, сваякоў і знаёмых усё выразней вымалёўвалася значэнне яго творчасці. Разам з тым не ўвесь жыццёвы шлях мастака атрымаў асвятленне, а афіцыйныя дакументы не заўсёды дазваляюць скласці ўяўленне пра чалавека, асобу…

Сёння творчая спадчына М. Міхалапа па стылёвых асаблівасцях не мае аналагаў і вельмі важная з гісторыка-мастацкага боку як звяно ў ланцугу еўрапейскага мастацтва. У гісторыі беларускага мастацтва яна яшчэ не знайшла належнага разумення. Навуковая канферэнцыя 2003 г. зрабіла толькі першыя крокі да гэтага, а даследчыкам па-ранейшаму не хапае фактаў, якія ўсё глыбей сыходзяць у пясок гісторыі…

Аўтарцы гэтых радкоў разам з мужам давялося быць блізкімі да сям'і Міхалапаў. Доўгія гады нас звязвалі размовы пра мастацтва, дыскусіі пра стыль. Хатні гурток М. Міхалапа прыцягваў многіх. Нехта яшчэ жывы, а мастачкі-графіка Н. Галоўчанкі, мастачкі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Г. Ісаевіч, на жаль, ужо

няма разам з намі. “Хатняя акадэмія” Мікалая Пракопавіча магла б скласці асобную старонку культурнага жыцця Мінска другой паловы XX ст. Зразумела, што і ў той час не ўсе былі салідарныя з творцам, савецкая школа рыхтавала мастакоў з іншым светабачаннем. І трэба было вырасці ў тым жа асяроддзі, што і М. Міхалап, ведаць умовы, якія вызначылі яго шлях, каб зразумець мастака.

У гісторыі мастацтва і культуры Беларусі М. Міхалап – унікальная з'ява ў многіх адносінах. Ён вылучаўся найперш як чалавек з высокімі маральнымі якасцямі, крыштальнай чысцінёй думак, сумленнасцю, якая стала яго жыццёвым крэда. Таму ён заўсёды быў спакойны, гарманічны, у меру гаваркі і ўнутрана дысцыплінаваны. Гэтым ён моцна прываблівае, і вакол яго заўсёды збіраліся людзі, чаму нямала садзейнічала і адметная знешнасць. Рысы твару ў сталым узросце адрозніваліся такой самавітасцю, што яго называлі не інакш як святы Мікалай, або Мікалай-угоднік, аблічча стала зусім іканапісным. Высакародны профіль і густыя сівыя валасы можна было без змен пераносіць на палатно. Сярэдняга росту, з нетаропкімі рухамі, ён здаваўся чалавекам з іншага, больш дасканалага свету, ніколі не ўскіпаў гневам, трымаўся годна і калі трапляў у канфліктную сітуацыю, то не ўступаў у праціборства. Мікалай Пракопавіч пражыў жыццё шчасліва, бо стаяў вышэй за мітуслівыя інтарэсы і ішоў сваёй дарогай, не зважаючы на зменлівасць лёсу.

І дай Бог, каб такая перакананасць, яснасць у творчай канцэпцыі, паслядоўнасць у яе рэалізацыі, якімі валодаў М. Міхалап, сталі маральнай нормай для сучасных мастакоў.

Мікалай Пракопавіч Міхалап нарадзіўся ў Мінску 28 красавіка 1886 г. у небагатай сям'і выхадцаў з сялянскага асяроддзя. Бацька, Пракоп Фёдаравіч, перасяліўся ў Мінск у пошуках заробку, абзавёўся сям'ёй і быў гаспадаром, здольным самастойна трымацца на нагах. Маці, Саламея Адамаўна, займалася дзецьмі і падзарабляла прыслугай у панскім доме. Ва ўсіх анкетах Мікалай пісаў, што бацька быў рабочым чыгункі: у савецкія гады пралетарскае паходжанне служыла пуцёўкай у жыццё. І хоць у анкетах усё было праўдай, аднак з гадамі мастак успамінаў пра дзяцінства вельмі цёпла і крыху па-іншаму. Гаварыў, што бацька трымаў коней, меў возніцтва, і пах сена, выгляд чыстай стайні засталіся ў памяці на ўсё жыццё як дарагія рысы дому.

Месца жыхарства сям'і М. Міхалап не называў і абураўся бязлітаснай перабудовай старога горада, не знаходзячы слядоў колішняга жылля ў кварталах савецкага часу. З кароткіх выказванняў усё ж вынікала, што бацькі некалькі разоў мянялі кватэру. Адна з іх была каля Чэрвеньскага рынку, і там жа, відаць, жылі сваякі, бо ў гэты раён мастак вяртаўся пасля ад'езду з Мінска не раз.

Другое месца жыхарства знаходзілася дзесьці ў раёне Верхняга горада, дзе таксама былі рынкі: мясны, рыбны і хлебны (каля сучаснай плошчы Свабоды і спуску да Свіслачы). Мастак неаднойчы са скрухай гаварыў, што сумуе па старых месцах і марыць прайсціся па мясным рынку, па рыбных радах або хоць бы паглядзець на сцены дамоў, якія стаялі недалёка.

Хто памятае старыя драўляныя будынкі па сучаснай вуліцы Янкі Купалы ў 50-я гг. мінулага стагоддзя або падобныя дамы іншых прырэчных вуліц, той ведае, што яны мелі адметны выгляд: высокія вокны, шаляваныя сцены, святочныя белыя дзверы з філёнкамі адлюстроўвалі густ і любоў мясцовых жыхароў да камфорту. Увесну светлыя дамы ў кіпені заквітнелых садоў нагадвалі маладую ў вясельным уборы, і чуйнаму да прыгажосці чалавеку тут было чым любавацца.

Недалёка ад ракі знаходзіўся дом, у якім жыў Янка Купала (на гэтым месцы цяпер стаіць будынак музея). Магчыма, з суседства і пачалося знаёмства маладых людзей, якому было наканавана перарасці ў сяброўства і доўжыцца некалькі дзесяцігоддзяў.

Пра прыхільнасць да рачнога раёна гаворыць і тое, што пасля вяртання ў Мінск з эвакуацыі мастак шукаў месца для жылля менавіта тут і атрымаў яго на вуліцы Карла Маркса, непадалёку ад дома Янкі Купалы. Сем'і працягвалі сябраваць…

Маці Мікалая, старэйшага сына ў сям'і, мела гучнае імя – Саламея. Верагодна, яна была каталічкай, але перайшла ў веру мужа, бо сям'я лічылася праваслаўнай. Па тых або іншых прычынах з дзяцінства ў хлопчыка не выпрацавалася вялікага рэлігійнага пачуцця. У царкоўнапрыходскай школе пры камандзе настаўніка спяваць пасля малітвы “ўра”, відаць, у гонар цара, незалежны вучань спяваў “дыра”, за што тут жа атрымліваў наганяй.

Сям'я не адрывалася ад сельскіх мясцін, М. Міхалап бываў на радзіме бацькі, ездзіў і ў маладзечанска-вілейскі край. А яшчэ вабіла Лошыца, дзе жыла родная цётачка Алена Адамаўна, яна мела асаблівае становішча ў мястэчку як жонка эканома, які працаваў у маёнтку. Сёння пра Лошыцкую сядзібу і яго гаспадароў шмат напісана, імя аднаго з іх носіць вуліца раёна Мінска, а тады гэта было цудоўнае месца з панскімі харамі, цяністым паркам і возерам, авеяным легендамі.

Пасля заканчэння пачатковай школы падлетак паступіў у Мінскае гарадское вучыліш-



***Мікалай Міхалап*. Ваза *"Грэчаская"*.** 1950-я гг.

ча, дзе былі добрыя выкладчыкі малявання з дыпломамі маскоўскага Вучылішча тэхнічнага малявання графа Строганава. Гэта, верагодна, паслужыла штуршком да выбару М. Міхалапам прафесіі. Прычына змены цэнтра прыцягнення і паступлення ў пецярбургскую, а не маскоўскую вучэбную ўстанову тлумачыцца, магчыма, асаблівым статусам пецярбургскага Цэнтральнага вучылішча тэхнічнага малявання барона Штыгліца* і парадку прыёму ў яго.

Новая ўстанова сама актыўна шукала вучняў. Выкладчыкі ездзілі па расійскіх губернях у пошуках таленавітых людзей, якім выдавалі субсідыі на праезд да вучылішча, абы толькі дамагчыся падрыхтоўкі якасных спецыялістаў для рускай прамысловасці. Эйфарыя прамысловага буму абудзіла ў сталіцы імперыі буйныя сілы, ініцыятыву прадпрымальнікаў, банкіраў, мастакоў. Праца вучылішча атрымала шырокую вядомасць і падтрымку… Так ці іначай, але М. Міхалап накіраваўся ў Пецярбург і з тых часоў стаў чалавекам сапраўднай пецярбургскай культуры.

Паступленне ў вучылішча было няпростым. Прайшоў юнак паўгадавыя падрыхтоўчыя курсы ці не – невядома. Калі ехаў за кошт навучальнай установы, то мог праходзіць, калі за свае грошы або на грамадскія зборы, то, хутчэй за ўсё, не. Уступныя экзамены былі сур'ёзныя, як у Акадэміі мастацтваў. Каб іх вытрымаць, надзейней за ўсё было скончыць спачатку трохгадовую мастацкую школу пры вучылішчы, а потым упэўнена ісці далей.

Мікалай Пракопавіч на ўсё жыццё запомніў хваляванне, з якім выйшаў на іспыт. Малюнак галавы, жывапіс, праектная распрацоўка кнігі – ён пастуपаў на аддзяленне афорта – усё гэта выціснула з яго апошнія сілы, але не прыцішыла галоўнага – страху, што не справіцца. Калі ў канцы экзаменаў на сцяне вывесілі спісы прынятых, ён сябе там не ўбачыў. Зажурана прызнаў перамогу тых, хто аказаўся мацнейшым, і пайшоў у канцылярыю па дакументы. Сакратар ветліва даведалася, як яго прозвішча, а потым здзіўлена спытала, чаму ён перадумаў паступаць. Міхалап адказаў, што ён не прайшоў па конкурсе і вымушаны з'язджаць. Тады сакратар узяла спісы, паказала прозвішчы на літару "М" і сказала: "Ды вось жа Вы, Міхалап!"

Вучоба на афортным аддзяленні пайшла ў М. Міхалапа так паспяхова, што ён скончыў яго датэрмінова: замест пяці гадоў правучыўся чатыры, выканаўшы ўсю праграму. Галоўным настаўнікам Мікалая быў вядомы рускі гравёр В. Матэ, аўтар знакамітых афортаў да Бібліі, і юнак хутка навучыўся яго тэхніцы. Мяккія гнуткія лініі разца ў яго таксама нібы слізгалі па форме і выяўлялі аб'ёмы святлаценем, ствараючы эфект манахромнага жывапісу.

Прыкладам тэхнічнасці М. Міхалапа з'яўляецца афорт па жывапісным палатне Ш. Жака "Авечкі ў хляве", якое цяпер знаходзіцца ў Эрмітажы. Барбізонская школа пейзажа прыцягвала многіх майстроў жывапісу і графікі. Т. Русо, П. Дзюпрэ, Ш. Дабіньі і іншыя былі вельмі блізкія для маладога мастака, які трапятліва ставіўся да прыроды. Ён любіў і травы, і кветкі, рабіў акварэльныя замалёўкі вячэрняга неба, заходу сонца і г. д. Дома паўсюль ляжала сухое лісце, шышкі, стаялі пудзілы птушак і лясных дробных жывёл. Сюжэт Ш. Жака быў знаёмы: сельскі руплівец, гаспадар сціплага дома нарыхтоўвае сена. Успамінаўся бацька, заўсёды захоплены будзённай працай. Міхалап сумаваў па Радзіме.

Анімалістычны жанр, афарбаваны асабістым перажываннем, уздымае гэты афорт да ўзроўню самой карціны. Фатаграфію афорта М. Міхалап даслаў у Эрмітаж для пацвярджэння якасці, дзе праца была ацэнена (у сярэдзіне XX ст.) вельмі высока. Мастаку прапанавалі вялікую суму за твор, але ён адмовіўся, шануючы памяць пра мінулае больш за грошы.

У 1910-я гг. М. Міхалап выканаў афортны партрэт сябра, Янкі Купалы. Праца не захавалася, але згадваецца ў запісах музея пісьмен-

* Цэнтральнае вучылішча тэхнічнага малявання барона А. Штыгліца заснавана ў Пецярбургу ў 1876 г. З 1948 г. функцыянавала як Ленінградскае вышэйшае мастацка-прамысловае вучылішча, у 1953 г. яму было прысвоена імя народнай мастачкі СССР В. Мухінай. Сучасная назва – Санкт-Пецярбургская дзяржаўная мастацка-прамысловая акадэмія імя А. Штыгліца. У розныя часы вучылішча скончылі беларускія мастакі М. Кірылаў, У. Мурахвер, А. Някрасаў, М. Рыжанкоў, І. Харламаў і інш. – *Заўвага рэд.*

ніка ў Мінску. Сёння цяжка гаварыць пра характар выканання, але можна не сумнявацца, што афорт быў грунтоўны, з прапрацоўкай дэталей. Ён абавязкова меў аб'ёмна-пластычную мадэліроўку: М. Міхалап заўсёды добра адчуваў аб'ём, ляпіў яго ўпэўнена. Пазбягаў рухаў мадэлі. Спакой, статыка былі яму даражэйшыя.

Пераезд у Пецярбург многае змяніў у жыцці мастака, пакінуў незабыўнае ўражанне найперш гарадскімі пейзажамі, роўняддзю шырокай Нявы з багатымі палацамі на набярэжных, святочным Неўскім праспектам, люстэркавымі вокнамі вітрын і прыбранай публікай. Багацце мастацкіх крам, салонаў, музейных залаў не адпускала ад сябе маладога мастака і, скончыўшы навучанне на адным аддзяленні, М. Міхалап вырашае пайсці на другое, авалодвае яшчэ адной прафесіяй – мастака-кераміста. На гэтым аддзяленні ён вучыўся шэсць гадоў і зарабляў на жыццё, прадаючы працы на вучнёўскіх выставах, што заахвочвалася дырэкцыяй. У адным з нумароў часопіса "Столица и усадьба" была змешчана фатаграфія стэнда салона-крамы з яго творамі. М. Міхалап і ў кераміцы працаваў старанна і ўседліва, глыбока вывучаў тэхналогію і дайшоў да такой ступені дасведчанасці ў прафесіі, што ў роўнай ступені быў тэхнолагам і мастаком. Тэхналогіі вучыў вядомы знаўца гэтай справы Келер, якому абавязаны ведамі многія маскоўскія і пецярбургскія керамісты. М. Міхалап добра разумеў, што нідзе больш не знойдзе такіх цудоўных умоў для працы і ўдзячнай публікі. Таму ён не спяшаўся з заканчэннем вучобы, якая ў цэлым доўжылася дзесяць гадоў.

У вучылішчы барона Штыгліца М. Міхалап атрымаў не толькі прафесійную падрыхтоўку. Уся сістэма адукацыі ў яго час была накіравана на фарміраванне энтузіяста сваёй справы, чалавека-падзвіжніка, здольнага хварэць душой за сваю прафесію. Па-іншаму тады і быць не магло, бо рэгіянальныя прадпрыемствы па выпуску прадметаў ужытку былі яшчэ вельмі адсталыя, мелі патрэбу ў тэхнічнай рэканструкцыі і адукаваных мастаках новага тыпу з воляй і жаданнем ісці насустрач цяжкасцям.

Мастак не распавядаў пра сваіх выкладчыкаў, але казаў, што звычайна атрымліваў па ўсіх прадметах "першыя нумары" – гэта значыць добра вучыўся. За шматгадовую гісторыю вучылішча барона Штыгліца ў ім выкладалі многія знакамітыя жывапісцы і скульптары, у іх ліку прафесар скульптуры М. Чыжоў, прафесар жывапісу М. Клот, графік і жывапісец Г. Манізер, архітэктар А. фон Гаген і інш. Усе яны мелі буйныя творчыя працы, будавалі і афармлялі пецярбургскія палацы і храмы, мелі вялікі практычны досвед і стаж выкладання.

Новы будынак Штыгліца з вялізнымі прасторнымі класамі і бездакорнымі вытворчымі майстэрнямі і дасюль пакідае моцнае ўражанне. Усё было абсталявана па апошнім слове тэхнікі і сведчыла пра парадак нямецкага ўзору. Адпаведнымі былі і вынікі. Вучнёўскія працы ў XIX ст. дэманстраваліся на сусветных выставах у Капенгагене, Парыжы, Чыкага.

Пасля дзесяцігадовага навучання ў гэтай установе М. Міхалап стаў уяўляць сабой тып адукаванага беларуса. Далікатныя людзі з добрымі манерамі заставаліся працаваць у Пецярбургу або вярталіся дадому, дзе моцна ўплывалі на светапогляд грамадства. Інтэлігенцыя сярэбранага веку была каштоўнай для ўсіх народаў.

Выкладчыцкая сістэма ў вучылішчы давала ўсё, чым валодаў час, і чым уседлівей працаваў навучэнец, тым больш ён атрымліваў ад яе. Гады навучання былі залатым перыядам у творчым жыцці М. Міхалапа, калі ён не ведаў ніякіх перашкод у рэалізацыі задум. Матэрыял у яго цалкам падпарадкоўваўся ідэям, быў разнастайным да такой ступені, што любая нават самая неверагодная ідэя адразу знаходзіла тэхнічнае вырашэнне. Мастак цалкам выявіў сябе і ў тым, што працаваў у любімай гаме прыглушаных тонаў, аддаваў перавагу суцэльнаму пакрыццю керамікі без белага фону, з-за чаго фарфоравыя рэчы выглядалі больш цяжкімі і часам нагадвалі творы з такіх дарагіх матэрыялаў, як лак, нефрыт, чырвоны камень і г. д. У паліваных вырабах пераважала матавая някідкая паверхня. Усімі працамі гэтага перыяду аўтар настройваў на засяроджаны роздум і суперажыванне маляўнічых карцін. Мне ніколі не даводзілася бачыць крыкліва яркіх, стракацістых твораў М. Міхалапа. Абстрактныя ўзоры ў яго таксама рэдкія. Кожны раз мастак хацеў сказаць нешта цікавае пра прыроду, яе стан і фарбы, яго гама цалкам адпавядала тонам беларускага пейзажу з яго сціплым сонцам, зелянінай палёў, шэра-блакітным небам. Ужо ў Пецярбургу мастак сфарміраваўся і выявіў сябе як сапраўдны беларускі творца.

Працы пецярбургскага перыяду, які вызначыў увесь творчы шлях М. Міхалапа, пакінулі вельмі мала слядоў, а таму на іх варта паглядзець больш уважліва. Вось, напрыклад, вялікая "Візантыйская ваза". У сярэдзіне XX ст. яна была яшчэ цэлай і захоўвалася ў прыватнай калекцыі. Гэтая ваза мела характэрную форму царкоўнай чашы для прычасця і нагадвала залатую. Такія вырабы падобныя да грэчаскіх прататыпаў: нешырокая круглая аснова ў іх пераходзіць у круглявае тулава, потым расшыраецца раструбам уверх. Шырыня і вышыня вазы М. Міхалапа амаль роўныя, таму яна здаецца больш прысадзістай, чым высокай, і даволі цяжкай. Анала-

гам такой рэчы можна лічыць від атычнага кратара, чашы без ручак.

Аднак аўтар не капіраваў ніводнай дэталі дасло ўна і стварыў варыяцыю на візантыйскую тэму. Залаціста-жоўты бляклы тон пакрыцця – цёплы, спакойны – нагадваў колер старога золата і адначасова адрозніваўся ад яго падабенствам да колеру вохрыстай зямлі. Паверхня вазы пакрыта дробным гравіраваным узорам. Ён вычаканены, але нагадваў стары кніжны арнамент. Малюнак запоўнены карычневай і зеленаватай фарбамі, якія гарманіруюць з фонам. Асацыяцыі выводзілі са сферы прыроды ў рамесныя рады, закраналі культуру гравіроўкі, урэшце, падобныя праграмныя кампазіцыі паўстаюць на подыуме выставачных залаў як помнік і падштурхоўваюць гледача да размовы пра час, традыцыі, звычаі краіны, пра мастацкія дасягненні, якім такі твор прысвечаны. Інфармацыйнай якасцю валодаюць далёка не ўсе навакольныя прадметы, ёсць маса пустых, бяздушных, адвольна злепленых без апоры на культурную глебу рэчаў. Такія аднадзёнкі з'яўляюцца і сыходзяць, не пакідаючы сляду. "Візантыйская ваза" заўсёды знойдзе гледача і слухача, каб нешта распавесці пра сябе.

Да пецярбургскага перыяду, відавочна, адносіцца "Ваза з паўлінам", пра якую захаваліся толькі кароткія згадкі. Паколькі паўлін – адна з тыповых выяў у візантыйскім мастацтве, можна выказаць меркаванне, што і ўсё мастацкае вырашэнне адпавядала той залатаноснасці, урачыстасці, эмацыйнай стрыманасці, якія несла ў сабе дэкаратыўнае мастацтва таго часу. Тэма паўліна характэрная таксама для стылю мадэрну – сецэсіі. М. Міхалап, ідучы ў нагу з часам, мог паспрабаваць сябе ў гэтай сферы, аднак сецэсія з яе вытанчанасцю і манернасцю не стала блізкай для мастака. Ён не падзяляў настрояў дэкадансу, не захапляўся моднай паэзіяй, не лічыў сябе часткай артыстычнай багемы. Магчыма, такая пазіцыя замінала яму рэалізаваць сябе ў пецярбургскай графіцы, дзе ён мог бы выступаць кніжным ілюстратарам як афартыст. Навамодныя плыні выклікалі ў мастака іронію, і ламаць сябе пад іх ён не лічыў патрэбным.

Са значна большай цеплынёй і сімпатыяй М. Міхалап адгукаўся пра малюнкі на веджвудаўскіх фаянсах "колеру вяршкоў", любіў успамінаць пра напалеонаўскі "Егіпецкі сервіз", грунтоўную працу і фарбы венскага фарфору. Розныя "капрызы" XX стагоддзя ён па-чалавечы не прымаў…

Ведаючы пра неадменныя цяжкасці на радзіме, дзе не было ўмоў для творчасці прафесійнага мастака-кераміста, М. Міхалап не спяшаўся з выпускам з вучылішча, але парадак патрабаваў свайго і падрыхтоўка да дыплома пачалася.

З біяграфічных запісаў вядома, што ў 1913 г. мастак здзейсніў паездку ў Белавежскую пушчу для збору матэрыялаў, дзе рабіў замалёўкі зубра. Газетная інфармацыя паведамляе, што скульптура М. Міхалапа "Зубр" экспанавалася на выставе "Мастакі – воінам" у Мінску ў 1915 г.

Разнастайныя даведкі расцягваюць час наступнай нашай сустрэчы з мастаком на восем доўгіх гадоў, а потым пачынаецца беларускі перыяд яго жыцця. Некаторыя старонкі паўстаюць перад намі з прабеламі, якія цяпер ужо ніхто не запоўніць. Застаецца толькі супастаўляць, рабіць высновы…

*Пераклад з рускай мовы.*

*Працяг будзе.*

**Ірына ЕЛАТОМЦАВА,**
мастацтвазнаўца.

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2011 год

ЧЭРВЕНЬ

*Заканчэнне. Пачатак на с. 51, 53.*

**20 чэрвеня –** 185 гадоў з дня нараджэння Яна Шэмета-Палачанскага (1826 – 1905), паэта

**22 чэрвеня –** 80 гадоў з дня нараджэння Міколы Янчанкі (1931 – 2000), паэта, празаіка, перакладчыка

**25 чэрвеня –** 100 гадоў з дня нараджэння Феафіла Анісовіча (1911 – 1988), мастака дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, дызайнера

75 гадоў з дня нараджэння Сямёна Абрамава, жывапісца, мастака манументальна-дэкаратыўнага мастацтва

**26 чэрвеня –** 85 гадоў з дня нараджэння Мікалая Паўленкі (1926 – 1987), мовазнаўцы

70 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Куляшова (1941 – 1999), акцёра, народнага артыста Беларусі

**27 чэрвеня –** 75 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Кузьмянкова (1936 – 2002), празаіка, публіцыста

**29 чэрвеня –** 115 гадоў з дня нараджэння Уладыслава Казлоўшчыка (сапр. Казлоўскі; 1896 – 1943), паэта, публіцыста, перакладчыка, выдаўца, грамадскага дзеяча

115 гадоў з дня нараджэння Пятра Крука (1896 – 1968), скрыпача, заслужанага артыста Беларусі

115 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Хрусталёва (1896 – 1954), жывапісца, педагога

110 гадоў з дня нараджэння Сяргея Уладычанскага (1901 – 1960), рускага рэжысёра, заслужанага артыста Літвы, галоўнага рэжысёра Дзяржаўнага рускага драмтэатра ў 1948 – 1952 гг.

**30 чэрвеня –** 130 гадоў з дня нараджэння Паўла Растаргуева (1881 – 1959), расійскага і беларускага мовазнаўцы, педагога

80 гадоў з дня нараджэння Рышарда Ясінскага (1931 – 2005), кінарэжысёра-дакументаліста, сцэнарыста, журналіста

75 гадоў з дня нараджэння Эміліі Фокінай, расійскага і беларускага мастака-кераміста і акварэліста

*Паводле картатэкі БДАМЛМ.*

*Мастацкая галерэя*

# ЛОГІКА НЯВЫЗНАЧАНАСЦІ: ДОСВЕДЫ ЖЫВАПІСНАЙ ДЭКАНСТРУКЦЫІ*

Чаму менавіта так? Бо *versus* (або скарочана vs.) – стандартнае запазычанне з латыні для пазначэння проціпастаўлення каго-небудзь або чаго-небудзь ці для параўнання двух аб'ектаў, ідэй і іншага – асабліва пры неабходнасці выбару. Замест пытальнікаў можна падставіць, напрыклад, такія антаганістычныя пары:

парадак vs. хаос
мужчына vs. жанчына
Інь vs. Янь…

І гэта толькі фрагмент спіса, які можа доўжыцца бясконца. Барацьба супрацьлегласцей – неад'емная ўласцівасць сучаснасці. І – крыніца яе развіцця, як абвяшчае першы закон дыялектыкі…

У працах Таццяны і Уладзіміра тэма супрацьстаяння, несумненна, прысутнічае. Аднак дакладнае вызначэнне таго, хто (або што) з кім (або з чым) змагаецца, даць даволі складана. Таму, нягледзячы на мноства інтэрпрэтацый, пытанне пра суб'екты супрацьстаяння застаецца нявызначаным і пакідаецца на меркаванне гледача.

Затое абсалютна ясна, што мастакі дэманструюць нешта новае ў айчынным жывапісе. Падаецца, што прыўнясенне аналітычнасці (дэканструкцыі), як, зрэшты, і асабістасці, і псіхалагічнасці, і сацыяльнасці, і ёсць той самы наступны крок, які робіць сучаснае беларускае мастацтва, вызваляючыся з-пад ціску спадчыны і традыцый сацрэалізму.

Іншае пытанне, кім, адкуль і куды пракладзена сцежка, па якой упэўнена крочаць нашы экспаненты, інакш кажучы – ці няма тут нейкіх другарадных запазычанасцей у заходнім мастацтве? Надта ўжо "нетутэйшымі" выглядаюць іх карціны…

Так, Уладзімір і Таццяна знаёмыя з сучаснымі тэндэнцыямі замежнага мастацтва: пасля заканчэння Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў стажыраваліся ў Італіі і Германіі. Адчуваецца, што маладым мастакам блізкія пошукі заходнееўрапейскага (а дакладней, нямецкага) жывапісу.

У той жа час іх творчасць з'яўляецца лагічным працягам лакальных мастацкіх працэсаў. Папярэдняе пакаленне беларускіх жывапісцаў таксама практыкавала метад своеасаблівай дэканструкцыі – ператвараючы маляўнічае палатно ў арнаментальны лапікавы дыванок, – пры гэтым парадаксальным чынам не выходзячы за межы вульгарнага мімезісу (які на тэрыторыі беларускага мастацтва ганарліва нясе назву "рэалізму"). Такім спосабам зусім нядаўна быў дэкаратызаваны нацыянальны дыскурс. У нейкай ступені гэта нават стала вядучым жывапісным трэндам Беларусі мяжы XX і XXI стст. – многія мясцовыя мастакі надавалі прывабнасць падзеям нацыянальнай гісторыі за кошт арыгінальнай тэхнікі зборкі, пакідаючы яркія, багатыя дэталі і выключаючы шэрыя і звычайныя. Сучасныя ж маладыя аўтары свядома выкарыстоўваюць дэканструкцыю, або, хутчэй, дэфрагментацыю, і робяць гэта для прынцыпова іншых мэт.

Уладзімір Кандрусевіч вылучае антаганістычныя фрагменты рэальнасці літаральна "хімічна": дыстылюючы выяву, нібы расслойвае яе і выдаляе лішнія пласты. Апускаючы тканіну рэчаіснасці ў "кіслату" аўтарскага рэцэпта, якая раскладае пігменты-фактары. Каркас, сэнсавы каркас, які застаецца пасля гэтай працэдуры, мае канцэнтраванае значэнне. Адсюль бялёсыя, разувасобленыя персанажы карцін, якія кантрастуюць са звычайнай яркасцю, што панавала б на фатаграфіях.

Творчы метад Таццяны Кандрацэнкі – гэта, хутчэй, россып фрагментаў, пазлаў, які мастачка кідае на палатно, свядома пазбягаючы прыгожых кампазіцыйных схем, што практыкавалі яе настаўнікі, і далей сама збянтэжана адгадвае сэнсы і магчымыя значэнні – вышукваючы нейкія асабістыя знакі. Але, па сутнасці, задае гледачу такую загадку, для спасціжэння якой неабходна мабілізацыя яго жыццёвага досведу, пачуццяў, эмоцый.

Як бачым, тактыкі двух мастакоў вельмі розныя. Тым не менш істотна тое, што ў адрозненне ад большасці калег-жывапісцаў дэканструктыўны падыход Таццяны і Уладзіміра цалкам асэнсаваны, свядомы. Яны працуюць, задаючы сабе пытанне: "Навошта я гэта раблю?" І няхай дакладнага адказу няма ці, наадварот, іх зашмат…

Ідэі Жака Дарыды пакрыху губляюць былую папулярнасць, аднак адзін з базавых прынцыпаў тэарэтызаванай ім дэканструкцыі застаецца надзвычай актуальным для беларускага мастацтва. Гэта "вызваленне ад лагацэнтрызму" – ідэалагічнага, эстэтычнага, нацыянальнага ці якога-небудзь іншага. Па словах філосафа, "дэканструкцыя ёсць рух досведу, адкрытага да абсалютнай будучыні, досведу, па неабходнасці не вызначанага, абстрактнага, спустошанага, досведу, які паказаны ў чаканні іншага і аддадзены чаканню іншага…" Такім чынам, досвед нявызначанасці ў працах Таццяны Кандрацэнкі і Уладзіміра Кандрусевіча прама прапарцыянальны патэнцыйнасці абранага імі напрамку.

**Павел ВАЙНІЦКІ,**
кандыдат мастацтвазнаўства.

* Пачатак артыкула на апошняй старонцы вокладкі.

# ПРАВАСЛАЎНАЕ ПЕЎЧАЕ МАСТАЦТВА Ў КАНТЭКСЦЕ КРОС-КУЛЬТУРНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ

Праваслаўныя набажэнскія спевы ў Кітаі фарміраваліся ў асяроддзі рускіх жыхароў Паднябеснай на аснове старажытнарускай царкоўнапеўчай культуры. У ХХ ст. найбольш інтэнсіўна праваслаўнае пеўчае мастацтва развівалася ў 1920 – 1940-я гг. сярод рускіх вайскоўцаў, служачых Кітайскай усходняй чыгункі і эмігрантаўбежанцаў з рэвалюцыйнай Расіі, якія ў некаторых гарадах Кітая (Харбін, Шанхай, Цяньцзінь) утваралі самыя вялікія групы замежнага насельніцтва. Пасля перасялення рускай эміграцыі з Харбіна ў Шанхай апошні становіцца яе сталіцай. Тут жылі выбітныя прадстаўнікі рускай музычнай культуры. Іх творчасці прысвечана праца Ван Чжычэн "Музыканты рускай эміграцыі ў Шанхаі" [21].

Даследаванне развіцця праваслаўнага пеўчага мастацтва ў Харбіне 1920-х гг. было праведзена на аснове ўспамінаў сучаснікаў, якія публікаваліся ў перыядычным друку, а таксама ўспамінаў былых царкоўных музыкантаў С. Троіцкай [17; 18; 19], М. Троіцкай [19], Р. Хмялёва [20]. У кнізе С. Троіцкай "Рускі Харбін" утрымліваецца шмат звестак пра літургічную творчасць царкоўных хораў [17]. Пра праваслаўнае пеўчае мастацтва, харбінскія царкоўныя хоры і іх значэнне ў захаванні культурных традыцый Харбіна пісаў І. Капран [7; 8].

Вывучэнне кітайскага праваслаўнага пеўчага мастацтва неабходна пачаць з даследавання асаблівасцей жыцця рускай эміграцыі на Далёкім Усходзе. Мэтазгодна зрабіць невялікі каментарый, што патлумачыць, у якіх гістарычных умовах узнікла і развівалася Праваслаўная царква ў Кітаі ў пачатку ХХ ст. Вось што паведамляе пра гэта святар Дзіянісій Пазняеў, член Групы даследавання праблем Праваслаўнай царквы ў Кітаі [15].

У жніўні 1897 г. пачалося будаўніцтва Кітайскай усходняй чыгункі (КУЧ), якая спалучыла Сібір з Прымор'ем праз тэрыторыю Маньчжурыі. Для бяспекі КУЧ была сфарміравана Ахоўная варта, куды прызначылі протапрэсвітарам святара Аляксандра Жураўскага. Увесну 1899 г. а. Аляксандр пачаў весці царкоўныя службы ў палатцы, што стаяла ў гаі Харбіна. Падчас богаслужэнняў спяваў хор казакоў Ахоўнай варты. Да зімы ў адным з часовых баракаў была ўладкавана царква (існавала ў далейшым як Старахарбінская царква), асвечаная 24 мая 1899 г.

Будаўніцтва пастаяннага храма (пасля ён стаў кафедральным саборам Харбінскай епархіі) пачалося ў кастрычніку 1899 г., а ўжо 5 снежня 1900 г. Свята-Мікалаеўскі сабор у Новым Харбіне асвяцілі. Храм быў пабудаваны з дрэва ў стылі рускай шатровай архітэктуры, меў у плане форму крыжа і вянчаўся пяццю купаламі, упрыгожанымі, як і званіца, шашачным пакрыццём.

У канцы 1900 г. святары ўжо служылі ў Даляне, Інкоу, Хайлары і Цыцыкары, а таксама на заходняй лініі КУЧ. У 1901 – 1902 гг. былі пабудаваны цэрквы ў Даляне, Імяньпо, Бухэду і на станцыі Пагранічная, у 1905 г. – царква-школа на Чжалайнорскіх капальнях. Царкоўнае начынне для храмаў набывалася на сродкі КУЧ.

Храмы Маньчжурыі адначасова з задавальненнем рэлігійных патрэб служылі і цэнтрамі школьнай асветы. Усе святары павінны былі весці духоўна-маральныя гутаркі з чыноўнікамі, а таксама выкладаць Закон Божы ў пачатковых чыгуначных школах. Пры храмах працавалі царкоўныя бібліятэкі.

У 1903 г. уладыка Інакенцій заснаваў падворкі Пекінскай місіі ў Харбіне і на станцыі Маньчжурыя. Найважнейшай задачай брацтва было аказанне дапамогі параненым рускім салдатам. Для гэтага ў Харбіне пабудавалі бальніцу пры Дабравешчанскім падворку. Двойчы ў месяц выходзіў часопіс "Весткі Брацтва Праваслаўнай Царквы ў Кітаі" (пасля ён выдаваўся ў Пекіне пад назвай "Китайский Благовестник" аж да зачынення Расійскай духоўнай місіі).

Будаўніцтва першага з "нечыгуначных" храмаў Маньчжурыі – храма ў імя Святой Сафіі, Прамудрасці Божай, пачалося 11 лютага 1907 г. у Харбіне. Ужо праз 20 дзён пасля гэтага адбылося яго ўрачыстае асвячэнне. У 1907 г. там жа прайшла закладка цэркваў: Іверскай – 27 мая, Свята-Аляксееўскай – 10 ліпеня, Успенскай на Новых могілках – 29 чэрвеня.

У 1917 – 1918 гг. прыходскія саветы пабудавалі шэраг прытулкаў, друкарняў, сталовых і да т. п. для задавальнення сацыяльных патрэб праваслаўных жыхароў Маньчжурыі. Дабрачыннасць была неад'емнай часткай царкоўнага жыцця.

Падчас масавай эміграцыі з Расіі ў Кітай 1918 – 1920 гг. у Харбін прыбыло нямала праваслаўнага духавенства, прадстаўнікі якога замацоўваліся на прыходах у асноўным у якасці памочнікаў штатных святароў, а таксама выкладалі ў харбінскіх навучальных установах Закон Божы.

У канцы 1920 г. у Харбіне было заснавана Свята-Іверскае Багародзіцкае брацтва, галоўным клопатам якога стала дапамога рускім эмігрантам і місіянерская супрацьсектанцкая дзейнасць сярод насельніцтва Маньчжурыі.

Цэрквы Харбіна і Маньчжурыі праз удзел у богаслужэнні, царкоўныя школы, дабрачыннасць і выдавецкую дзейнасць аб'ядналі дзясяткі тысяч людзей. Руская праваслаўная царква не толькі спрыяла захаванню нацыянальных каранёў у Рускім Замежжы, але і дала магчымасць народу Кітая зразумець ролю Праваслаўнай царквы ў расійскім грамадстве пачатку XX ст. Увогуле, у сацыяльным і культурным жыцці Маньчжурыі таго часу панавала атмасфера, спрыяльная для ўспрымання праваслаўя мясцовым насельніцтвам.

Прыведзеныя вышэй звесткі дазваляюць зрабіць выснову пра актыўнае, рознабаковае і вельмі насычанае царкоўнае жыццё ў Маньчжурыі ў пачатку XX ст. У асяроддзі рускіх эмігрантаў, якія апынуліся на чужыне ў цяжкіх жыццёвых абставінах, рэлігійнасць успыхнула з такой сілай, якой у іх не было, калі яны жылі на радзіме. Дзякуючы гэтай з'яве, пра што пісалі Н. Векшына [2], Д. Іванова [3; 4; 5], Е. Капранава [9], у названым рэгіёне бурна развівалася і царкоўнае пеўчае мастацтва.

У наш час у Мінску жывуць Георгій Хмялёў (нарадзіўся ў 1928 г. у г. Харбіне), дыякан валяр'янаўскай царквы ў Мінскім раёне, Ала Піскунова (нарадзілася ў 1926 г. у г. Харбіне), пеўчая мінскага Свята-Петрапаўлаўскага сабора, Валянціна Равенка, у дзявоцтве Райская (нарадзілася ў 1930 г. у г. Шанхаі). Успаміны гэтых людзей і звесткі, атрыманыя з кітайскіх і беларускіх перыядычных выданняў – часопіса "Китайский Благовестник" [15], газет "Воскресение" [20] і "Белорусская нива" [14], – дапамаглі аднавіць карціну дзейнасці праваслаўных царкоўных хораў у Кітаі.

Ала Паўлаўна Піскунова нарадзілася і большую частку свайго жыцця правяла ў Харбіне, пра родны ёй горад распавядала як пра зямны рай, месца светлага, радаснага, шчаслівага жыцця рускіх людзей. Дзяцінства Алы Паўлаўны прайшло так, як у большасці рускіх дзяўчынак Харбіна: вучылася ў рускай пачатковай школе, а з 3-га класа бацькі аддалі яе ў французскі пансіён, дзе яна правяла два гады, потым вучылася ў рускай гімназіі. З 15 гадоў пачала спяваць у царкоўным хоры, куды яе прывёў бацька – пеўчы хору Свята-Петрапаўлаўскага храма. Цэлы год Ала брала ўрокі музычнай граматы і вакалу ў салісткі Вялікага тэатра Дабравольскай, якая таксама спявала ў згаданым хоры. У 1932 г. на адным з богаслужэнняў дзяўчыну пачуў рэгент Свята-Іверскага храма П. Распопаў і запрасіў у свой хор. Так яна стала спяваць на ранняй літургіі ў царкве ў гонар Іверскай іконы Божай Маці. Пеўчым плацілі грошы, таму, каб дапамагчы сям'і, Ала спявала ў некалькіх царкоўных хорах.

Хор харбінскай Свята-Іверскай царквы меў вялікую папулярнасць яшчэ ў 1920 – 1925 гг., ім кіраваў В. Лукша, вучань вядомага рускага царкоўнага кампазітара А. Архангельскага [12, с. 263]. Пасля ад'езду В. Лукшы ў ЗША ў 1939 г. хорам кіраваў І. Райскі [6], знакаміты хормайстар і рэгент Харбіна. Па сведчанні А. Піскуновай, у 1942 г. хорам апекаваўся П. Распопаў. І А. Піскунова, і Г. Хмялёў, якія ў тыя гады таксама жыў у Харбіне, успамінаюць Пятра Філіпавіча Распопава як адметнага рэгента з глыбокім унутраным разуменнем богаслужэння.

У пачатку 1930-х гг. найбольш папулярным сярод насельніцтва горада стаў хор Свята-Аляксееўскай царквы пад кіраўніцтвам выдатнага рэгента І. Колчына (1893 – 1967) [12, с. 263].

Па словах А. Піскуновай і Г. Хмялеўскага, набажэнскі рэпертуар царкоўных хораў быў даволі аднастайным. Асаблівай увагай карысталіся кампазіцыі рускіх царкоўных кампазітараў: Д. Бартнянскага, П. Часнакова, А. Архангельскага, А. Грачанінава, А. Кастальскага, У. Стараруськага, М. Вінаградава і інш. Кожны год 25 кастрычніка, у гадавіну смерці вялікага рускага кампазітара П. Чайкоўскага, у Свята-Мікалаеўскім саборы, а затым і ў іншых цэрквах Харбіна спявалі яго поўную літургію [14, с. 13]. Усе спевы выконваліся па друкаваных нотах, якія прывозілі з Расіі.

Харбінская епархія аддавала вялікую ўвагу музычнай адукацыі эмігранцкай моладзі. У 1927 г. пры Свята-Іверскай царкве працавалі музычныя курсы пад кіраўніцтвам Г. Баранавай-Паповай, якія да 1941 г. скончылі 900 чалавек. Пазней курсы былі ператвораныя ў Вышэйшую музычную школу. У Харбіне ў розныя гады працавалі прыватныя музычныя студыі, Вышэйшая музычная школа імя А. Глазунова (1924 – 1936), Музычны тэхнікум пад кіраўніцтвам Л. Аптэкаравай, Першая харбінская музычная школа. У атмасферы высокай музычнай культуры шматлікія пеўчыя з царкоўных хораў маглі атрымаць прафесійную адукацыю. Найбольш адораныя спевакі пасля самі станавіліся

рэгентамі (П. Распопаў, В. Сумневіч, К. Паўлючык, М. Троіцкі, Л. Прыклонская і інш.) [19].

Царкоўныя вакалісты бралі самы актыўны ўдзел і ў шматлікіх свецкіх выступленнях [16]. Царкоўныя хоры ў Харбіне рэгулярна ўдзельнічалі ў духоўных канцэртах, першы з якіх адбыўся ў 1900 г. Абавязкова наладжваліся канцэрты на Каляды, Вялікдзень, у Дзень рускай культуры. У такіх імпрэзах удзельнічалі аб'яднаныя царкоўныя хоры. Не толькі рэлігійныя святы, але і Дзень рускай культуры праводзіліся пры падтрымцы Харбінскай епархіі і эмігранцкіх арганізацый. У друку змяшчаліся справаздачы аб правядзенні гэтых мерапрыемстваў і іншыя матэрыялы, звязаныя з царкоўным жыццём, аўтарамі якіх былі вядомыя харбінскія рэгенты К. Касцючык, І. Колчын [7].

У 1910 г. быў адчынены новы будынак Чыгуначнага сходу з канцэртнай залай на 1200 месцаў, якая мела выдатную акустыку. У гэтай зале выступалі ўсе царкоўныя хоры з дабрачыннымі і святочнымі канцэртамі [11, с. 240]. Першым падобным мерапрыемствам стаў канцэрт духоўнай музыкі ў выкананні хору Сафійскай царквы пад кіраўніцтвам Н. Варатнікова. Там жа часта праводзіліся канцэрты хору Свята-Мікалаеўскага сабора пад кіраўніцтвам Д. Папова [18, с. 18]. Варта падкрэсліць, што на ўсіх канцэртах прысутнічала шмат кітайскіх слухачоў.

Канцэртны рэпертуар царкоўных хораў быў даволі разнастайны. У першым аддзяленні выконваліся спевы літургіі і ўсяночнай М. Іпалітава-Іванава, С. Рахманінава, П. Часнакова, А. Архангельскага, А. Грачанінава, А. Кастальскага. Можна было пачуць таксама харавыя канцэрты гэтых аўтараў, што ва ўмовах богаслужэння гучалі "на запричастном" – перад прычасцем на літургіі. Выконваліся таксама і ўласныя кампазіцыі рэгентаў, кіраўнікоў іншых хораў. Перавага ў выбары рэпертуару аддавалася кампазітарам так званай маскоўскай школы (новага кірунку). Старажытныя спевы не гучалі і не ўваходзілі ні ў набажэнскі, ні ў канцэртны рэпертуар царкоўных хораў.

Другое аддзяленне канцэртаў харавой музыкі складалі свецкія творы І. Гайдна, В. Моцарта, І. Баха, А. Рубінштэйна і інш. [14, с. 13]. Памятным для харбінцаў стаў канцэрт, прысвечаны 950-годдзю Хрышчэння Русі, што адбыўся ў 1938 г. у зале Чыгуначнага сходу. Выступаў аб'яднаны хор Свята-Мікалаеўскага сабора, Сафійскай і Іверскай цэркваў. Перад канцэртам і пасля яго былі прачытаны даклады на тэму святкавання.

Вялікі ўнёсак у развіццё рускай харавой культуры ў Кітаі зрабілі харбінскія рэгенты І. Райскі, Н. Беневаленскі, Н. Варатнікоў, П. Распопаў, І. Колчын, У. Гарадзілін, М. Троіцкі, протаіерэй П. Шыляеў [19, с. 3].

Асаблівай увагі заслугоўвае творчасць Іпаліта Пятровіча Райскага, таленавітага музыканта і глыбокага знаўцы рускага царкоўнага спеву. Нарадзіўся ён у сям'і святара ў г. Орску Арэнбургскай губерні. Творчая і педагагічная дзейнасць І. Райскага пачалася ў 1890-я гг. у г. Уфе, дзе ён выкладаў спевы ў мужчынскай гімназіі, а пазней дырыжыраваў вучнёўскімі хорамі, у тым ліку хорам Епархіяльнага жаночага вучылішча, кіраваў царкоўным хорам. У 1925 г. прыехаў у Харбін працаваць у якасці другога дырыжора опернага тэатра пры Чыгуначным сходзе і віяланчэліста ў аркестры гэтага ж тэатра. У Харбіне, акрамя працы ў тэатры, І. Райскі займаўся музычна-педагагічнай дзейнасцю, кіраваў хорам Свята-Іверскай царквы. Яго жонка Даратэя Барысаўна таксама выкладала спевы ў розных школах.

50-годдзе творчай дзейнасці І. Райскага шырока адзначалася ў красавіку 1943 г. Святкаванне арганізавалі педагагічны савет і бацькоўскі камітэт Другой вышэйшай пачатковай школы*. Так грамадскасць Харбіна ацаніла дзейнасць рэгента, царкоўнага кампазітара і педагога. У склад святочных мерапрыемстваў уваходзілі малебен у Свята-Мікалаеўскім саборы, урачыстае пасяджэнне, на якім І. Райскаму былі ўручаны знак "За стараннасць", ганаровая грамата ад Бюро па справах рускіх эмігрантаў і Біблія ад Архірэйскага сінода. У святочным канцэрце выступіў хор Другой вышэйшай жаночай народнай школы пад кіраўніцтвам І. Райскага, гучаў марш "Туга па Радзіме", напісаны юбілярам [8].

Сын Іпаліта Пятровіча, Барыс Райскі (1915 – 1993), дырыжор, заслужаны артыст Беларусі, быў значнай постаццю ў беларускай культуры. Ён атрымаў у Харбіне выдатную музычную адукацыю. Займаўся ў Чыгуначным камерцыйным вучылішчы і адначасова вывучаў музыку ў Вышэйшай музычнай школе імя А. Глазунова ў прафесара С. Шпільмана. Доўгія гады Барыс Іпалітавіч быў дырыжорам і мастацкім кіраўніком канцэртна-эстраднага аркестра Беларускага тэлебачання і радыё (1961 – 1988) [1].

У 1932 г., калі Харбін і ўсю Маньчжурыю занялі японскія войскі, рускае насельніцтва стала ад'язджаць на поўдзень краіны, у Шанхай, або за мяжу. Руская калонія ў Харбіне значна паменшылася, што прывяло да зніжэння колькасці

* Сістэма школьнай адукацыі ў Харбіне ўключала ніжэйшую пачатковую школу – I – IV класы, вышэйшую пачатковую школу – V – VI класы, гімназію – VII – X класы.

царкоўных хораў і спевакоў з моцнымі галасамі ў іх. Аднак руская грамадскасць Харбіна працягвала аддаваць вялікую ўвагу развіццю харавога мастацтва і ў цяжкі час японскай акупацыі. У 1942 г. пры Бюро па справах расійскіх эмігрантаў быў створаны хор у складзе 30 чалавек пад кіраўніцтвам дырыжора І. Шарапіна, які пазней звяртаўся да кіраўніцтва з прапановай адкрыць профільныя курсы для навучання рускай моладзі традыцыям харавога спеву, а таксама дазволіць удзел усіх зацікаўленых у рэпетыцыях хору, павялічыць штомесячную плату харыстам, забяспечыць своечасовы рамонт музычных інструментаў, наладзіць арганізацыю гастроляў хору і яго выступаў па радыё і г. д. [8].

Пасля Другой сусветнай вайны савецкі ўрад прапанаваў рускім жыхарам Маньчжурыі перасяліцца ў Сібір. Да гэтага часу ў Кітаі пачаўся ўціск насельніцтва з некітайскім паходжаннем і выцясненне яго за межы Паднябеснай. Адна частка харбінцаў вырашыла ехаць у Сібір, а другая – у іншыя краіны. Неабходна адзначыць, што рускіх жыхароў Харбіна, якія ад’язджалі, з павагай і пашанай праводзіла кітайскае насельніцтва, наладжваючы развітальныя канцэрты, вячэры і г. д. У канцы 1960-х гг. рускі Харбін, па сутнасці, перастаў існаваць.

Такім чынам, за час існавання рускай калоніі ў Харбіне праваслаўныя рэгенты і спевакі зрабілі важны ўнёсак як у развіццё культуры Рускага Замежжа, так і ў кітайскую культуру Маньчжурыі ў цэлым. Духоўная музыка і царкоўныя харавы спеў як неад’емная частка рускай культурнай традыцыі спрыялі фарміраванню этнічнай самасвядомасці ў маладога пакалення рускіх эмігрантаў і захаванню імі нацыянальнай ідэнтычнасці ва ўмовах іншакультурнага асяроддзя.

*Пераклад з рускай мовы.*

### Спіс літаратуры

1. **Аблова, Н. Е.** История КВЖД и российской эмиграции в Китае (первая половина XX в.) / Н. Е. Аблова. – Минск : БГУ, 1999. – 316 с.

2. **Векшина, Н. М.** Православная архитектура как часть миссионерской политики России в Китае / Н. М. Векшина // Путь Востока. Универсализм и партикуляризм в культуре : материалы VIII Молодеж. науч. конф. по проблемам философии, религии, культуры Востока (Санкт-Петербург, 23 – 25 апр. 2005 г.). – СПб. : Санкт-Петербург. философ. об-во, 2005. – С. 50 – 56. – (Серия “Symposium”, вып. 34).

3. **Иванов, П. М.** Из истории христианства в Китае / П. М. Иванов, свящ. Петр Иванов; Рос. акад. наук, Ин-т востоковедения. – М. : Ин-т востоковед. РАН; Крафт+, 2005. – 222 с.

4. **Иванова, Д. С.** Символы русской духовности в городах Китая / Д. С. Иванова // Арсеньевские чтения : материалы междунар. науч.-практ. конф. (Владивосток, 12 апр. 1999 г.). – Владивосток : Изд-во Дальневост. ун-та, 2000. – С. 226 – 245.

5. **Иванова, Д. С.** Строительство православных монастырей в Китае / Д. С. Иванова // Россия и Китай на дальневосточных рубежах. – Благовещенск : Изд-во АмГУ, 2001. – Вып. 2. – С. 237 – 239.

6. **История Православной Церкви в Китае** [Текст] // Православие в Китае [Электронный ресурс]. – Режим доступа : http://www.orthodox.cn/index_ru.html.

7. **Капран, И. К.** Музыкальный Харбин : церковные хоры / И. К. Капран // Российские соотечественники в Азиатско-Тихоокеанском регионе. Перспективы сотрудничества : материалы III междунар. науч.-практ. конф. (Владивосток, 22 апр. 2001 г.). – Владивосток : Информ.-реклам. агентство “Комсомолка ДВ”, 2003. – С. 149 – 156.

8. **Капран, И. К.** Сохранение традиций православной музыкальной культуры в русском Харбине / И. К. Капран // История и культура Востока Азии : материалы междунар. науч. конф. (Новосибирск, 23 окт. 2001 г.) / отв. ред. С. В. Алкин. – Новосибирск, 2002. – Т. 1. – С. 138 – 141.

9. **Капранова, Е. А.** Церковное строительство на Дальнем Востоке в конце XIX – начале XX в. / Е. А. Капранова // Архивы : Люди. События. Время : материалы обл. науч.-практ. конф. (Благовещенск, 24 – 26 окт. 1998 г.). – Благовещенск, 1999. – С. 132 – 125.

10. **Китайская Православная Церковь** // Древо : открытая православная энциклопедия [Электронный ресурс]. – Режим доступа : http://drevo.pravbeseda.ru/index.php?id=1370.

11. **Крадин, Н. П.** Харбин – русская Атлантида / Н. П. Крадин. – Хабаровск : Издатель Хворов А. Ю., 2001. – 352 с.

12. **Мелихов, Г. В.** Белый Харбин : середина 20-х / Г. В. Мелихов. – М. : Рус. путь, 2003. – 440 с.

13. **Музыкант с железной дороги** // Белорусская нива [Электронный ресурс]. – Режим доступа : http://www.belniva.by/index.php?option=com_content&task=view&id=9313&Itemid=43.

14. **Печерица, В. Ф.** Духовная культура русской эмиграции в Китае / В. Ф. Печерица. – Владивосток : ДВГУ, 1998. – 276 с.

15. **Поздняев, Д.** Церковная жизнь в Манчжурии в начале XX века / Д. Поздняев // Китайский Благовестник. – 1999. – № 2. – С. 7 – 13.

16. **Троицкая, В.** Воспоминания / В. Троицкая // Сидней. – 1995. – № 2. – С. 4 – 13.

17. **Троицкая, С.** Русский Харбин. Воспоминания : о русских регентах и певцах в Харбине / С. Троицкая. – Брисбен, 1995. – 64 с.

18. **Троицкая, С. С.** Харбинская епархия и ее храмы и духовенство / С. С. Троицкая. – Брисбен : Изд-во Н. И. Дмитровского-Байкова, 2002. – 98 с.

19. **Троицкий, М. Н.** Русские харбинцы в Австралии / М. Н. Троицкий // Сидней. – 1998. – № 1. – С. 62.

20. **Хмелев, Г.** Харбинские воспоминания : святитель Николай Мирликийский Чудотворец / диакон Георгий Хмелев // Воскресение. – 2009. – № 1 (114), январь. – С. 6.; № 2 (115), февраль. – С. 6.

21. **Ван, Чжычэн.** Музыканты рускай эміграцыі ў Шанхаі : 1920 – 1940 гг. / Чжычэн Ван. – Шанхай : Шанхайск. консерватория, 2007. – 579 с. (*на кітайскай мове*).

**Ван ІН,**
аспірантка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

*Артыкул рэкамендаваны да друку кандыдатам мастацтвазнаўства Л. Густавай-Рунцо.*

# “ПЕСНЯЙ ВЯСНЫ ЛЕБЯДЗІНАЮ…”

## КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталі. 1.** … Цёплы – прысвятак, які адзначаўся 30 сакавіка: *На … Цёплага рыба ідзе на нераст, карова на верас, а бортнік на хвою* (прыказка). **4.** Зародак ліста. **8.** *Са смехам любая … пад сілу* (прыказка). **9.** “Песняй вясны лебядзінаю, / Скінуўшы зімнія чары, / Шэпчуцца … з калінаю” – з верша Янкі Купалы. **11.** “А ў нас сёння …, …, / Зіма з летам стрэлася, стрэлася” – з песні, якую спявалі на …, ці Грамніцы. **14.** Музычна-драматычны твор. **15.** “… прыйдзе маладая, / Ўсюды песні панясуцца” – з верша Якуба Коласа. **16.** *Жаўранак прылятае на праталіну, … на прагаліну, жораў з цяплом, ластаўка з лістом* (прыказка). **17.** *Ад парады … не адваліцца і зубы не высыплюцца* (прыказка). **20.** Спажыванне іх на Масленіцу тлумачылася ўшанаваннем веснавога сонца. **21.** Распаўсюджаная на Вялікдзень гульня – стуканне сvяточнымі яйкамі. **26.** Самая ранняя веснавая кветка. **28.** Багіня вясны: свята ў яе гонар – Ляльнік – спраўлялі 5 мая. **29.** *Як … без марозу, так вясна без шкоды не абыдуцца* (прыказка). **30.** Святкаванне, звязанае са шлюбам: яго найчасцей спраўлялі на свята вясны Ярылавіцу. **31.** … вясны – старажытны язычніцкі абрад, першае па часе веснавое свята: пачыналася звычайна на Масленіцу.

**Па вертыкалі. 2.** “Благаславі, маці, / Ой, …, маці, / Вясну заклікаці” – з карагоднай песні. **3.** *На … падумай пра будзень, а ўлетку пра зіму* (прыказка). **5.** *Якая птушка, такая і …* (прыказка). **6.** Ранішні напітак, які дорыць бадзёрасць. **7.** *Пакуль … – патуль свет, пакуль рукі – патуль хлеб* (прыказка). **8.** *… распускаецца – сей авёс, сады цвітуць – бульбу* (прыказка). **10.** …, або трэль: песня салаўя, сімвала вясны. **12.** “Аб ёй мне баюць казкі-сны / Вясення …” – з верша “Спадчына” Янкі Купалы. **13.** Бярозавы сок. **18.** У беларускай міфалогіі – бог шлюбу. **19.** *Як … затрасецца, тады волік напасецца* (прыказка). **22.** Скрыначка для ручак, алоўкаў. **23.** *… з гор – рыба з нор* (прыказка). **24.** Прадмет хатняга ўжытку, які беларусы колісь атаясамлівалі з хатнім духам. **25.** Дарожка ў садзе, парку. **27.** “І ліецца хваляй песня, – / Ціхі, ясны … вясне” – з верша “Па-над белым пухам вішняў…” Максіма Багдановіча.

**Адказы**

**Па гарызанталі. 1.** Аляксей. **4.** Пупышка. **8.** Бяда. **9.** Явар. **11.** Стрэчанне. **14.** Опера. **15.** Вясна. **16.** Шпак. **17.** Язык. **20.** Бліны. **21.** Біткі. **26.** Першацвет. **28.** Лёля. **29.** Зіма. **30.** Вяселле. **31.** Гуканне.

**Па вертыкалі. 2.** Лада. **3.** Свята. **5.** Песня. **6.** Кава. **7.** Вочы. **8.** Бяроза. **10.** Рулада. **12.** Пралаліны. **13.** Бярозавік. **18.** Любмел. **19.** Асінка. **22.** Пенал. **23.** Вада. **24.** Венік. **25.** Алея. **27.** Гімн.

Склаў **Лявон ЦЕЛЕШ.**

Установа «Рэдакцыя часопіса “Роднае слова”». Заснавальнік – Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйны нумар часопіса 561.
220035, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 47, кор. 1, пад’езд 2 (уваход з вул. Гвардзейскай, код на ўваходзе: 43 + званок).
Р/р № 3015702170012 у аддзяленні № 527 ААТ “Белінвестбанк” г. Мінска, код 739, УНН 190241571, ОКПО 37551965.

*Тэлефоны:* галоўнага рэдактара **(017) 203-35-17**, намесніка галоўнага рэдактара **(017) 203-24-69**,
рэдактараў і галоўнага бухгалтара **(017) 203-34-79**, адказнага сакратара і загадчыка прыёмнай **(017) 203-07-40**,
факс **(017) 203-07-40**.
E-mail: **rodnaje_slova@tut.by**
**www.rs.unibel.by**

Падп. да друку 08.04.2011. Фармат 60х84 1/8. Папера афсетная. Гарнітура “Minion Pro”. Афсетны друк. Ум.-друк. арк. 11,02.
Ум.-фарб. адбіт. 12,07. Ул.-выд. арк. 13,2. Тыраж 3383 экз. Зак. 898.
Надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва “Беларускі Дом друку”».
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 79. ЛП 02330/0494179 ад 03.04.2009.